# МАЛАДОСЦЬ 04

**Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс**

**(749) КРАСАВІК, 2016**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар
**Святлана Дзмітрыеўна
ДЗЯНІСАВА**



**www.maladost.lim.by**

**Рэдакцыйна-выдавецкая
ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
г. Мінск**



Гэты фотаздымак прысланы ў рэдакцыю «Маладосці» навуковым супрацоўнікам Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Віктарам Жыбулем у суправаджэнні такіх радкоў:

*«З гэтага здымка канца 1920-х на нас глядзяць тры браты Плаўнікі. У цэнтры Самуіл — старэйшы і самы вядомы. Ён увайшоў у гісторыю беларускай літаратуры пад псеўданімам Змітрок Бядуля. Але наўрад ці ўсе аматары яго творчасці ведаюць, што малодшы брат Ізраіль (на здымку справа) таксама пісаў вершы і актыўна займаўся перакладамі з мовы ідыш на беларускую. Трэці брат, Мацвей (злева), працаваў у галіне, зусім далёкай ад прыгожага пісьменства: ён кіраваў нарыхтоўкай кармоў. Але напісаў цікавыя ўспаміны пра старэйшага брата і, такім чынам, таксама спрычыніўся да літаратуры!»*

З нагоды юбілею Змітрака Бядулі гэты нумар часопіса змяшчае не адзін матэрыял, прысвечаны юбіляру. Акрамя таго, юбілей гэты стаў нагодай прысвяціць частку нумара гісторыі і культуры яўрэяў у Беларусі.

Прыемнага чытання!

Міхась Кенька

# Памяць пра Змітрака Бядулю

Дзіва, як на працягу жыцця аднаго пакалення мяняюцца побыт людзей, грамадскія адносіны, густы, прыярытэты, мяняецца многае з таго, што здавалася раней непарушным. Мяне часам трывожыць тое, што змены ў культуры, на мой погляд, ідуць не ў лепшы бок, што матэрыяльнае пачынае моцна пераважаць над маральным, знікае цеплыня адносін паміж людзьмі, духоўны энтузіязм, мэтанакіраванасць. У не дужа аддаленыя ад вайны гады майго дзяцінства на мяне вельмі ўплывала чытанне кніг. Яно наводзіла на роздум, будзіла мары, па-свойму выхоўвала. І пры гэтым мне тады не бачылася розніцы паміж кнігай надзённай, свежанапісанай і даўняй. Больш таго, у тагачаснай вёсцы, якую менш закрануў прагрэс, лепей успрымаліся творы пра даўніну, пра часы, блізкія да легендарных, казачных. Яны неяк пасабліваму клаліся на душу, здаваліся блізкімі, як бы ўпісанымі ў тое, чым жылі. Якраз тады мне і давялося сустрэцца з творамі Змітрака Бядулі. У іх я знайшоў апісанні вёскі, вясковага жыцця, якія хаця і адносіліся да яшчэ дарэвалюцыйнага мінулага, але былі добра знаёмымі па ўспамінах старэйшых. Бядуля добра ведаў беларускую вёску, яго апавяданні «Пяць лыжак заціркі», «Малыя дрывасекі», «Велікодныя яйкі», аўтабіяграфічная аповесць «У дрымучых лясах» грунтуюцца на асабіста перажытым, а таму і сталі такімі кранальнымі для мяне. Мне так шкада было галодных дзяцей з апавядання «Пяць лыжак заціркі», я нават не перачытваў яго, бо было балюча да слёз.

А яшчэ мне вельмі спадабалася тады аповесць «Салавей», яе я перачытаў некалькі разоў. На той час гэта быў ці не адзіны твор пра гістарычнае мінулае Беларусі. Праўда, хтосьці з цяперашніх даследчыкаў схільны бачыць у аповесці прыхаваны намёк на становішча мастацтва пры таталітарным сталінскім рэжыме, але ж у 1927 годзе, калі была напісана аповесць, яшчэ не было рэпрэсій, захоўвалася вера ў тое, што краіна ідзе да светлай будучыні, праводзілася палітыка беларусізацыі. Мне, вядома, у тыя часы ніякія намёкі ў аповесці не бачыліся, ды і каментарыі да яе ў школьным падручніку трактавалі яе як твор, у якім асуджалася змрочнае мінулае без аніякай праекцыі на сучаснасць. Твор захопліваў займальнасцю, эмацыянальнымі апісаннямі. Трагізм лёсу Салаўя, Марылі, яе маці, прыгонных артыстаў не мог не прымусіць суперажываць ім. Я з цікавасцю перачытаў аповесць зноў праз многа год, і зноў яна захапіла мяне. А ў школьную пару я натхняўся яшчэ і вершамі Змітрака Бядулі, ведаў напамяць і напяваў той, які быў пакладзены на музыку і часта гучаў па радыё:

Дазволь цябе любіць, як кветачку на полі,
Як явар малады, што над ракой стаіць,
Як залатую птушку, што жыве на волі,
Дазволь цябе любіць.

Новая сустрэча з творчасцю Змітрака Бядулі адбылася падчас падрыхтоўкі Збору твораў Максіма Гарэцкага, калі я вёў пошукі ў архівах Смаленска, Вільні і ў беларускіх газетах 1920-х гадоў, я неаднаразова сустракаў артыкулы Бядулі. Сярод іх быў артыкул «Беларусы і жыды», у якім Бядуля ці не адным з першых апавядаў пра гісторыю рассялення яўрэяў у Беларусі, іх уклад у беларускую культуру, навуку.

Пазней я пазнаёміўся са Зборам твораў Змітрака Бядулі ў пяці тамах, падрыхтаваным у 1985—1989 гадах тэкстолагамі Інстытута літаратуры Акадэміі навук БССР, але я не ўбачыў там некаторых з тых артыкулаў, якія знайшоў у час сваіх пошукаў у архівах. Неспрыяльныя ўмовы не дазволілі ў савецкія часы іх надрукаваць. Выдавецтва «Беларускі кнігазбор» выпусціла ў 2006 годзе аднатомнік Змітрака Бядулі, у якім была змешчана і частка раней не друкаванага. І сёння адкрылася магчымасць, настала пара паглядзець на тыя падзеі, на іх адлюстраванне ў беларускай перыёдыцы і мастацкай літаратуры без падтасовак і фальсіфікацыі.

Зразумела, могуць узнікнуць пытанні наконт таго, а ці не састарэла напісанае Бядулем, ці не страціла яно цікавасць. Але адказ можа быць толькі такім: нельга абапірацца на адзін толькі крытэрый папулярнасці мастацкага твора ў сучаснага чытача, класіка не старэе. Мастацкая літаратура развіваецца па сваіх законах, і ведаць пра тых, хто стаяў ля яе вытокаў, патрэбна заўжды.



# Яфім Плаўнік: «Вызначыцца з мовай Змітраку Бядулю дапамог Якуб Колас»

**Памяць пра вялікіх людзей захоўваецца ў музеях, кнігах і ўспамінах блізкіх. Каб пабольш дазнацца пра юбіляра і героя нумара Змітрака Бядулю, мы звярнуліся да яго сына, Яфіма Самуілавіча Плаўніка. Яго размова з Тамарай Мінюткай атрымалася доўгай, змястоўнай і надзвычай душэўнай... Мяркуйце самі.**

**— Пачнём хіба з успамінаў дзяцінства…**

— Я нарадзіўся ў 1934 годзе. Значыць, я чалавек даваенны ў той ступені, наколькі памятаю. А памяць у дзяцінстве ў мяне была добрая. Я памятаю, як гуляў з дзецьмі Ізі Харыка, вельмі вядомага яўрэйскага паэта, якога цяпер друкуюць ва ўсім свеце. Памятаю, што радыятары былі вышэйшыя за мяне, памятаю, што сцены пакоя былі пафарбаваныя сіняй непрыемнай фарбай. Памятаю, як выскокваў сам Ізі Харык і гучным голасам нас разганяў, бо мы перашкаджалі… У 1937-м ён быў арыштаваны і адразу расстраляны, а жонка яго трапіла ў лагер для жонак «дрэнных людзей» у Казахстане. Дзяцей адправілі ў дзіцячы дом.

Да вайны я паспеў навучыцца граць на піяніна, пачаў асвойваць скрыпку, бо ва ўсіх членаў нашай сям'і па жаданні прыроды быў абсалютны слых. І мой бацька і двое ягоных братоў навучыліся ў Пасадцы, яшчэ ў дзяцінстве, іграць на скрыпцы. Гэтаму вучылі з пакалення ў пакаленне. Як вучылі, ці прымянялі нотны стан, я не ведаю. І бацька, і дзядзька Ізраіль ігралі вельмі добра. А другі мой дзядзька граў на любым інструменце. Я памятаю, як да нас прыходзіў Заір Азгур, яшчэ зусім малады, прыгожы. Мы з ім былі сябрамі, ён прыносіў з сабой пластылін і ляпіў для мяне, што я папрашу: кошку, сабачку, слана. Прычым рабіў гэта літаральна адным рухам пальцаў.

Потым пачалася вайна. Памятаю, як мы з'язджалі з дома творчасці пісьменнікаў у Мар'інай Горцы. Ён размяшчаўся ў старадаўнім маёнтку з калонамі, мноствам пакояў, фантанамі ў двары, якія, натуральна, не працавалі, з агромністым падвалам. Наляцелі нямецкія самалёты, яны вельмі гучна стралялі, і мы хаваліся ў падвале. Наколькі я ведаю, той маёнтак дагэтуль цэлы. У многіх сем'ях бацькі з'ехалі ў Мінск па нейкіх справах, а іхнія жонкі з дзецьмі засталіся. Напрыклад, Алена Канстанцінаўна, жонка Кандрата Крапівы, была адна з двума дзецьмі. Наш бацька таксама быў у горадзе або дзесьці ў камандзіроўцы. Калі зразумелі, што трэба ўцякаць, падагналі машыну з вялікім кузавам, пагрузілі туды ежу. Прыехалі ў расійскі горад Новыя Бурасы. Туды са сваёй маці прыбыў мой бацька. Якім чынам ён даведаўся, што мы знаходзімся ў тым гарадку, невядома. Мы жылі там месяцы два, бацька хадзіў на працу, але што рабіў, я не ведаю. Пасля мы пагрузіліся ў цягнік і вельмі доўга, з бясконцай колькасцю прыпынкаў, ехалі. Час ад часу налятвалі самалёты. Алена Канстанцінаўна, жонка Крапівы, была вялікім панікёрам, крычала: «Пажар!» — на сена выплёсквалася каштоўная вада. Накіроўваліся ў Ташкент. Але памёр бацька, і мы выгрузіліся ва Уральску. Ва Уральску нам прыйшлося кепска, не было дзе жыць. Бацьку пахаваў тэатр, які там быў у эвакуацыі. Я пра гэта падрабязна напісаў у кнізе, якая выйшла гадоў дзесяць таму.

Ва Уральску я захварэў вельмі цяжкай формай ліхаманкі, і доктар параіў памяняць клімат. Мы паехалі ў Запарожжа, дзе было шмат магчымасцей атрымаць кватэру. Дабіраліся два тыдні. Было вельмі цяжка, ежа адразу скончылася.

Пасля перамогі вярнуліся ў Мінск. Ён быў, вядома, разбураны, жыць не было дзе. Жылі ў знаёмых: то ў аднаго, то ў другога... У маёй роднай цёткі Рэні (Ірыны Яфімаўны), маці чацвярых дзяцей, была маленечкая кватэрка, якую ёй дапамагла атрымаць жонка Янкі Купалы. Наша сям'я і сям'я Купалы вельмі сябравалі. Калісьці бацька і Янка Купала жылі ў адной кватэры, якую здымалі ў доміку I з'езда РСДРП. Калі, яшчэ да вайны, цёця Рэня нарадзіла дачку, а яе муж-ваенны быў у камандзіроўцы, мой бацька папрасіў Янку Купалу (у яго самога не было магчымасці) забраць яе з раддома. Пасля цётка Рэня некаторы час жыла ў Янкі Купалы і Уладзіславы Францаўны, і яны вельмі прывязаліся да яе дачкі: у іх жа сваіх дзяцей не было. Потым усё жыццё называлі яе дачушкай.

Мы два гады бадзяліся па чужых кватэрах. Калі пра гэта даведалася Уладзіслава Францаўна, праз два тыдні мы атрымалі двухпакаёвую кватэру на сёмым паверсе без ліфта. Наш другі пакой ніколі не пуставаў: у гэты час вярталіся людзі з лагераў, і ў нас увесь час нехта жыў, у асноўным жанчыны. Спынялася ў нас Дзіна Харык, жонка Ізі Харыка, нават Барыс Мікуліч пажыў. Гэта часцей за ўсё былі людзі, якія згубілі ўсіх родных. Калі мы вярнуліся ў Мінск, мама таксама стала высвятляць, хто з нашых родных застаўся жывы. Пачалі падлічваць, і атрымаўся жудасны вынік: трыццаць пяць чалавек (сем сем'яў з дзецьмі) загінулі, у тым ліку брат бацькі, Ізраіль Плаўнік, які лічыўся самым таленавітым у сям'і (таксама пісаў вершы, добра маляваў і граў): ён да прыходу немцаў трапіў у шпіталь, а пасля быў там забіты імі…

**— Хто вы па адукацыі?**

— Па адукацыі я інжынер. Прайшоў праз некалькі тэхнічных ВНУ — вучыўся нават у тэатральна-мастацкім інстытуце на факультэце тэхнічнай эстэтыкі. У савецкі час можна было вучыцца колькі заўгодна, прычым задарма!

**— А той факт, што вы сын Змітрака Бядулі, дапамагаў вам ці перашкаджаў?**

— Перашкаджаў тым, што я часта чуў папрок накшталт: «На лекцыі не ходзіць! А яшчэ сын такога пісьменніка!» Я не афішаваў гэты факт, але ўсе чамусьці адразу дазнаваліся, асабліва калі я не хацеў, каб дазналіся. Вучыўся ў політэхнічным інстытуце, але мяне адтуль выперлі пасля другога курса з-за майго языка. Паздзекаваўся трошкі з выкладчыцы англійскай мовы. Выкладала яна добра, але была не асабліва інтэлігентнай, дапускала розныя выразы, за якія я яе высмейваў. Скончылася тым, што яна паставіла мне «двойку». Я пазаймаўся з сястрой, якая скончыла «ін'яз», і яна сказала, што я ведаю мову мінімум на «чатыры». Я абурыўся, пайшоў на кафедру і сказаў: «Я ведаю англійскую мову!» Была пераздача, потым сабралася камісія. Скончылася тым, што я вылецеў з інстытута. Думаў, куды падацца. І пайшоў на філфак да прафесара Гутарава. Паведаміў, што з'яўляюся сынам Змітрака Бядулі, і ён захацеў са мной паразмаўляць. І паколькі я быў чалавекам вельмі начытаным (за сваю жарсць да чытання я ў школе атрымліваў «двойкі» і «тройкі», бо заўсёды хаваў пад партай кніжку), Гутараву падаўся цалкам прыдатным да вучобы на філфаку. Ён сказаў: «Калі нідзе не ўладкуецеся, прыходзьце да мяне, я вас адразу вазьму на першы курс, без іспытаў». Але я пайшоў у Інстытут электрыфікацыі і механізацыі, дзе мне было вельмі цікава.

**— Ці добра вы памятаеце Змітрака Бядулю? Якім ён быў бацькам?**

— Я яго памятаю нядрэнна, але справа ў тым, што ён быў вельмі заняты. Заўсёды на разрыў. Як казаў Ніл Гілевіч, Змітрок Бядуля разам з Купалам і Коласам — тры кіты беларускай літаратуры. Вельмі дзіўна, што імя яго неяк затушаванае. Калісьці ён быў нават выкраслены са школьнай праграмы. Той жа Ніл Гілевіч на літаратурных чытаннях, якія ладзіліся ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, сказаў, што прычыны гэтаму дзве: антысемітызм і звычайная зайздрасць, якая існуе і дагэтуль.

Бацька пісаў у асноўным ноччу, зрэдку днём. Я добра памятаю нашу кватэру ў Доме спецыялістаў. Мы жылі на другім паверсе ў трохпакаёўцы. Бацькаў кабінет быў засланы пушыстым варсістым зялёным дываном, там былі кніжныя шафы, пісьмовы стол і лямпа з зялёным абажурам. Ён хадзіў па пакоі, і дыван заглушаў ягоныя крокі. Днём лётаў па літаратурных справах. Бядуля быў таксама тэатразнаўцам, пісаў тэатральныя крытычныя артыкулы, якія дагэтуль лічацца ўзорнымі. Ездзіў па Беларусі і за мяжу. Да нас часта прыязджалі пісьменнікі-пачаткоўцы з вёскі і заставаліся на некаторы час. Ім слалі ў

дзіцячым пакоі паміж нашымі з сястрой ложкамі. Калі яны гасцілі ў нас, бацька казаў: «Во, зноў вясковы дух!» Яму было прыемна, калі прыязджаў нехта з вёскі. Я не памятаю, каб ён займаўся мною — гэта рабіла мама. Я ведаю, што бацька быў вельмі добры чалавек. Гэта зразумела з усяго ягонага жыцця. Наколькі я ведаю па аповедах, з Янкам Купалам было цяжка дзяліць агульнае жытло, але бацька з ім ужываўся, спачуваў яму, спрабаваў дапамагчы пры патрэбе. Калі вы памятаеце, ён адзіны, хто прыняў зусім хворага Багдановіча, у якога была адкрытая форма сухотаў. Тады бацька жыў разам з дзвюма сёстрамі ў будынку, дзе цяпер музей «Беларуская хатка». Яны даглядалі Багдановіча пяць месяцаў. Потым бацька адзін бегаў з шапкай, каб сабраць грошы і адправіць яго ў Ялту з надзеяй, што там ён трошкі ачуняе. Абедзве сястры бацькі, дарэчы, былі вельмі таленавітыя. Ірына была сяброўкай знакамітай спявачкі Александроўскай і сама добра спявала: у яе было магутнае сапрана. Але бацька лічыў, што яна павінна выйсці замуж і мець дзяцей. Другая сястра, Геня, была незвычайна прыгожая, падобная да Незнаёмкі з партрэта Крамскога. Яшчэ да рэвалюцыі яна заняла першае месца на конкурсе прыгажосці. Усе ў сям'і бацькі былі прыгожыя: і сёстры, і абодва браты. Адно што яму самому не пашанцавала...

**— А мы ўчора разглядалі рэдакцыяй фотаздымкі Змітрака Бядулі і аднагалосна вырашылі, што ў яго прывабная знешнасць…**

— Вы проста не параўноўвалі яго з іншымі. Калі быў зусім малады, то, вядома, быў прыгожы.

**— А казкі вам бацька, будучы аўтарам шматлікіх твораў для дзяцей, не чытаў?**

— Ягоныя казкі нам чытала мама. Яна гэтую справу любіла. Дагэтуль памятаю: «У куце сядзіць мядзведзь, хустку вышывае…»

Вы напэўна хочаце спытаць, чаму я размаўляю па-руску? Чытаю я па-беларуску спакойна. Можна сказаць, розніцы для мяне няма. Але чалавек звычайна размаўляе на той мове, на якой ён працуе. Мы з жонкай часта ходзім на пастаноўкі тэатра «Зніч» і, калі вяртаемся дадому, размаўляем па-беларуску. Смешна: атрымліваецца добра, але ў жыцці звычайна беларускай мовай не карыстаемся. Жыццё, праца пераключаюць нас на рускую мову. Я магу размаўляць па-беларуску, але мне не хапае слоўнікавага запасу. Мне трэба шукаць слова, замяняць яго, падбіраць сінонім, а гэта нязручна.

**— А Змітрок Бядуля на якой мове ў жыцці размаўляў?**

— Заўсёды па-беларуску. Але Змітрок Бядуля ведаў вельмі шмат моў. Яго дзядуля, які быў кавалём, з дзяцінства навучыў яго іўрыту. Хлопчыкі абавязаны былі ведаць іўрыт. А калі бацька паступіў у ешыбот у Даўгінаве, дык мусіў ужо ведаць гэтую мову дасканала. Ён калісьці пісаў на ёй вершы. У ешыбоце абавязковымі для вывучэння былі старажытныя мовы, у тым ліку лацінская. У 15 гадоў у рукі яму трапіў патрапаны томік Пушкіна. Яму спадабалася руская мова, і ён захацеў яе лепей вывучыць. Напісаў у Санкт-Пецярбург (відаць, яму падказалі, куды пісаць), і адтуль сталі бясплатна дасылаць друкаваныя лекцыі па вывучэнні рускай мовы. Таксама ён ведаў блізкую да ідыша нямецкую мову (яго любімы пісьменнік — Генрых Гейнэ), ведаў таксама і польскую. Бацька меў схільнасць да моў, яны лёгка яму даваліся. Падчас працы ў Вільні яму прыйшлося падвучыць літоўскую. Не думаю, што ён ведаў яе дасканала, але карыстацца мог. І, вядома, Бядуля глыбока ведаў беларускую мову. Яна была побач з ім ад пачатку. Калі ён пачаў займацца творчасцю (а пачынаў пісаць ён на іншых мовах), вызначыцца з мовай яму дапамог Якуб Колас, з якім яны сябравалі. Ён сказаў: «Або так, або так». То-бок, выбірай: беларуская мова ці якая іншая. А Якуб Колас быў даволі суровы чалавек і вельмі паважаны. І Бядуля стаў пісаць толькі на беларускай мове.

**— Які ваш любімы твор Змітрака Бядулі?**

— Вы будзеце смяяцца: аповесць «Салавей». За яе шчырасць, праўдзівасць. Яна адразу кладзецца на душу. Нездарма першы беларускі балет быў пастаўлены па «Салаўі», адзін з першых беларускіх фільмаў таксама. Люблю яго вершы. Іх можна слухаць і чытаць бясконца, як і «Пяць лыжак заціркі», і «Маленькіх дрывасекаў». Мне вельмі падабаецца верш, які называецца «Успаміны». Іван Навуменка пісаў, што Змітрок Бядуля быў, бадай, адзіным імпрэсіяністам у беларускай літаратуры. Дык вось, верш «Успаміны» — яскравая да таго ілюстрацыя. У літоўскага мастака



Яфім Плаўнік

і кампазітара Чурлёніса ёсць работы «Саната вясны» і «Саната лета», якія стаяць у мяне перад вачыма, але апісаць іх словамі я не магу. А прачытаўшы бацькавы вершы, можна ва ўяўленні намаляваць карціну.

**— Хтосьці ў вашай сям'і атрымаў у спадчыну пісьменніцкі талент?**

— Не. Як кажуць, на дзецях геніяў прырода адпачывае. Праўда, я трошкі пішу вершы. Мне кажуць: «Як ты можаш не пісаць вершы, ты ж сын Змітрака Бядулі, класіка беларускай літаратуры!» І я навучыўся пісаць вершы, каб павіншаваць кагосьці: цешчу, жонку або сябра. Рыфму падбіраю метадам «крыжаванкі»: падыходзіць слова або не. Ну, і стараюся ўкласці хаця б мінімальны сэнс. Я не імкнуся быць падобным ані да Пушкіна, ані да Лермантава, ані да Грахоўскага, у якога, дарэчы, выключна разумная паэзія.

Таксама люблю пісаць лісты ад рукі. Не прызнаю электронную пошту: гэта тэлеграма, хоць і разгорнутая. Не люблю размаўляць па скайпе. Я памятаю сваіх сяброў маладымі, прыгожымі, і не хачу бачыць іх састарэлымі! Сябе таксама не хочацца паказваць. Я пішу сябрам лісты, стараюся, каб яны былі ў форме апавядання, якое перарываецца маімі вершамі. Сябры нават перадаюць гэтыя лісты з рук у рукі. Такая вось мая творчасць…

P.S. Яфім Самуілавіч захапіў з сабой блакнот з уласнымі вершамі. Каб задаволіць цікаўнасць чытача (выраз Яфіма Самуілавіча), прывядзём некалькі з іх:

**В память архітектора Л.М. Левина**
**и к годовщине Нюрнбергского процесса**

Ночь землю приняла в объятья,
И в небе звёзды, как цветы,
То мои деды, сёстры, братья
Печально смотрят с высоты…
Взывают к нам с безмерных далей
Из пепла черного восстав,
Что живы, что звездами стали
Они, сожженные в печах…
Их шепот к нам сквозь ночь летит,
Любя, сочувствуя, страдая,
Предупреждает, жжёт, кричит:
«Не ждите, люди, кущей Рая,
Фашизм не умер, он лишь спит!»
Но возникает вдруг из тлена…
Он труп бессмертный, как вампир,
И ненасытен, как гиена.
Как хрупок наш прекрасный мир…

Дышали негой вечера
Сплетала нас природа-сводня.
Что натворили мы вчера,
Обрушило на нас сегодня.
Раскаяньем и сожаленьем.
Вы где, чудесные мгновенья!
И если б это повторилось,
Я принял бы, как Божью милость…

Всему есть место в беспредельном мире,
Поля без края, где растут печали,
Для боли место — океана шире,
Для злобы лютой необъятны дали.
А для любви — лишь пядь
земли с травинкой,
К ней путь — нехоженой,
заросшею тропинкой.
Шагать там тяжко и найти случайно,
Любовь от чуждых глаз
всегда укрыта тайной.
Ведь рядом с нею заросли печалей,
И боль и злоба. Их минёшь едва ли…

Прекрасен дар Богов — сияние любви!
Ты каждый миг её чудес лови.
Пусть зреет в ней обман, измены и уловки,
Как сладок этот сыр! За ним
— хоть в мышеловку!

А яшчэ Яфім Самуілавіч, які ў 82 гады танчыць, падцягваецца і выглядае надзвычай бадзёра, падзяліўся некалькімі сакрэтамі сваёй цудоўнай фізічнай формы. Але хай сакрэты застануцца сакрэтамі…



## Аксана Варатнікова

**Аксана Варатнікова — даследчык і літаратар. Археалогія, мастацтва, сюжэты пра жывёльны свет — поле яе дзівосаў. Засвоіла кераміку і апрацоўку скуры, каб зразумець першабытных людзей.**

# Ці бачылі вы чорную таполю?

*Мініяцюры*

### Зяма, як жывы

Людка схапіла чырвоныя туфлі, свае любімыя, і выбегла на вуліцу. Без нічога. Толькі пляцак. Адразу зрабілася лёгка. Мама цяпер не глядзела ў вочы, не званіла «шакаладка», яе мабілка. Не трэба было бегчы ў дурным тэмпе як апантанай на заняткі. Цяпер яна гаспадыня свайго капрызу.

— Вучыцца яшчэ і вучыцца, а ёй то сукенку, то торбу, то яшчэ што! — голас мамы быў халодны і невыразны, яна хадзіла па пакоі і тэатральна кідала, варочала ўсё, што пад рукі трапляла, і атрымліваўся хаос, і здавалася, толькі цемра наперадзе. Маці быццам дыктавала, чаго трэба хацець! А ёй, Людцы, хацелася свята і бліскучасці. І каб рэчы былі не такія, як ва ўсіх.

Маленькае акенца майстэрні шаўца яшчэ свяцілася. Моцная лямпа вабіла згусткам промняў, і Людка не змагла адмовіць сабе ў асалодзе паразмаўляць з Зямам. Ён кожны дзень надзяваў фартух і проста рамантаваў абутак. І асцярожна займаўся сваёй рамесніцкай псіхатэрапіяй. Так. Непасрэдна. Без усялякіх бязглуздых дазволаў.

Яна заўсёды здзіўлялася, як шавец сядзіць цэлы дзень на двух квадратных метрах і шчаслівы. Дае парады, тлумачыць незразумелае з літаратуры і гісторыі, можа грошай пазычыць. Калі-нікалі падказвае, дзе лепшы ўрач, дзе канцэрт, просіць аднесці ежу для ката да блакітнай агароджы. Там, на першым паверсе, пакінутая бабка жыве. З катом.

Абаяльны чалавек, добра робіць сваю працу і...

— Паненка, апошнім разам так і не сказалі Зяму «чаа», — з лёгкай іроніяй ён паказаў вачыма на цукерку, што ляжала на табурэтцы.

— Не хачу, — Людка яшчэ не адышла ад сямейнай разборкі, а ўсяго толькі і хацелася — новыя боцікі-казакі!

Яна не ведала яго, шаўца, гісторыю. А папытаць было няёмка.

Бачыла толькі, што ходзіць ён цяжка з-за хворых ног, але ж заўсёды з усмешкай. Нейкі магутны і таямнічы, з пранізлівым позіркам. І валасы — доўгімі чорнымі колцамі. І яна пафантазіравала і вырашыла чамусьці, што ён пакінуты жонкай... І варты яе найлепшых дзявочых пачуццяў — жалю, спачування, апекі. А горыч і расчараванне пакінула для маці.

Яна прыносіла туфлі — рамантаваць абцасы, ці боцікі — каб ніз падбіць. Ён рабіў. Ды як?! А Людка любіла павярнуцца і сказаць:

— Як прыгожа!

— У вас ёсць інструмент? — спытаў на гэта Зяма нетаропка і сярдзіта.

— Які? — некалькі яе крокаў, разгубленасць.

— Фартэпіяна, можа раяль? Дык пастаўце на інструмент і любуйцеся, як у музеі! — сказаў Зяма. — Мазлтоф! Віншую!

Гэтакія мудроўкі ад Зямы, як кветкі, былі на кароткі час жыцця, але яны былі яе здабыткам, акном у невядомую прастору, дзе ёсць нейкі погляд адтуль, зверху.

Вось такое назіранне пра тое, што мудрасць вышэйшая за будзённы клопат. Яна вяртае да жыцця.

## Цымка. Дотык

Гэтыя радкі з пяшчотай. Так правяраецца лямпачка: укруціш — гарыць! Цымка была для мяне такой лямпачкай.

Я забягала да яе, у кватэру паверхам вышэй, пасля заняткаў у школе, і мы разам нешта рабілі: размаўлялі пра ўсё-ўсё, глядзелі першыя модныя спаднічкі ды блузкі. Цымка заўсёды магла нешта прадаць мне. Частаваліся абавязкова — так было ў іх прынята. Заўсёды тут было ўтульна і сыта.

Сядзелі мы з Цымкай на дыванах, яны паўсюдна былі ў кватэры, віселі і ляжалі на падлозе. Проста людзі дбалі пра спакой суседзяў — музыкай Цымка займалася кожны дзень, а Баха і Бетховена ціхенька не сыграеш!

І мэбля чырвонага дрэва. З гэтых невядомых дрэў, усходніх дываноў, мабыць, мы стваралі і свой свет, і ткалі свой дыван, невядомы дарослым. Блізкасць суседская і дзявочая. Першыя страхі і цуд першага кахання да старэйшых хлопчыкаў. І першае пачуццё перавагі. Я гэта адчувала, але толькі потым, калі ўвайшла ў праблемы этнічнага, змагла прачытаць сваё дзяцінства, яго сюжэты як зусім новую кніжку. І мяркую, як былі мы з Цымкай на розных паверхах, так і засталіся.

Яна, суседка мая, заўсёды з забітым носам. Хранічнае. Нейкія інгалятары, каплі-шмаплі, лекі — пажыццёва. Цёця Беця, Берта Рыгораўна, яе мама, была добрым педыятрам. І ўсе дзеці з нашага двара павінны яе памятаць.

Кніжкі былі яшчэ таямніцай, а Цымка ўжо добра ведала тое, чаго не ведалі мы. Неяк адразу! Нейкае дзіця-індыга!

І яшчэ Цымка з болем заявіла: «У мамы ўсіх з сям'і забілі». А мы мала ведалі пра гета, пра Яму.

Птушачкі, дрэвы і людзі павінны быць як жывыя, нават калі вугольчыкам пэцкаеш! І не толькі па-майстэрску размалёўваць — цэркаўкамі, званіцамі, анёлкамі і крыжамі, а трэба, каб абавязкова людзі на творы дзівіліся

Яна заўсёды здзіўлялася, як шавец сядзіць цэлы дзень на двух квадратных метрах і шчаслівы. Дае парады, тлумачыць незразумелае, можа грошай заняць

Амаль нічога. У дзяцінстве ўсе вечныя, і мары — толькі пра туфлікі, сарафанчыкі, цукеркі з шакаладу. Ну, школа — гэта іншая гісторыя.

Час ад часу я бегала і да цёці Лены, у суседні дом. Яна, паралізаваная і ляжачая, была дырыжорам сям'і. Муж глядзеў яе, сыны вучыліся на інжынераў. Мудрая Лена прадастаўляла сваю кватэру, калі пачаліся провады з нагоды ад'езду яўрэйскіх сем'яў на гістарычную радзіму. Маіх бацькоў заўсёды запрашалі. Так я шмат даведалася пра святочныя прысмакі яўрэйскай кухні. Яна — адна з маіх любімых кухняў, таму што традыцыйная ежа плюс цікавасць да жыцця прыўнеслі разнастайнасць у будзённасць, ад якой — безумоўнае багацце і букет настрояў пры любых акалічнасцях.

І ўсё ж лепш, чым у Цымерманаў, не было. На той час!

А пакуль я, заплюшчыўшы вочы, сяджу на тахце і слухаю, як Цымка музіцыруе. Бясконцыя санаты і эцюды. Час ад часу яна трасе рукамі. Вочы на мокрым месцы. Цяжка.

Стомленасць. Музыкалка — яе галера. Яе чакае кансерваторыя. І ў маіх вачах яна бачыць спачуванне.

— Пачытаем? — Ідзе да шафы. — Што будзем чытаць? — дастае нешта.

— Дай!

Я чытаю пару абзацаў і спатыкаюся, слова «сабака» як «цюцька» прамовіла і памаўчала. Так было ў тэксце! Цымка плача паціху. Ад слова «цюцька». Чаму мне ўсё роўна, што будзе з сабакам? А яна плача. Вочы лупатыя, як той казаў, чорныя, усходнія, выразна цэпкія.

Музыка была тонкім светам, яна размякчала. Слухаю — і ўвесь час чую, як плешчуцца хвалі. Шапэн-мора і Рахманінаў-мора. Я чую гэтае мора з-пад нечакана моцных пальцаў дзяўчынкі!

І мяне таксама потым будуць прымушаць да заняткаў — каб як у Цымерманаў. Канечне. А пакуль я слухач і з асалодай слухаю нешта з Чайкоўскага і Бетховена.

Гадоў праз пятнаццаць яна ўспомніла пра мяне і запрасіла на вяселле. Шчаслівы яе будучы муж на першы погляд быў надзейны і добры. Але… Мне сказалі і, мабыць, яна ведала, якім папулярным ён быў па жаночай частцы ў політэхнічным інстытуце. Палігамія, манагамія… Хто іх зразумее «заднім чыслом»?

Яна была адной з лепшых шапэністак нашай краіны, дзве дачкі не перашкаджалі ёй іграць і канцэртаваць. Усяго хапала.

Сонца было мала.

І мая Цымка паехала. Спачатку на Усход, а потым і далей, назаўсёды з Харонам-перавозчыкам.

## Нябеснае інтэрвью

Мае студэнцкія канспекты былі поўны ўлёт! Імі карысталіся, перачытвалі і перапісвалі. Часцей яны і ўвогуле прападалі.

І вось цяпер, уладкоўваючыся на працу-падзаробак, успомніла, што ў канспекце пісала тое, пра што папыталіся ў рэдакцыі і што спатрэбіцца, каб выканаць рэдакцыйнае заданне — напісаць пра кніжку класіка, матэрыял пра нядаўняю прэзентацыю «Смак псеўданіма». Паглядзеўшы ўсё, што ёсць у і-нэце, я акунулася ў банальнасці!

І вось лезу туды, дзе схаваны старыя рэчы, на антрэсолі — шукаць.

Ляжаць мае канспекты пад старым кейсам! Яшчэ і кейс паглядзець трэба, там фоткі студэнцкія. Ёсць там у мяне і сучасны паэт, і вядомы празаік. У маладосці.

Вось ён, мой ружовы сшытак, і каляндарык з яго вылецеў. Не скажу які год! Хай будзе маладосць, усім!

Адкрыла — і абамлела. Першая думка: гэта ж лепшыя словы, сугучныя думкі. І таму — зраблю інтэрв'ю! Але як? Яго ж даўно няма!

Рэканструкцыю па творах, так бы мовіць. Як ён адказваў нам на пытанні пра творчасць, жыццё і любоў. А таксама — што гаварыў на такія тэмы як дзеці, жанкі… Што было тады і ёсць цяпер. І каб было карэктна — створым акалічнасці. Мая праца-падзаробак, рэдакцыя, тэставае заданне.

Нарцысізм?! У кожнага мастака, стваральніка гэта частка яго самога. Гэта патрэбна, каб уявіць свайго чытача!

І тыя ж вечныя пытанні. Я паставіла люстэрка, разьбянае і вялікае, і села насупраць. Нарцысізм?! У кожнага мастака, стваральніка гэта частка яго самога. Гэта патрэбна, каб уявіць свайго чытача! Уявім, што насупраць сядзіць аўтар.

— Адкуль вы ведаеце, што адчуваў, напрыклад, бондар, хлапчук-мастак, які размалёўваў велікодныя яйкі? Адкуль пачуццё прыгожага?

— Дзед мой быў меднікам, і калі сядзелі з ім каля агню, каля печы, ён тое-сёе казаў з Бібліі, па-старажаўрэйску прамаўляў словы пра мастацтва. Як рабіць, каб было прыгожа. Я зразумеў, што птушачкі, дрэвы і людзі, па яго словах, павінны быць як жывыя, нават калі вугольчыкам пэцкаеш! І не толькі па-майстэрску размалёўваць — цэркаўкамі, званіцамі, анёлкамі і крыжамі, а трэба, каб абавязкова людзі на творы дзівіліся! І яшчэ. Мастак часам забывае паесці.

Я задала першае пытанне, атрымала адказ майстра і ўбачыла, што ўсё сказанае актуальнае!

Я папраўіла прычоску (мы ж пра прыгажосць размову вялі) і працягнула апытанне:

— Мы ўвесь час аднаўляем, аднаўляем. А ваша жыццё з чаго складаецца?

— Калісьці ў дзяцінстве вучыў яўрэйскі алфавіт (алефбэйс), і дзед знаходзіў на ім медны грошык. Маўляў, анёл з неба кідае. Цяпер мне ніхто не кідае. Працую, і шмат працую. Пачаў з хатняга настаўніка, а потым і анёл-ахоўнік прызвычаіў з людзьмі думкамі дзяліцца. Так і пішу. На розных мовах, з дзедавага благаслаўлення. І пад рознымі прозвішчамі! Так глыбей адчуваю несупынны рух жыцця. Самуіл Плаўнік, Саша Пл-ік, Ясакар, Змітро Бядуля — гэта ўсё я. Ясакар — чорная таполя, дрэва маё, магутнае і дэкаратыўнае.

Тут мая тэхніка дала збой, і я вырашыла, што чытачу засталіся самі творы — каб іх чытаць. Толькі б не забыўся ён пра запавет майго рупліўца: шчырасць сэрца не купіш ні за якое золата.

Стары канспект дапамог разабрацца.



Юлія Алейчанка

**нарадзілася 21 снежня 1991 года ў Оршы. Скончыла філалагічны факультэт БДУ, потым магістратуру там жа, цяпер — вучыцца ў аспірантуры. Працуе адказным сакратаром часопіса «Полымя». Піша вершы, крытычныя артыкулы, перакладае. «Выношвае» ідэі апавяданняў. Захапляецца жывапісам, музыкай ды міфалогіяй. Любіць трапляць у «памежнае становішча», падарожнічаць і спрачацца з цікавымі людзьмі. Не страчвае надзею стаць той, якой хацелася ў дзяцінстве.**

# Сонечны горад

***

Давай сустрэнемся ў Сонечным горадзе,
Дзе ўсе пацалункі на целе не змесцяцца.
Збяжым па гулкай парадней лесвіцы
У сад, дзе птушкі-сірыны[1] водзяцца.

Дзе кроў ускіпае, як зелле чароўнае,
Руку прыкладзі — вены быццам шалёныя.
Дзе крылы нябёсаў, ад спёкі салёныя,
Сабой ахінаюць сэрцы вандроўныя.

Я буду гарачым аголеным летам,
Я знішчу адвечны звярыны холад,
Калі не згубіўся Сонечны горад
На мапе тваіх неспазнаных светаў…

***

Калі робяцца нязвыкла сінімі
(барвовымі, зялёнымі?)
твае фіранкі,
калі робяцца зладвесна шэрымі
(зямлістымі, балотнымі?)
твае вочы,
я ведаю, што гэта —
сумны знак
сыходзіць, развітаўшыся
да новага жыцця.

Я ведаю, што гэта —
добры знак
чакаць і верыць
у новую вясну,
калі ўбачу ў скверы
(на аўтобусным прыпынку?)
цябе цыбатага, вясёлага, нервовага
(са шчаціннем, у акулярах?)

Бо ведаю, што ўсе, каго мне лёс дарue,
ў абліччах розных — Ты.

[1] Сірын у славянскай міфалогіі — птушка з чалавечым тварам, яе спевы прыносяць людзям забыццё і страту памяці.

***

Рукамі ўсіх тых,
хто абдымаў мяне,
Шыва[2] даўно ўжо
руйнуе сусветы.

Вачыма ўсіх тых,
хто пажадна
глядзеў на мяне,
Аргус[3] даўно ўжо
вартуе бясконцыя статкі.

Вуснамі тых,
хто горка мяне цалаваў,
Прараслі кветкі
ў садзе зямных асалодаў.

Толькі сэрцам сваім,
быццам Данка,
Ты дагэтуль
змагаешся з цемрай маёй.

***

Я гляджуся ў пустыя вачніцы цемры,
Не баюся: прысуд мне даўно вядомы.
Разрываецца неба начнога зеўра,
Праглынае маю векавую стому,

Каб праліцца мільёнамі душ бадзяжных —
Месяцовым святлом на шляхі стагоддзяў.
Колькі трызненняў-думак імкліва-важных
Мне трымаць давядзецца ізноў на аброці?

Колькі выпіць крыві ў каханых-мілых,
Колькі смерцяў мінуць, колькі раз адрадзіцца?
Колькі страціць сябе і знайсці колькі сілы,
Каб ізноў на калядныя зоры маліцца?

Не баюся пытацца, шукаць, губляцца,
Бо бруяць вясной маіх дзён крыніцы.
Покуль тахкае сэрца ў шалёным танцы,
Покуль цемра не гляне ў мае вачніцы.

***

Пад чорнай спадніцай ночы
Белых маланак сполах.
Да казак не надта ахвочы
Мой ахоўнік-анёлак.

Не чуе з салодкай багны,
Як дыхаць не маю сілы:
— Ты стогнеш у жарсці так прагна,
Што вісельнік ўстане з магілы.

Груган зноў у шыбу б’ецца,
У дзюбе — белае пёрка.
Віно ў келіх ліецца
З атрутай палынна-горкай.

***

У балотах маіх вачэй
Чэрці згінулі ўсе даўно.
Ты прыходзь да мяне хутчэй
Піць зялёных далін віно.
Ты не бойся, што буду чужой,
Буду сіверам злым у руках.
За халодных разораў мяжой
Мы з табой пачынаем свой шлях.

---

[2] Шыва (санскр.: — «прыхільны», «міласцівы», «дабрадзейны») — у індуізме ўвасабленне разбуральнай сілы сусвету і трансфармацыі (стваральнае разбурэнне).

[3] Аргус (стар.-грэч.: — усёвідушчы) — у старажытнагрэчаскай міфалогіі шматвокі волат; у пераносным сэнсе — пільны вартавы.




Вадзім Крук

**нарадзіўся 15 снежня 1987 года ў горадзе Кохтла-Ярве ў Эстоніі. Паводле адукацыі інжынер, працуе ў банку. Любіць вандроўкі, гісторыю і рок-музыку. Лічыць, што чалавек па сваёй сутнасці з'яўляецца першаадкрывальнікам, вынаходнікам ды эксперыментатарам. Таму і вырашыў дадаць у твор трохі чарадзейства і фантасмагорыі.**

# Дом, які нагадваў палац

У вялікім доме, які звонку больш нагадваў палац, рыхтаваліся да нейкага свята. Людзі шнуравалі з пакоя ў пакой, заскоквалі на некалькі хвілін у кухню, выходзілі пакурыць на ганак і вярталіся, каб далучыцца да агульнай мітусні.

Толькі бяляваму хлопчыку не было да гэтага ніякай справы. Увесь дзень ён быў заняты цяжкою задачай: як паглыбіцца ў займальны свет дзіцячых гульняў і ў той жа час не трапляцца пад ногі дарослым. Малы ўяўляў сябе то самалётам, які незнарок збівалі каленам, то машынай, што часам не магла абмінуць ножку стала. Дарослыя між тым адно мімаходзь рабілі яму заўвагу і працягвалі круціцца ў вальсе перадсвяточнай падрыхтоўкі.

Праўда, дзіцячыя забаўкі ўсё ж займелі свайго назіральніка. Ім быў сівы, як восеньскае павуцінне, дзед, што сядзеў у фатэлі на куце самага вялікага пакоя і сачыў за малым. Здавалася, ён здранцвеў і таму нагадваў патрэсканую, сшарэлую ад часу драўляную ляльку. І толькі лагодны позірк вачэй — ненатуральна маладых, зялёных, з жоўтымі вянцамі вакол зрэнак — ператвараў ляльку ў жывога чалавека.

Раптам, калі малы чарговы раз прабягаў каля дзеда, той перарваў доўгае маўчанне. «Даўным-даўно…» — пачаў ён, і гэтыя словы аказалі магічны эфект на хлопчыка. Ён адразу спыніў гульні і стаў перад старым, раскрыўшы рот. Выраз «даўным-даўно» падказваў дзіцяці, што дзед пачаў расказваць казку. А той усміхнуўся куткамі вуснаў і, быццам не заўважаючы маленькага слухача, працягнуў аповед.

Даўным-даўно, калі хаты былі вялізнымі, як горад, а ў гарадах маглі змясціцца цэлыя краіны, у доме, які больш нагадваў старажытны палац, жыў Дзед. Быў гэты Дзед сівы і сагнуты ад выпрабаванняў, што згрувасціліся на ягоных плячах за доўгія гады жыцця. А яшчэ быў ён здатным гаспадаром і любіў прыняць гасцей, калі тыя ішлі да яго з дабром.

І вось аднойчы, калі, здаецца, ужо некалькі тыдняў запар ішоў дождж і вуліцыператварыліся ў магутныя рэкі, да Дзеда нехта пагрукаў. Спачатку стары падумаў, ці трэба адчыняць чалавеку, які бадзяецца на дварэ ў такую непагадзь, але наважыўся і павольна пайшоў да магутных разьблёных дзвярэй.

На парозе Дзед убачыў Дзядзьку. Ён быў сярэдніх гадоў, здаровы і шыракаплечы, аднак нейкі несамавіты. На такога і ўвагі не звернеш на вуліцы. У адной руцэ ён трымаў клятчасты пінжак з адарванай нагруднай кішэняй — відаць, счапіўся з кімсьці па дарозе. У другой — валізку.

— Дзень добры ў хату, — пачаў сваю гутарку Дзядзька і нават трохі пакланіўся. — Людзі кажуць, што ты адзін тут жывеш.

— Праўду кажуць, — кіўнуў Дзед і уважліва зірнуў сваімі вялікімі зялёнымі вачыма ў блакітныя вочы Дзядзькі.

— Дык я магу дапамагчы. Глядзі, як заняпаў дом. І табе, Дзед, падтрымка трэба. Стары ты ўжо, цяжка табе. А свет мяняецца. Хутка ты не паспееш за гэтымі зменамі, — прамовіў Дзядзька.

Дзед крыху падумаў і, нічога не адказаўшы, пайшоў у гасцёўню. Але спыніўся па дарозе і махнуў рукой на невялікі, аднак прыгожа ўбраны ўтульны пакойчык:

— Вось, калі ласка, твой новы дом. Атабарвайся і прыходзь піць гарбату.

— Дзякуй, Дзед, — Дзядзька ізноў трохі пакланіўся, прыціснуўшы мокры пінжак да грудзей.

Гарбату пілі моўчкі. Дзядзька сядзеў на старым драўляным крэсле і аглядаўся. Гасцёўня была прасторнай, з трыма вялікімі арачнымі вокнамі па адной сцяне. На супрацьлеглай сцяне віселі ці то кілімы, ці то габелены, а самі сцены былі абклеены старасвецкімі рознакаляровымі шпалерамі. Уночы і ўвечары пакой асвятляўся некалькімі гатычнымі жырандолямі на высокай драўлянай столі з размаляванымі ліштвамі паміж абчасаных дэкарыраваных бэлек. А ў куце стаяла высокая фаянсавая печка, якою, хутчэй за ўсё, даўно не карысталіся.

— Да-а-а, стары. Сумна табе жывецца ў такой старажытнай пячоры! — парушыў маўчанне Дзядзька. — Але гэта не страшна. Цяпер будзем удвух, стане лягчэй. Не дзіва, што людзі казалі, быццам ты зусім знясіліўся змагацца з гэтым домам.

— Людзі так казалі? — здзівіўся Дзед і забурчэў. — Ат, гэтыя людзі. Яны ўсё кажуць і кажуць, нібыта ім няма больш чым заняцца. Куды схавацца ад іх, га? Не ведаеш? Каб не казалі… Хіба што ў дамавіну.

На гэтыя словы Дзядзька толькі ўсміхнуўся:

— Думаеш, дапаможа?

— Вядома, што не, — уздыхнуў Дзед.

Так яны і зажылі разам. І адразу ў доме пачаліся змены. Спачатку Дзядзька паздымаў і схаваў у гаспадарчай каморцы ўсе старасвецкія жырандолі і ўсюды правёў электрычнае асвятленне. Потым узяўся за састарэлую мармуровую падлогу, а там рукі ягоныя дайшлі і да шпалераў. Крок за крокам пераўтвараўся дом, і не заставалася ў ім месца ні для старых рэчаў, ні для старога Дзеда. Дзядзька паступова рабіўся гаспадаром — ужо не ён, а Дзед займаў самы малы пакойчык ў доме.

— Чаму ты ўсё гэта робіш? — спытаў аднойчы ў Дзядзькі Дзед.

— А хіба ты не помніш? Я абяцаў дапамагаць табе, — пачуў ён у адказ.

— Дык усё гэта дзеля мяне?

— Так.

— Тым не менш, калі я кажу табе спыніць гэтыя змены, ты не слухаеш… — з жалем заўважыў Дзед.

— Таму што ты не разумееш, што табе лепш, — даводзіў сваю рацыю Дзядзька. — Ты так бы і сядзеў у гэтай старызне, пакуль бы сам сябе са свету не звёў.

Дзед не знайшоў, што адказаць. Ён паматаў галавой і пайшоў збіраць старыя рэчы, якія яшчэ не паспелі адправіцца на сметнік. З цягам часу каморка, адведзеная пад захаванне таго, што Дзядзька называў старым ламаччам, зрабілася паўнюткай, і таму былым багаццем палацыка пачаў абрастаць сціплы Дзедаў пакойчык. Дзед стварыў у ім маленькі музей старажытнасці, дзе і сам нагадваў звычайны экспанат. Ён гадзінамі сядзеў там і размаўляў са сваім скарбам і ўспамінамі, у той час, як Дзядзька бавіўся з сябрамі і сяброўкамі. Тыя бясконцым ланцугом цягнуліся ў дом, які пачаў нагадваць карчму з няўдалым рамонтам.

Неяк пад вечар Дзед, нарэшце, парушыў маўчанне.

— Усё гэта было толькі дзеля цябе самога. Ад пачатку і да канца. Я думаў, што ты напоўніш дом свежым паветрам сучаснасці. А замест гэтага я душуся тваім эгаізмам, фанабэрыстасцю і дрэнным густам, з якім ты перабудаваў тое, што было прыгожым стагоддзямі. У маім доме больш не змесціш краіну! Тут засталося месца толькі для цябе і тваіх сяброў.

Дзядзька нахабна выскаліўся ў адказ:

— Кладзіся спаць, стары. Лепш прамаўчы яшчэ столькі ж, калі няма чаго сказаць, акрамя такой лухты.

Дзед уздыхнуў, але падпарадкаваўся. Так у доме канчаткова запанавала шэрасць — і пацягнуліся панурыя часы.

Праз колькі гадоў Дзед стаў такі стары і скручаны, што, здавалася, мог дакрануцца да зямлі далонямі пры хадзе. Аднойчы Дзядзька прачнуўся ад шуму ў калідоры. Ён выйшаў з пакоя і ўбачыў, што Дзед цягае старыя рэчы ў гасцёўню і з любоўю раскладвае іх на падлозе. Карціны, ручнікі, жалезныя прасы на вуголлі, кілімы, калаўроты і нават шаблі — нічога не забыўся Дзед. Дзядзьку не збянтэжылі новыя дзівакаватасці.

— Ты што гэта робіш, старызнік? — пацікавіўся ён.

— Я рыхтую свята Старыны.

— І што гэта за свята, якое ты ніколі не святкаваў? — здзівіўся Дзядзька.

— Яно святкуецца не так часта, як ты думаеш.

— Дзівак ты, Дзед. Але рабі, што хочаш, — паблажліва дазволіў Дзядзька і пайшоў збірацца да сяброў.

А Дзед скончыў справу і замкнуўся ў сваім пакойчыку.

Дзядзька прыйшоў дахаты пад вечар і аслупянеў: у доме моцна пахла гарам. «От, халера старая! Яшчэ і пажару нарабіў», — жахнуўся Дзядзька і пабег глядзець, што згарэла. Пах ішоў з дзедавага пакойчыка. Дзядзька штурхнуў дзверы — тыя не паддаліся. Тады ён моцна наваліўся на іх плячом і патрапіў унутр. А там на дзедавым ложку ў кучы попелу сядзеў маленькі двух- ці трохгадовы хлопчык у вышытай ільняной кашульцы і гуляў са старымі ваўнянымі цацкамі-птушачкамі. Малы не адразу заўважыў Дзядзьку, што аслупянелы так і стаяў на ўваходзе. Аднак праз імгненне хлопчык зірнуў на яго вялікімі зялёнымі вачы-

ма і холадна ўсміхнуўся. Дзядзьку ажно перасмыкнула ад гэтага спакойнага і не па-дзіцячы ўпэўненага позірку, і ён выбег з пакоя.

«І што рабіць? — думаў Дзядзька ў адчаі. — Куды малога цяпер падзець? Але я прыдумаю, абавязкова што-небудзь вырашу».

І вырашыў Дзядзька аднесці малога да якіх-небудзь добрых людзей. Ды не наважыўся прапанаваць дзіця суседзям асабіста. Замест гэтага ён захутваў хлопчыка ў брудныя анучы, даваў у рукі жаласлівую цыдулку і падкідваў да іх на надворкі. Аднак нічога не выходзіла — хлопчык апынаўся дома яшчэ да таго, як туды вяртаўся Дзядзька. У рэшце рэшт той стаміўся і пакінуў малога ў спакоі.

Так Дзядзька з хлопчыкам зажылі разам, адзін аднаго не хвалюючы. Дзядзька распрадаваў сёе-тое з дзедавага багацця ды працягваў бавіць час у сваё задавальненне, а дом павольна прыходзіў у заняпад.

Але малы рос і пакрысе адваёўваў сабе прастору, якая калісьці належала Дзеду. Таму ў доме ізноў пачыналіся змены. З каморкі былі выцягнутыя і адмытыя старыя дываны, у належны стан прывялася і заняла сваё пачэснае месца антыкварная мэбля, запалала, разліла па гасцёўні пяшчотнае цяпло печка, а на сценах з'явілася выкшталцоная старажытная зброя. Дзядзькаў сусвет сціскаўся і курчыўся, як бяроста ў агні.

І калі хлопчыкператварыўся ў дужага і прыгожага дзецюка, а Дзядзька ссунуўся ў плячах, адрасціў жывот і ўвогуле пастарэў, яны першы і апошні раз пагаварылі.

— У гэтым доме табе больш няма месца, — пачаў размову хлопец. — Мне здаецца, што ты і сам гэта выдатна разумееш.

— Але ж я не магу сысці, — запярэчыў Дзядзька. — Я паклаў усе свае сілы на тое, каб прывесці гэты дом у належны стан. Толькі дзякуючы мне ён усё яшчэ стаіць.

Пасля гэтых слоў голас хлопца стаў ледзяным.

— Ты лепш за мяне ведаеш, наколькі крывадушна ўсё, што ты кажаш. Ты перайначыў дом пад сябе, вырабіў з яго пасмешышча. Ты весяліўся з сябрамі, тады як той, хто даў табе прытулак, ратаваў апошнія свае ўспаміны. Ты хлусіў суседзям, што я не існую і не належу гэтаму месцу. Няўжо ты думаеш, што маеш права заставацца тут? Ты займеў шанц прыдбаць уласную хату і стаць сапраўдным гаспадаром. Але ў адказ на гасціннасць ты знішчыў яе непаўторны твар і пачаў гандляваць тутэйшай спадчынай. Дык пра якія сілы ты смееш казаць пад гэтым шматпакутным дахам?

Невядома, ці зразумеў Дзядзька тое, што сказаў яму хлопец, ці проста вырашыў, што жыцця яму тут больш не будзе. Як там ні было, сабраў ён валізку, узяў пінжак з прышытай калісьці кішэняй і, не развітаўшыся, пайшоў шукаць сабе новае гаспадарства. У доме, які цяпер нагадваў рэстаўрыраваны палац, скончылася бясслаўнае панаванне Дзядзькі, якое здавалася бясконцым.

Стары завяршыў аповед і стомлена ўздыхнуў. Хлопчык між тым нахмурыўся і расчаравана развёў рукамі:

— Дзед, дык гэта зусім і не казка!

— Не, унучак, не казка, — спакойна адказаў яму дзед.



Аляксей Арцёмаў

**нарадзіўся 27 сакавіка 1991 года ў Туле. Выпускнік Тульскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Дэбютаваў у часопісе «Маладосць» пазалетась. Любіць тэхналогіі, спадзяецца дажыць да тэхналагічнай сінгулярнасці.**

# Свавольныя словы

## Венецыя

Навокал змрок, халодны шэры дождж.
Глядзіш на свет, як пасівелы дож[1] ,
Шукаеш свой адбітак у канале,
Ужо знайшоў, ужо злавіў амаль... І
Выява знікла — і знікаеш ты.
Сярод тужлівай гэтай цемнаты
Мінаюць дні, лятуць у вырай шпарка.
Ды нават шлях, знаёмы кагадзе,
Цяпер ужо цябе не прывядзе
Да карнавальна-радаснай Сан-Марка.
І ты маўчыш. У шыбы лупіць дождж.
Каму патрэбны ты, самотны дож?
Даўно палёгкі не дае залева.
Глядзіш, як б'е маланка за акном,
І верыш, што яна падпаліць дом,
Паблытаўшы яго з вялікім дрэвам.

***

І пляск вады, і бляск агню,
І промні сонца напрадвесні —
Усё цяпер упершыню
Ператварыцца можа ў песню.

І гуд далёкіх цягнікоў,
І пошум станцый мітуслівых
Яшчэ абернуцца наноў
Празрыстай нотай, пералівам.

А я глухі. І прамаўчу
(Цярпі, Эўтэрпа[2] гаваркая!);
Не талент я і не вяшчун,
Хоць ведаю, што нас чакае,

Што будзе ў музыкі фінал,
Што лёс спрыяе чорнай сіле,
І толькі сівер давідна
Правые на тваёй магіле.

---

[1] Дож (італ. doge, ад лац. dux — правадыр) — тытул кіраўніка дзяржавы ў некаторых італьянскіх рэспубліках.
[2] Эўтэрпа — у грэчаскай міфалогіі адна з дзевяці муз, дачок Зеўса і тытаніды Мнемасіны, муза лірычнай паэзіі і музыкі.

## Памяці Стральцова

Чакаеш дзень, чакаеш два, а пралятае год,
І надыходзіць цеплыня, і раптам — крыгаход.

Ты чуеш музыку вясны, яна пяе ўнутры,
І забываеш пра журбу, пра шэраг крыўд старых.

Танцуюць промні венскі вальс, трымціць святло ў акне,
А музыка вясны грыміць гучней, гучней, гучней

І запрашае да сябе, у край дзіцячых сноў.
Там крэсліць дабрыня свой круг, і ты свабодны зноў.

Там пахне цёплым малаком, там перашэпт травы,
І мама не хварэе там, і дзед яшчэ жывы.

Ласкава кліча ў светлы край і вабіць крыгаход…
Ты прачынаешся ўначы, на скронях ліпкі пот.

Хто ты, нябачны чалавек? Дзе ты жывеш і з кім,
Шукальнік музыкі вясны ў натоўпе гарадскім?

Я сам такі ж як ты, бо лёс усіх нас прывядзе
Туды, дзе з вудай ля ракі даўно чакае дзед.

***

Трансмісія аўтобуса звініць,
Мы едзем па праспекце да курзала.
На небе, як вальфрамавая ніць,
Гарыць свяціла ў соннай вышыні…
А я без піва — грошай надта мала.

Мы рушым. Ты звычайны адпускнік,
Што да мяне прыбіўся нечакана.
Сяброў такіх курортных пералік
Хіба прыдасца? Сябар быў і знік.
Ты хутка знікнеш — моўчкі, без падману.

Нас раскідае лёс — каго куды:
Далей ад сонца, пляжаў і курортаў.
І будзем жыць, спакойна да нуды,
Без радасці, але ж і без бяды,
І без пачуццяў «на разрыў аорты»…

— Ну што, няма на піва? А на квас?
— На квас знайду.
…Напой халодны хлебны
Мы прагна п'ём як у апошні раз,
Нібыта адчуваем — кожны з нас
Шчаслівы. І нікому не патрэбны.

***

Снежань. Бясконцыя вечары —
Цемра наўкол, дэфіцыт марозу.
Гэй, Дыяніс мяне прабяры,
Вось і чаму я дасюль цвярозы?

Слухаць бы музыку, піць глінтвейн,
Лашчыць рукою твае калені…
Снегу бракуе, няма завей:
Толькі глабальнае пацяпленне

І цішыня. Я адзін сяджу,
Сумны ўнутры, неахайны звонку,
Мару пра сцюжу замест дажджу,
Мару, што побач чужая жонка.

Ат, дачакаюся халадоў —
Часта ад слоты ратуе студзень.
Нават каханая прыйдзе зноў,
Толькі ніколі маёй не будзе.

Я зразумею, што жыў не так,
І па віно пацягнуся ў краму.
Злітуйся, Божа, падай мне знак,
Ну… І мазгі падары таксама.

***

Кахаць — як будаваць вялікі дом:
Работу пачынаем з катлавана.
Капаем уначы, капаем днём,
Працуем і адказна, і старанна.

Гады мінаюць. Зніч жадання згас,
Імпэт сціхае, застаецца праца,
І вось ужо штодня шукаем час,
Каб на будоўлю пачуцця вяртацца.

Замест работы крывім мы душой,
Знаходзім у каханых недахопы…
Усё звычайна: кожны з нас прайшоў
Свой шлях ад грабара да далакопа.

***

Маўчыць напаўпразрыстая вада,
Яна не выдае сваіх сакрэтаў.
Калі знячэўку здарыцца бяда,
Наўрад ці людзі зразумеюць гэта.

Віры засмокчуць, і няма слядоў,
Пануе цішыня ў халоднай плыні.
Я знікну тут, далей ад гарадоў,
Знайду спакой у жабурынні й ціне.

І страты не заўважаць. Сапраўды,
Мяне не помняць — і не жыў, як быццам.
Я хутка знікну тут, сярод вады,
Каб рыбай праз стагоддзі нарадзіцца.

***

Свавольныя словы сплятуцца ў радкі,
Запомніцца клавішам дотык рукі,
Але праз хвіліну якую
Агонь успамінаў апаліць душу.
Знянацку здаецца: не вершы пішу —
Жаночую шыю цалую.

Бязмэтная праца мой дзень забярэ,
А ўвечар прачнецца ліхтар на двары,
І з'явяцца строфы ў тумане…
Трывога няясная ўміг скалане:
Каханая, як ты жывеш без мяне?
Адказу няма на пытанне.

Але я не млявы лірычны герой.
Адказу няма? Дык па звычцы старой
Не ныю (а нехта б заплакаў).
Няхай ты кахаеш і з кімсьці жывеш,
А я дапішу свой няскончаны верш
На радасць чытачкам з філфакаў.



Андрэй Сідарэйка

**нарадзіўся 16 студзеня 1985 года ў вёсцы Каравацічы Рэчыцкага раёна. Стаў лаўрэатам конкурсу апавяданняў Выдавецкага дома «Звязда» за 2015 год. У планах — напісанне твораў, дзе бытавое, непадзельнае з магічным, прымушае задумацца над глыбокім сэнсам жыцця.**

# Жыццё змяняецца, прынцыпы застаюцца

*З нататак невядомага*

## Панядзелак

Нядаўна я пачаў разумець мову жывёл.

Як гэта здарылася? Я крочыў па горадзе. Маю свядомасць перапаўнялі думкі. Справа ў тым, што ад мяне пайшла жонка. А ўсё праз тое, што аднаго дня ёй стала сумна. Яна сказала, што гэта сямейны крызіс і яго трэба перажыць.

Што датычыцца мяне, то мне таксама было з ёй сумна, але ж я не сыходзіў. Тым не менш грукаліся ў дзверы халасцяцкія дні, таму трэба было запасціся прадуктамі.

Каля крамы я заўважыў сабаку.

— Яшчэ адзін па пельмені ідзе, — нечакана пачуў я за спінай.

Азірнуўся. Нікога побач. «Здалося», — падумаў я, як зноў той жа голас прамовіў:

— І штаны не прасаваныя. Каўбасу возьме і маянэз.

— Гэта ты кажаш?! — спытаў я сабаку і спалохаўся ўласных слоў. Раптам хто пачуе. Але побач нікога не было.

— Так, я, — адказаў сабака.

Думкі пра сямейную драму выветрыліся з галавы. Затрымлівацца каля ўвахода было непрыстойна. Я паспешна пацягнуў на сябе ручку дзвярэй.

— Не падумай, што я галодная. Але, калі не шкада, захапі костачку.

Просьбу я выканаў, а таксама зразумеў, што мая суразмоўца жаночага роду.

— Дзякуй, — сказала чатырохногая субяседніца. — Некалькі дзён таму мяне пакінуў тут гаспадар. Вось я і сяджу, чакаю яго. А голад не цётка.

— Думаеш, ён вернецца? — спытаў я.

— Вядома.

— А мне здаецца, ты чакаеш яго дарма.

— Іншага гаспадара ў мяне няма.

Мне хацелася хутчэй паесці і легчы адпачываць, таму я паспяшаў дадому. Калі збіраўся адчыніць дзверы ў пад'езд, да мяне падышла кошка.

— Раней ты вяртаўся дадому не гэтак позна, — прамурлыкала яна.

— Дагэтуль я быў жанаты, а цяпер — бабыль. Вяртаюся, калі пажадаю. А ты тут даўно жывеш?

— Я пад гэтым домам нарадзілася.

— Каўбасы хочаш?

— Але.

Я адламаў кавалак і кінуў кошцы.

— Каб яшчэ малачка...

— Прабач, не прадугледзеў.

— Лічы гэта намёкам.

— Зразумеў, — адказаў я і зачыніў за сабой дзверы.

Апынуўшыся ў кватэры, я задумаўся: што ў ёй выдае маё халасцяцкае жыццё? Зразумеў: кухня! Раней столькі бруднага посуду не было. Я старанна памыў талеркі, лыжкі, відэльцы. Пасля прапыласосіў дываны, зрабіў вільготную ўборку калідора. У шафе акуратна склаў вопратку. Вымыў ванную і прыбіральню.

Адправіўся вячэраць. Яшчэ некалькі дзён таму ежа ў мяне была больш разнастайнай: макароны, бульба, катлеты. З першага — суп і боршч. Цяпер — вараная каўбаса, маянэз ды кавалак хлеба. Нягуста. А тут яшчэ стрэс, галюцынацыі.

Я падумаў: размаўляць з жывёламі нядрэнна. Яны, аказваецца, шмат разумеюць. Але, каб такога не паўтарылася, я вырашыў добра выспацца.

## Аўторак

— Як спалася? — запыталася раніцай кошка.

«Гэта не галюцынацыі?» — падумалася мне. Але трэба было нешта адказваць.

— Раней я вас не разумеў. Таму мне неяк незвычайна, — паспрабаваў апраўдацца я.

— Вы, людзі, нікога не разумееце. Толькі штурхнуць можаце ды ежу нясвежую падкінуць.

Мець зносіны з кошкамі — што з жанчынамі: занятак не з лёгкіх. Таму я вырашыў пайсці без адказу.

— Вось так заўсёды, — пачулася ўслед. — Вы, мужчыны, заўжды пазбягаеце сур'ёзных размоў.

Працоўны дзень быў звычайным. Нічога асаблівага. Праца і раней не выклікала ў мяне цікавасці. Што можа адбыцца ў офісе? Сядзіш у крэсле за камп'ютарам, думаеш, калі абед, пасля чакаеш вечара, а ў працэсе гэтага выконваеш свае абавязкі. Падчас абеду можна схадзіць у краму, праветрыцца. Так хутчэй праходзіць працоўны дзень. Увечары збіраешся, выключаеш святло, зачыняеш за сабой дзверы і — прывітанне, свабода! Да заўтра ты належыш сабе, сваім справам і памкненням сэрца. Вось і сёння, дачакаўшыся запаветных 17.00, я сышоў у сваё жыццё. Зачыніўшы за сабой дзверы, я накіраваўся да крамы, дзе мяне сустрэла знаёмая чатырохногая сяброўка.

— Твой гаспадар не з'явіўся? — запытаўся я першы.

— Не. Напэўна, у яго шмат спраў.

— Вядома. І, павер, на цябе больш часу не знойдзецца.

— Ты хочаш мяне пакрыўдзіць?

— Кажу як ёсць.

Я зайшоў у краму. Акрамя пельменяў і кефіру захапіў пачак малака, дзве аднаразовыя талерачкі і каўбасу для жывёл «Бобік». На вуліцы прапанаваў іх сабаку.

— Цябе як клічуць? — запытаўся я.

— Фрося.

— А дзе ты спіш?

— Пад лавачкай на прыпынку. Цяпер верасень, таму цярпіма. Спадзяюся, мой гаспадар хутка аб'явіцца.

— А калі не? Так і застанешся тут?

— А дзе яшчэ?

— Можаш жыць у мяне.

— Я не кошка, каб жыць усюды, абы па поўсці гладзілі ды малачко налівалі. Мы, сабакі, звычайна прывыкаем да аднаго гаспадара. Няхай ён і нягоднік.

— Прынцып?

— Так.

Я развітаўся з Фросяй і пайшоў дадому.

— Дзе ты быў? — спытала ля пад'езда кошка.

— Да пяці вечара — на працы, пасля заходзіў у краму. Зараз налью малака.

— І гэта ўсё? — абурылася кошка, калі малако апынулася ў талерцы.

— А што яшчэ?

— Мог бы і ліверную каўбасу прыхапіць.

— А як жа пацукі?

— Яны штодня не бегаюць. У іх таксама ёсць мазгі.

— Хочаш, прынясу што-небудзь з халадзільніка?

— Не. Але наступны раз май на ўвазе. Усяму вас, мужчын, вучыць трэба. Думаеце, малака купілі — дык мы павінны быць ля вашых ног, так?

— Мы пачынаем сварыцца, хоць і незнаёмыя.

— Муркай мяне зваць, — адказала кошка.

— Мог бы і сам здагадацца, — пагадзіўся я.

— Добрага вечара, — прамурлыкала кошка. — Прыхапі раніцай сняданак, а то так хочацца есці спрасонку.

— Калі не забуду, — сказаў я і нырнуў у пад'езд.

На пліце кіпела вада, варыліся пельмені. Я пачаў разважаць, што жыць аднаму — не так ужо і дрэнна. Пасля вячэры можна займацца чым хочаш, а не тым, што дыктуюць. Але менавіта сёння так жыць не хацелася. Я выкінуў бытавыя адходы ў смеццеправод, вымыў кухню. Акуратна склаў рэчы ў шафе. Працёр пыл на падаконніку, паліў кветкі, хоць мая была толькі адна — кактус. Ён рос ужо некалькі гадоў, стаў вялікім, але так і не расцвіў. Астатнія кветкі былі жончыны. Дзіўна, як яна іх не забрала? Няўжо ведала, што я буду іх паліваць? Бо дагэтуль такое здаралася не часцей, чым раз на паўгода. «Магчыма, яшчэ заедзе», — вырашыў я. Але ў такім выпадку няхай заязджае днём, калі мяне не будзе ў кватэры. Перасякацца не хацелася. Ва ўсякім выпадку, гэтымі днямі. Да таго ж, калі яна заедзе цяпер, то вырашыць, што такі парадак трымаецца дзякуючы яе карпатлівай працы, а не за кошт маіх намаганняў. І, як заўсёды, яна мяне не ацэніць.

Пасля ўборкі яшчэ застаўся час для камп'ютарных гульняў. Але сёння я вырашыў ад іх адмовіцца, выключыў святло і лёг у ложак.

## Серада

Раніцай я прыхапіў рэшткі варанай каўбасы для Муркі. Але замест падзякі пачуў папрок:

— Што, так і будзем харчавацца? Я хачу якаснай, карыснай ежы.

— Дык пастарайся, — парэкамендаваў я.

— Спраўлюся сама, — пакрыўдзілася кошка, схапіла каўбасу і некуды яе пацягнула.

На працу я прыйшоў у прыўзнятым настроі. Хоць для мяне яна па-ранейшаму не мела ніякага значэння. Я ўсё роўна чакаў 17.00. У поглядах калег я лавіў непрыхаваныя ўсмешкі. Я ўяўляў, пра што яны думалі. Але сам нічога не казаў. Навошта? У мяне была таямніца, у іх — тэма для размоў.

Увечары Фрося сказала:

— Сёння поўня. Мне будзе страшна. Прыходзь сюды а дванаццатай. Павыем на месяц разам.

— Як ты сабе гэта ўяўляеш? — здзівіўся я. — Хочаш, каб мяне адвезлі ў псіхіятрычную клініку?

— Чаму? — перапытала Фрося.

— У людзей не прынята выць на месяц.

— А калі моцна хочацца?

— Можна павыць у падушку. Так ніхто не пачуе, а табе стане лягчэй.

— Калі ты мне сябар, то абавязаны падтрымаць.

Я паабяцаў прыйсці а дванаццатай ночы на прыпынак. Каля пад'езда мяне чакала Мурка.

— Мог з'явіцца і раней, — як заўсёды, папракнула яна мяне.

— Як паспеў. І наогул, я сёння вельмі заняты.

Я даў Мурцы ліверную каўбасу.

— І што ты сёння будзеш рабіць? — пацікавілася яна.

— Выць на месяц. Я паабяцаў Фросі.

— Хто такая Фрося? — зацікавілася Мурка і нават перастала жаваць.

— Сабака.

— Ты звязаўся з сабакамі? — здзівілася яна. — Яны цябе да дабра не давядуць!

— А кошкі?

— Навучаць жыццю.

— Ад некага я гэта ўжо чуў, — сказаў я і нырнуў у пад'езд.

А палове на дванаццатую я выйшаў з хаты. Гарэла шмат ліхтароў, і ад іх святла ноч не здавалася такой цёмнай і страшнай. Фрося чакала мяне на прыпынку.

— Ты гатовы? — спытала яна.

— Падтрымліваць — так, выць — не.

Фрося падняла галаву ўгору і пачала скуголіць.

— Прабач, што перабіваю, — прыпыніў я яе. — Ты пра што?

— Як пра што? — здзівілася Фрося. — Пра жыццё. Пра цяжкую сабачую долю.

Я сядзеў на лаўцы і глядзеў на зоркі. Напэўна, у мінулым жыцці я таксама быў бяздомным сабакам і выў на поўню. Месяц слухаў мяне і суцяшаў.

— Як вам там? — спытаўся я ў зорак.

— Самотна, — адказалі яны.

Мне таксама было самотна. І холадна. Поўня свяціла ярка, але не грэла. Фрося працягвала расказваць ёй пра свой нялёгкае жыццё, здраду гаспадара, пра тое, што яна хацела б

пасяліцца на месяцы. Магчыма, там жывуць адданыя людзі, якія ніколі не кінуць сябра ў бядзе. А тут, на зямлі, усё не так, бо часам самыя адданыя і застаюцца адны. І Фросі ад гэтага горка.

Віднела. Поўня пачала сыходзіць. Фрося сказала, што яна стамілася і цэлы дзень будзе спаць. Мне ж трэба было ісці на працу. А перад гэтым — вярнуцца дадому, памыцца, пачысціць зубы і паснедаць.

## Чацвер

Днём я задаўся пытаннем: чаму ў маім жыцці ўсё склалася менавіта такім чынам? Чаму я, уласна, працую ў гэтай установе галоўным аддзела? Ды і кім я загадваю? Толькі самім сабой. Чаму тады менавіта так гучыць мая пасада? Мне, напрыклад, і пасада дворніка падабаецца. Толькі і рабі сабе, што мяці кожны дзень. Чым дрэнна? І неабавязкова бачыць тых, каго бачыць зусім не хочаш. Але калі б я працаваў дворнікам, Люська ад мяне пайшла б раней. Навошта ёй жыць з дворнікам…

А гэты дзіўны дар разумець мову жывёл? Навошта мне ведаць, пра што думае кожная Мурка і Фрося? Так, ад жыцця чакаеш аднаго, а атрымліваеш зусім іншае.

У кабінет забег таварыш Колька, прапанаваў схадзіць на футбол. «Скажы, хто твой сябар, і я скажу, хто ты». Дык вось, Колька быў з тых, хто таксама чакаў запаветных 17.00. Тады пачыналася яго свабода.

— А хто гуляе? — запытаў я.

— «Дынама» і «Славія»!

Пасля працы я забег у краму, купіў костак, пачаставаў Фросю. Сказаў, што спяшаюся. Тое ж паведаміў і Мурцы.

— А малако? — спытала яна.

— Прынёс.

Астатняе Мурку не цікавіла. З выразу яе твару было зразумела, што я мог цяпер ісці куды заўгодна.

На трыбунах было шмат народу.

— А ты за каго заўзееш? — спытаў я Кольку.

— За «Дынама», — адказаў той.

Любімая футбольная каманда сябра прапусціла першай, адзін гулец атрымаў жоўтую картку.

— Штогод трэнера мяняюць, новых гульцоў купляюць, а выйграць чэмпіянат ніяк не могуць, — паскардзіўся Колька.

У гэты момант лік зраўняўся. Стадыён зароў ад радасці. Больш галоў мы не ўбачылі. Колька сыходзіў са стадыёна засмучаным.

## Пятніца

Наступным днём Мурка спытала, ці падабаецца мне жыць аднаму. Я на імгненне задумаўся.

— Хутчэй, так.

— А, мы, кошкі, любім жыць з кімсьці.

— Хочаш — жыві ў мяне, — прапанаваў я.

— Ты мяне будзеш мыць у ваннай?

— Вядома. У цябе ёсць блохі. Іх трэба вывесці.

— Мае сябры кажуць, што ляжаць на мяккай канапе...

— І на канапе будзеш ляжаць.

— Кожны дзень — малако, каўбаса і курачка?

— Буду старацца.

— Але ж ты жывеш не адзін. Я бачыла, як не так даўно ты хадзіў з жанчынай.

— Яе пакуль няма. А калі з'явіцца, то будзе жыць згодна з нашымі ўмовамі.

— Тады я згодна, — сказала Мурка і дадала: — Глядзі, каб я не расчаравалася, бо магу таксама сысці.

У кватэры Мурцы спадабалася. Мы адправіліся ў ванную. Я нацёр кошку шампунем, змыў пену дожджыкам, ручніком выцер поўсць. Увесь гэты час Мурка моршчылася і хацела ўцячы. Калі б не яе жаданне жыць у кватэры, яна б так і зрабіла.

Пасля працэдуры кошка заявіла:

— Гэта быў першы і апошні раз. Больш я ў ванную ні нагой.

Я паставіў латак, напоўніў яго пяском.

— Цяпер табе давядзецца хадзіць сюды, а не пад дрэва.

— Разбяромся, — адказала Мурка і рушыла ўслед на кухню.

Папіла малака, залезла на канапу і задрамала.

Я зварыў пельмені. Паеў, лёг на ложак. Паглядзеў на Мурку. За гэты час яна паспела скруціцца ў клубок і мірна заснуць. Я таксама вырашыў паспаць.

## Субота

Назаўтра каля крамы я не сустрэў Фросю. Не было яе і на прыпынку. Я занепакоіўся. Магчыма, па яе прыйшоў гаспадар. Але ж былі і іншыя сцэнарыі развіцця падзей. Не вельмі перспектыўныя. Гэтага я і баяўся.

— Колькі можна прыходзіць дадому позна? — спытала Мурка, калі я вярнуўся. — Цяпер ты жывеш не адзін.

— Затрымаўся на працы, — схлусіў я.

Слухаць пра Фросю Мурка не хацела. Мабыць, баялася, што я таксама прывяду яе ў кватэру. Незадаволенасць Муркі я згладзіў лівернай каўбасой і малаком.

— Жыць з кімсьці — не так ужо і дрэнна, — па-філасофску прамурлыкала яна.

— Вядома, калі цябе кожны дзень кормяць каўбасой і малаком. А калі дадуць выспятка?

— Адчыні фортку, — папрасіла Мурка.

— Навошта? — здзівіўся я.

— Каб у мяне была магчымасць выбару. Калі што — сысці.

— Будзе холадна.

— Ну і што.

— Тады я адчыню фортку на кухні, а не ў пакоі. Хварэць неяк не хочацца.

Мурка пагадзілася.

## Нядзеля

Нечакана зацвіў кактус. «Да чаго б гэта?» — падумаў я. Раптам у кватэру пазванілі. Я пайшоў адчыняць. На парозе стаяла Люська.

— Вось і я, — сказала яна.

Да дзвярэй падышла Мурка.

— Гэта яна?

Я кіўнуў.

— І што? — спытаў я.
— Думаю, крызіс сямейных адносін мінуў. Мы можам жыць далей, — адказала жонка.
— А ці варта?
— Час пакажа.
Люська прайшла ў кватэру.
— А ты, я гляджу, змяніўся. Кватэру ў парадку трымаеш. Не тое, што раней.
— Імкнуся.
Я глянуў на Мурку.
— Няхай жыве. Мне здаецца, яна гатуе добрыя катлеты, — сказала Мурка.
— І кошку завёў. Значыць, адзін жыць не хацеў, — падагульніла жонка.
— Як сказаць.
— А чым гэта так смачна пахне?
— Боршч.
— Час абедаць, а хтосьці яшчэ і не снедаў.
Жонка пачала накрываць на стол. Каля яе сядзела Мурка і чакала сваёй порцыі.



Ілюстрацыя Вікенція Пузанкевіча.

## Праз некаторы час

Неяк каля крамы я сустрэў Фросю.

— Дзе ты была?! — спытаў я.

— Ты не ўяўляеш, што са мной здарылася! — адказала тая. — Спачатку незнаёмцы злавілі мяне і кудысьці павезлі ў машыне. Там, дзе я апынулася, было шмат сабак. Яны сядзелі ў клетках. Мяне таксама змясцілі ў адну з іх. Кармілі. Праз некалькі дзён прыйшоў мужчына і паказаў на мяне. Так я апынулася ў новага гаспадара. Цяпер ён у краме.

— А як жа прынцыпы?

— Прынцыпы засталіся. Жыццё змянілася. Дарэчы, цяпер мяне завуць Моця.

У гэты час з крамы выйшаў мужчына. Ён узяў за ланцужок Моцю і пайшоў уздоўж вуліцы.

Я паглядзеў ім услед і пайшоў у краму. Трэба было купіць прадукты. З імі мяне ўжо чакалі дома.

Я быў салідарны з Моцяй. Прынцыпы засталіся. Жыццё змянілася. Я адправіўся дамоў.

Накрапваў дождж.

## 11 хвілін волі

*Нататкі тапельца*

*Наша жыццё — сон у сне ...*

Абата Акіра

Два тыдні таму, на пачатку жніўня, я хадзіў на рыбалку. Злавіў тыгравага сома. Ніяк не мог зразумець, адкуль ён узяўся ў рацэ. Тут і карась — рыба рэдкая.

Часам людзі ходзяць на рыбалку дзеля забавы, каб не сядзець дома. Часта вяртаюцца ні з чым. Але вочы гараць так, як быццам яны злавілі шчупака. Вось і я ішоў дадому з агеньчыкам у вачах. Хвастом каламуціла ваду ў вядры незвычайная для нашай мясцовасці рыбіна.

Смажыць яе я не стаў. Наліў вады ў ванну, выпусціў туды сома. Ванна — не рака. Але ўсё ж такі лепш жыць так, чым быць падсмажаным.

Я сеў за камп'ютар. Прачытаў у інтэрнэце некалькі артыкулаў. Тыгравы сом — драпежнік. Жыве ў рэках Цэнтральнай Амерыкі. Паглынае любую здабычу. Людзі купляюць такую рыбу для акварыумаў. У іх тыгравы сом жыве да пятнаццаці гадоў. Ванна — не акварыум. Але ў яе ёсць і перавагі. У першую чаргу — змяшчальнасць і памер. Я вырашыў, што сому жыць у новым асяроддзі будзе зручна і адправіўся адпачываць.

Наступнага дня я купіў гадаванцу корм — кавалачкі рыбы і нятлустае мяса. Насыпаўшы гэта ў ванну, спытаў у сома: «Як табе тут?» Сом нібыта пачуў мяне: падплыў да краю, падняў галаву. Яго можна было зразумець як заўгодна. Напрыклад: «Добра, дружа, дзякуй за корм». А можа: «Ну куды ты прынёс мяне, дурань? Хіба я табе перашкаджаў, калі плаваў у рацэ?» У пацвярджэнне апошняй версіі заакіянскі госць плюхнуў хвастом па вадзе і нырнуў на дно.

Мабыць, і праўду пакрыўдзіўся, што яго вылавілі са звыклага асяроддзя. «Іншыя ходзяць на паляванне, забіваюць. А ты ў мяне, дружа, плаваеш у ванне, пакуль нясмажаны. І ясі так, як я па святах», — у думках адказаў я сому. Але ўголас нічога не прамовіў. Навошта? Ён жа — рыба. Усё адно не зразумее.

Чытач ужо паспеў падумаць: «А дзе гэты дзівак жыве?» Што ж, распавяду крыху пра сябе.

Я жыву ў глухім правінцыяльным гарадку на Палессі. Навакольныя лес, рака і блакітнае неба з нараджэння сфарміравалі мой светапогляд. Людзі тут — з разыначкай. Як хто з нашых прыедзе ў буйны горад, яму кажуць: «Дзіўныя вы, аднак...» Што дзіўныя — гэта праўда. Напэўна, мабільная сувязь і інтэрнэт прыйшлі сюды ў апошнюю чаргу, калі гэтымі выгодамі цывілізацыі карысталіся ўсе. Разводы, забойствы і самагубствы — выпадкі рэдкія. Для журналістаў інтрыг і скандалаў няма. З прамысловасці — у асноўным дрэваапрацоўка і малаказаводы. Я і сам працую на пілараме. Так і жывём. Для каго — сумна. Для каго — спакойна.

Для мяне — звычайна. Без празмернасцяў.

Са з'яўленнем сома паўстала пытанне: дзе мыцца?

Я вырашыў хадзіць па выхадных у лазню. Раз папарыўся — жывеш тыдзень. Ды і многіх знаёмых у лазні можна сустрэць. Падчас такіх паходаў я сутыкнуўся з Захарам.

Захар — мужчына за сорак. Працуе, як і я, на пілараме. Які гатунак дрэва — з заплюшчанымі вачыма вызначыць. Навобмацак.

— Ты сюды не хадзіў, — сказаў ён мне.

— І не прыйшоў бы. Калі б не тыгравы сом.

— Хто?

Давялося расказаць гісторыю з рыбалкай. Захар не паверыў. Маўляў, адкуль у нас замежная рыба завялася? Я запрасіў яго ў госці. Каб паказаць.

…Захар прыйшоў вечарам. Сом яго здзівіў.

— Які тоўсты, — сказаў ён, памаўчаў, а пасля дадаў: — Не люблю я акварыумаў, клетак. Вось ён, сом, плавае ў ванне, а думае, напэўна, пра раку. Ці пра тое, калі ж гэта ўсё скончыцца: плаванне па замкнёнай прасторы.

Пазіцыю Захара я не падзяляў. Так шмат хто сланоў ніколі б не ўбачыў. Ды і што ім — сланам. Іх кормяць, за імі прыбіраюць. Толькі і ведай сабе, што стой у заапарку, жуй. Вось і сом. Нясмажаны і накормлены. Плавае ў ванне. А мне нязручна: мыюся ў грамадскай лазні.

Захар прапанаваў:

— У мяне знаёмы ёсць. Даніла. Жыве на хутары. Можам на выхадных да яго з'ездзіць. У лес схадзіць, прыроду паглядзець.

З'ездзіць хацелася. Але як пакінуць сома аднаго? Аднак жаданне паехаць узяло верх. У рыбіны, як-ніяк, прыродны інстынкт. Калі пагаладае, нічога з ёй не станецца. У крайнім выпадку паляжыць на дне ванны. Паспіць. Успомніць дно і багавінне.

Дамовіліся выехаць заўтра раніцай, каб шмат што за дзень паспець. На гэтым разышліся. Я папіў гарбаты, пайшоў спаць.

Мне прысніўся кашмарны сон. Я плаваў у рацэ. Раптам да мяне падплыла русалка. Яна ўсміхалася, смяялася. Клікала з сабой на дно. Я паддаўся і нырнуў услед. Русалка ўчапілася ў мяне халоднымі мёртвымі пальцамі, як клюшнямі. Павалакла на дно. Там я ўбачыў шчупака. Як Пасейдон, ён сядзеў у калясніцы, плаўнікам трымаў трызубец. Шчупак паглядзеў на мяне ўважліва.

— Дык гэта ты мучыш нашага супляменніка? — спытаў ён.
— Тут нейкае непаразуменне, — пачаў апраўдвацца я.
— Як? А хто трымае ў ванне Венядзікта?
— Сома? Я кармлю яго, клапачуся.
— Мы таксама будзем цябе карміць і клапаціцца. Адвесці.

Русалка падхапіла мяне пад рукі і павяла. Кінула ў нейкую клетку. Дала марскія водарасці. Яны здаліся мне смачнымі.

Побач плавалі рачныя жыхары. Халоднымі рыбінымі вачыма глядзелі на мяне. «Што ж, глядзіце. Раз іншага занятку вам няма», — падумаў я, адвярнуўся і захроп.

Праз некаторы час зноў прыплыў шчупак.
— Ну як? — спытаў ён.
— Добра, — адказаў я. — Толькі мне патрэбная кіслародная маска. Як мне дыхаць пад вадой? Я ж чалавек. Жывы.
— Ты мёртвы.
— Жывы! — закрычаў я і падхапіўся.

Была гадзіна ночы. Мяне прабралі дрыжыкі. Я пайшоў на кухню і закіпяціў чайнік. Больш так і не заснуў.

Захар прыехаў а сёмай раніцы. Мы селі ў машыну і паехалі. Змучаны начнымі кашмарамі, я хутка праваліўся ў сон.

Ізноў прыснілася рака. Я па-ранейшаму сядзеў у клетцы. Каля яе плавалі рыбы. «Жывы я ці мёртвы?» — мучыла мяне пытанне. Але, калі б я быў мёртвым, хіба б мог разважаць? Аднак у свеце мёртвых таксама ёсць свая мова. Тым больш, я знаходзіўся ў падводным царстве.

Да мяне падплыла русалка.
— Здрадніца, — сказаў ёй з дакорам.
Яна здзіўлена паглядзела на мяне.
— А чаго ты чакаў? — спытала яна.
— Шчырасці, — адказаў я.
— Усе бабы — сцервы. Або як у вас на зямлі кажуць?
— Але ж ты русалка, — заўважыў я.
— Марская баба. Звычкі ў нас ва ўсіх аднолькавыя: што ў зямных, што ў марскіх. Спакусіла і кінула. Між іншым, вы, мужыкі, робіце гэтак жа. У цябе колькі такіх выпадкаў было? Памятаеш?
— Адкуль ты ведаеш?
— Я шмат чаго ведаю. А табе трэба будзе гэта пераасэнсаваць. На, падсілкуйся.

Русалка кінула ў клетку водарасці і паплыла.
— Здрадніца, здрадніца! — крычаў я ёй услед…

Захар перапыніў мой сон словам «прыехалі».

Я агледзеўся. З левага боку ад машыны стаяў прасторны драўляны дом. Паблізу бачыўся лес. З іншага боку — поле. Сустракаць нас выйшаў гаспадар.
— Пара, — сказаў Захар і пачаў вылазіць з машыны. Я зрабіў тое самае.

Пасля прывітання Даніла паведаміў:
— Спачатку пасядзім за сталом, пасля рушым у лес. Можна схадзіць у лазню.

Ад лазні я адмовіўся. За час, як у ванне пасяліўся сом, на гэта збудаванне я пачаў глядзець з непрыязнасцю.

Я агледзеўся. Хутар здаўся мне самотным востравам. Некалі тут была вёска. Пасля таго, як яе назву выкраслілі з рэестра населеных пунктаў, яе саму пахаваў экскаватар. Пазней на гэтым месцы атабарыўся мой новы таварыш. Яшчэ гадоў дзесяць таму ён жыў далёка адсюль, у вялікім горадзе. Але горад быў для яго лабірынтам. У ім можна было блукаць цэлае жыццё, а выхад для сябе так і не знайсці. На месцы былой вёскі Даніла стварыў свой свет, які яму падабаўся, а ранейшы застаўся па-за мяжой гэтага хутара. У яднанні з прыродай мужчына знайшоў адказы на свае пытанні. Ён адчуў смак сапраўднай волі, які існаваў па-за межамі лабірынта.

Захара цягне сюды магчымасць паяднацца з прыродай, пабыць сам-насам з сабой.

…Мы ідзём у лес. Я ўспамінаю пра сома. Як ён там? Праўду кажуць: мы ў адказе за тых, каго прыручылі. Здавалася б, звычайная рыба. Магла быць з'едзенай некалькі дзён таму. А жывая. І выклікае пачуццё спагады, клопату.

Лес сустракае нас цішынёй. Раптам недзе чуецца стрэл. У паветры стаіць пах пораху.

— Паляўнічыя. Магчыма, браканьеры. Іх часта можна ўбачыць тут, — кажа Даніла.

Ён пачынае расказваць гісторыю, як два гады таму, гуляючы па лесе, знайшоў схуднелае медзведзяня. Мабыць, яго маці застрэлілі. Даніла прынёс звера на руках дамоў. Ад бяссілля той не супраціўляўся. Мужчына стаў яго даглядаць. Медзведзяня пайшло на папраўку. Даніла да яго прывык. Але разумеў: звера трэба было рыхтаваць да самастойнага жыцця.

Мужчына прачытаў пра досвед біёлагаў, якія займаліся рэабілітацыяй асірацелых медзведзянят. Для гэтага яны будавалі спецыяльны вальер велізарнай плошчы. Звяры жылі там самастойна. Навукоўцы толькі непрыкметна іх падкормлівалі. Калі жывёлы пачыналі баяцца шоргату і крокаў людзей, іх выпускалі на волю. Даніла выкарыстаў гэты досвед на практыцы. Ён дапамог. Калі мужчына выпускаў мядзведзя, было шкада развітвацца.

— З таго часу да жывёл я стаўлюся з трапяткім пачуццём. Кожны раз, калі чую стрэл, думаю: а ці не на майго мядзведзя была настаўленая стрэльба? — сказаў у канцы аповеду ён.

Мы цікавімся, куды глядзіць інспекцыя аховы прыроды і навакольнага асяроддзя.

— Ды хто сюды паедзе? — адказвае Даніла. — Пакуль патэлефануеш... парушальнікі ўцякуць. Ва ўсіх цяпер машыны.

Мы ідзём у глыб лесу. Стрэлаў больш не чуваць. У мяне ўзнікае жаданне ўбачыць мядзведзя, якога выгадаваў Даніла.

Праз некаторы час я расказаў гісторыю з тыгравым сомам. Чамусьці ў Данілы яна не выклікала здзіўлення.

— У наш час усё магчыма, — адказаў ён. — Цяпер не толькі сома, а і кракадзіла ў нас можна ўбачыць.

— Кракадзіла?! — здзіўляемся мы.

— У зоамагазінах прадаюцца розныя экзатычныя жывёлы. Вось людзі і купляюць. Папесцяцца, як цацкай, а затым выпускаюць на прыроду. Паглядзіш навіны: там незвычайную змяю знайшлі, там яшчарку. А хіба жывёла выжыве ў ненатуральным для сябе клімаце? Не.

Мы вяртаемся ў хату, і я ўспамінаю пра сома. Да гэтага неяк не задумваўся сур'ёзна, адкуль ён узяўся ў нашай рацэ. Можа, яго хтосьці выпусціў? Купіў і выкінуў. Папесціўся, нагуляўся. Навошта ён? Толькі грошы на корм марнуй. Пазней ён апынуўся на маім кручку. Нядоўгай, мабыць, была яго воля.

…Сядзім за сталом. Вячэраем. На стале — усё з зямлі. Натуральнае.

Дзень падыходзіць да завяршэння. Мы вырашаем пераначаваць у гаспадара дома, а ўжо раніцай выехаць у горад. Засынаем хутка: не праходзіць і гадзіны пасля вячэры.

І трэці раз мне сніцца рака. Гэта ўжо падобна на серыял. Я хацеў прачнуцца, але не было моцы.

Я зноў убачыў русалку.

— Прывітанне. Як маешся? — спытала яна.

— Не бачыш, ці што? — адказаў я пытаннем на пытанне, хоць і ведаў, што гэта парушае нормы этыкі.

— Бачу, — адказала русалка і ўсміхнулася. — Я чула, што ў вас, на зямлі, так вітаюцца.

— Як цябе завуць?

— Даша.

«Цікавае імя для русалкі», — падумаў я.

— Даша, на зямлі шмат пра што пытаюцца проста так. Вось такая форма зносін. Кажуць: «Як маешся?», а самім гэта ведаць нецікава.

— А-а, — здзівілася Даша. — Тады зразумела. Я заўсёды лічыла: людзі — дзівакі.

— А цябе што прымусіла прыплысці да мяне?

— Мне загадана перадаць: заўтра будзе экскурсія. Прыплывуць дзеці акунёў. Паглядзець на чалавека — гэта значыць, на цябе. Калі будзеш добра сябе паводзіць, спадабаешся ім, кінуць чарвячкоў або водарасцяў у клетку.

— А калі не?

— Застанешся галодным. Ды яшчэ бізуноў па спіне атрымаеш.

— Вось як вы абыходзіцеся з людзьмі.

— А як людзі? Кідаюць на распаленую патэльню або ў кіпячоную ваду. Мне ракі расказвалі.

— Але чалавек — цар прыроды. Яму дадзена права кіраваць жывёламі.

— Кіраваць — не значыць дзейнічаць, як захочацца. Вось упусцім да цябе піранняў, даведаешся, цар прыроды... дзе ракі зімуюць.

— А адкуль яны тут?

— Адзін дзівак купіў у зоамагазіне. Патрымаў у акварыуме, а затым выкінуў у раку. Ледзь выжылі.

— Што будзе са мной? — пацікавіўся я.

— Пакуль не вырашана.

— Падманшчыца! — закрычаў я ў сне. — Ты ўсё ведаеш, ты ўсё ведаеш!

…Я прачнуўся. Была раніца. Захар з Данілам стаялі каля машыны. Мы развіталіся з гаспадаром сядзібы. Селі ў машыну і паехалі.

Наперадзе было некалькі дзясяткаў кіламетраў…

Горад сустрэў нас бязлюднымі вуліцамі. Гадзіна ранішніх прагулак прайшла. І нават у краму ніхто не накіроўваўся.

Мы пад'ехалі да майго дома. Я развітаўся з Захарам і выйшаў з машыны.

Выхадныя падыходзілі да завяршэння.

Сом мірна плаваў у ванне. Здаецца, ён і не заўважыў маёй адсутнасці. Я змяніў яму ваду і насыпаў корму. Сом пачаў есці. Я сядзеў на краі ванны і назіраў за ім.

— Скажы, Венядзікт, — пачаў я размову. — Як ты лічыш, русалкі існуюць?

Сом нічога не адказаў. Нават не павярнуў галавы.

— Вось і я думаю, што гэта ўсё выдумка. Плод хворага ўяўлення. Дарэчы, вырашыў цябе выпусціць. Бо твае суродзічы не даюць мне адпачываць, — сказаў я гадаванцу.

Шалёна хацелася спаць. Я ведаў, які сон мяне чакае. Але не спаць не мог. Сон быў мацнейшы за мяне. Я заўважыў: ён пачаў забіраць больш сіл, чым даваць. Як наркотык, прыцягальны і жорсткі.

Толькі я лёг у ложак, як пагрузіўся ў іншы свет. Там мяне ўжо чакала сур'ёзная размова.

— І хто тут цар прыроды? — спытаў у мяне шчупак.

— Я. А ўсе вы, рыбы, павінны мне падпарадкоўвацца.

— Сядзіш у клетцы, а ўяўляеш сябе ўсёмагутным. Богам, — засмяяўся шчупак.

— Гэта даўно вядомая ісціна.

— Як я стаміўся ад іх! У свеце людзей часам адбываюцца рэвалюцыі. Старыя ісціны замяняюцца новымі. Вось і мы перапішам гэтую заўтра.

— Як?

— Выпусцім цябе на волю. А пасля адправім следам піранняў. Не ведаю, адкуль гэтыя рыбы ўзяліся ў нашай рацэ, але яны вельмі любяць пах крыві і мяса. Дакажы ў барацьбе з імі сваю перавагу. Ты ж цар!

Шчупак зірнуў мне ў вочы. Яшчэ раз усміхнуўся і сплыў. Я зноў застаўся адзін. Думка пра хуткае вызваленне мяне цешыла. Але і засмучала. Як перахітрыць піранняў, я не ведаў. Да мяне падплыла русалка.

— Чаму пануры? — спытала яна.

— Выпускаюць мяне заўтра ... На з'ядзенне піранням, — адказаў я.

— Цікавае відовішча. Трэба паглядзець.

— Табе мяне зусім не шкада?

— Табе ж не шкада рака, калі ты яго ў кіпень кідаеш? Чаму ж мне павінна быць шкада цябе?

— Хлусіш. Здаецца, ты ў мяне закахалася.

— Хіба толькі ледзь-ледзь. І наогул, ты мне падабаешся, калі злуешся. Цар прыроды, — сказала русалка і паплыла.

Узрушаны, я хутка заснуў. Да клеткі я ўжо прызвычаіўся. Мне было ў ёй нават зручна.

Але сон не прынёс доўгачаканага спакою. Мне прыснілася Даша. Яна сядзела з газетай, якая мела назву: «Спадары, вы — звяры».

— Хочаш, пачытаю? — спыталася яна ў мяне і, не чакаючы адказу, пачала: — «У мястэчку Іспаніі прайшла фіеста “Падпалены бык”. Вечарам ахвяру прывязалі да слупа на гарадской плошчы. Да рагоў прымацавалі лёгкія на загаранне матэрыялы і падпалілі. Бык бег па плошчы, трос галавой, каб скінуць ношу. У час відовішча па перыметры плошчы выбухалі феерверкі». — Даша зірнула на мяне. — А вы фантазёры, цары прыроды, — сказала яна.

Яна зноў паглыбілася ў чытанне.

— А вось яшчэ. Цікавая інфармацыя для тых, хто любіць насіць норкавае паліто. «Норка вырастае ў цеснай клетцы з такой падлогай, якая рэжа ім лапы. Адзінае, чым могуць займацца ў гэтай клетцы звяры — хадзіць туды-сюды, спрабуючы пазбавіцца стрэсу. Паветра, якім дыхаюць гэтыя жывёлы, атручана заўсёднымі выпарэннямі фекалій і мачы. Замкнёная прастора, цеснata, бруд прыводзяць да таго, што ў жывёл развіваецца неўратычны стан. У канцы гэтага пекла жывёл чакае пакутлівая смерць».

Адказаць Дашы мне не было чаго.

— А ведаеш, што робяць жывёлы, калі ім надакучыць жыць у клетках? Суіцыд. Гэта для іх —

акт свабоды. Вось, паслухай: «У Кітаі мядзведзь, які сядзеў у клетцы, адмаўляўся ад ежы на працягу цэлых дзесяці дзён, пакуль не памёр ад голаду». Яшчэ: «Гаспадар збіваў ката. У выніку той выскачыў з акна сёмага паверха». Што скажаш?

Слоў не знаходзілася. Я толькі хацеў, каб гэта ўсё хутчэй ужо скончылася.

Наступнага дня па абодва бакі клеткі сабраліся рыбы. Перад імі выступіў шчупак.

— Жыхары рачных глыбінь! — усклікнуў ён. — Сёння адбудзецца гістарычная падзея. Сёння так званы цар прыроды перастане быць ім. Справядлівасць пераможа! Сёння мы дакажам: у рыб і іншых «нецароў» прыроды таксама ёсць права на жыццё! Хоць яны і не могуць сказаць пра гэта ўслых. Такім чынам, пачынаем!

Дзверцы клеткі адчыніліся. Я хутка выплыў з іх. Рушыў скрозь жывы калідор з марскіх жыхароў. У мяне быў план: хутка вынырнуць з ракі, убачыць бліжэйшы бераг, даплысці да яго, выбрацца на сушу.

У свядомасці выразна працаваў таймер: адна секунда, дзве, тры... Хвіліна. Але як я ні стараўся вынырнуць з вады, у мяне нічога не атрымлівалася. «На якой жа глыбіні я быў увесь гэты час?» — падумалася мне.

Але нарэшце я вынырнуў. З моманту майго вызвалення прайшло каля пяці хвілін. Я ўдыхнуў паветра на поўныя грудзі. Хто ведае, можа быць, гэта быў апошні мой удых. Удых волі. Бо дзесьці абавязкова ўжо гналіся піранні.

Я агледзеўся, убачыў бераг. Да яго было не больш за пяцьсот метраў. Але рукі не слухаліся мяне, білі па вадзе на адным месцы. Калісьці гэту адлегласць я здолеў бы пераадолець за хвіліну. Але цяпер не атрымлівалася. А час ішоў. Паводле маіх падлікаў, мінала дзясятая хвіліна маёй волі.

Раптам я адчуў лёгкія ўкусы за ногі. «Піранні», — пранеслася ў галаве. Яны ўпіваліся ў маё цела і разрывалі яго на маленькія кавалачкі. Але прага свабоды прытупляла пачуццё болю. Жаданы бераг быў ужо побач. Да яго заставалася некалькі метраў.

Ішла адзінаццатая хвіліна волі. Раптам прытомнасць пакінула мяне…

Звінеў будзільнік.

Я прачнуўся. Моцна балела галава. Некаторы час я ніяк не мог уцяміць, дзе знаходжуся. Нарэшце зразумеў, што ляжу ў сваім ложку. З цяжкасцю ўстаў, апрануўся і пайшоў на кухню. Папіў кавы, зайшоў у ванную.

— Ну, гатовы? — спытаў я ў сома. — Сёння будзе дзень тваёй волі.

Я ўзяў вялікае вядро, напоўніў яго вадой і пусціў туды сома. Сабраўся сам і накіраваўся да ракі.

— Вось і ўсё, — сказаў я сому і выпусціў яго ў вольнае плаванне.

Сом неахвотна паплыў. Некалькі хвілін ён гуляў на мелкаводдзі, а пасля знік з вачэй. Я крыху пастаяў каля ракі і рушыў дадому.

Хутка прыйдуць халады. Тыгравы сом загіне ад холаду. Але нейкі час ён будзе вольным. Гэта, пэўна, лепш, чым пяць гадоў плаваць па замкнёнай прасторы ванны.

Дома я адчуў слабасць. Папіў гарбаты з малінай. Напэўна, я захворваў.

Мінула некалькі тыдняў.

Кожны дзень мне снілася русалка. Мы купаліся з ёй у рацэ. Шкада, што ў мяне не было хваста. А так мы б пагулялі з ёй у даганялкі.

Ноч мінала. Надыходзіў дзень. Мне трэба было ўставаць. Ісці на працу. А не хацелася. Я стаміўся, як і Венядзікт, плаваць у жыцці па замкнёным коле: раніца—праца—вечар—дом. Надакучыла, як Данілу, жыць у лабірынце. Мне хацелася іншага. Мне хацелася легчы і не прачнуцца. Плаваць усё жыццё ў рацэ з Дашай.

Некалькі разоў да мяне заходзіў Захар. Клікаў у госці да Данілы. Я адказаў яму, што знайшоў, як і Даніла, свой свет. Калі ён пажадае, мы можам плаваць у рацэ разам. Захар сказаў, што ўжо холадна для купання. Папрасіў, каб я зайшоў да псіхіятра. Я паабяцаў, што так і зраблю. Але не раней за надыход маразоў.

Я пачаў задумвацца: «Што такое свабода?» Свабода ёсць, калі прысутнічае душэўная гармонія. Ці быў я вольны? Не, у гэтым свеце я ўжо не меў душэўнай свабоды. Свабода прыходзіла толькі ноччу. Але было дастаткова зрабіць адзіны крок, каб застацца назаўжды плаваць у рацэ.

Самазабойцы не трапляюць у рай, а жыццё святога пакутніка не было мне патрэбна. Я звольніўся з працы і выпісаўся з населенага пункта, каб ніхто мяне не шукаў. Пасля прыйшоў да ракі, паклаў у лодку камень, вяроўку і паплыў...

Мая мара спраўдзілася. Я плаваю ў рацэ са сваёй сяброўкай Дашай. Яна русалка. Даша расказала, што я быў мёртвым яшчэ тады, калі сядзеў у клетцы. А ўсё, што адбывалася на зямлі — толькі сон. Мёртвым таксама сняцца сны.

На днях я паведаміў ёй, што напісаў апавяданне пра наша знаёмства і адносіны. Даў пачытаць. Даша чытала і смяялася. Сказала, што я вар'ят. Я кіўнуў ёй, што ведаю гэта. Даша параіла аддаць апавяданне ў часопіс. Я паабяцаў, што так і зраблю. Толькі не раней, чым выпадзе снег.

А пакуль я купаюся з Дашай у рацэ. Казычу яе хвосцік, тузаю за коскі, цалую халодныя вусны. У іх — смак свабоды, натхнення. Пах мора і далёкага прыбою. Я гуляю з яе валасамі і ўспамінаю свае адзінаццаць хвілін волі.

Калі б не сом, я б ніколі не пазнаёміўся з русалкай. А так ужо збіраюся зрабіць ёй прапанову. Хто ведае — можа, адкажа ўзаемнасцю?

## Міхась Башлакоў

**нарадзіўся 27 красавіка 1951 года ў пасёлку Станцыя Церуха Гомельскага раёна. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь (2009); за кнігу «Пяро зязюлі падніму» ўдастоены прэміі Баяна (Расія, 2004); на міжнародным кніжным кірмашы ў Германіі кніга «Нетры» (разам з мастаком М. Барздыкам) увайшла ў лік ста лепшых кніг свету (2005); на Міжнародным конкурсе ў Бельгіі кнігі «Нетры» і «Палын. Чарнобыль» (абедзве з мастаком М. Барздыкам) узнагароджаны элітным залатым медалём. Удзельнік ліквідацыі вынікаў аварыі на ЧАЭС, і гэты факт значна паўплываў на творчасць.**



# Араторыя «Шлях»

*Раздзел першы*

## Шыпшыны белы цвет

***

Радкі...
Ці вышытым абрусам,
Ці жытняй сцежкай палявой
Не завітаюць пад прымусам.
Таму не стойце над душой
І не шапчыце мне на вуха,
Пра што пісаць...
І як пісаць...
Радкі...
Як слодыч...
І як скруха...
Нам тайны гэтай не спазнаць:
Як нараджаецца гучанне
Чароўных і дзівосных слоў.
Ці то над лугам плача каня,
Ці чуцен гоман журавоў.
Паэзія душу палоніць.
Як слова вернае гучыць:
Яно набатным звонам звоніць
Ці бомам тоненька звініць...

***

Ралля. Засеянае поле.
Звіняць у небе жаўрукі.
Уцёкшы з гарадской няволі,
Іду праз поле напрасткі.

Іду да гаю на пагорку,
Што пачынае зелянець.
І на душы маёй не горка:
Яна гатова ўжо запець.

Паціху складваюцца словы.
Глядзіш — трапечуцца радкі,
Як над разлогаю вясновай,
Над гэтым полем жаўрукі…

***

Відаць, зіма вярнулася…
І снегам зноў замецена
І тое, што мінулася,
І тое, што намечана.

Што мроілася-снілася,
Чым сэрца было ўсцешана.
Згубілася, забылася
На сцежках тых заснежаных.

І што ў душы гарэніла,
Што хлюпала і хліпала,
Заслала, замяцеліла,
Завеяла, засыпала.

І светла гэтак сталася:
Ні горычы, ні суму.
Бы за гарой схаваліся
Мае начныя думы.

І ўсё такое новае,
І ўсё такое белае.
І толькі мае словы
Такія зноў няўмелыя.

І ўжо не ўсё і радуе:
Габлюеш слова кожнае…
А снег павольна падае
Над Сожам… і над пожняю…

***

Вясна прыйшла… Ужо лісткі
Праклюнуліся на узлессі.
І ў паднябессі жаўрукі
Растыражыравалі песню

Пра гэту самую вясну,
Пра свята зелені навокал.
З душы сплывае лёгкі сум,
Як легкакрылыя аблокі,

Што праплываюць над вадой,
Па лугавіне ўжо разлітай,
Над паўзатопленай вярбой,
Над рунню восеньскага жыта.

І на пагорку квет садоў —
Як рэха гулкае завеяў,
Як тая першая любоў, —
Душу раптоўна абнадзеіць,

Што ўсё наперадзе яшчэ:
І песні, і шляхі, і стрэчы…
Ах, як вясна вакол цвіце
І хмеліць галаў гэты вечар!..

***

Кувай радкі, кувай, зязюля,
Ды не шкадуй узнёслых слоў.
Даўно дні тыя прамінулі,
Калі шаптаў я пра любоў…
Цяпер пачуцці ўжо не тыя.
Не кружаць дзеўкі галаву.
Яны імпэтныя такія —
Я ж ціхім воблакам плыву…

Гляджу спакойна з сіняй высі:
А там, унізе, у гаі
Наперабой, нібы ўпіліся,
Спяваюць гучна салаўі.

Ах, Божа мой, і я гатовы
Натхнёна гэтак жа спяваць…
І нараджаюцца ўжо словы,
І пачынаюць хваляваць…

***
Усе мае дзяўчаты
Там недзе, за туманам.
І крочу я дарогай
З сівою галавой.
І я калісь быў юны,
І быў я закаханы,
Звінеў, як птушка, зранку
Чаромхавай вясной.

І вось на ўлонні вечар.
Ніхто не аклікае.
І я брыду, губляю
Засмучаныя дні.
У мілых тых мясцінах
У думках я блукаю,
Шукаю што, не знаю,
У даўняй даліні?

Юнацтва, што не вернеш?
Радню, якой не стала?
Ці тых наіўных вершаў,
Што я не напісаў?
Ды што аб тым журыцца?
Мільгнула — і растала.
І сам я ўжо ў тумане
Мінулых дзён растаў…

**9**
Апошні дзень вясны.
Як зелена і кветна!
Птушыныя лясы
Вітаюць песняй лета.

Яно ўжо тут не госць,
Яно ўжо гаспадарыць —
Куды не глянеш — скрозь
На сонечных абшарах.

Духмяняцца лугі.
Блакіцяцца палеткі.
Ні жалю, ні тугі.
І толькі лёгкі ветрык

Пяшчотна шэпча штосьці.
Ды я ўсё разумею,
Бо лета ўжо не госць
У бэзавых алеях.

***
Ах, белая шыпшына,
Ля сонечных акон…
Як светлыя ўспаміны,
Як даўні дзіўны сон.

І ўсё, што так балела
І што ў душы цвіло,
Як снегам, кветам белым
Даўно ўжо замяло.

І сёння стане ўчора,
І будзем мы ці не
Шумець сасновым борам
На роднай старане?..
Не дадзена нам ведаць,
Якім наш будзе дзень
І радасці ці беды
Каму з нас лёс прадзе?..

Наіўныя… Ці ў сіле
Пазнаць сябе і свет?..
Як сон чароўны, мілы
Шыпшыны белы цвет…



"Шыпшына". Ілюстрацыя Надзеі Савельевай.

***

Каб ніхто не сурочыў,
Па мурожніцы крочу.
Ад паганага вока —
Святаяннік, зуброўка.

Шэпчуць штосьці мне дрэвы.
І пад ветру напевы
Тут, на гэтым узлессі,
Нараджаецца песня.

Пахнуць кветкі і травы,
Пахнуць мёдам гаркавым.
І ўплятаецца ў словы
Сіні сон чабаровы.

А раўчук мне наўдачу
Па каменьчыках скача,
На прамытым пясочку
Рассыпае званочкі.

Я ж на зёлках зялёных,
На сярэбраных звонах
І на цішы лясное
Сваю песню настою…

Сяргей Белаяр

# Расследаванні інспектара Сарвы

*Цыкл навукова-фантастычных апавяданняў*

(Працяг. Пачатак у №3/2016)

— Як яны іх выцягнулі? — здзівіўся лейтэнант. — Калі контур замкнёны, падобная аперацыя немагчымая фізічна!

Здзіўленне інспектара было не меншым. Спускацца ўнутр ён не стаў, а зрабіў некалькі фотаздымкаў з розных ракурсаў, пакінуўшы права разбірацца з загадкай спецыялістам.

— Спадар лейтэнант? — дзякуючы таму, што перагаворныя прылады скафандраў былі настроеныя на адзін канал, Сарва меў магчымасць чуць перамовы і іншых членаў каманды.

— Што ў вас, Кайна?.. Разабраліся з бартавым журналам?

— На ніводным з трох носьбітаў даных нічога няма! — у голасе сяржанта чулася разгубленасць. — Ні біта інфармацыі!..

Словы сяржанта прымусілі інспектара напружыцца: нават у выніку самых жудасных аварый, якія цягнулі за сабой разбурэнне носьбіта на дзевяноста дзевяць працэнтаў, нейкая інфармацыя на ім усё адно заставалася.

— Стан экранавання? — дастаткова было афіцэру кіўнуць у бок акумулятарных батарэй, як памежнікі ўзяліся за іх агляд.

— Цэласнасць абодвух слаёў не парушаная, спадар лейтэнант! Ніякага вонкавага выпраменьвання...

— Яны не маглі падаць каманду на знішчэнне даных?

Замест Кайны адказаў Ішора:

— Які ў гэтым сэнс?.. Судна — грамадзянскае, экіпаж — міжнародны. Ніякіх сакрэтаў!.. Хіба што масавае вар'яцтва!

— Мне б хоць дзесяць мегабайт інфармацыі для аналізу рэестра! — сяржант цяжка ўздыхнуў. Разгубленасць змянілася бездапаможнасцю.

— Вяртайцеся да каманды, сяржант!

— Слухаюся! — млява адгукнуўся Кайна.

— Акумулятарныя батарэі цалкам разраджаныя, запасных паліўных стрыжняў няма! — паведаміў адзін з салдат.

— І што цяпер загадаеце думаць, спадар інспектар? Каб адкрыць сховішча, трэба сінхронна павярнуць тры ключы. Вар'ятам такое не па сіле.

— Давайце скончым пошук людзей!

Нягледзячы на тое, што шукалі зусім не іголку ў стозе сена, агляд зацягнуўся: «Эрнст Юліус Эпік» адрозніваўся каласальнымі памерамі. З кожным правераным адсекам і модулем надзея знайсці членаў экіпажа раставала. Затое расло здзіўленне: куды маглі падзецца навукоўцы?

— Аварыйна-выратавальныя модулі ў боксах, ніводзін са скафандраў не крануты, люкі шлюзавых камер задраены знутры... Не разумею!

У адрозненні ад лейтэнанта, інспектар не спяшаўся дзяліцца сваімі меркаваннямі — да таго часу, пакуль не будуць адпрацаваны ўсе версіі, нават самыя дзівацкія. Служба ў паліцыі прывучыла рабіць высновы выключна на падставе фактаў.

У трэцім тэхнічным модулі, дзе захоўваліся лінзы SLSBT, адбылося здарэнне. Сяржант Кайна, які рухаўся на чале калоны, нечакана знік проста пасярод адсека, чым выклікаў сапраўдны перапалох. Зрэшты, знайшоўся памежнік праз некалькі хвілін, але ўжо ў дзявятым тэхнічным.

— Вы куды зніклі, сяржант? — ні дзірак у палубе, ні лакун пад ёй не мелася.

— Я нікуды не знікаў, спадар лейтэнант! Проста зрабіў крок... — Кайна зноў перахрысціўся і пачаў шаптаць «Pater noster».

Сарва наблізіўся да месца знікнення Кайны і ўключыў газавы храматограф, з дапамогай якога неаднаразова разблытваў нават самыя складаныя злачынствы. Задачу ўскладняла тое, што інспектар зусім не ўяўляў, што шукае.

— Нічога... — рэзюмаваў Сарва, усвядоміўшы, што дарма губляе час. — Прыборы штонебудзь паказваюць?

Сяржант толькі адмоўна хітнуў галавой.

— Спадар Кайна, не падкажаце, якая цяпер гадзіна? — шчокі сяржанта пакрывала трохдзённае шчаціннe. Перад пачаткам маршу Кайна быў гладка паголены.

— Што за д’ябал?.. Стрэлкі паказваюць нейкую ахінею! — і час, і дата былі няправільнымі, што для армейскіх хранометраў з’яўлялася нетыповым.

Інспектар акуратна зафіксаваў дэталі.

Яшчэ праз дзве гадзіны стала канчаткова зразумела, што на караблі няма ні жывых, ні мёртвых. Пошукавая каманда вярнулася ў рубку кіравання.

— Што далей? — пацікавіўся Ішора. Погляды памежнікаў спыніліся на Сарву.

— Тэарэтычна, задачу мы выканалі — сувязь перарвалася ў выніку знікнення экіпажа. Фактычна... — інспектару была патрэбная хоць якая-небудзь зачэпка. Любая дробязь, прыдатная ў якасці ніткі Арыядны. — Лейтэнант, мне трэба пагаварыць з Мармылёвым!

— Добра! — у слухаўках Сарвы нягучна пстрыкнула.

— Спадар палкоўнік, наколькі далёка могуць дабрацца вашы боты?

— У рэжыме вяртання запасу паліва хопіць на дзве астранамічныя адзінкі туды і назад, у рэжыме вольнага палёту межаў не існуе... Толькі магутнасці перадатчыка не хопіць, каб прымаць сігнал!

Інспектар у думках прыкінуў адлегласць. Занадта вялікая для таго, каб перадаць кіраванне ботам іншаму апаратару.

— Што ж, хай будуць чатыры астранамічныя адзінкі!

— Што вы задумалі, спадар інспектар?

— Хачу пусціць бот па траекторыі руху «Эрнста Юліуса Эпіка».

— Што гэта дасць?

— Магчыма, нічога, а магчыма...

Мармылёў тлумачэнняў не запатрабаваў, і навігатары прыступілі да разлікаў. Праз гадзіну бот стартаваў. Тэлеметрыю забяспечвалі тры відэакамеры. Інфармацыя паступала на цэнтральны дысплэй капітанскага масціка крэйсера.

Сарва і сам не мог дакладна сказаць, што ён чакае знайсці. Хутчэй за ўсё, за адпраўкай бота стаяла жаданне пазбегнуць пакут сумлення, што напэўна здарыцца, калі інспектар не адпрацуе ўсе версіі.

Адсутнасць чалавека на борце дазваляла робату рухацца з хуткасцю, блізкай да хуткасці святла. Апаратару нават не трэба было карэктаваць траекторыю палёту — гэтую функцыю ўзяў на сябе камп’ютар «Агесілая II».

Пяцьдзясят мільёнаў кіламетраў. Сто мільёнаў. Дзвесце... Лічбы на індыкатары спідометра змяняліся з ашаламляльнай хуткасцю. Ніякіх адхіленняў у рабоце прыбораў не адзначалася.

На мяжы поўнага згасання сігналу, калі інспектар ужо быў гатовы прызнаць сваё паражэнне, прыборы нібы звар'яцелі. Камп'ютары літаральна захліснуў паток інфармацыі.

— Квантавая чорная дзірка! — ахнуў Ішора.

Неўзабаве высветлілася, што лейтэнант паспяшаўся з высновамі. Бот праскочыў фатонную сферу, гарызонт падзей, сінгулярнасць, і не трапіў пад уздзеянне ніводнага з фактараў, абавязковых для сустрэчы з касмічным целам, здольным прыцягваць святло сілай гравітацыі: ні спагетыфікацыі, ні скрыўлення прасторы, ні запаволення часу, ні гравітацыйных канвульсій.

— Стоп! — крыкнуў Сарва, перш чым Мармылёў аддаў аналагічны загад. Робату спатрэбіўся час на атрыманне сігналу і манеўр тармажэння. — Цяпер развярніце бот і на мінімальнай хуткасці — наперад!

Апарат далёкага пошуку павольна падплыў да дзіркі. Як толькі робат апынуўся ў зоне гравітацыйнага прыцягнення, яго неадкладна засмактала ўнутр. Аператар нават не спрабаваў вярнуць бот, паколькі найменшы рух апарата няўхільна вабіў бот да кропкі сінгулярнасці, паблізу якой сіла прыцягнення імкнулася да бясконцасці. Час і прастора памяняліся месцамі.

— Сігналу няма...

Аднак праз чвэрць гадзіны бот зноў вынырнуў — праўда, ужо ў выглядзе кучы металалому і за сто тысяч кіламетраў правей.

— Максімальнае набліжэнне! — загадаў палкоўнік.

Бот зрушыўся не толькі ў прасторы, але і ў часе. Цяпер ён выглядаў так, як быццам падарожнічаў у адкрытым космасе не адну сотню гадоў.

— Ахоўная мембранная тканіна...

— Прабачце, спадар інспектар?

— Спадар палкоўнік, трэба вярнуць бот на борт крэйсера! Мне здаецца, я знайшоў адказ!

— Выконваць! — кіўнуў Мармылёў, і да апарата накіраваліся два новыя. Палкоўнік таксама загадаў праверыць касмічную прастору на сто тысяч кіламетраў у чатыры бакі, аднак ніякіх новых дзірак выяўлена не было. Сарва не прамовіў ні слова, пакуль асабіста не даследаваў з дапамогай газавага храматографа шар метровага дыяметра, які пабываў у анамаліі.

— Гэта не чорная дзірка ў класічным разуменні, а своеасаблівы фільтр, які не дазваляе інфармацыі, арганічнай тканіне і ядзернаму паліву перасекчы мяжу. І гэты фільтр, нягледзячы на тое, што працуе паводле прынцыпу класічнай чорнай дзіркі, мае ярка выражаны тэхнагенны характар. Прычым фільтр спыняе толькі тыя караблі, якія накіроўваюцца да воблака Аорта.

— Атрымліваецца, чалавецтва не самотнае ў Сусвеце?

— Цяпер ужо так, спадар Ішора!

— Дазвольце пацікавіцца, спадар інспектар, на падставе чаго вы зрабілі гэтую смелую выснову? — словы палкоўніка прымусілі ўсіх прысутных павярнуцца да Сарвы.

— Вы ж не будзеце спрачацца, што інфармацыя — прыкмета разумнага жыцця, спадар палкоўнік?.. Роўна як і кантроль над тэрмаядзернымі рэакцыямі.

— А ці не больш надзейна было б проста анігіляваць караблі разам з экіпажамі?

— Логіка іншапланецян можа ў корані адрознівацца ад чалавечай, спадар палкоўнік. Па адказ вам варта было б звярнуцца да ксенапсіхолагаў. Хто пабудаваў бар'ер і для абароны чаго ён служыў, яшчэ трэба будзе разабрацца спецыялістам.

— Адзін фільтр на сто тысяч кубічных кіламетраў... Ці не занадта буйныя вочкі для невада, спадар інспектар?

— Выяўленая намі псеўдадзірка можа з'яўляцца ўсяго толькі адным з мноства вочак, спадар Ішора. І не факт, што невад цэлы. Пра час яго вырабу мы можам толькі здагадвацца!

— Хай так, спадар інспектар! Не буду спрачацца!.. Аднак куды ўсё ж такі знік экіпаж «Эрнста Юліуса Эпіка»?

— Я думаю, яны ўсе былі мёртвыя задоўга да таго, як перасеклі гарызонт падзей, спадар палкоўнік. І адбылося гэта з прычыны скрыўлення прасторы і часу. У якасці прыкладу я прывяду выпадак з сяржантам Кайнам. Для пошукавай каманды ён знік на некалькі хвілін. Для самога сяржанта не прайшло і некалькіх секунд. Насамрэч ён адсутнічаў не менш за двое сутак — шчаціннe так хутка не адрастае!.. Верагоднасць таго, што «Эрнст Юліус Эпік» патрапіць дакладна ў псеўдадзірку, была мінімальнай, аднак гэта ўсё ж такі здарылася... Рэкамендую выставіць вакол псеўдадзіркі ахову і як мага хутчэй выклікаць навукоўцаў!

## Чарвяк

Малы дапаможны катар, прыпісаны да пагранічнага крэйсера «Агесілай ІІ», мякка дакрануўся падобнымі на ногі коніка апорамі керамічнага бетону да ўзлётна-пасадачнай пляцоўкі. Пілот вырашыў не заглушаць рухавікі дзеля высадкі адзінага пасажыра, няхай ён і належаў да Дэпартамента пазаземных крымінальных расследаванняў.

— Прыемна было папрацаваць з вамі, спадар Ішора!

— Аналагічна, спадар Сарва! — лейтэнант аддаў чэсць, пасля чаго паціснуў інспектару руку. — Бывайце здаровы!

— Удачы вам у дарозе! — падхапіўшы свае рэчы, Сарва спусціўся па складным бартавым трапе і паспяшаўся да краю пляцоўкі, дзе турбулентнасць была не такой моцнай, бо прымяняліся вязкапругкія гасільнікі. Катар стартаваў, як толькі інспектар адышоў на бяспечную адлегласць. Час пасадкі быў абраны з улікам надзвычай дынамічнай сістэмы штормаў Нептуна — вятры на паверхні ледзянога гіганта маглі дасягаць звышгукавых хуткасцяў.

Паглынанне чырвонага святла метанам надавала атмасферы Нептуна, якая складалася з вадароду з прымешкам гелію і метану, сіняе адценне. Яркі блакіт Нептуна адрозніваўся ад больш умеранага аквамарынавага колеру Урана. Але Сарва менш за ўсё жадаў любавацца фарбамі: тэрмометр паказваў мінус дзвесце трыццаць восем градусаў па Цэльсію.

Паверхневы слой ледзянога гіганта ўяўляў сабой газавадкую абалонку, пад якой знаходзілася ледзяная мантыя з воднага, аміячнага і метанавага лёду, таму мясцовыя калоніі ўяўлялі сабой рухомыя выспы, што дрэйфавалі ў залежнасці ад ружы вятроў. Вюртцытны нітрыд бору, які пакрываў сцены станцыі, быў нанесены ў два слаі і нівеліраваў наступствы доўгага знаходжання ў агрэсіўным асяроддзі.

У адным з купалаў адкрыўся люк, і апранутая ў скафандр павышанай абароны фігура запрашальна памахала інспектару рукой. Трымаючыся за абледзянелы лінь, Сарва дасягнуў модуля, адчуваючы, як пацяжэў ранец сістэмы жыццезабеспячэння і рэчы. Сіла цяжару складала адну цэлую чатырнаццаць сотых ад зямной.

— Вітаю вас, спадар Сарва! Мяне завуць Фрыдрых Дароўскі. Я — інжынер па тэхніцы бяспекі «Іагана Готфрыда Гале».

Шлюзавая камера была абсталявана магутнымі цеплавымі нагнятальнікамі, якія хутка паднялі тэмпературу да прымальнага ўзроўню. Да камеры прымыкаў гардэроб, дзе Сарва і Дароўскі пакінулі скафандры.

— Прабачце, спадар Сарва, што вам давялося прарабіць доўгі шлях — так ужо атрымалася, што вы аказаліся адзіным паліцэйскім на дзесяць астранамічных адзінак!

— Нічога страшнага! З вынаходствам гіперпрывода зоркі перасталі палохаць людзей жахлівымі адлегласцямі... Дык што ў вас здарылася?

— Эрык Кабат, інжынер-геакрыёлаг, здзейсніў самагубства! — калідор скончыўся герметычнымі дзвярыма, якія замыкаліся на крэмальерную засаўку. — Ён разбіў сабе галаву айсбалем.

— Не самы лепшы спосаб скончыць жыццё! Гэта да якога ж стану трэба дайсці, каб праламаць сабе чэрап малатком?!

— Можаце мне паверыць, спадар Сарва, Кабат не мог забіць сябе! — модулі былі падобныя на адсекі касмічнага карабля пачатку эпохі зорнай экспансіі.

— Дазвольце пацікавіцца, на чым заснаванае ваша сцвярджэнне? — інспектар пакінуў рэчы ў выдзеленай яму жылой ячэйцы і прыхапіў з сабой толькі чамаданчык з інструментамі. Расследаванне Сарва вырашыў пачаць з агляду тэхнічнага модуля, дзе скончыў самагубствам інжынер-геакрыёлаг.

— Мы сябравалі з ранняга дзяцінства — я ведаў Эрыка лепш за яго самога!.. Кабат занадта моцна любіў жыццё, каб добраахвотна ад яго адмовіцца!

— Жыццё, спадар Дароўскі, часам нават закаранелых аптымістаў ператварае ў безнадзейных песімістаў!

— Толькі не ў выпадку з Эрыкам! — з запалам запэўніў інжынер. — Паўгода таму Кабат атрымаў ступень доктара навук, з'яўляўся заснавальнікам навуковай школы, быў паважаны кіраўніцтвам, карыстаўся аўтарытэтам у калег, меў мноства сяброў і рыхтаваўся стаць дзедам!

— Спіс вялікі! — кіўнуў інспектар. — Аднак ні ў сукупнасці, ні паасобку пералічаныя вамі пункты гарантыі таго, што чалавек не скончыць жыццё самагубствам, не даюць! Ведалі б вы, якімі дзіўнымі часам бываюць матывы самагубцаў!.. Гэта тут?

— Так, — Дароўскі скарыстаўся ключом і адступіў, прапускаючы Сарву.

— Цёмна, змрочна і далёка ад людзей... Кабат відавочна не хацеў, каб яму перашкодзілі, а гэта азначае, што праблема, з якой ён сутыкнуўся, была занадта сур'ёзнай. Або Кабат падсвядома ўспрымаў яе менавіта так... Ён пакінуў перадсмяротную запіску?

— Вось! — інспектару ў рукі трапіў няроўна вырваны з нататніка аркуш з россыпам напісаных алоўкам літар. — Эрык заўсёды карыстаўся чырвоным, калі хацеў падкрэсліць значнасць таго ці іншага месца ў тэксце.

— Чарвяк згрызае мяне... Што б гэта магло азначаць? — Сарва ўзброіўся вялікай лупай. Узоры казалі пра тое, што папера пабывала ў руках як мінімум трох чалавек. — Звычайна самазабойцы да апошняга моманту жадаюць, каб іх вырატавалі.

— Не маю ніякага ўяўлення!

— Гэта почырк Кабата? — інспектар сунуў запіску ў пакет для доказаў.

— Так.

— Мне спатрэбіцца ўзор яго почырку для графалагічнай экспертызы... Размяшчэнне пырскаў крыві дазваляе зрабіць выснову, што Кабат сеў, упёрся спінай у сцяну, і нанёс сабе некалькі моцных удараў, частка з якіх прыйшлася на правую скронь...

— Вы ж не бачылі цела! — здзівіўся інжынер і міжволі адхіснуўся.

— Кожная кропля крыві пакідае эліптычны след, які дазваляе лакалізаваць крыніцу кроплі. Па форме эліпса даволі лёгка вызначыць кірунак палёту кожнай з іх. Злучыўшы кірунак, атрымліваем месца, дзе знаходзіцца вертыкальная вось пункту размяшчэння раны... — Сарва

зрабіў некалькі фотаздымкаў. — Сцены тоўстыя, таму пачуць крыкі Кабата ніхто не мог... Як доўга цела праляжала тут?

— Труп знайшлі на пачатку дзясятай, калі Эрык не з'явіўся да начальніка станцыі са справаздачай за мінулы месяц. «Іаган Готфрыд Гале» памерамі пахваліцца не можа.

Аглядаць не было чаго, тым не менш інспектар скрупулёзна даследаваў кожны сантыметр падлогі і сцены. На жаль, новых даных гэта не дало.

— Я хацеў бы пагутарыць з доктарам, які аглядаў цела.

— Калі ласка, за мной!

Медыцынскі бокс размяшчаўся ў процілеглым канцы станцыі. Перш чым трапіць на прыём да Звірбуля, давялося чакаць заканчэння медыцынскага агляду.

— Чым я магу растлумачыць учынак Кабата? — Звірбуль на імгненне задумаўся. — Няйначай, як вар'яцтвам, а дакладней — экзагенным вострым псіхозам. У Кабата не было ні дэпрэсіўнага расстройства, ні кагнітыўнай рыгіднасці. Ён не злоўжываў алкаголем і псіхатропнымі прэпаратамі, не меў схільнасці да суіцыднага мыслення. Ніякіх праблем у шлюбе і сямейнай паталогіі. Стрэсавыя фактары на яго не ўздзейнічалі...

— Гэта значыць, ён проста страціў над сабой кантроль?

— Не зусім карэктнае сцвярджэнне, спадар Сарва, аднак сутнасць адлюстроўвае дакладна. Ніводзін з тэстаў ніякай дэвіяцыі і псіхічнага расстройства ў Кабата не выявіў.

— Наколькі дакладныя вынікі тэстаў псіхічнага здароўя? — адным рухам стыла інспектар рабіў паметы ў сваім камп'ютары.

— Мы выкарыстоўваем шкалу дэпрэсіі Бека, шкалу Занга для самаацэнкі трывогі, тэст Сандзі, апытальнік структуры актуальных страхаў асобы, Я-структурны тэст Амона, шкалу самаацэнкі рэактыўнай трывожнасці па Спілбергеру, тэст Роршаха і мноства іншых методык! Кабат быў цалкам здаровы, калі не лічыць прыступаў гемікраніі.

— І як часта Кабата адольвала мігрэнь?

— Ён звяртаўся да мяне чатыры разы за мінулы месяц і тры — за дзве дэкады гэтага. У ніводным з выпадкаў прыступы не суправаджаліся ні фотафобіяй, ні фонафобіяй, ні гіперакузіяй, ні дысфарыяй, ні гіперасміяй. Толькі млоснасць, часам ваніты і агульная слабасць арганізму. Працягласць прыступаў — не даўжэйшая за чатыры гадзіны. Прапісаны дыгідраэргатамін.

— Вы не спрабавалі высветліць прычыны псіхозу, спадар Звірбуль?

— Натуральна, я прыняў усе меры для высвятлення матываў учынку Кабата, але адназначнага адказу так і не атрымаў.

— А чым займаўся Кабат?

— Крыягеніка, — адказаў Дароўскі, які ўвесь гэты час моўчкі мераў крокамі кабінет. — Ворагаў у Эрыка не было, калі што.

— Спадар Звірбуль, што паказаў аналіз ежы і вады?

— Слядоў іншародных рэчываў у крыві Кабата не выяўлена. Якой бы ні аказалася прычына, гэта дакладна не атручванне!

— Давайце зірнем на цела!

У якасці морга на станцыі выкарыстоўвалася адна з лабараторый, тэмпература ў якой падтрымлівалася на ўзроўні плюс два градусы па Цэльсію.

Твар інжынера-геакрыёлага нагадваў выродлівую гумовую маску з увагнутасцямі ў раёне лба і правай скроні. Іх глыбіня выдавала сілу ўдараў. Інспектар прысеў над целам і ўважліва агледзеў скурнае покрыва на руках Кабата.

— Гематомы адсутнічаюць... на шыі таксама ніякіх слядоў прымянення сілы... Кабат быў праўшой?

— Так, — разам адказалі Дароўскі і Звірбуль.

— Дзе айсбаль? — скрываўленая прылада самагубства была загорнутая ў плёнку з поліпрапілену. Агляд, зняцце адбіткаў пальцаў і следчы эксперымент занялі ў Сарвы гадзіну. Параўнанне адбіткаў пальцаў з айсбаля і перадсмяротнай запіскі паказала, што яны належаць аднаму чалавеку. Інжынеру-геакрыёлагу — як высветлілася з базы даных медыцынскага пункта. — Адназначна самагубства!

— Гэта было відавочна з самага пачатку! — сказаў Звірбуль, а Дароўскі прыгнечана паківаў галавой. І без слоў было ясна, што ён да апошняга не верыў у тое, што таварышу хапіла духу.

— Пакажыце мне жылую ячэйку Кабата! — ролю гіда ўзяў на сябе інжынер.

Статус вучонага з сусветным імем меў свае перавагі — пакой інжынера-геакрыёлага адрозніваўся ад жылой ячэйкі, выдзеленай інспектару, у лепшы бок. Сарва вырашыў пачаць з агляду асабістых рэчаў Кабата: вельмі часта разгадку трэба было шукаць менавіта ў дарагіх чалавеку прадметах.

Фатаграфій — сям'я, родныя, калегі — было шмат: інжынер-геакрыёлаг захоўваў два альбомы. Кожны са здымкаў быў забяспечаны кароткім тлумачальным подпісам. Яны дапамаглі інспектару скласці псіхалагічны партрэт Кабата. Да канца прагляду ў Сарвы больш не заставалася сумненняў у тым, што разгадку варта шукаць у мінулым.

Почыркі на налепках у альбомах і ў перадсмяротнай запісцы былі ідэнтычнымі, з улікам, безумоўна, стрэсавага стану інжынера-геакрыёлага перад самагубствам.

Пасля альбомаў інспектар зірнуў на ноўтбук. Адсутнасць інвентарнага нумара пераканала Сарву ў тым, што камп'ютар належыць Кабату.

— Акумулятарная батарэя цалкам разраджаная... — інспектар пачаў высоўваць шуфляды пісьмовага стала і неўзабаве выявіў сеткавы адаптар, машынальна адзначыўшы прысутнасць у шуфлядах толькі канцылярскіх прылад і паперы. — Паглядзім, што ў нас тут!

З ноўтбукам Сарва звязваў пэўныя надзеі. Сістэма загрузілася адразу — пароль для ўваходу адсутнічаў. Двайной пстрычкай па працоўным стале інспектар выклікаў файлавы менеджар і пачаў корпацца ў інтэрфейсе.

— Вось табе і маеш!

— Што такое? — страпянуўся інжынер, які стаяў у дзвярным праёме.

— З аператыўнай запамінальнай прылады выдалена ўся інфармацыя... Падобна на тое, што нехта вельмі не хацеў, каб звесткі сталі агульнадаступныя... Ці ў парыве шаленства Кабат выдаліў іх сам!.. Ёсць толькі адзін спосаб праверыць! — Сарва дастаў з чамаданчыка USB-флэш-назапашвальнік і сунуў канектар у гняздо на бакавой панэлі ноўтбука, а затым вывеў на экран меню. Засталося толькі запусціць спецыяльна распрацаваную для паліцыі праграму аднаўлення для выдаленых файлаў.

Аперацыя прайшла надзіва паспяхова, хоць і зацягнулася на гадзіну. Амаль у тры разы больш часу заняла знаёмства з інфармацыяй на шасці дысках ноўтбука. Дароўскі двойчы прыносіў гарбату з печывам — Сарва не хацеў губляць часу.

Файл пад назвай «Дзённік» інспектар свядома пакінуў «на дэсерт». Чым больш Сарва чытаў, тым больш зразумелай рабілася карціна здарэння, пакуль не стала відавочнай.

— Спадар Дароўскі, а колькі каштуюць вашы сакрэты?

— Прабачце? — здзівіўся інжынер.

— Колькі гатовыя заплаціць транснацыянальныя карпарацыі за тое, каб даведацца аб распрацоўках «Іагана Готфрыда Гале»? Крыягеніка — вельмі перспектыўная галіна навукі.

— Вось вы пра што! — слаба ўсміхнуўся Дароўскі. — Шмат! Вельмі шмат!.. Станцыя — лакаматыў фізікі нізкіх тэмператур: тут сабраныя вядучыя навукоўцы ў гэтай галіне... Але персанал «Іагана Готфрыда Гале» не прадаецца!

— Навука важнейшая за матэрыяльныя выгоды? — у Сарвы і ў думках не было іранізаваць.

— Так... А чаму вы задалі гэтае пытанне, спадар Сарва?.. Вы падазраяце...

— Прамысловы шпіянаж.

— Запэўніваю вас, спадар Сарва, гэта — немагчыма! Кандыдаты праходзяць жорсткі адбор! Шпіёну на «Іаган Готфрыд Гале» не патрапіць!

— А вось «траянскаму каню»...

— Хопіць казаць загадкамі!

— Прашу прабачэння!.. Шпіёну на станцыю не пракрасціся, але ж маецца яшчэ і іншы спосаб — псіхалагічнае праграмаванне. З дапамогай спецыяльных методык, у прыватнасці — акустычнай карэкцыі псіхікі, чалавека можна накіроўваць на выкананне чужых загадаў. Такога кшталту ўздзеянне можа адбывацца прамым, імператыўным гіпнозам альбо завуаляваным, ускосным, калі ў словы гіпнолага ўстаўляюцца ключавыя словы або кодавыя фразы, якія адкладаюцца ў падсвядомасці і пазней могуць аказваць уплыў на свядомасць.

Дароўскі нахмурыўся. Сказанае Сарвам яму не падабалася.

— Псіхалагічнае праграмаванне адбываецца за кошт стварэння ў кары галаўнога мозгу ўстойлівага дамінантнага ачага ўзрушанасці або тармажэння. Ачаг бярэ на сябе аўтаматычную функцыю кіравання арганізмам і выклікае спецыфічныя фізіялагічныя рэакцыі-зрухі ў катэгарычнай адпаведнасці з закладзенай праграмай-кодам. Кадаванне дазваляе запраграмаваць мозг аб'екта такім чынам, што ён будзе выконваць любую дырэктыву, закладзеную ў яго падсвядомасць. Аб'ект, які патрапіў пад псіхалагічнае праграмаванне, будзе нават не ў курсе таго, што яго псіхіку гвалтоўна карэкціравалі. Ён можа пражыць пяць, дзесяць, дваццаць гадоў, перш чым атрымае код актывацыі.

— Калі я вас правільна зразумеў, спадар Сарва, Эрыка ператварылі ў зомбі?

— Можна сказаць і так, спадар Дароўскі!.. Мяркуючы па ўсім, пры псіхалагічным праграмаванні паслядоўнасць кадзіроўкі з нейкай прычыны была парушаная.

— Таму ў Эрыка і пачаўся галаўны боль?

— Так. Кабат моцна пакутаваў ад накладання матрыц, але яшчэ горш яму стала ад усведамлення здрады... Каму і якія сакрэты ён выдаў, яшчэ трэба высветліць. Але ўжо цяпер зразумела адно: пакуты сумлення аказаліся для Кабата невыноснымі, і ён не знайшоў іншага выйсця, акрамя як здзейсніць самагубства.

— А навошта ён выдаліў даныя з камп'ютара? — пасля паўзы спытаў інжынер.

— Хутчэй за ўсё, гэта было выклікана імператывам кадзіравання, які патрабаваў ад аб'екта замятаць сляды... Звірбулю трэба правесці праверку ўсяго персаналу «Іагана Готфрыда Гале» — магчыма, чарвяк сядзіць у кімсьці яшчэ!

## Кайданы Марока

Расследаванне на Нептуне было скончана, і Ратаўт Сарва атрымаў загад вярнуцца на Зямлю. Нават з улікам пагружэння ў гіперпрастору пералёт меўся быць доўгі, і перад Сарвам паўстала пытанне, чым заняць вольны час. Мозг інспектара патрабаваў пастаяннага напружання.

— Мабыць, варта пачаць з гексаганальных шахматаў! — выпадкова Сарва сустрэўся з Таіцынам Уснічам, капітанам грузапасажырскага судна «Эўдокс Кнідскі». Школьны таварыш не менш за інспектара любіў гульню. — Працягну знаёмствам з Усеагульнай энцыклапедыяй, а на дэсерт — лагічныя задачы!

Сарва пацёр рукі ў прадчуванні задавальнення і сабраўся выйсці на сувязь з Усічам, як раптам паступіў сігнал выкліку ад капітана.

— Ратаўт, калі ласка, зайдзі да мяне! Толькі што паступіла радыёграма з Зямлі — мы мяняем курс!

— Што здарылася? — інспектар не на жарт устрывожыўся.

— Забойства. Цябе камандзіруюць на Плутон для правядзення расследавання!

Радыёграма з подпісам камісара Айнбунда змяшчала ў сабе мінімум інфармацыі: далёкая касмічная сувязь ускладнялася эфектам Доплера, значным паслабленнем сігналу за кошт рассейвання ў прасторы і вялікімі затрымкамі, якія выклікала канчатковая хуткасць распаўсюджвання радыёхваль. На адлегласці дваццаці дзевяці астранамічных адзінак не дапамагалі нават спадарожнікі-рэтранслятары.

— Столькі гадоў не бачыліся і зноў расстаёмся! — прыгнечана паківаў галавой Усніч.

— Нічога не зробіш — служба! — за доўгія гады Сарва навучыўся ставіцца да ўсяго па-філасофску. Гэта дапамагала не толькі прыняць рэальнасць, але і захаваць душэўную раўнавагу.

Нябесныя целы ніколі не збліжаліся менш чым на сямнаццаць астранамічных адзінак. Разлік каардынат моцна ўскладняўся тым, што Плутон знаходзіўся ў поясе Койпера — зоне Сонечнай сістэмы, якая складалася з астэроідаў, к'юбівану, плуціну і аб'ектаў рассеянага дыска. З трыццаці гадзін у капітана атрымалася аддаць таварышу толькі дзве.

Сам гіперпераход нічым адметным не запомніўся: чатырнаццаць гадзін практычна поўнай нерухомасці ў супрацьперагрузачным кокане. «Эўдокс Кнідскі» выйшаў з гіперпрасторы за дзвесце тысяч кіламетраў ад Плутона. Карлікавая планета, якая складалася з замерзлага азоту, вадзянога лёду і сілікатаў, мела светла-карычневы са слабым адценнем жоўтага колер.

— Табе там не спадабаецца, Ратаўт! — упэўнена заявіў Усніч.

Касмадрома на Плутоне не было, таму спускацца давялося ў аварыйна-выратавальным модулі. Назваць тонкую абалонку з азоту, метану і монааксіду вугляроду, якія выпараліся з паверхневага лёду, атмасферай не паварочваўся язык, але яна дапамагла пагасіць хуткасць.

— Вось ты які, Ніфльхейм! — першае ўражанне ад Плутона ў капітана «Эўдокса Кнідскага» было правільным — суцэльны лёд і камень. — Мінус дзвесце дваццаць пяць градусаў па Цэльсію!

Сарва адчуў лёгкія дрыжыкі, хоць тэрмарэгулятар працаваў на максімальных абаротах.

— І дзе хто? — як кінуць вокам, цягнулася безжыццёвая раўніна, а інспектара павінны былі сустрэць: Усніч папярэдзіў начальніка міжнароднай навукова-даследчай станцыі «Венецыя Берні» яшчэ на пачатку манеўру тармажэння. Ніякага руху — ні праз пяць, ні праз дзесяць, ні праз пятнаццаць хвілін.

Праз паўгадзіны інспектар пачаў хвалявацца: акумулятарныя батарэі скафандра не вечныя, варта скончыцца энергіі — і пішы прапала. Сітуацыю пагаршала тое, што Сарва быў не ў стане самастойна вярнуцца на борт «Эўдокса Кнідскага», бо ў модулі адсутнічаў радыёперадатчык, а паводле загаду Усніча з апарата знялі ўсё, што магло яшчэ спатрэбіцца.

На шчасце, да сур'ёзнай праблемы не дайшло: праз трыццаць пяць хвілін чакання на гарызонце з'явілася аранжавая кропка, якая ў хуткім часе ператварылася ў васьміколавы ўсюдыход. З машыны выбраўся чалавек з нязвыкла велізарным ранцам за спінай. Паніжаная сіла прыцягнення дазваляла перацягваць і большы груз.

— Добры дзень, спадар інспектар! Намеснік начальніка станцыі Гірдут Сім. Выбачаюся за

спазненне: умовы на Плутоне такія, што тэхніка не вытрымлівае! — калі прыгледзецца, можна было адрозніць свежыя сляды зваркі на корпусе. — Імкнёмся не пакідаць станцыю без вострай неабходнасці!.. Залазьце, хутка стане яшчэ халадней!

— Ды куды ўжо больш?

— Часам слупок апускаецца да двух кельвінаў!

— Як вы тут толькі працуеце? — жахнуўся Сарва, у думках перавёўшы тэмпературу ў градусы Цэльсія.

Каб патрапіць унутр усюдыхода, давялося прайсці праз своеасаблівы шлюз — невялікую камеру з цеплавымі нагнятальнікамі. У салоне было цёпла, і тэрмарэгулятар скафандра аўтаматычна знізіў энергаспажыванне.

— Тут недалёка! — усюдыход жвава крануўся з месца і на вялікай хуткасці рушыў наперад. Праца рухавіка і паказанні прыбораў не выклікалі боязі. Кіроўца з Сіма аказаўся нядрэнны. А вось суразмоўца...

— Вы не маглі б увесці мяне ў курс справы? — спытаў Сарва праз некалькі хвілін. Сім нават не зрабіў спробы завесці гутарку, хоць начальнік станцыі напэўна аддаў распараджэнне падзяліцца з інспектарам інфармацыяй.

— Распавядаць асабліва і няма пра што — забойства адбылося чацвёра сутак таму, уначы. Дарнал Сабута і Станка Кавецкі нешта не падзялілі і ўчынілі бойку, якая скончылася ўзаемным забойствам. Зменшчыкі знайшлі целы раніцай... Не разумею, навошта было выклікаць паліцэйскага інспектара, калі ўсё відавочна?

— Для афіцыйнага засведчання. Такі парадак!.. Скажыце, якімі былі адносіны паміж Сабутам і Кавецкім?

— Ніводзін з іх не меў матыву для забойства! — інтанацыя сведчыла пра абсалютную перакананасць ва ўласнай слушнасці. З гэтай прычыны Сарва не мог не спытаць:

— І на чым заснаваныя вашы словы?

— Сабута і Кавецкі былі сябрамі. Вельмі добрымі сябрамі! — Сім дадаў хуткасці. Выснова пра душэўны стан намесніка начальніка станцыі напрошвалася сама сабой — для гэтага не быў патрэбны і дыплом фізіягнаміста. Інспектар вырашыў вярнуцца да апытання пазней.

Астатак дарогі праехалі ў маўчанні.

Станцыя «Венецыя Берні» ўяўляла сабой россып укапаных у грунт паўсфер рознага дыяметру, вакол якіх пад вуглом у трыццаць пяць — сорак градусаў высілася мноства сонечных батарэй. Наколькі ведаў Сарва з даведкі, атрыманай на борце «Эўдокса Кнідскага», меўся ў навуковага персаналу і тэрмаядзерны рэактар.

Усюдыход заехаў у шлюзавую камеру: на станцыі клапаціліся пра захаванне цяпла, неабходнага дзеля таго, каб выжыць. Шлюзаванне не заняло шмат часу. У ангары інспектар зняў скафандр. І адразу адбілася штучная гравітацыя.

— Я пакажу вам жылы блок і праводжу да начальніка станцыі! — Сім павёў Сарву за сабой. Добразычлівасці ў намесніку не дадалося. Сіма відавочна раздражнялі зносіны з паліцэйскім.

Жылы блок не зрабіў уражання ні памерамі, ні аздобай. Інспектар злавіў сябе на думцы пра тое, што доўгае знаходжанне ў такім памяшканні можа негатыўным чынам адбіцца на псіхічным здароўі. Асабліва, улічваючы ледзяное пекла за сценамі «Венецыі Берні».

У адрозненні ад падначаленага, Крыштаф Неруш аказаўся куды больш камунікабельным.

— Згодна з заключэннем Якуба Даксы, нашага штатнага медыка, які праводзіў ускрыццё, смерць інжынера-геакрыёлага і біёлага наступіла з прычыны механічнай асфіксіі, якая супра-

ваджалася комплексам з’яў, што пагражалі жыццю: шматлікімі ўдарамі ўнутраных органаў, пераломамі і пашкоджаннямі буйных крывяносных сасудаў.

— Гэта значыць, з такім наборам смяротных траўмаў яны задушылі адзін аднаго? — стыло шпацыравала па сэнсарным экране камп’ютара.

— Не ведаю, чаго Сабута і Кавецкі маглі не падзяліць, аднак іх нянавісць была моцнай. Бачылі б вы целы, спадар інспектар, на іх жывога месца няма!.. Жах!

— І ніхто не чуў, як яны біліся?

— З вашага дазволу я закуру!.. Пераборкі ва ўсіх памяшканнях тоўстыя, а дзверы зачыняюцца герметычна. Да таго ж лабараторыі падзеленыя.

— А відэакамеры?

— Колькасць персаналу невялікая, таму ўласнай службы бяспекі на станцыі няма. За парадак адказвае Сім — у яго кабінеце усталяваны дысплей, з якога ён можа сачыць за ўсім, што адбываецца на «Венецыі Берні».

— А ў момант забойства Сім дзе знаходзіўся?

— Спаў, вядома. Што яшчэ рабіць звычайнаму чалавеку ў тры гадзіны ночы?

— Хто-небудзь можа гэта пацвердзіць?

— Не думаю... А прычым тут мой намеснік?.. Ці не думаеце ж вы, спадар інспектар, што Сім мае нейкае дачыненне да забойства?

— Мой абавязак — праверыць усе версіі!.. Сім заўсёды такі нелюдзімы?

— Зусім не! Душа кампаніі! Проста ён вельмі цяжка перажывае смерць Кавецкага — Сім жанаты з сястрой біёлага.

У камп’ютар была ўнесена чарговая памета. У свой час Сарва склаў адмысловую табліцу, якая дазваляла хутка і дакладна намаляваць псіхалагічны партрэт любога чалавека. Дапамагала эканоміць час і дазваляла лёгка арыентавацца ў тыпах асобы.

— Скажыце, спадар Неруш, у вас ёсць версіі наконт таго, што магло заахвоціць Сабута і Кавецкага забіць адзін аднаго?.. Прашу вас, падумайце добра!

— Тут і думаць няма чаго: такіх сяброў яшчэ пашукаць трэба! — адмахнуўся начальнік станцыі, прыкурваючы новую цыгарэту ад недакурка.

— І ўсё ж такі?

— Не маглі яны пайсці на забойства! Выдатныя спецыялісты, добрыя таварышы! Ніякіх праблем з роднымі і блізкімі, ніякіх захворванняў.

— Стрэс?

— На «Венецыю Берні» набіраюць выключна стрэсаўстойлівых людзей. Іншым проста не прайсці тэсты!.. Запэўніваю вас, спадар інспектар: ні ў Сабута, ні ў Кавецкага не было прычын для забойства!

— Але яно здарылася!.. Магу я паглядзець запіс з камеры відэаназірання?

— Калі ласка! — начальнік станцыі павярнуў манітор да інспектара. — Я забраў запіс!

Відэазапіс святла не праліў — у нейкі момант інжынер-геакрыёлаг і біёлаг проста накінуліся адзін на аднаго. Біліся апантана, як быццам сышліся ў рукапашнай сутычцы з ворагам. З цяжкасцю верылася ў тое, што паміж мужчынамі існавала моцная сяброўская сувязь.

— Нібы разам звар’яцелі... Хто бачыў Сабута і Кавецкага апошнім?

— Я. Яны заходзілі ўзгадніць план працы на наступны месяц.

— А хіба план не быў зацверджаны на Зямлі? — здзівіўся інспектар, які быў у курсе таго, наколькі старанна рыхтуецца касмічная навуковая праграма.

— У нас тут свае нюансы. Час ад часу мы вымушаныя ўносіць карэктывы... Абодва знаходзіліся ў добрым настроі.

— Забойства не магло быць рытуальным?

Неруш папярхнуўся дымам і, здзіўлена ўтаропіўшыся на інспектара, спытаў:

— Вы сур'ёзна?

— Прафесія паліцэйскага мала падыходзіць да жартаў, спадар Неруш!.. Так ці не?

— Сапраўдныя навукоўцы — атэісты да мозгу касцей! Цалкам выключана!

— Што ж, давайце зірнем на целы!

Яны захоўваліся ў адным з тэхнічных боксаў пры тэмпературы, якая не дазваляла пачацца працэсу гніення. Інспектару хапіла ўсяго аднаго погляду для таго, каб зразумець, што станцыйны медык свой хлеб есць недарма.

— Занадта шмат курыце, спадар Неруш! — ад погляду Сарвы не схавалася дрыжанне пальцаў начальніка станцыі.

— Дрэнная звычка — паўтара-два пачкі ў дзень. Цяпер, самі разумееце, больш... Што я? Нават Сім, які ніколі не браў у рот цыгарэты, і той закурыў!

Інспектар унёс новую інфармацыю ў памяць камп'ютара і папрасіў правесці яго на месца злачынства. Ісці давялося ў супрацьлеглы канец станцыі.

Дзверы былі апячатаныя, але Сарва не дазволіў Нерушу сарваць пластыкавую стужку.

— Адну хвіліну, спадар Неруш! Der Teufel steckt im Detail!

— Што, прабачце?

— Д'ябал хаваецца ў дэталях!.. Я павінен агледзець замок! — інспектар дастаў са свайго чамаданчыка вялікую лупу і ўзяўся за справу. — Хм... Нехта спрабаваў патрапіць у памяшканне!

— Адразу пасля забойства я загадаў здаць ключы.

— У каго яны меліся? — памылкі не было: замок сапраўды спрабавалі адамкнуць. Прычым рабіў гэта дылетант.

— У дзяжурнага па станцыі, прыбіральшчыка і Сіма, — Неруш зноў закурыў.

Сарва зрабіў некалькі здымкаў замка, пасля чаго апырскаў дзвярное палатно дактыласкапічным спрэем.

— Нічога! — знайсці адбіткі пальцаў не ўдалося. Кім бы ні з'яўляўся злачынец, пра ўласную бяспеку ён паклапаціўся. — Што ж, давядзецца ўсё агледзець!.. Працэс зацягнецца, так што вы, спадар Неруш, можаце вярнуцца да сваіх абавязкаў!

Начальнік станцыі кіўнуў, задыміў цыгарэтай і пайшоў, а інспектар пачаў абследаваць памяшканне. Сарва зусім не ўяўляў, што хоча знайсці.

Гадзіна за гадзінай — ад падлогі да столі.

Моцна стаміўшыся, інспектар апусціўся ў свабоднае крэсла. Аб прычынах забойства заставалася толькі здагадвацца. Позірк Сарвы блукаў па паліцах і сталах да таго часу, пакуль не наткнуўся на цыгарэтны пачак, які ляжаў за адной з камп'ютарных калонак. Штосьці на ўзроўні падсвядомасці прымусіла інспектара адкрыць пачак, выцягнуць адтуль цыгарэту і дакрануцца да яе сілікагелевым алоўкам.

У наступнае імгненне Сарва ўскочыў, ледзь не паваліўшы крэсла.

— Псілацын!

Адна за адной былі прааналізаваны і астатнія цыгарэты. Усе яны змяшчалі ў сабе псіхаактыўнае рэчыва-алкалоід 4-HO-DMT з сямейства трыптамінаў. Атрымаўшы магутны імпульс, мозг інспектара запрацаваў з падвоенай сілай. Псілацын, які атрымлівалі з галюцына-

генных грыбоў, уплываў на норадрэналінавыя рэцэптары і выклікаў псіхатропнае атручэнне.

Сарва акуратна зняў з пачка адбіткі пальцаў і праз камунікатар адправіў іх у лабараторыю Дэпартамента пазаземных крымінальных расследаванняў з пазнакай «Вельмі тэрмінова!»

Час паміж адпраўленнем інфармацыйнага пакета і атрыманнем адказа на запыт інспектар правёў за апытаннем персаналу «Венецыі Берні».

— Сабута, Кавецкі, Неруш і Сім... Калі першых двух можна смела выкрасліць, то начальнік станцыі і яго намеснік... — Сарва скарыстаўся інтэркомам і выклікаў абодвух. — Спадары, я паклікаў вас для таго, каб паведаміць: у справу замяшана трэцяя асоба!

Рэакцыя Неруша і Сіма аказалася аднолькавай — здзіўленне.

— Аповед мой будзе доўгім, так што набярыцеся цярпення. Можаце закурыць!.. А дазвольце мне пачаставаць вас! — інспектар узяў злашчасны пачак са стала і працягнуў яго мужчынам, уважліва назіраючы за іх рэакцыяй.

Начальнік станцыі пацягнуўся да цыгарэт, а намеснік збялеў.

— Курэнне забівае! Асабліва, калі шматкроць перавысіць дозу. Ці не так, спадар Сім?

— Не разумею, пра што вы кажаце!

— Вы ж спецыяльна закурылі, каб мець легальную магчымасць падзяліцца цыгарэтамі са спадаром Нерушам!

— Што за трызненне?

— Вы не ў тым узросце, каб пачынаць курыць праз моду або для таго, каб не выбівацца з калектыву... Сабута і Кавецкі аказаліся выпадковымі ахвярамі. Забіць вы планавалі Неруша!.. Хочаце заняць месца начальніка станцыі?

— Ды вы звар'яцелі, спадар Сарва? Што вы такое кажаце?

— Psilocybe semilanceata — атрутны грыб. Ужыванне можа выклікаць галюцынацыі, наркатычнае трызненне і востры псіхоз з цягай да забойства або самагубства!

— Чортаў сышчык!

Сарва лёгка ўхіліўся ад хука справа і ўдарам у сківіцу збіў намесніка з ног. Астатняе было справай тэхнікі…

## Элізіум

Спектральны аналіз даў адназначны адказ: мемарыяльная шыльда з надпісам «Here men from the planet Earth first set foot upon the Moon, July 1969 A.D. We came in peace for all mankind» ніякага дачынення да місіі «Апалона-11» не мела.

— Фальшыўка! Застаецца толькі высветліць, каму і навошта спатрэбілася ўводзіць у зман Музей месячнай каланізацыі.

Інспектар Дэпартамента пазаземных крымінальных расследаванняў Ратаўт Сарва толькі ўзяў у рукі стыло, каб унесці ў памяць планшэтнага персанальнага камп'ютара новыя даныя, як тут падаў сігнал камунікатар. «Камісар Айнбунд», — адбілася на экране.

— Інспектар Сарва. Слухаю!

— Перадайце справу дэтэктыву Ладо. Праз гадзіну ён прыбудзе на «Джавані Рычолі». Самі ж адпраўляйцеся на Марс, у навуковы гарадок «Элізіум»! Вас забярэ «Вэй То».

Інспектар здзіўлена ўскінуў брыво — брыг адносіўся да эксперыментальнай серыі паліцэйскіх суднаў: гіперпрывад апошняй мадэлі дазваляў «Вэй То» скараціць час пераходу ўтрая. Расследаванне відавочна мела статус тэрміновага і вельмі важнага.

І Сарва меў рацыю.

— Забітыя акадэмікі Друсут Жаўноў і Мілек Таус, член-карэспандэнт Коіт Бабрук. Вы павінны як мага хутчэй знайсці і нейтралізаваць злачынцу!.. Інфармацыйны пакет я вам адправіў. Дакладвайце праз кожныя тры гадзіны! — камісар адключыўся.

Інспектар адкрыў файл. Навукоўцы з сусветным імем былі забітыя з прамежкам у дваццаць чатыры гадзіны трыма рознымі спосабамі: Жаўноў — ударам цяжкага тупога прадмета па галаве, Таус — загінуў у выніку пранікальнага штыкавога ранення ў вобласць сэрца, Бабрук — ад механічнай асфіксіі. Сарва нахмурыўся: выбар ахвяр наводзіў на думку пра сабатаж і дыверсію. Улічваючы той факт, што з моманту апошняга забойства прайшло больш за восем гадзін, станавілася зразумелай спешка Айнбунда.

На «Элізіуме» мелася ўласная служба бяспекі, набраная з адстаўных вайскоўцаў і супрацоўнікаў спецслужбаў, аднак справіцца сваімі сіламі яна не здолела — адбілася зусім іншая спецыфіка.

Ладо прыбыў дакладна ў патрэбны час. Сарва ўвёў калегу ў курс справы, пасля чаго сабраў рэчы і заняў месца ў чоўне. З паскарэннем у 11 g апарат стартаваў на арбіту. Да часу прыбыцця інспектара разлік каардынат быў скончаны, і «Вэй То» нырнуў у гіперпрастору.

Падарожжа атрымалася кароткім: перыгелій Марса складаў васемсот дзесяць тысячных астранамічнай адзінкі. Брыг правёў манеўр тармажэння і завіс на арбіце. Не жадаючы губляць часу, інспектар перабраўся ў човен неадкладна пасля выхаду «Вэй То» з гіперпрасторы. Дысплэі дазвалялі сачыць за тым, што адбываецца звонку.

Аксід жалеза надаваў планеце чырванаватае адценне. Нават няўзброеным вокам можна было ўбачыць на паверхні светлыя вобласці, якія атрымалі назву мацерыкоў, і цёмныя ўчасткі — моры. Паўшар'і Марса даволі моцна адрозніваліся паводле характару: паўднёвае было густа ўсеянае кратарамі, чым нагадвала месячныя мацерыкі; большую частку паўночнага займалі адносна гладкія раўніны. Выразная мяжа паміж поўначчу і поўднем ды палярныя лядовыя шапкі дапаўнялі карціну.

Малая шчыльнасць атмасферы і невялікая хуткасць уваходу ў яе спрыялі бяспечнай пасадцы на Марс. Човен мякка крануўся апорамі керамічнага бетону, падняўшы пыл, які патрапіў на ўзлётна-пасадачную пляцоўку праз бар'ер з альфа-часціц нізкай энергіі. Крыніцы радыеактыўнага выпраменьвання стапрацэнтнай гарантыі не давалі: часціцы адрозніваліся занадта малымі памерамі.

Наколькі ведаў інспектар, сваё імя «Элізіум» атрымаў нездарма: гарадок з'яўляўся сапраўдным раем для навукоўцаў, паколькі такіх магчымасцяў самарэалізацыі перад імі не раскрывалася больш нідзе. Любы інтэлектуал лічыў за гонар быць запрошаным у «Элізіум».

У гарадок інспектара даставіў усюдыход службы бяспекі, а па завяршэнні працэдуры шлюзавання яго сустрэлі начальнік медыцынскай службы і начальнік аховы.

— Я — Дзірж Цінгулс, гэта — Сарыгоўт Гамалій, — мужчыны па чарзе паціснулі руку Сарвы. — Камісар Айнбунд пазіцыянаваў вас як свайго найлепшага спецыяліста. Вы насамрэч такі прафесіянал?

— Аддаю перавагу пацвярджэнню рэнамэ справамі, а не словамі, спадар Цінгулс! — інспектар без цяжкасці вытрымаў пранізлівы погляд начальніка аховы.

— Што ж, паглядзім, на што вы здатныя, спадар Сарва!.. Аб'ект у нас рэжымны — вы павінны прайсці геномную дактыласкапію для атрымання часовага пропуска. Вашая ДНК будзе пераведзена ў лічбавы фармат і запісаная на сіліцэнавы камп'ютарны чып. Гэта дазволіць вам свабодна перасоўвацца па гарадку. Але доступ у звышсакрэтныя лабараторыі для вас будзе закрыты. Калі вам спатрэбіцца трапіць унутр, звярніцеся па дазвол да мяне. Адказ будзе атрыманы на працягу трох гадзін.

Беднасць мімікі і металічныя ноткі ў голасе рабілі начальніка аховы падобным да андроіда.

— Пропуск выдаецца на дваццаць чатыры гадзіны. Адлік часу пачынаецца з моманту актывацыі чыпа. Па заканчэнні тэрміну дзеяння пропуска трэба пакінуць гарадок або атрымаць новы пропуск з паўторам працэдуры геномнай ідэнтыфікацыі асобы. У пропуск убудаваны GPS-трэкер, які дазваляе адсочваць вашы перамяшчэнні і вызначаць дакладнае месцазнаходжанне. У выпадку разрыву нейронавай сеткі радыёчастотнай ідэнтыфікацыі, гэта значыць пры страце пропуска альбо парушэнні яго цэласнасці, ахоўная сістэма неадкладна падымае трывогу... Гэта што?

— Рабочы планшэт.

Мяркуючы па ўсім, Цінгулс атрымаў загад ва ўсім садзейнічаць расследаванню. У адваротным выпадку напэўна б правёў рэнтгенаскапію камп'ютара. З дапамогай стыла Сарва ўнёс у памяць не толькі новыя даныя, але і ўласныя сумненні: як пры такіх павышаных мерах бяспекі наогул маглі адбыцца забойствы?

— Спадар Гамалій, распачынайце! — начальнік медыцынскай службы падступіў да кампактнага прыбора, які да гэтага ляжаў на невысокай храміраванай калясцы. — Можаце задаваць пытанні, спадар Сарва!

Медык прымусіў інспектара закасаць рукаў і сунуць руку ў прыёмнік. Сарва адчуў слабы ўкол у вену.

— Я хацеў бы ведаць, пры якіх абставінах былі знойдзены целы.

— Калі ласка, намачыце слінай тампон!.. Дзякую!

— Жаўнова знайшоў спецыяліст па комплекснай уборцы памяшканняў праз чатыры з паловай гадзіны пасля забойства. Таўса хапіўся калега пасля таго, як акадэмік спазніўся на эксперымент з гамасферай. Педантычны Бабрук не з'явіўся на нараду ў кіраўніка навуковага гарадка.

— Атрымліваецца, у ніводным з трох выпадкаў ахоўная сістэма трывогі не падняла? — паказчыкі біялагічнай актыўнасці жывой і мёртвай плоці аднолькавымі не маглі быць апрыёры.

— Менавіта так. Па кожным выпадку было праведзена расследаванне, але ніякіх адхіленняў у рабоце пропускаў не выяўлена.

У планшэце з'явілася новая адзнака: дасканалай камп'ютарнай сістэмы не існавала. Тым больш што хакеры штодня ўдасканальвалі сваё майстэрства.

Ці не азначала тое, што аларм-сістэма не спрацавала, наступнае: забойца альбо яго саўдзельнік працуюць у тэхнічным аддзеле службы бяспекі?

— У ніводным з трох выпадкаў камеры відэаназірання, устаноўленыя на ўваходзе ў індывідуальных працоўных боксах, забойцу не зафіксавалі, хоць запіс вядзецца ў рэжыме «анлайн».

— Вы агледзелі відэакамеры?

— У першую чаргу. Спраўныя. Узламаныя не былі.

Гукавы зумер сігналізаваў аб тым, што 3D-прынтар пачаў работу. Начальнік медыцынскай службы ўважліва сачыў за ходам друку.

— З цэнтральнага пульта можна ўнесці карэктывы ў запіс?

— Мы праверылі і гэта, спадар Сарва. Аператары па-за падазрэннямі.

— Ніякіх тэхнічных збояў? Недазволеных падключэнняў?

— Ніякіх!

— У боксах відэакамеры ёсць?

— Нашы падапечныя высока цэняць прыватнасць даследаванняў, спадар Сарва.

— Вельмі сумная акалічнасць!.. Спадар Гамалій, ці выяўленыя пры аглядзе боксаў якія-небудзь анамаліі?

— Аніводнай! — зноў нагадаў пра сябе зумер. — Ваш пропуск гатовы!

Начальнік аховы паведаміў у дзяжурную часць код з дваццаці пяці знакаў, і праз хвіліну ярка-чырвоны колер мікраскапічнага святлодыёда на пластыкавай картцы змяніўся на зялёны.

— Сардэчна запрашаем у «Элізіум»! — усміхнуўся Гамалій, а Цінгулс прыклаў свой пропуск да сканера сістэмы бяспекі. Унутраныя створкі пачалі рассоўвацца.

Нягледзячы на тое, што ў інспектара не было падстаў для таго, каб усумніцца ў кампетэнтнасці падапечных начальніка аховы, ён папрасіў санкцыі азнаёміцца з відэазапісамі.

— Што вы там збіраецеся ўбачыць, спадар Сарва?

— Такі парадак, спадар Цінгулс!

Як і папярэджваў начальнік аховы, новай інфармацыі лічбавыя запісы не далі. Кантролер пацвердзіў іх аўтэнтычнасць. На ўсялякі выпадак Сарва папрасіў копіі. У практыцы інспектара мелася нямала выпадкаў, калі дэталі набывалі яснасць толькі пасля неаднаразовага прагляду.

Па дарозе да празектарскай Цінгулса выклікалі ў дзяжурную часць, так што ролю гіда давялося ўзяць на сябе Гамалію.

— Скажыце, спадар Гамалій, ці маюцца падставы для падазрэння забітых у здзяйсненні самагубства?

— Запэўніваю — абсалютна ніякіх!.. Навуковы персанал штомесяц праходзіць поўны медыцынскі агляд, які ўключае ацэначныя тэсты псіхасаматычнага стану. Мы абавязкова заўважылі б дэвіяцыі!

— У Жаўнова, Таўса і Бабрука былі ворагі?

— Ворагі ёсць у любога чалавека, які мае сацыяльную вагу, спадар Сарва! Пытанне толькі ў тым, ці гатовыя ворагі да прамога дзеяння... У кола маіх абавязкаў уваходзіць маніторынг псіхалагічнай атмасферы ў навуковым гарадку. Гарантую: людзей, гатовых на забойства калег, у «Элізіуме» няма!

— Ці дапускаеце вы магчымасць дыверсіі?

— З падобным пытаннем вам лепш звярнуцца да Дзіржа Нарыбутавіча, спадар Сарва!

— Абавязкова прыслухаюся да вашай парады!.. І ўсё ж такі?

— Чужому ў «Элізіум» не пракрасціся. Служба бяспекі свой хлеб есць недарма!

У планшэце з'явілася адзнака насупраць радка «ўкаранёны агент». Ужо на ўзлётна-пасадачнай пляцоўцы інспектар ацаніў верагоднасць пранікнення ўнутр навуковага гарадка як нулявую: подступы прыкрывалі батарэі рэйкатронаў, а ахоўны перыметр рабіў «Элізіум» падобным на непрыступную крэпасць.

Целы чакалі Сарву ў халадзільных камерах. Іх агляд з'яўляўся толькі данінай інструкцыі — заключэнні аб аўтапсіі былі прафесійна падрабязнымі. Знаёмства са справаздачамі заняла нейкі час. На жаль, праліць святло на злачынствы яны не здолелі. Да справаздач былі прымацаваныя фатаграфіі высокай якасці, якія пазбавілі інспектара ад неабходнасці здымкі.

— Я так разумею, па план «Элізіума» мне трэба звярнуцца да Цінгулса?

— Не злуйцеся на яго, спадар Сарва! Дзірж Нарыбутавіч проста робіць сваю працу. Такі груз адказнасці сагне любога... Я магу падзяліцца з вамі схемамі сектараў, у якіх адбыліся забойствы.

— Баюся, гэтага будзе недастаткова, спадар Гамалій. Не той выпадак, калі па частках можна зразумець цэлае!.. Лепш падкажыце, як мне прайсці ў службу бяспекі?

Начальнік аховы доўга не хацеў прадастаўляць неабходную інфармацыю. Толькі пагроза дакладу камісару Айнбунду прымусіла Цінгулса скарыстацца бесправадной персанальнай сеткай.

Ніякай сувязі паміж месцамі забойстваў не прасочвалася, таму інспектар вырашыў агледзець боксы. У тым, што староннi не мог здзейсніць забойства, Сарва пераканаўся, пакуль ішоў

да працоўнага месца акадэміка Жаўнова. Камеры назірання, пасты аховы, складаная сістэма допуску, разнастайныя дэтэктары... Забойцу варта было шукаць сярод персаналу «Элізіума».

— Дзве тысячы чатырыста восемдзесят дзевяць чалавек. Я фізічна не паспею ўсіх апытаць! — хранометр бязлітасна адлічваў апошнія гадзіны. Інспектар не меў сумненняў у тым, што неўзабаве адбудзецца наступнае забойства.

Рабочы бокс уяўляў сабой невялікае памяшканне з дзвярыма, якія герметычна зачыняліся. Забойца мог трапіць унутр толькі з дазволу гаспадара бокса. Падобны варыянт быў магчымы выключна для першага забойства. Пасля смерці Жаўнова навукоўцаў, безумоўна, праінструктавалі супрацоўнікі службы бяспекі.

Слядоў узлому замок не меў. Сарва сарваў пластыкавую плёнку з галаграфічнай пячаткай службы бяспекі і ўвайшоў у бокс.

Абведзены флуарэсцэнтным маркерам контур цела размяшчаўся побач з крэслам каля працоўнага стала. Павароты давалі зразумець, што пасля смяротнага ўдару Жаўноў зваліўся на падлогу. Ужо адно палажэнне трупа казала пра многае:

— Забойцу акадэмік не чуў. Ці не ўспрымаў як забойцу...

Выцягнуўшы з чамаданчыка з інструментамі, без якіх не абыходзілася ніводнае расследаванне, газавы храматограф, Сарва апусціўся на калені і пачаў вадзіць па падлозе сілікагелевым алоўкам з надзеяй выявіць доказы.

Інспектар ніколі не забываў пра тое, што д'ябал хаваецца ў дробязях.

— Нічога... — гадзіна прайшла марна: бокс быў нібыта стэрыльна ачышчаны. Сарва праверыў і вентыляцыйную шахту, хоць яе шырыня не дазваляла пралезці па рукаве нават дзіцяці, не кажучы ўжо пра дарослага.

Ніякіх слядоў не ўдалося знайсці і ў боксах Таўса і Бабрука. Дакладваць камісару не было чаго.

— Прылады забойства знайшлі? — спытаў інспектар, вярнуўшыся ў модуль службы бяспекі. Можа, хоць тут атрымаецца выявіць зачэпку.

— Забойца панёс іх з сабой.

— І ніводзін з вашых прыбораў гэтага не зафіксаваў? — Сарву прымусілі здаць зброю яшчэ на ўваходзе.

— Не! — працадзіў Цінгулс, выдатна разумеючы, што гэта пракол яго як начальніка аховы. Інспектар не стаў завастраць на гэтым увагу — не выключана, што забойца мог выкарыстаць пакрыты цэлюлознай біялагічнай плёнкай грыбны міцэлій. Бакаў з вадой, дастатковай для растварэння вегетатыўнага цела, у «Элізіуме» хапала з лішкам.

— У вас ёсць здагадкі, хто стане наступнай ахвярай?

Начальнік аховы скрывіўся, як ад зубнога болю, і сказаў:

— Вобласці інтарэсаў акадэміка і члена-карэспандэнта ніяк не перасякаліся. Мы гэтак і не здолелі знайсці нічога, што звязвала б Жаўнова, Таўса і Бабрука.

— Вельмі кепска! — Сарву прыгнятала бяздзейнасць. Але што заставалася рабіць? Любы з дзвюх тысяч чатырохсот васьмідзесяці дзевяці чалавек мог стаць наступнай ахвярай. — Я хачу азнаёміцца з асабістымі справамі забітых, а вы, спадар Цінгулс, узмацніце меры бяспекі!

Інспектар вярнуўся ў выдзелены яму жылы блок і цяжка апусціўся на ложак. Ніць Арыядны ніяк не хацела ісці ў рукі. Вядома, можна было б зрабіць паўторнае апытанне патэнцыйных сведак, але наўрад ці падначаленыя Цінгулса нешта прапусцілі. Выраз «Чаканне смерці падобна» набываў злавесны сэнс.

За гадзіну да апошняга тэрміну Сарва пакінуў жылы блок з надзеяй апынуцца ў патрэбны момант у патрэбным месцы.

Не атрымалася.

— Спадар Сарва, новае забойства! — неўзабаве выйшаў на сувязь Гамалій.

— Хто? — інспектара раздзірала бяссільная лютасць. Ізноў аларм-сістэма не падала сігнал трывогі.

— Прафесар Нік Хеймніц. Сектар дэ-шэсць. Індывідуальны рабочы бокс нумар адзін-адзін-тры.

Сарва вылаяўся і сарваўся з месца. Каля бокса сабраўся натоўп, у паветры вісеў незадаволены гул. Да прамога абвінавачвання службы бяспекі ў некампетэнтнасці яшчэ не дайшло, але гэта было толькі пытаннем часу.

— Прапусціце!.. Спадар Цінгулс, прашу вас забяспечыць мне ўмовы для працы! — па кіўку начальніка аховы супрацоўнікі службы бяспекі прыступілі да навядзення парадку. У боксе застаўся толькі інспектар.

Сарва апусціўся на калені і адкрыў чамаданчык з інструментамі. Чатыры гадзіны карпатлівага абследавання нічога не далі, што не магло не адбіцца на настроі Сарвы.

— Кажуць, забойствы — справа рук неалудзітаў, — сказаў начальнік медыцынскай службы пасля таго, як санітары забралі ўпакаванае ў паталагаанатамічны мяшок на маланцы цела Хеймніца.

— Што, прабачце?

— Па навуковым гарадку цыркулююць чуткі, што ў «Элізіум» атрымалася пракрасціся аднаму ці нават некалькім сапернікам навукова-тэхнічнага прагрэсу. І цяпер яны ад слоў перайшлі да прамога дзеяння.

У словах Гамалія мелася пэўная рацыя, але... Ці не занадта прафесійна для дылетантаў?

— Кожны з забітых з'яўляўся кіраўніком навуковай школы. Ці не праз гэта іх забілі?

— У такім выпадку даводзіцца казаць пра дыверсанта, спадар Гамалій!.. Калі ласка, звяжыцеся са мной, калі будзе гатовае заключэнне!

— Абавязкова, спадар Сарва!

Застаўшыся сам-насам, інспектар апусціўся ў крэсла і задумаўся. Нешта не давала яму спакою. Але што?.. Страціўшы надзею адшукаць адказ, Сарва набраў крыві забітага ў пластыкавую прабірку для ўзораў і адправіўся да сябе для чарговага даклада камісару Айнбунду. Яшчэ ніколі расследаванне не было такім цяжкім.

— Што ж тут адбываецца? — фактаў катастрафічна не хапала.

— Спадар Сарва, можаце зайсці! — па сканчэнні дзвюх гадзін патэлефанаваў начальнік медыцынскай службы.

— Дзякую! — азнаёміўшыся з заключэннем, інспектар сунуў аркушы ў папку. — Ці магу я скарыстацца вашым электронным мікраскопам?

— Так!

Растравы электронны мікраскоп дазваляў атрымліваць карціну паверхні аб'екта да адной дзясятай нанаметра. Сарва размазаў па прадметным століку фібрынавы згустак і ўключыў электронную гармату, сумешчаную з электроннымі лінзамі. Вынік збянтэжыў:

— Нанаробаты!

Гамалій наблізіўся да манітора, але словы скепсісу з яго вуснаў не зляцелі — Сарва не памыліўся.

— Экзэмпляр відавочна нежыццяздольны!.. Спадар Гамалій, ці не выкарыстоўвалі вы нанаробаты для лячэння прафесара Хеймніца?

— У гэтым не было неабходнасці — хапала і традыцыйных метадаў. Як і ў выпадку з Жаўновым, Таўсам і Бабрукам.

— Я хацеў бы зрабіць аналіз крыві забітых!

— Ваша права!

— І падрыхтуйце медыцынскія карты ўсіх чацвярых.

У крыві Жаўнова і Бабрука нанаробатаў не аказалася, а вось у Таўса інспектар выявіў прысутнасць іншародных цел. Версія начальніка медыцынскай службы не знайшла пацвярджэння. Забойствы былі падобнымі на прамысловы шпіянаж, што пацвярджалі і медыцынскія карты — ніводзін з чацвярых навукоўцаў лячэння з дапамогай нанаробатаў не праходзіў.

— Хто мае допуск да рэплікатараў? — інспектар ажывіўся быццам ганчак, які ўзяў след.

— Я і ўсе загадчыкі аддзяленнямі.

Не прамовіўшы больш ні слова, інспектар накіраваўся да начальніка аховы і запатрабаваў выдаць яму асабістыя справы медыкаў. Раздражненне Цінгулса абмежавалася толькі незадаволеным позіркам.

Сарва вярнуўся да сябе і паглыбіўся ў вывучэнне аркушаў сінтэтычнай паперы.

— У яго ж маецца доступ да архіва ДНК-дактыласкапіі! — бліжэй да поўначы рэбус быў разгаданы. Не хапала толькі аднаго, самага важнага элемента: адказу на пытанне аб матывацыі злачынцы.

У думках накідаўшы справаздачу камісару Айнбунду, інспектар выцягнуў камунікатар з намерам звязацца з начальнікам Дэпартамента. Гэта яго і выратавала: адлюстраваны ў сэнсарным экране водбліск прымусіў Сарву зваліцца на падлогу і перакаціцца пад прыкрыццё стала. Рука пацягнулася да пісталета, але схапіла толькі паветра.

Інспектар утаропіў позірк і абмёр: голем цалкам складаўся з нанаробатаў.

У наступнае імгненне на стол абрынуўся магутны ўдар, які разваліў яго напалам. Правая рука голема ўяўляла сабой бродакс — сякеру з шырокім трапецападобным палатном, праста-кутнай бародкай і байком.

Сарва ледзь паспеў выбрацца.

Адчайны рывок у пошуках выратавання скончыўся нічым — стык паміж дзвярыма і сцяной аказаўся шчыльна залеплены нанаробатамі. Іх злучэнне было мацнейшым за зварное шво.

Сарва не мог дазволіць сабе кідацца ў паніку. Праз адсутнасць зброі не заставалася нічога іншага, як манеўраваць. Вось толькі наколькі хопіць сіл? Памяшканне малое, а рухі голема занадта імклівыя...

Інспектар так і не зразумеў, у які момант у галаве нарадзілася выратавальная думка. Працягваючы ўхіляцца ад удараў, Сарва вырваў з кішэні пропуск і зламаў яго. Цераз вечнасць у дзверы забарабанілі.

— Дапамажыце! — інспектар адчуў, што пачынае задыхацца.

Палатно задрыжала ад націску, але ўсё ж такі выстаяла.

— Падрывайце! — звышвострае лязо распарола рукаў курткі і рассекла плоць. Боль асляпіў.

— Усе назад! — данёсся да Сарвы голас Цінгулса, пасля чаго загрукаталі стрэлы. Нанаробаты пачалі рухацца — адтуліны хутка зацягваліся. На шчасце, «разумны пыл» на рэплікацыю запраграмаваны не быў — дзвярное палатно павалілася на падлогу. Супрацоўнікі службы бяспекі неадкладна сканцэнтравалі агонь на големе. Асаблівай шкоды кулі яму не рабілі.

— Каму ў Мюнхене ці Нью-Ёрку ты будзеш паказваць на дзявятага мая свае баявыя медалі? Немцам і кітайцам?

Усе пагаджаліся: дзе падняўся, там і прыдаўся. Можа быць, за мяжою які рай на зямлі? Але ж Дзядзюля меў той рай у Мінску.

Не разумеў Дзядзюлю і я. У Ізраіль, на радзіму? Не смяшыце мяне. Дзядзюля быў адданым чальцом нашага сямейнага Ордэна Тых, Хто Самі Ўсё Разумеюць, а іхны пагардліва-адстаронены погляд на ўсе ідэалогіі і дзяржавы ніяк не сумяшчаўся з паняццем Радзімы («Дай, Адонай, сісты на хлібным місты»[1] — гэтая прыказка была самая паўтараная ў Бабадоры, мамы Дзядзюлі). У дадатак на дзядоўскіх вачах ужо тры-чатыры разы мяняліся сістэмы каштоўнасцяў, а таму проста абавязаная была нарадзіцца паняверка што да любой іерархіі і ўлады.

Дзядзюля ж нёс дакументы ў тры розныя консульствы — і, знакам тым, у ягонай галаве вёў рэй не мраяр, а цвярозы адвакат, які ўхіліўшыся ў карыслівасць, проста выбіраў, дзе будзе камфортней. Дзядзюля даўно вылічыў і адну федэратыўную рэспубліку, якая, гасцінна прымаючы габрэяў, хацела выкупіць перад імі сваю непапраўную віну. І адну заакіянскую краіну, што прагнула ўзбагаціцца за кошт адукаваных і кемлівых эмігрантаў, я перакананы, мой Дзядзюля лёгка раскусіў. І нават не буду казаць тут пра адну міжземнаморскую дзяржаву, якая хацела паправіць за кошт Дзядзюлі свой дэмаграфічны баланс на злосць не надта прыветным суседзям.

Усё-ўсенькае зразумеў я толькі па нейкім часе. Дзядзюлю найбольш і напалохалі гэтыя дакоры іншых дзядоў і бабуль, шматдумна-шкадлівыя позіркі яму наўздагон. І я мусіў зрабіцца тым, хто яго ад іх уратуе.

Бач ты, Дзядзюля хацеў выгадаваць з мяне свайго прэс-сакратара. Ён хацеў, каб прэс-сакратар урэшце папулярна і аўтарытэтна патлумачыў усім блізкім і родным гоям. Патлумачыў, чаму Дзядзюля, Юлій Зэлікавіч Шапіра, разважлівы і ўмеркаваны чалавек, шанаваны член грамадства, які ні ў якіх людскіх дуротах заўважаны не быў, кідае ўсё і на старасці гадоў едзе проці ліха на ўзгорачку. Каб хоць нехта ў гэтым збольшага славянска-чухонскім Ордэне Тых, Хто Самі Ўсё Разумеюць, зразумеў яго семіцка-качэўніцкую душу. Каб я пераклаў ім гэтыя парыванні.

Дзядзюля хацеў, каб я давёў да ведама іншых бабуль і дзядоў, усіх тысячы ягоных былых каханак розных нацыянальнасцяў, каб я усяліў у іх гэтае разуменне таго, што дарослы сын Ізраіля за сваё жыццё хоць разочак павінен куды-небудзь з'ехаць на ПМЖ. І толькі таго.

Як вядома, у Еўропе габрэя найперш робіць антысемітызм. Аднак у мяне — у мяне ад габрэяў толькі падвышаная валасатасць на нагах, і няма «цікавага» прозвішча і імені. Стуль я ніколі не зведаў ніякіх прыцісканняў. І адпаведна, паўнавартасным габрэем я не стаў. І таму, каб маё ператварэнне ўсё ж адбылося, Дзядзюля хацеў прынамсі з адваротнага боку, праз любоў — любоў да іўрыта і габрэйшчыны — зацягнуць у сваю павуту. Каб я хоць трошачкі зрабіўся яму сваім, спасцігнуў гэтае пачуццё пастаяннага ліхаманкавага пошуку абяцанай зямлі. І адпаведна, каб з гэтай перспектывы падзяліў яго думкі на ад'езд і пераказаў іншым.

Во як! Майму дзеду-адвакату спатрэбіўся свой уласны адвакат. Бачыце, нават пасля ад'езду Дзядзюля не хацеў страціць месца ў ложы нашага таемнага Ордэна Тых, Хто Самі Ўсё Разумеюць. Нават праз сорак гадоў пасля разводу Дзядзюля вельмі баяўся, што Бабароза, Бабагруня ці яго дачка Галя могуць выкінуць яго адтуль або выправіць на выпрабавальны тэрмін, як калісь выправілі мяне.

[1] Дай, Божа, сесці на хлебным месцы (укр. і ідыш).



## Эма Донах’ю. Emma Donoghue

**Эма Донах’ю нарадзілася ў Дубліне ў 1969 годзе. Яна малодшая з васьмі дзяцей у сям’і. У 1998 годзе перабралася ў Канаду, цяпер жыве з сям’ёй у горадзе Лондан, правінцыя Антарыя. Аўтар сямі раманаў, васьмі п’ес і некалькіх зборнікаў апавяданняў, лаўрэат літаратурных прэмій.**

**Крыху пра твор. Джэку пяць гадоў. Ён атрымлівае падарунак, частуецца імянінным пірагом, радуецца, што цяпер ён «містар Пяцігодка». Джэк — звычайнае дзіця. Есць звычайную ежу, гуляе са звычайнымі цацкамі, у яго ёсць мама, якую ён любіць усім сэрцам. Толькі вось месца, дзе жыве Джэк, незвычайнае. Гэта пакой. Са звычайнай мэбляй, абстаноўкай, нават акном. Гэты пакой — цэлы свет для яго і турма для яго маці, у якой яна правяла ўжо сем гадоў. Пазней акажацца, што Джэк з мамай жыве ў аднаго вар’ята, які прыходзіць да іх кожную нядзелю. Нават ва ўмовах зняволення мама імкнецца даць сыну ўсё неабходнае.**

# Пакой

*Урывак*

Сёння мой пяты дзень нараджэння. Вечарам я клаўся спаць у шафе, тады мне было чатыры, а ноччу, калі я прачнуўся ў ложку, мне ўжо было пяць гадоў, нейкая абракадабра. Да гэтага мне было тры, два, адзін і нуль.

— А колькі мне было з мінусам?

— Што? — пытае ма пацягваючыся.

— На небе. Мне было мінус адзін, мінус два, мінус тры?

— Не, адлік пачаўся толькі калі ты спусціўся на зямлю.

— Праз акенца. Табе было так сумна пакуль я не з’явіўся.

— Чыстая праўда.

Ма нахіляецца з ложка, каб уключыць святло. Я якраз паспяваю своечасова заплюшчыць вочы, потым пачынаю па чарзе расплюшчваць.

— Я плакала, пакуль у мяне былі слёзы. Проста ляжала і лічыла хвіліны, — кажа яна мне.

— І колькі ты налічыла? — пытаю я.

— Надта многа мільёнаў.

— Не, а дакладна колькі?

— Я нават страціла лік.

— Тады тваё яйка не выходзіла ў цябе з галавы і ты патаўсцела.

— Ты пхаўся, — усміхаецца яна.

— Каго я штурхаў?

— Мяне, вядома.

Я заўсёды смяюся ў гэтым месцы.

— Ты піхаўся ўнутры, бум бум, — ма паднімае сваю начную кашулю і надзімае жывот. —

Я падумала, што гэта ты хочаш вызваліцца. А раніцай, з шырока расплюшчанымі вачыма, ты выслізнуў на дыван.

Я гляджу на дыван. На ім можна разглядзець рознакаляровыя віткі. Там ёсць і пляма, якая з'явілася пасля майго нараджэння.

— А потым ты перарэзала шнур, і я стаў вольным? І тады я стаў хлопчыкам, — кажу я ма.

— Не, ты і так ужо быў хлопчыкам.

Яна ўстае і ідзе ўключыць абагравальнік, каб сагрэць паветра ў пакоі.

Я не думаю, што ён прыходзіў учора пасля дзевяці, бо калі ён прыходзіць, заўсёды мяняецца паветра ў пакоі. Я нічога не спытаў, яна не любіць размаўляць пра яго.

— Скажыце мне, калі ласка, містар Пяцігодка, калі б вы хацелі атрымаць свой падарунак: цяпер ці пасля сняданку?

— А што там, што там?

— Я ведаю, што ты ўжо хочаш паглядзець на яго, але не грызі пальцы, бо праз адтуліну могуць пралезці мікробы.

— І тады я буду хворы з тэмпературай і дыярэяй, як у тры гады?

— Яшчэ горш. Ты нават можаш памерці, — кажа яна.

— І я так рана вярнуся на нябёсы?

— І ўсё ж ты кусаеш яе! — яна пацягвае мяне за руку.

— Прабач, — я саджуся на руку. — Назаві мяне яшчэ раз містарам Пяцігодкай.

— Ну што, містар Пяцігодка, цяпер ці пазней?

Я саджуся на крэсла і гляджу на гадзіннік. Ён паказвае 7:14. Я магу гойдацца на гэтым крэсле нават без рук, быццам на скейтбордзе, потым скачу на коўдру і ўяўляю, што гэта і ёсць скейтборд.

— А калі трэба разбіраць падарункі?

— Калі хочаш. У любым выпадку табе спадабаецца. Хочаш, я вырашу за цябе? — пытае яна.

— Цяпер мне пяць, я магу вырашыць сам.

Мой палец зноў лезе ў рот, але я паспяваю перашкодзіць яму.

— Я хачу зараз.

Ма дастае нешта з-пад падушкі. І як я толькі не заўважыў гэта ноччу! Гэта рулон паперы, перацягнуты фіялетавай стужкай ад цукерак, якія я атрымаў на калядкі.

— Ты можаш асцярожненька паглядзець, — кажа яна.

Я развязваю вузел. Там нешта намалявана алоўкам. Я не адразу разумею, што там.

— Гэта ж я!

Як у люстэрку, толькі большы. Мая галава, рука і плячо там, пад начной кашуляй.

— А чаму вочы заплюшчаныя?

— Бо ты спаў.

— А ты малявала мяне ў сне?

— Не, я не спала. Учора раніцай і за дзень да гэтага я ўключала лямпу і малявала цябе.

Яна перастае ўсміхацца.

— Што здарылася, Джэк? Табе не падабаецца?

— Мне не падабаецца, што ты не спала.

— Я ж не магла маляваць цябе, калі ты не спаў, бо не атрымаўся б сюрпрыз. Я думала, табе спадабаецца мой сюрпрыз.

— Мне падабаюцца сюрпрызы, пра якія я ведаю.

Ма заліваецца смехам.

Я хачу ўзяць кнопку з набору, які стаіць на паліцы, таму я зноў лезу на крэсла. Мінус адзін значыць, што цяпер ад пяці засталося нуль. Некалі там было шэсць кнопак, але адна знікла. На адной з кнопак трымаецца вялікі шэдэўр заходняга мастацтва №3: Святая Ганна з Мадоннай і немаўлём Хрыстом, а таксама Ян Хрысціцель. Другая ўтрымлівае яшчэ адзін шэдэўр заходняга мастацтва №8: Уражанне: Усход. На трэцяй вісіць сіні васьміног, а на чацвёртай — конь-вар'ят. Гэта шэдэўр заходняга мастацтва №11 Герніка. Атрымалі мы гэтыя шэдэўры з аўсянкаю, а васьмінога я намаляваў сам. Праўда, ён крыху сапсаваны, бо вісіць каля ванны, а там гарачая пара. Я прышпільваю падарунак ма проста над ложкам.

— Не трэба тут, — матляе яна галавою.

Яна не хоча, каб гэта ўбачыў Стары Нік.

— Можа, на шафе? На задняй сценцы? — пытаю я.

— Добрая ідэя.

Шафа ў нас драўляная, таму мне прыходзіцца добра пастарацца, каб прымацаваць кнопку. Я зачыняю дзверы. Яны заўсёды рыпяць, хоць мы памазалі шарніры кукурузным алеем. Я гляджу праз адтуліну, але там надта цёмна. Я крыху прыадчыняю дзверы, тады бачу белы малюнак з шэрымі плямкамі. Сіняя сукенка ма вісіць каля майго вока на малюнку.

Я адчуваю, што побач стаіць ма. У мяне найлепшы нюх у нашай сям'і.

— О, я забыў папіць, калі прачнуўся.

— Можа, прапусціш разок, табе ж ужо пяць?

— Ні ў якім разе, Хасэ.

Мы кладзёмся на белую коўдру.

Я заліваю кашу малаком, такім жа белым, як і нашы талеркі. Слава Ісусу, я нічога не разліў. Я выбіраю белую лыжку з плямкамі на ручцы. Яе некалі прытулілі да гарачай пасудзіны з макаронамі. Ма не падабаецца гэтая лыжка, але яна мая самая любімая, бо яна адрозная ад іншых.

Я спрабую разгладзіць драпіны на нашым белым стале. Хоць ён сам белы, драпіны на ім шэрыя. Ма рэжа прадукты на стале, ад таго і ўзніклі драпіны. За сталом мы мукаем, бо цяжка прыдумаць нешта іншае: рот заняты. Я адгадваю мелодыю: «Яна прыедзе», «Макарэна», «Вакол гары», «Салодкая калясніца», але аказваецца, што гэта «Дрэннае надвор'е». Такім чынам, я атрымліваю ад ма два пацалункі.

Я мукаю «Вяслуй, вяслуй, марак», і ма адразу адгадвае. Калі я пачынаю «Размовы», яна кажа:

— Я ведаю гэтую песню, але не магу ўспомніць, якая ў яе назва. Там спяваецца пра чалавека, які падае і ўстае.

У самым канцы яна ўсё ж успамінае. Для трэцяй спробы я выбіраю «Не магу выкінуць цябе з галавы». Ма ніяк не можа адгадаць.

— Ты выбраў штосьці складанае. Чуў па тэлевізары?

— Не, ты спявала яе.

Я спяваю прыпеў, і ма кажа, што яна бесталковая.

— Дурында, — кажу я і цалую яе двойчы.

Я падсунуў крэсла да мыйкі, каб вымыць посуд. З талеркамі трэба быць вельмі асцярожным, а лыжкамі можна і пастукаць: бом, бом. Я паказваю люстэрку язык. Ма стаіць за мною, і мой твар цалкам закрывае яе, як тая маска, што мы зрабілі на Дзень Усіх Святых.

— Шкада, што малюнак не зусім добра атрымаўся. Але там можна добра разгледзець, на каго ты падобны.

— Дык на каго ж?

Яна прыкладае да люстэрка палец у тым месцы, дзе відаць мой лоб. У тым месцы застаецца кружок ад пальца.

— Дакладная копія мяне.

— А што такое дакладная копія? — кружок пачынае знікаць.

— Гэта азначае, што ты вельмі падобны на мяне. Напэўна, гэта таму, што ты зроблены з мяне. Такія ж карыя вочы, вялікі рот і завостраны падбародак.

Я гляджу ў люстэрка на нас з ма, а люстэрка глядзіць на мяне.

— У мяне нос не такі.

— Ну, у цябе зараз яшчэ малы нос.

Я дакранаюся да яго.

— Гэты адпадзе і вырасце новы, дарослы?

— Не, проста гэты стане большым. Тое ж адбудзецца з валасамі.

— Але ж мае доўгія, а твае валасы толькі да плеч.

— Гэта праўда. Твае клеткі яшчэ рухавыя, — кажа ма і бярэ зубны парашок.

Я гляджу ў люстэрка і думаю, як клеткі могуць быць больш рухавымі або менш рухавымі. Нашы начныя кашулі такія розныя, як і бялізна. У ма без мядзведзяў.

Наступае мая чарга чысціць зубы, калі ма сплёўвае другі раз. Я вельмі беражліва чышчу кожны зуб з усіх бакоў. Нашы з ма пляўкі таксама розныя. Я змываю іх с усмешкай вампіра.

— Ах, твае зубы такія чыстыя! Ажно асляпілі мяне! — і яна стараецца закаціць вочы.

Яе зубы ўжо згнілі, бо яна забывае іх чысціць. Цяпер яна чысціць іх пасля кожнага перакусу, але ўжо нельга нічога выправіць у гэтай сітуацыі.

Я раўняю крэсла і стаўлю яго насупраць рамы для сушкі бялізны. Яна заўсёды бурчыць і кажа, што ў нас няма ніякага месца, але, калі яе зләжыць, месца будзе дастаткова. Я таксама магу злажыцца, але не так, як рама, бо я жывы, у мяне ж мускулы. Дзверы ў нас бліскучыя, металічныя. Яны заўсёды робяць бі-біп, калі я зачыняюся ў шафе пасля дзевяці.

Сёння я не бачу ў акне жоўтага твару Бога. Ма сказала, што яму цяжка ісці па снезе.

— А што гэта за снег?

— Паглядзі, — кажа ма і паказвае на снег.

Я бачу невялікі прасвет, а далей — цемень. У тэлевізары снег заўсёды белы, а сапраўдны не, нейкі дзіўны.

— Чаму ён не падае на нас?

— Бо ён на вуліцы.

— У космасе? Я б хацеў, каб ён быў тут, я б змог пагуляць з ім.

— Ён бы растаў увесь. Тут жа цёпла.

Ма пачынае напяваць, а я адразу разумею, што гэта «Няхай ідзе снег». Я спяваю другі куплет. Потым я пачынаю «Зімовую казку», а ма мне падпявае.

Кожную раніцу мы робім тысячу рэчаў. Мы паліваем кветку ў ракавіне, каб не распляскаць ваду, потым ставім назад на сподак на камодзе. Раней кветка стаяла на стале, але Божы твар прапаліў ёй лісток. Цяпер засталося толькі дзевяць лісцікаў з маю далонь. Усе яны пакрыты варсінкамі, як сабака. Так кажа ма. Але я бачыў сабак толькі ў тэлевізары. Мне не падабаецца лік дзевяць. Я знаходжу яшчэ адзін малюсенькі лісцік, таму буду лічыць, што іх дзесяць.

А вось павукі сапраўдныя. Я нават бачыў яго два разы. Пашукаў бы і зараз, але відаць толькі яго павуціну паміж сталом і яго норкай. Стол стаіць добра, устойліва. Я мог бы прайсці на адной назе, але не доўга. Я нічога не сказаў ма пра гэтага павука. Яна б адразу змяла яго венікам, а мне

здаецца, што яго павуцінка чароўная. Ма падабаюцца толькі тыя жывёлы, якія бегаюць і ядуць адна адну ў дзікай прыродзе. Ёй не падабаюцца сапраўдныя. Калі мне было чатыры, я назіраў, як мурашы бегаюць каля печкі, а ма раздушыла іх усіх, каб не з'елі нашу ежу. Яшчэ хвіліну назад яны былі жывыя, а яна прыйшла — і мурашы ператварыліся ў бруд. Я так плакаў, што ў мяне ледзь не выцеклі вочы. Яшчэ аднойчы было, што ноччу звінеў камар, а ма забіла яго на шафе. Там нават засталася плямка. Ма хацела яе змыць, але нічога не атрымалася, там была мая кроў. Камар выпіў яе, як маленькі вампірчык. Гэта быў першы раз, калі я страціў крыху сваёй крыві.

У срэбраным пакеце ляжаць таблеткі ма, на ім намаляваны восем караблікаў. Я бяру свае вітаміны; на бутэльцы намаляваны хлопчык. На бутэльцы ма намалявана жанчына, якая гуляе ў тэніс. Вітаміны дапамагаюць нам не хварэць і не вярнуцца на нябёсы раней, чым трэба. Я не хачу на нябёсы і не хачу паміраць, але ма кажа, што калі нам будзе па сто гадоў і мы стомімся ад гульняў, нам, можа, і захочацца памерці. Таксама яна прымае лекі. Часам адразу дзве таблеткі, але не больш, чым дзве, бо добрыя рэчы могуць стаць шкоднымі, калі іх занадта многа.

— Гэта хворы зуб? — пытаю я. Ён зверху, недзе там, далёка. Ма ківае.

— Чаму ты не прымаеш па дзве таблеткі кожны дзень?

— Я баюся, што прывыкну і не змагу больш без іх.

— Як гэта?

— Гэта як трапіць на кручок. Мне яны патрэбны ўвесь час. Магчыма, што з кожным днём я б пачала прымаць больш і больш.

— А чаму гэта дрэнна?

— Гэта цяжка растлумачыць.

Ма ведае ўсё, акрамя таго, што яна не памятае. Часам яна кажа, што я яшчэ надта малы, каб зразумець, што яна хоча мне растлумачыць.

— Мае зубы не баляць так моцна, калі я не думаю пра іх.

— Як гэта?

— Гэта значыць, што я многа думаю пра гэта. Калі не звяртаеш увагі, усё праходзіць.

Я заўсёды думаю пра тое, што ў мяне баліць. Ма паціраe маё плячо. Мне гэта падабаецца, хоць яно і не баліць.

Да гэтага часу я яшчэ не расказаў ма пра павуціну. Неяк дзіўна мець нешта сваё, толькі сваё. Усё астатняе наша, а гэта — маё. Я думаю, маё цела таксама належыць мне, як і ўсе думкі ў галаве. Але мае клеткі зроблены з клетак ма, таму я — часцінка яе. Акрамя таго, калі я кажу ёй нешта, што думаю, яна таксама кажа мне, што думае яна. Тады нашы думкі скачуць з галавы ў галаву. Гэта ўсё роўна як зафарбаваць сінім алоўкам жоўты — атрымаецца зялёны.

А 8:30 я ўключаю тэлевізар і знаходжу мой любімы мультфільм «Дора-вандроўніца». Ма спрабуе палепшыць малюнак і гук у тэлевізары. Аднойчы, калі мне было чатыры, тэлевізар памёр, і я моцна плакаў, а ноччу Стары Нік прынёс старую скрынку, з дапамогай якой тэлевізар ажыў. На іншых каналах, акрамя трох, малюнак надта невыразны, таму мы іх не глядзім, бо баляць вочы. Калі нам хочацца паслухаць музыку, мы проста завешваем экран покрывам.

Сёння я кладу руку на галаву Доры і расказваю ёй, што я ўмею ў свае пяць. Яна ўсміхаецца. У яе на галаве доўгія рыжыя валасы, здаецца, што яна ў шлеме. Я залажу на калені ма і ніяк не супакойваюся, пакуль не знаходжу мяккае месца. У яе іх не так ужо і многа, гэтых мяккіх месцаў, але тыя, што ёсць, надзвычай мяккія.

Дора нешта гаворыць на іспанскай мове. У яе заплечнік, у якім надта многа месца. Там ёсць усё: лесвіца, скафандр, вопратка для танцаў і для футболу, а яшчэ, там ёсць флейта і ўсё, што можа спатрэбіцца для гульні з Буц, яе лепшай сяброўкай-малпай.

На іншых каналах паказваюць, што у тэлевізары могуць памясціцца сотні людзей, акрамя таго, хто стаіць першы. Можа, ён надта вялікі і стаіць надта блізка. Яны ўсе апранутыя, з жоўтымі, карычневымі валасатымі тварамі. Губы ў іх надта вялікія і чырвоныя, а каля вачэй намалявана чорным. Яны смяюцца і шмат крычаць. Я б глядзеў тэлевізар увесь час, але ад яго гніюць мазгі. Перш чым я спусціўся з нябёсаў, ма глядзела тэлевізар цэлы дзень і ператварылася ў зомбі. Яна толькі і рабіла, што хадзіла і шаркала нагамі. Так што цяпер яна заўсёды выключае тэлевізар, калі заканчваецца перадача, і клеткі мозгу растуць увесь дзень. Пасля вячэры можна паглядзець яшчэ адну перадачу, а ноччу мазгі растуць яшчэ хутчэй.

— Можна яшчэ адну, сёння ж мой Дзень нараджэння? Калі ласка!

Ма адкрывае рот і тут жа закрывае.

— Чаму б і не?

Яна адключыла гук, калі была рэклама, бо яна псуе нашы мазгі яшчэ хутчэй, чым перадачы. Я бачу цацкі, выдатны грузавік і батут. Два хлопчыкі гуляюць з трансформерамі, але гэта сяброўская гульня, яны не падобныя на дрэнных хлопчыкаў.

Зноў пачынаецца перадача, і я бачу Губку Боба квадратныя штаны. Я падбягаю, каб дакрануцца да яго і яшчэ да Патрыка. Гэта марская зорка, але не такая ўжо і жудасная.

Ма нікога не баіцца, можа, толькі Старога Ніка. Часцей за ўсё яна называе яго проста «ён». Я нават не ведаў яго імя, пакуль не пабачыў у тэлевізары старога, які хадзіў ноччу, яго звалі Нік. Я так называю сапраўднага чалавека, хоць у яго і няма такой барады, але ён таксама прыходзіць ноччу. Аднойчы я спытаў ма, колькі яму гадоў, і яна адказала, што ён амаль удвая старэйшы за яе.

Як толькі заканчваецца перадача, ма ўстае і выключае тэлевізар.

Мая мача жоўтая, я ж піў вітаміны. Я какаю і кажу какашкам:

— Да пабачэння, плывіце ў мора.

Я змываю іх і гляджу, як падымаюцца бурбалкі. Рукі я тру звычайна доўга, пакуль не адчую, што скура пачынае гарэць. Вот тады сапраўды дастаткова.

— Я бачыў павуціну пад сталом, там нават ёсць сапраўдны павук, — кажу я, хоць і не збіраўся гаварыць.

Ма ўсміхаецца, але не па-сапраўднаму.

— Калі ласка, не прыбірай яе. Там зараз няма павука, але ён жа можа вярнуцца.

Ма становіцца на калені і глядзіць пад стол. Я не бачу яе твар, але ж потым яна не прыбірае валасы за вуха.

— Ведаеш, што? Я пакіну яго да ўборкі, — кажа ма і ўстае.

— Добра, — прыбіраем мы звычайна ў аўторак.

— Нам трэба адзначыць, на колькі сантыметраў ты падрос, табе ж ужо пяць.

Я скачу ад радасці.

Звычайна ма не дазваляе мне маляваць на сценах і на мэблі. Калі мне было два, я надрапаў нешта на ножцы ложка, каля шафы, і цяпер кожны раз, калі робім уборку, ма кажа:

— Глядзі, гэта застанецца тут назаўсёды.

Але пазнакі майго росту — гэта зусім іншая справа. Мы пішам маленькія лічбы на вушаку. Там ёсць чорная чацвёрка, крыху ніжэй — тройка і чырвоная двойка, а самая ніжняя лічба — адзінка.

— Стань роўна, — кажа ма і праводзіць ручкай над галавою.

Калі я адыходжу ад сцяны, мне становіцца відаць пяцёрку над чацвёркаю. Я люблю пяцёрку больш за ўсе лічбы, бо ў мяне пяць пальцаў на руках і нагах, у ма таксама па пяць, мы ж з ёй копіі адно аднаго. Затое я цярпець не магу лічбу дзевяць.

— І якая ў мяне даўжыня?

— Не даўжыня, а рост. Дакладна я не магу сказаць. Нам трэба купіць сантыметр, мажа, як падарунак у нядзелю?

— Не, тады лепей цукеркі.

Я стаю і гляджу на лічбу чатыры, а палец кладу паверх галавы.

— Я зусім мала падрос у гэты год.

— Гэта нармальна.

— А што такое нармальна?

— Ну, гэта значыць, што ўсё добра, няма ніякіх праблем, — кажа ма.

— Затое ты толькі паглядзі, якія ў мяне мышцы, — кажу я, скачучы на ложку. Я ўяўляю сябе Джэкам-Волатам у высокіх ботах.

— Вялізныя, — кажа ма.

— Гіганцкія.

— Магутныя.

— Вялізныя.

— Велізарныя, — сказала ма.

— Супервелізарныя.

Гэтае слова, як бутэрброд. Яно з'яўляецца, калі мы складаем два словы.

— Ведаеш, што? Калі мне будзе дзесяць, я вырасту, — кажу я. — А на самай справе я буду расці і расці, пакуль не ператваруся ў чалавека.

— На самай справе, ты і зараз чалавек. І я, і ты, усе мы людзі, — кажа ма.

Гэтае слова не для нас. Людзі ў тэлевізары каляровыя.

— Ты маеш на ўвазе жанчыну, яна з Ж?

— Так, жанчыну з хлопчыкам у яйку ў яе жывацe, і ён таксама будзе сапраўдным. Або я вырасту вось такім веліканам, але добрым веліканам, — і я падскокваю, каб дакрануцца да таго месца, дзе пакаты дах дакранаецца да сцяны, каля якой стаіць мой ложак.

— Гучыць нядрэнна, — кажа ма.

Яе твар выдае, што я сказаў нешта не зусім правільна, але я не ведаю што.

— Я пападу ў космас праз наш дах і буду боіг-боінг між планетамі. А яшчэ я наведаю Дору і Губку Боба, а яшчэ ў мяне будзе сабака, якога я назаву Шчаслівчыкам, — кажу я.

Ма ўсміхаецца і кладзе ручку.

— А колькі табе будзе гадоў на твой Дзень нараджэння? — Пытаю я ў ма.

— Дваццаць сем.

— Нічога сабе!

Але я не думаю, што яна павесялела ад маёй рэакцыі.

Пакуль набіраецца вада ў ванну, ма дастае з шафы лабірынт і замак. Мы зрабілі лабірынт, калі мне было два, з сярэдзінак ад туалетнай паперы, а склеілі іх з дапамогай ліпкай стужкі, таму ў нас атрымалася многа тунэляў. Шар вечна блукае ў лабірынце і хаваецца там, таму мне прыходзіцца многа разоў варочаць лабірынт у розныя бакі, перш чым ён выкаціцца адтуль. Тады я кладу туды яшчэ якія-небудзь прадметы. Гэта можа быць арэх, або кавалачак блакітнага алоўка ці макароніна. Яны ганяюцца адзін за адным у тунэлях і крычаць «бу», а я не магу іх бачыць і па гуку кардона разумею, дзе яны знаходзяцца. Зубная шчотка хоча павярнуць, але занадта доўгая. Тады яна скача ў вежу. Замак зроблены са слоікаў і з бутэлек з-пад вітамінаў. Мы кожны раз дабудоўваем яго, калі ў нас ёсць пустыя бутэлькі. Усе падступы да вежы сакрэтныя, на ворагаў можна пырскаць гарачым алеем, а яны гэтага і не ведаюць, ха-ха. Я б хацеў прынесці замак з сабой у ванну, але ма сказала, што там ён расклеіцца.

Мы распускаем хвосцікі і дазваляем валасам паплаваць. Я ляжу на ма і маўчу, мне падабаецца слухаць, як б'ецца яе сэрца. Мы паднімаемся і апускаемся назад. Пеніс таксама плавае.

Я выбіраю нам з ма вопратку, бо сёння мой Дзень нараджэння. Вопратка ма ляжыць на верхняй паліцы, а мая на ніжняй. Я выбіраю любімыя блакітныя джынсы ма з чырвонымі штрышкамі. Ма кажа, што яны для спецыяльных выпадкаў, бо там надта хутка псуюцца калені. Для сябе я выбраў жоўтую майку з капюшонам. Я стараюся асцярожна выцягнуць паліцу, але правы край усё роўна выязджае больш, і ма прыходзіцца грымнуць па ім. Мы разам нацягваем на мяне майку, і яна сплюшчвае мне ўвесь твар.

— Можа, расшыць крыху гарлавіну? — пытае ма.

— Ні ў якім разе, Хасэ.

Мы хочам заняцца спортам, таму здымаем шкарпэткі, бо босыя ногі не так слізгаюць. Спачатку мы пераварочваем стол дагары на ложак, а на яго кладзём дыванок. Мая дарожка праходзіць вакол ложка і цягнецца да шафы. Яна нечым нагадвае літару с.

— Глядзі, я магу збегаць туды і назад за шаснаццаць крокаў.

— Нічога сабе. А калі табе было чатыры, ты бегаў за васямнаццаць крокаў, так?

— Колькі разоў ты можаш сёння прабегчы туды і назад?

— Пяць.

— А можа, пяць разоў па пяць? Гэта ж твой любімы квадрат.

Мы лічым на пальцах і ў мяне атрымліваецца дваццаць шэсць, а ў ма — дваццаць пяць. Тады я лічу яшчэ раз і ў мяне таксама атрымліваецца дваццаць пяць.

Ма сочыць за часам па гадзінніку.

— Дванаццаць, сямнаццаць, — крычыць ма.

— Ты нядрэнна спраўляешся.

Я дыхаю: ху-ху.

— Хутчэй.

Я бягу нават хутчэй, чым лётае Супермэн.

Калі надыходзіць чарга ма бегчы, я запісваю ў блакнот час, калі яна пачынае бег і калі спыняецца. Тады можна ўбачыць, на колькі хутчэй яна бегае. Сёння яна прабегла на дзевяць секунд хутчэй за мяне, а гэта азначае толькі маю перамогу. Я вельмі рады.

— А давай зладзім гонку!

— Гучыць весела, але я ўжо аднойчы выцялася плячом аб камоду, памятаеш? — кажа ма.

Часам я забываю некаторыя рэчы, а потым ма нагадвае мне і я адразу ўспамінаю.

Мы здымаем мэблю з ложка і рассцілаем на падлогу дыван.

Я скачу на ложку, а ма толькі глядзіць, бо яна можа зламаць яго.

— Дзёрзкі разварот у паветры выдае наш амерыканскі чэмпіён.

На гадзінніку больш за дванаццаць — час абедаць. Мая любімая малітва пра хлеб надзённы. Я ў нас бос па гульнях, а ма — бос па стравах. Яна не дазваляе мне есці кашу тры разы ў дзень, бо я магу захварэць, і каша хутка скончыцца. Калі мне было нуль і адзін год, ма карміла мяне толькі перацёртай ежай, а зараз у мяне ўжо дваццаць зубоў, я магу многа чаго жаваць. Сёння ў нас на абед тунец і крэкеры. У ма баліць запясце, таму я павінен адкрыць банку з тунцом.

Мне не сядзіцца на месцы, таму ма прапаноўвае мне пагуляць у аркестр. Мы бегаем па пакоі і знаходзім гук у розных рэчах. Я барабаню па стале, а ма стукае на ножках ложка, потым па падушцы. Потым я дзінькаю лыжкай і відэльцам па дзвярах. Больш за ўсё мне падабаецца гук накрыўкі ад вядра са смеццем.

Я караскаюся на крэсла, каб дастаць кнігі з паліцы і пабудаваць дзесяціпавярховы будынак.

— Толькі дзесяць паверхаў, — смяецца ма.

Мне не смешна.

Я выбіраю «Дылан-землярый». Кніга ляжыць у самым нізе, і калі я дастаю яе, развальваецца ўвесь будынак.

— Зноў гэты Дылан? — незадаволена кажа ма.

На першых трох малюнках там сядзіць кот на нейкім каменні. Каменне цяжкае, як кераміка, з якой зроблены ванна, ракавіна, і туалет, але не такое гладкае. Каты і каменне ёсць толькі ў тэлевізары. На пятым малюнку кот падае, але ж у іх ажно дзевяць жыццяў, а ў нас з ма толькі адно жыццё.

Ма амаль заўсёды чытае кнігу «Трус, які ўцёк». Там у самым канцы мама ловіць маленькага сына-трусіка і кажа:

— На з’еш морквінку.

Трусоў можна ўбачыць толькі ў тэлевізары, але морква самая сапраўдная, мне падабаецца яе хруст. Горы не могуць быць сапраўднымі, бо яны занадта высокія. Аднойчы я бачыў, як жанчына вісела на вяроўцы, якую спусцілі з гары. Жанчыны там таксама не такія сапраўдныя, як ма. Хлопчыкі з дзяўчынкамі таксама. І мужчыны не сапраўдныя, акрамя Старога Ніка, але я і сам не ўпэўнены, сапраўдны ён ці не. Можа, толькі напалову? Ён прыносіць прадукты, падарункі, выносіць смецце, але ён не такі чалавек, як мы. Ён прыходзіць толькі ноччу, як кажан. Мне здаецца, што ма не хоча гаварыць пра яго, бо баіцца, што ён стане такім жа чалавекам, як мы.



Ілюстрацыя Вікенція Пузанкевіча.

Я паварочваюся, каб паглядзець на маю любімую карціну, дзе немаўля Ісус гуляе з Іаанам Хрысціцелем, які яму даводзіцца адначасова і стрыечным братам, і сябрам. Багародзіца таксама там, яна прыціскаецца да сваёй ма, а яна — бабуля Ісуса. На гэтым дзіўным малюнку няма ніякіх кветак, няма некаторых рук і ног. Ма кажа, што ён не скончаны. Ісус пачаў расці ў жывоціку Марыі пасля таго, як анёл прыляцеў да яе з нябёсаў. Але ён быў сапраўды класны, з пер’ем. Спачатку Марыя здзівілася і сказала:

— Як такое толькі можа быць?

Але потым дадала:

— Добра, няхай будзе так.

Калі на Калядкі Ісус вылез з жывоціка Марыі, яна паклала немаўля ў яслі, але не дзеля таго, каб каровы з'елі яго. Яна хацела, каб яны сагрэлі Ісуса сваім подыхам, бо ён быў незвычайным.

Ма выключае лямпу, і мы кладзёмся, але спачатку чытаем малітву пастухоў пра зялёныя пашы. Я думаю, што пашы, як падкоўдранікі, але пухнатыя і зялёныя, а не белыя і плоскія. Я крыху ссу, але з правай, бо ў левай амаль нічога няма. Калі мне было тры, у левай таксама было шмат малака, а зараз у мяне столькі спраў, што я ссу толькі некалькі разоў у дзень і ўвечары. Я б хацеў умець ссаць і гаварыць адначасова, але ў мяне толькі адзін рот.

Я амаль засынаю, але не зусім, а ма дакладна заснула. Я разумею гэта па яе подыху.

Пасля сну ма кажа, што нам не трэба прасіць сантыметр, бо можна лёгка зрабіць лінейку. Мы выкарыстоўваем скрынку ад кашы. Там намалявана старажытнаегіпецкая піраміда. Ма кажа, што мне трэба адрэзаць кавалачак з яе нагу, на якім яна абазначае дванаццаць штрышкоў. Я мераю нос ма: атрымліваецца пяць сантыметраў. А мой нос — роўна тры. Я запісваю гэту лічбу.

— Гэй, давай памераем пакой, — прапаную я.

— Увесь?

— Ну нам жа ўсё роўна няма чаго рабіць.

— Думаю, няма, — здзіўлена лыпае ма.

Я запісваю ўсе лічбы.

— Ведаеш, што? — пытаю я. — Кожная плітка на сцяне крыху большая за нашу лінейку.

— Ах, я ж ведаю плошчу плітак, напэўна, лінейка занадта кароценькая. Лягчэй будзе палічыць пліткі.

Я пачынаю лічыць з той сцяны, каля якой стаіць ложак, але ма кажа, што ўсе сцены аднолькавыя. Ёсць яшчэ адно правіла: шырыня сцен такая ж, як і шырыня падлогі. У мяне выходзіць тры з паловай метры з кожнага боку, а гэта значыць, што наша падлога квадратная. Стол у нас круглы, таму я не ведаю, што з ім рабіць. Ма мерае яго пасярэдзіне, там, дзе ён самы шырокі. У яе атрымліваецца адзін метр і дваццаць сантыметраў. Маё крэсла дзевяноста пяць сантыметраў у вышыню, на пяць сантыметраў ніжэй за мяне. Тады ма ўжо надакучвае ўсё мераць, і мы вырашаем спыніцца.

Я фарбую ўсе лічбы рознакаляровымі алоўкамі: жоўтым, сінім, зялёным, чырвоным і карычневым. Пасля гэтага старонка становіцца падобнай на наш дыван, але яна яшчэ больш недарэчная. Ма кажа, што яе можна выкарыстоўваць як падстаўку пад посуд на абед.

На абед я выбіраю спагеці, яшчэ трэба з'есці брокалі, якую выбіраю не я. Хоць яна і нясмачная, але вельмі карысная для здароўя. Я рэжу брокалі маленькім нажом на кавалачкі. Калі я праглынаю адзін, ма кажа:

— Ой, а куды гэта дзеўся той кавалачак?

На самай справе яна ўсё добра ведае, бо сырая гародніна спрыяе розуму. Яна разаграває два кружкі на пліце, а мне не дае дакрануцца да ручак. Яна баіцца, што нешта можа загарэцца, як у тэлевізары. Калі прысланіць ручнік або наша адзенне да гарачага круга, усё можа загарэцца і наш пакой згарыць датла. А мы будзем кашляць, задыхацца і крычаць ад невыноснага болю.

Мне не падабаецца пах варанай брокалі, але гэта лепш, чым пах ад зялёнага бобу. Уся гародніна сапраўдная, а марозіва ў тэлевізары — не. А я б хацеў, каб і яно было сапраўдным.

— А кветка сырая?

— Сырая, але яе нельга есці.
— А чаму на ёй больш няма кветак?
— Яна стамілася, — ма паціскае плячыма і дастае спагеці.
— Тады ёй трэба паспаць.
— Але ёй не стане лепш, калі яна прачнецца. Можа, у глебе ўжо не засталося ежы для яе.
— Яна можа з’есці маю брокалі.
— Але кветцы патрэбна спецыяльная ежа для раслін, — смяецца ма.
— Мы маглі б папрасіць падарунак у Ніка.
— У мяне ўжо цэлы спіс усяго, што нам трэба.
— Дзе?
— У маёй галаве. Я думаю, ім падабаецца рыба.
— Каму?
— Раслінам. Ім падабаецца пратухлая рыба. Ці толькі косткі?
— Цьфу.
— Наступны раз, калі будзем есці рыбныя палачкі, трэба закапаць адну, можа ёй спадабаецца.
— Толькі не маю!
— Добра, мой кавалачак.

Калі ма напаўняе нашы талеркі, я спяваю песню пра катлеткі, вось чаму я люблю спагеці.

Пасля абеду адбываецца нешта неверагоднае, мы пячом торт да Дня нараджэння. Я ўжо ўяўляю, які ён будзе смачны. І свечак будзе столькі ж, колькі мне гадоў, і яны будуць гарэць. Я пабачу, як гараць свечкі!

Я аблізваю лыжку, і ма ставіць торт у гарачы жывоцік пліты. Тады я пачынаю жангліраваць яечнай шкарлупінай. Ма ловіць адну і кажа:

— Можа, зробім Джэка з рознымі тварамі?
— Не, — кажу я.
— Яшчэ можам зрабіць гняздо з цеста. А заўтра размарозім буракі і пафарбуем яго.
— Лепш зробім змяю, — адказваю я.

Змяя з яек даўжэйшая за наш пакой. Яна жыве пад ложкам, каб не прыдумала ўкусіць нас.

Мы чуем, як пахне торт, і чакаем, чакаем, чакаем. Потым, калі торт астуджваецца, мы пасыпаем яго снегам. Але гэта не снег, а цукар, размочаны ў вадзе. Ма палівае ўвесь торт.

— А зараз, пакуль я памыю посуд, ты можаш пасыпаць торт шакаладам.
— Але ж у нас няма шакаладу.
— Я схавала яго. Гэта быў наш падарунак. — ма трасе мяшочак у паветры.
— Як добра! А дзе ён быў?
— А што я буду рабіць, калі мне прыйдзецца яшчэ раз нешта схаваць?
— Скажы! — крычу я.
— У мяне баляць вушы ад твайго крыку, — кажа ма без ценю ўсмешкі.
— Скажы мне, дзе патаемнае месца!
— Так, Джэк.
— Мне не падабаецца, што ў нас ёсць такія месцы.
— Якія?
— Дзе могуць хавацца зомбі.

— Ах.

— Ці людаеды або вампіры.

Яна дастае з шафы скрынку з рысам.

— Я схавала шакалад тут, з рысам, зразумела?

— Ага.

— Нічога страшнага тут няма. Ты можаш праверыць у любы час.

У пакеце пяць шакаладак: ружовая, сіняя, зялёная і дзве чырвоныя. Калі я спрабую упрыгожыць імі торт, мае пальцы фарбуюцца, і да іх прыліпае цукар, тады я аблізваю усё, што наліпла.

Настае час ставіць свечкі, але іх няма.

— Зноў ты крычыш! — кажа ма, закрываючы вушы.

— Але ж ты сказала, што ў мяне будзе торт! А гэта не торт, тут няма ніякіх свечак!

— Я павінна была лепш растлумачыць. У нас пяць шакаладак, а табе пяць гадоў, вось яны і азначаюць гэта, — кажа ма з шумным удыхам.

— Я не хачу гэты торт. Ён смярдзючы.

Я ненавіджу, калі ма моўчкі чакае.

— Супакойся, Джэк.

— Ты павінна была папрасіць свечкі, як падарунак у нядзелю.

— На мінулым тыдні нам трэба было замовіць таблеткі.

— Не нам, толькі табе! — крычу я.

Ма глядзіць на мяне так, быццам у мяне ненатуральна змяніўся твар. Потым яна кажа:

— Ты павінен памятаць, што нам трэба замаўляць тое, што яму лягчэй знайсці.

— Але ж ён можа ўсё прынесці.

— Можа, але, магчыма, яму нязручна.

— Чаму?

— Я проста маю на ўвазе тое, што яму, магчыма, прыйшлося б зайсці ў некалькі крамаў, каб знайсці нешта для нас. А можа ён і зусім не знайшоў бы, тады мы маглі б застацца наогул без падарунка.

— Ма, ён не ходзіць у крамы, яны ж толькі ў тэлевізары, — рагачу я.

Ма жуе губу. Потым яна глядзіць на торт.

— Я прашу прабачэння, я падумала, што шакаладкі заменяць табе свечкі.

— Дурная ма.

— Зусім бесталковая.

— Тупень, — кажу я лагодна. — Дастань свечкі на наступным тыдні, калі мне ўжо будзе шэсць.

— У наступным годзе. Ты маеш на ўвазе ў наступным годзе, — кажа ма.

Яна заплюшчвае вочы. Ма часта так стаіць цэлую хвіліну. Калі я быў маленькі, я думаў, што ў яе разрадзіўся акумулятар, і мне давядзецца папрасіць ў Ніка новы.

— Абяцаеш?

— Абяцаю, — кажа ма і расплюшчвае вочы.

Ма адразае мне велізарны кавалак. Пакуль яна не глядзіць, я кладу сабе ўсе пяць шакаладак.

— Ой, куды гэта яны ўсе зніклі?

— Ты ўжо ніколі не знойдзеш іх, ха-ха, — кажу я голасам якога-небудзь злодзея.

Я бяру адну з чырвоных і кладу ў рот ма. Яна жуе пярэднімі зубамі, бо яны не такія гнілыя. Ма ўсміхаецца.

— Глядзі, на месцы шакаладак засталіся адтуліны! — кажу я.

— Як кратары, — дадае ма і запускае ў адзін палец.

— А што такое кратары?

— Адтуліны, якія ўзніклі на месцы вулкана, дзе нешта ўзарвалася ці яшчэ што-небудзь.

Я кладу зялёную шакаладку назад у кратар і лічу да дзесяці. Буууух! У касмічнай прасторы адбываецца выбух і шакалад ляціць у мой рот. Мой імянінны торт — гэта лепшае, што я калі-небудзь еў.

Ма наядаецца. У пакоі становіцца цёмна.

— Сёння дзень вясновага раўнадзенства. Так сказалі па тэлевізары, калі ты нарадзіўся. У тым годзе яшчэ нават ляжаў снег, — кажа ма.

— А што гэта за дзень такі?

— Гэта азначае, што ў гэты дзень колькі святла, столькі і цемры.

Ужо надта позна, каб глядзець тэлевізар. Мы надта доўга вазілася з тортам. Капюшон ледзь не адарваў маю галаву, калі ма сцягвала з мяне майку. Я апранаю сваю самую любімую футболку, а ма завязвае мяшок для смецця і ставіць яго каля дзвярэй. На мяшок яна кладзе мой спіс. Я папрасіў у Ніка макароны, сачавіцу, тунец і сыр, калі не надта дарага.

— Можна папрасіць вінаград? Ён жа карысны.

Знізу ма дапісвае вінаград, а ў дужках піша, што мы былі б рады любой свежай або кансерваванай садавіне.

— Раскажаш мне якую-небудзь гісторыю?

— Толькі хуценька. Можа, пра Пернікавага Джэка?

Яна расказвае вельмі хутка і смешна, як Пернікавы Джэк выскачыў з печкі і доўга-доўга бег. Ніхто не мог злавіць яго. Але ў рэшце рэшт ён дазволіў лісе перанесці яго праз рэчку, і яна злопала Джэка.

Калі б я быў пірагом, я б сам сябе з’еў, тады б ніхто не разявіў рот.

Мы складваем рукі, заплюшчваем вочы і хутка-хутка молімся. Ма моліцца, каб сонца растапіла снег на нашым акне.

— Я хачу піць.

— Заўтра пап’еш, як толькі ўстанеш, — кажа ма.

На гадзінніку ўжо амаль дзевяць. Я залажу ў шафу і кладуся на падушку. Нада мною вісіць малюнак ма, а я ўжо і забыў пра яго.

— Тры пацалункі? — пытае ма.

— Не, пяць для містара Пяцігодкі.

Яна цалуе мяне пяць разоў і зачыняе дзверы шафы.

Праз адтулінкі праходзіць святло, таму я крыху бачу малюнак. Навобмацак папера шаўкавістая. Я ляжу роўна, і мая галава і ногі ўпіраюцца ў сценкі шафы. Я чую, як ма пераапранаецца і п’е дзве таблеткі. Ноччу яна заўсёды прымае па дзве, бо калі кладзешся, боль распаўсюджваецца, як вада.

— Наш сябар Воўка пачасаў вока, — пачынае ма.

— Мой сябар За кажа бла-бла, — я прыдумваю свой верш.

— Наш сябар Міколка пайшоў у школку.

— Наша сяброўка Зана ўстане заўтра.

— А вось і няма рыфмы! — кажа ма.

Я прытуляюся да сценкі шафы і назіраю за пакоем праз прасвет. Я бачу туалет, ванну, мой малюнак васьмінога і ма, якая складае нашу вопратку ў камоду.

— Ма?

— А-а?

— А чаму ты мяне хаваеш, як шакаладкі?

— Я проста не хачу, каб ён бачыў цябе. Калі ты быў дзіцём, я заўсёды загортвала цябе ў коўдру, калі ён прыходзіў, — кажа ма.

Яна гаворыць надта ціха, мабыць, сядзіць на ложку.

— Мне будзе балюча?

— Калі табе будзе балюча?

— Калі ён пабачыць мяне.

— Не, спі ўжо, — кажа ма.

— Скажы пра клапоў.

— Ноччу ўсе клапы спяць, няма чаго Джэка кусаць.

Клапоў надта цяжка ўбачыць, яны зусім маленькія. Часам я лічу іх. Апошні раз атрымалася ажно 347. Я чую, як ма выключае святло, і ў тую ж хвіліну цемра запаланяе наш пакой. Ма хаваецца пад коўдру.

Некаторыя разы я крыху бачыў Ніка, але я ніколі не бачыў яго ўсяго. У яго белыя валасы, і яны вісяць да самых вушэй. Магчыма, ён поглядам можа ператварыць мяне ў камень. Зомбі кусаюць дзяцей, каб ажывіць іх, вампіры смокчуць іх кроў, людаеды вешаюць іх уверх нагамі і з'ядаюць.

Цікава, ці паспела ўжо заснуць ма?

У шафе я заўсёды моцна заплюшчваю вочы, каб не чуць, калі прыйдзе Нік. А раніцай я прачнуся і пабягу ў ложак да ма, пассу малака і ўсё будзе добра. Але сёння мне цяжка заснуць, бо ў маім жывоціку плешчацца торт. Я пачынаю лічыць зубы. Я праводжу языком спачатку па верхнім радзе, потым па ніжнім. У мяне звычайна атрымліваецца па дзесяць, а гэта значыць, што ў мяне дваццаць зубоў.

Я не чую піску, а ўжо дакладна больш за дзевяць. Я пералічваю зубы, і ў мяне атрымліваецца дзевятнаццаць. Напэўна, я памыліўся або адзін знік. Я крыху грызу палец, потым яшчэ крыху і яшчэ. Я чакаю ўжо некалькі гадзін.

— Ма… Ён прыйдзе?

— Напэўна не. Хадзі да мяне.

Я адчыняю дзверы шафы і за секунду трапляю ў ложак. Пад коўдрай надта горача, і мне прыходзіцца высунуць адну нагу, каб не згарэць. Я ссу з левай, потым з правай, малака дастаткова. Мне не хочацца засынаць, бо да наступнага Дня нараджэння надта доўга.

Вочы рэзала святло ад лямпы. Я высоўваюся з-пад коўдры і зажмурваюся. Ма стаіць каля лямпы такая яркая, а потым выключае яе, і зноў становіцца цёмна. Святло зноў трапляе ў вочы. Ма ўключае і выключае лямпу апошнія тры секунды. Напэўна, гэта дапамагае ёй заснуць, раз яна робіць гэта ноччу.

Я чакаю, пакуль яна канчаткова выключыць лямпу.

— Усё зрабіла? — шапчу я ў цемры.

— На жаль, я разбудзіла цябе.

— Нічога страшнага.

Яна кладзецца ў ложак такая халодная, а я абвіваю яе рукамі.

*Пераклад з англійскай Таццяны Ігнацьевай.*

Крыніца: http://royallib.com/book/Donoghue_Emma/Room_A_Novel.html


Фота Дар'і Смольскай

# Як з'явілася ідэя перакладу «Хронік Нарніі» на беларускую мову

**Беларускія аматары фантастыкі неўзабаве папоўняць сваю калекцыю перакладам легендарных «Хронік Нарніі» на родную мову. Ужо адбылася прэзентацыя першай часткі серыі — «Пляменніка Чараўніка». Перакладчыца Надзея Кім расказала Хрысціне Чарнушэвіч, у чым важнасць творчасці Клайва Льюіса для сучаснага грамадства і з якімі цяжкасцямі можна сутыкнуцца падчас мастацкага перакладу.**

**— Раскажыце, калі вы ўпершыню прачыталі «Хронікі Нарніі» і чым вас так уразіў гэты твор?**

— «Хронікі Нарніі» я чытала ў арыгінале і скончыла чытанне апошняй кнігі летась. Больш за ўсё мяне ўразілі «Пляменнік Чараўніка» і «Апошняя Бітва», бо яны пісаліся апошнімі і атрымаліся больш «дарослымі». Прынамсі, для мяне. У іншых кнігах апісваюцца прыгоды, а ў гэтых — пачатак і канец Нарніі, яе стварэнне Асланам і яго суд напрыканцы, выбары людзей і жыхароў Нарніі. Усё гэта захапіла мяне неверагоднай дакладнасцю апісання таго, што адбываецца ў нашым жыцці. Калі чытаеш творы Клайва Льюіса, узнікае адчуванне, што ён капаўся ў тваёй галаве. Асабліва гэта заўважна ў яго выдатным творы «Лісты Круцяля», які нядаўна быў выдадзены па-беларуску. Да таго ж, у першай кнізе мяне ўразіла выпрабаванне, з якім сутыкаецца галоўны герой Дыгары. Яму, насуперак розуму і падступным словам Вядзьмаркі, трэба было абраць выкананне волі Аслана, то-бок Бога. З такім кожны з нас ці сутыкнуўся, ці сутыкнецца. І адказ будзе ўплываць на ўсё астатняе жыццё.

**— Як з'явілася ідэя перакладу «Хронік Нарніі» на беларускую мову?**

— Гэту ідэю ўжо даўно выношвалі мой муж, Андрэй Кім, а таксама Аляксей Шэін. Андрэй пераклаў «Льва, Вядзьмарку і Гардэроб» яшчэ ў 2008 годзе, іншыя нашы сябры працавалі над астатнімі часткамі. Як евангельскія хрысціяне, мы разумеем важнасць перакладу гэтага твора. Бо Льюіс і сам быў евангельскім хрысціянінам, і ўсе сем кніг «Хронік Нарніі» напоўнены алегорыямі на Біблію і Ісуса Хрыста, якога аўтар паказвае праз вобраз льва Аслана. Сам Льюіс лічыў, што чытаць серыю варта ў храналагічным парадку, то-бок пачынаць з «Пляменніка Чараўніка». Гэтую частку даручылі перакладаць мне.

**— Колькі часу вам спатрэбілася на пераклад?**

— Яго трэба было выканаць за паўтара месяца. Нават калі прысвячаць працы цэлыя дні, за такі тэрмін магчыма зрабіць толькі сам пераклад тэксту на беларускую — ні на якую рэдактуру часу не застаецца. Рэдактура заняла яшчэ два месяцы, і нават пасля патрабаваліся даволі сур'ёзныя праўкі. Калі ўсё абагульніць, то можна сказаць, што на адэкватны пераклад такой кнігі, як «Пляменнік Чараўніка», патрэбна месяцаў пяць. Я перакладаю на беларускую мову яшчэ і фільмы, якія мы з мужам агучваем у межах праекта «Кінаконг». Вось мая асноўная дзейнасць. Аднак падчас працы над першай часткай «Хронік» гэта давялося адкласці.

**— Напэўна, большасць беларускіх чытачоў знаёмілася з «Хронікамі Нарніі» ў перакладзе на рускую мову Наталлі Траўберг. Ці абапіраліся вы неяк на гэты пераклад ва ўласнай працы?**



Надзея Кім. Як з'явілася ідэя перакладу «Хронік Нарніі» на беларускую мову

— Я не чытала «Хронікі Нарніі» па-руску. Спадарыня Траўберг — безумоўна, вялікі перакладчык, тым не менш я мяркую, што выкарыстанне рускіх перакладаў можа нашкодзіць працы. Мы знаходзімся пад моцным уплывам рускай мовы і культуры, і шмат рускіх перакладаў маюць вялізны аўтарытэт на нашай тэрыторыі, нават калі яны не карэктныя (напрыклад, у перакладзе «Рабінзона Круза» выкінуты значныя часткі тэксту). Адтуль недакладнасці могуць патрапіць і ў беларускія пераклады. Асабліва гэта заўважна пры перакладзе імёнаў, калі можа змяніцца нават пол персанажа. Да таго ж беларускі перакладчык, выкарыстоўваючы рускі пераклад, ужо не мае патрэбы вышукваць сапраўднае значэнне напісанага ў арыгінале, ён можа проста перакласці з рускай. А гэта не заўсёды карэктна: прыводзіць да русізмаў, калькавання, збядняе мову перакладу і разбэшчвае перакладчыка.

**— Што, на вашу думку, з'яўляецца самым складаным у мастацкім перакладзе?**

— Складаней за ўсё зрабіць так, каб пераклад было прыемна і лёгка чытаць. У нашым выпадку беларусам. Замежная літаратура і фільмы поўняцца культурнымі, гістарычнымі і бытавымі асаблівасцямі краін, з якіх паходзіць твор. Перадаваць гэтыя асаблівасці вельмі цяжка (асабліва жарты, звязаныя з вымаўленнем, напісаннем ці аднолькавым гучаннем пэўных слоў), а бывае — што й немагчыма. Таксама трэба сачыць за парадкам слоў, каб сказы гучалі натуральна. Бывае, перакладчык і рэдактар ледзь не б'юцца ў спрэчцы, як па-беларуску сказаць лепей: поезд ці цягнік, люстра ці жырандоль, не пацэліць ці спудлаваць. Часам гэта прыводзіць да таго, што пасярод тэксту трапляюцца надта ўжо спецыфічныя словы, па значэнне якіх трэба лезці ў слоўнік. Пераклад можа быць ідэальна літаральным, могуць выкарыстоўвацца аўтэнтычныя беларускія словы, але калі чытаючы яго, чалавек пачуваецца, нібыта прадзіраецца праз кустоўе, — гэты пераклад не лепшы.

**— Чаму, на ваш погляд, важна папулярызаваць твор Льюіса сярод беларускіх чытачоў?**

— Кнігі Льюіса — гэта гонар Брытаніі, яе класіка. У нас больш вядомы сябра Льюіса Толкіен, але мы паспрабуем гэта выправіць! Я лічу, што творы Льюіса, паколькі ён, як і Толкіен, быў адданым Богу хрысціянінам, утрымліваюць сапраўдныя каштоўнасці, адсутнасць якіх у сучасным свеце вядзе да ўсіх магчымых праблем. Кнігі Льюіса вучаць любові, суперажыванню, адказнасці, якой нам усім цяпер так не стае, якую рэклама кшталту «Ты гэтага варты» і «Вазьмі зараз, плаці потым» забірае ў нас. А галоўнае — яго творы звяртаюць увагу на Таго, Хто стварыў увесь свет і нас і Які ведае адказы на ўсе нашы пытанні. Да таго ж Льюіс піша вельмі зразумела, цікава, жыццёва, захапляльна, аптымістычна — не паглыбляецца ў дэпрэсіўны постмадэрнізм і дэструкцыю, якой цяпер поўна на кніжных паліцах. На беларускую мову перакладаецца шмат бязрадаснай літаратуры — Сартр, Набокаў, По… Дый беларускія аўтары не часта пішуць светлыя, жыццесцвярджальныя творы. На мой погляд, нам не хапае твораў, ад якіх хочацца жыць, а не ўпадаць у дэпрэсію.

**— Наколькі складана фінансаваць такое выданне?**

— Фінансавы бок стварае пэўныя праблемы, але іх можна пераадолець. Краўдфандынгавая кампанія, запушчаная на сайце talaka.by, заклікае людзей дапамагчы нам сабраць суму, неабходную толькі для друку кнігі. Выдаткі на рэдактуру, пераклад, ілюстрацыі, сайт не ўключаныя, іх мы плануем пакрываць праз іншыя крыніцы. Вядома, добра было б знайсці спонсараў, але ж крызісны год стварае дадатковыя нязручнасці.

**— Ці адчуваецца ўжо попыт на будучае выданне?**

— На прэзентацыі перакладу замовілі больш за 40 асобнікаў, у нас часта пытаюцца, дзе можна будзе набыць кнігу. АНТ нават уключыла нас у рэпартаж пра Міжнародную кніжную выставу. Вядомая інтэрнэт-крама OZ.by таксама замовіла для сябе 50 асобнікаў. Краўдфандынгавая кампанія сабрала 13 % патрэбнай сумы за некалькі дзён, хоць асноўная рэкламная кампанія яшчэ не пачалася. Будзем спадзявацца, што попыт не спадзе, і «Пляменнік Чараўніка» неўзабаве з'явіцца не толькі ў Мінску, але і па ўсёй Беларусі.

**Леанід Смілавіцкі, Захар Шыбека**

*Тэль-Авіўскі ўніверсітэт*

# Беларуская юдаіка: праблемы станаўлення і перспектывы развіцця

*Уступ.* Па прыкладзе іншых дзяржаў у агульнай юдаіцы неабходна вылучаць беларускую. Нават пры вывучэнні перыяду 1795—1917 гадоў, калі беларускай дзяржаўнасці не існавала, цяпер у рамках расійскай (1772—1917), польскай (1921—1939) і савецкай (1917—1991) юдаік неабходна адрозніваць беларускую рэгіянальную юдаіку. Без усяго гэтага немагчыма асэнсаванне ролі яўрэяў у беларускай гісторыі, уключэнне беларускіх яўрэяў у кантэкст беларускай гістарыяграфіі, выяўленне беларускіх рэгіянальных асаблівасцяў у агульнаяўрэйскай гісторыі.

Якія параметры беларускай юдаікі? У яе рамках даследуюцца яўрэі Беларусі ўсімі навукоўцамі свету, а таксама любая яўрэйская праблематыка, якой займаюцца беларускія грамадзяне. Беларуская юдаіка складаецца з айчыннай і замежнай. Працы, выдадзеныя яўрэйскімі і іншымі аўтарамі да эміграцыі і пасля эміграцыі ў Беларусі, адносяцца да айчыннай беларускай юдаікі, а працы, надрукаваныя імі ж пасля эміграцыі па-за межамі краіны, — да замежнай беларускай юдаікі.

Прапанаванае вылучэнне беларускай юдаікі мае ўмоўны характар. Яўрэі рассеяны па ўсім свеце. Іх нельга прыватызаваць, падзяліць паміж паасобнымі краінамі пражывання. Таму і беларуская юдаіка будзе заўсёды рэгіянальнай адносна юдаікі сусветнай.

Яўрэяў Беларусі даследавалі як самі яўрэі Беларусі і Ізраіля, так і беларускія, польскія, рускія, літоўскія, украінскія, нямецкія, амерыканскія, англійскія аўтары, пачынаючы прыкладна ад 1880 гадоў да сучаснасці. За межамі Беларусі створана вялікая бібліяграфія. Замежная беларуская юдаіка з'яўляецца вельмі важнай, але спецыфічнай тэмай, якая патрабуе спецыяльнага вывучэння[1].

Ад пачатку 1990-х назапашаны вялікі электронны рэсурс па яўрэйскай тэме. Інтэрнэт становіцца неад'емнай часткай бібліяграфіі. Вольф Рубінчык прысвяціў гэтай праблеме спецыяльны артыкул[2]. Яго пачынанне варта працягнуць. У дадзеным артыкуле зрабіць гэта, праўда, не ўяўляецца магчымым з прычыны спецыфікі крыніцы і абмежаванасці плошчы, адведзенай для публікацыі нашых матэрыялаў. Можна толькі адзначыць, што для публікацыі звестак пра беларускіх яўрэяў інтэрнэт шырока выкарыстоўваецца Маркам Бернштэйнам, які з'яўляецца адным з вядучых рэдактараў рускамоўнай Вікіпедыі, Аркадзем Шульманам, галоўным рэдактарам часопіса «Мишпоха», Вадзімам Акапянам, дырэктарам грамадскага музея гісторыі і культуры яўрэяў Беларусі ў Мінску.

Дадзеная праца прысвечана вывучэнню гістарыяграфіі айчыннай юдаікі. Для яе напісання выкарыстаны друкаваныя кнігі і артыкулы ў часопісах аб гісторыі беларускага яўрэйства, спіс якіх складзены Захарам Шыбекам на аснове базы даных, што стваралася Леанідам Смілавіцкім у Цэнтры дыяспары пры Тэль-Авіўскім універсітэце на працягу больш як дваццаці гадоў.

Пра бібліяграфію айчыннай беларускай юдаікі пісалі гісторыкі Аляксей Братачкін[3], Іна Герасімава[4], Эмануіл Іофе[5], Яўген Розенблат[6], ужо згаданы Вольф Рубінчык, Леанід Смілавіцкі[7], Вольга Сабалеўская[8], Іна Соркіна[9], Зміцер Шэвелёў[10]. Аднак саспела неабходнасць новага асэнсавання.

*Расійскі перыяд.* Беларуская юдаіка пачала зараджацца ў сярэдзіне XIX стагоддзя ва ўлонні расійскай юдаікі. Яна фармавалася як рэгіянальная. Тады ў перыядычным друку (пера-

[1] Толькі адзін з аўтараў гэтага артыкула доктар Леанід Смілавіцкі мае за межамі Беларусі каля 200 публікацый па гісторыі беларускіх яўрэяў, у тым ліку навуковыя манаграфіі: Катастрофа евреев в Беларуси. 1941—1941. Тель-Авив, 2000, 432 с.; Евреи в Турове. История местечка мозырского Полесья. Иерусалим, 2008, 846 с.; Jewish Life in Belarus. The final decade of the Stalin regime, 1944—1953, Central European University Press (CEU Press), Budapest — New York, 2014, 346 pp.

[2] Рубінчык Вольф. Інтэрнэт, яўрэі і Беларусь // ARCHE 2000. № 3. (Яўрэйскі нумар). Рэжым доступу :http://arche.bymedia.net/3-2000/rubin300.html

[3] Братачкін Аляксей. Заўсёды іншыя: ці Як знайсьці «месца» для яўрэяў у беларускай гісторыі // pARTisan. 2012. № 22. (Рэжым доступу: http://partisanmag.by/?p=4177).

[4] Герасимова И. Проблемы изучения истории евреев Беларуси в отечественной историографии // Евреи Беларуси. История и

важна газетах) пачалі змяшчацца краязнаўчыя і рэпартажныя матэрыялы пра беларускіх яўрэяў. Іх вывучэнню спрыяў агульны працэс эмансіпацыі яўрэйства і з'яўленне ў сувязі з гэтым руска-яўрэйскай прэсы (1860-я гады). Гэта было абумоўлена і імкненнем царскага ўрада русіфікаваць яўрэйскае насельніцтва імперыі, каб лягчэй інтэграваць яго ў расійскае грамадства.

Першая кніга пра яўрэяў Беларусі выйшла ў 1870 годзе. Яе аўтар, магілёўскі чыноўнік Мікалай Гаратынскі, даказваў існаванне небяспекі з боку яўрэяў для расійскай дзяржавы[11]. Аўтарам першай навуковай працы пра беларускіх яўрэяў стаў прафесар Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта Сяргей Бершадскі, які ў 1880-х гадах пачаў публікацыю архіўных дакументаў па юдаіцы і надрукаваў навуковую манаграфію аб прававым становішчы яўрэяў у Вялікім Княстве Літоўскім[12].

Антыяўрэйскія пагромы ў 1881—1882 гадах далі новы імпульс вывучэнню гісторыі яўрэяў, ужо пераважна самімі яўрэямі. У канцы XIX стагоддзя сфарміравалася яўрэйская навуковая гістарычная школа з цэнтрам ў Санкт-Пецярбургу на чале з Сямёнам Дубновым. Прадстаўнікі гэтай школы заклалі традыцыю называць яўрэяў «рысы аселасці» (тэрыторыя сучасных Беларусі, Украіны і Літвы) «русскими евреями», а не расійскімі. Хоць уласна ў рускіх губернях імперыі яўрэі амаль не жылі пастаянна з-за дыскрымінацыйнай палітыкі царызму. У сувязі з гэтым цікава, што «История евреев в России» (1914) Юлія Гесэна амаль цалкам грунтуецца на дакументах Беларусі і Літвы, дзе яўрэі называлі сябе літвакамі. Дарэчы, паняцце «русские евреи» звязвалася з падданствам рускаму цару і абумоўлівалася заангажаванасцю яўрэйскай эліты ў рускую культуру. І гэтую акалічнасць важна ўлічваць пры вывучэнні бібліяграфіі беларускай юдаікі.

*Перыяд 1918—1921 гадоў.* Ужо ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) садзейнічаў вывучэнню яўрэяў Беларусі. Пад яго апекай Змітрок Бядуля (Самуіл Плаўнік) выдаў у Мінску ў 1918 годзе невялічкую кнігу «Жыды на Беларусі: бытавыя штрыхі». Беларускія яўрэі ўпершыню свядома вылучаліся ў якасці асобнага аб'екта даследавання.

*Перыяд савецкай лібералізацыі 1920-х гадоў.* Стваральнікі народна-дэмакратычнай канцэпцыі гісторыі Беларусі (Вацлаў Ластоўскі, Усевалад Ігнатоўскі, Мітрафан Доўнар-Запольскі) прытрымліваліся ў 1920-х гадах ідэі этнацэнтрызму. Найважнейшай іх задачай быў доказ легітымнасці беларускай дзяржаўнасці. Таму яўрэйская тэматыка імі не закраналася. Гісторыкі-яўрэі групаваліся пераважна вакол яўрэйскага аддзела Інстытута беларускай культуры (Інбелкульта), ператворанага ў 1929 годзе ў Акадэмію навук БССР. Іх намаганнямі быў створаны навуковы часопіс на ідыш пад назвай «Цайтшрыфт» (1926—1932). Самуіл Агурскі ўжо ў 1926 годзе выпусціў першую ў БССР кнігу пра яўрэяў, прысвечаную гісторыі яўрэйскага рэвалюцыйнага руху ў Беларусі[13]. Камуністычная цэнзура прапускала выданні пераважна аб удзеле яўрэяў у рэвалюцыйным руху, асуджэнні антысемітызму, мадэрнізацыі жыцця яўрэяў у мястэчках і пра дабальшавіцкі час (публікацыі Ізраіля Сосіса, які заявіў пра сябе публікацыямі яшчэ ў царскі перыяд). У міжваенны перыяд сфарміравалася цэлая плеяда яўрэйскіх савецкіх пісьменнікаў, даніну памяці якім аддаў у сваіх успамінах адзін з іх — Гірш Рэлес[14].

*Перыяд замоўчвання ролі яўрэяў у гісторыі Беларусі. 1932—1991 гады.* У гэты перыяд яўрэйская нацыянальная тэматыка, за выключэннем крытыкі сіянізму і асуджэння паслядоўнікаў Бунда, была забаронена аж да 1992 года. Праўда, пасля смерці Сталіна спецыялістам па юдаіцы дазволілі ў рамках блізкаўсходніх даследаванняў займацца біблеістыкай і вывучэннем старажытных тэкстаў на іўрыце. Яўрэйскія нарматыўныя

---

культура. Сборник статей, АРТИ-ФЕКС. Вып. I. Минск, 1997. С. 7—18.
[5] Иоффе Э. Г. Еврейская общественная жизнь, образование, изучение еврейской истории в современной Беларуси; Актуальные проблемы изучения истории евреев Белоруссии // Прошлое и настоящее евреев Беларуси. Минск, 1998; Иоффе Э. Г. Интервью газете «Авив», ноябрь-декабрь 2011 г.
[6] Розенблат Е. Холокост евреев Беларуси в отечественной и зарубежной историографии: социально-экономические аспекты // Берасцейскі хранограф. Сб. науч. трудов Брестского гос. университета. Вып. II (Брест, 1999). С. 205—226.
[7] Smilovitski L. Revival of the Historiography of Belarus's Jews, 1992—1995 // Shvut, No 3(19), 1996, pp. 209—219; Historiography of the Holocaust in Belorussia, 1996—1998, Shvut, No 7(23), 1998, pp. 189—203.
[8] Соболевская О. Евреи белорусской части черты оседлости конца XVIII — начала XX вв. в трудах российских и белорусских историков

даследаванні ў БССР праводзіліся ў мізэрным аб'ёме (біблеіст Мікалай Нікольскі, гісторык і філосаф Гілер Ліўшыц). Зусім зразумела, што спецыялісты па юдаіцы вымушаны былі пісаць свае працы ў адпаведнасці з пастулатамі класавай барацьбы і атэізму.

Дыктат бальшавікоў не змог поўнасцю прыбраць яўрэяў з прац па гісторыі Беларусі. Пра іх пісалі, часам не называючы па імені, беларускія савецкія ўрбаністы Сцяпан Шчарбакоў, Зіновій Капыскі, Ефраім Карпачоў, Анатоль Грыцкевіч, гісторык рэвалюцыйнага руху Міхась Біч.

Негатыўныя адносіны камуністаў да юдаікі тлумачацца, перш за ўсё, ідэалагічнымі прычынамі. Камуністычныя прынцыпы не пакідалі месца для нацыянальных рухаў і рэлігійных пачуццяў. Узмацненне нацыянальнай самасвядомасці не адпавядала паскоранаму курсу Крамля на зліццё ўсіх нацый у адзіны савецкі народ. Як ні парадаксальна, але сярод прычын была і перанятая бальшавікамі ад царызму традыцыя антысемітызму. Сталінскі хаўрус памятаў пра нацыяналізм яўрэяў былых часоў, а таму баяўся іх нават у той нязначнай колькасці, што засталася пасля Халакосту. Побач з беларусамі пасляваенныя яўрэі былі русіфікаваны і саветызаваны ў большай ступені, чым іншыя народы Савецкага Саюза. Спецыфічна беларускіх прычын замоўчвання ролі яўрэяў не існавала. Сітуацыя антысемітызму ў эшалонах улады БССР тлумачыцца пераважна паслухмянасцю і залежнасцю мясцовага кіраўніцтва ад Масквы.

Яўрэі рассеяны па ўсім свеце. Іх нельга прыватызаваць, падзяліць паміж паасобнымі краінамі пражывання. Таму і беларуская юдаіка будзе заўсёды рэгіянальнай адносна юдаікі сусветнай

*Перыяд Рэспублікі Беларусь. 1991—2015 гады.* З распадам СССР яўрэйская тэматыка стала адной з найбольш прываблівых. Яўрэйскую тэму стала ўжо нельга замоўчваць. Ды ў гэтым і не было неабходнасці. Яна выклікала павышаную цікавасць, як і ўсё іншае, што з'яўлялася раней забароненым плодам. Немалаважным было і тое, што для даследчыкаў яўрэяў адкрылася магчымасць атрымліваць гранты, публікаваць артыкулы ў навуковых часопісах, удзельнічаць у навуковых канферэнцыях, выдаваць кнігі. Матэрыялы пра яўрэяў пастаянна друкаваліся ва ўсіх перыядычных выданнях. Прафесар Эмануіл Іофе ў ліку першых прадэманстраваў комплексны падыход да вывучэння гісторыі яўрэяў Беларусі[15]. Агульнае ўяўленне пра духоўную культуру яўрэяў Беларусі даў у сваёй кнізе А. Скір[16].

Здавалася б, суверэннасць дазволіць паказаць месца яўрэяў у беларускай гісторыі. Аднак і праз 70 гадоў галоўнай задачай беларускіх гісторыкаў заставалася легітымізацыя беларускай дзяржаўнасці. Тым не менш у неафіцыйнай, нацыянальнай канцэпцыі гісторыі яўрэі ўспаміналіся намнога часцей, чым у перыяд існавання савецкай улады. У афіцыйнай жа, прарасійскай канцэпцыі гісторыі знаходзіў адлюстраванне толькі нацысцкі генацыд супраць яўрэйскага народа ў гады Другой сусветнай вайны. Тады, у 1990-я гады, узнік міф пра недатычнасць беларусаў да яўрэйскіх пагромаў і Халакосту.

Беларуская дзяржава фінансавала ўсяго адзін навуковы праект «Нацысцкая палітыка генацыду супраць яўрэйскага насельніцтва Беларусі ў 1941—1944 гадах» (кіраўнік — Эмануіл Іофе), разлічаны на тры гады (1995—1997). Аднак беларуская юдаіка, атрымаўшы міжнародную падтрымку, перажывала на мяжы 2000-х гадоў пік свайго ўздыму па колькасці публікацый на аснове папярэдне назапашаных матэрыялаў. Першыя кнігі пра гісторыю яўрэяў Беларусі мелі пераважна навукова-папулярны характар. Сярод

// Цайтшрыфт. Часопіс для даследавання яўрэйскай гісторыі, дэмаграфіі і эканомікі, літаратуры, мовы і этнаграфіі. Том 7 (2). Менск — Вільня. 2012. С. 94—101.

[9] Соркіна І. Штэтлы Беларусі «пад мікраскопам» даследчыкаў // Цайтшрыфт. Часопіс для даследавання яўрэйскай гісторыі, дэмаграфіі і эканомікі, літаратуры, мовы і этнаграфіі. Том 7 (2). Менск — Вільня. 2012. С. 87—93.

[10] Шавялёў Зміцер. Агляд развіцця яўрэйскіх даследаванняў у Беларусі на мяжы XX — XXI ст. // Беларускі гістарычны агляд. Том 10. Сш. 1—2 (18—19). Снежань 2003. С. 188—200.

[11] Н.Н. Записки о евреях в Могилеве на Днепре и вообще в Западном крае России. Москва, 1870; 2-е изд. 1878; 3-е изд. 1882.

[12] Бершадский С. Литовские евреи: история их юридического и общественного положения в Литве от Витовта до Люблинской

пазнейшых публікацый у галіне айчыннай юдаікі можна вылучыць навуковыя манаграфіі Леаніда Смілавіцкага, Якава Басіна, Вольгі Сабалеўскай[17].

Заснаваная Германіяй Мінская гістарычная майстэрня (кіраўнік Кузьма Козак) выдавала мемуары беларускіх яўрэяў, якія ўцалелі ў мінулай вайне, і матэрыялы навукова-практычных канферэнцый, прысвечаных Халакосту. У 1997—2001 гадах ажыццяўлялася публікацыя штогодніка «Евреи Беларуси. История и культура» пад рэдакцыяй Іны Герасімавай. Вялікі ўнёсак у збор і публікацыю матэрыялаў пра яўрэяў Магілёўшчыны зрабіў Аляксандр Ліцін. Яго прыклад пераняў краязнавец Анатоль Шнэйдэр, які ў 2015 годзе выдаў кнігу пра яўрэяў Талачына і Талачыншчыны.

Асобны кірунак у беларускай юдаіцы запачаткаваў Аркадзь Шульман, кіраўнік праекта «Галасы яўрэйскіх мястэчак. Віцебская вобласць». Апантаны высакароднай мэтай захаваць для нашчадкаў памяць пра яўрэйскі штэтл, ён піша кнігі пра асобныя мястэчкі Віцебшчыны на аснове ўспамінаў іх ураджэнцаў і выдае іх, як мінімум, раз на год.

Новым кірункам у беларускай юдаіцы стала вывучэнне старажытнай і новай гісторыі Ізраіля (Эмануіл Іофе, Зміцер Шэвелеў, Марына Шэвелева, Пінхас Палонскі, Зміцер Мазарчук).

Адзін з аўтараў гэтага артыкула актуалізаваў вывучэнне супольнай барацьбы беларусаў і яўрэяў супраць царызму і за нацыянальнае вызваленне[18]. Не прамінулі даследчыкі гісторыі яўрэяў Беларусі і такую рэдкую, але цікавую тэму як спорт[19]. Паказчыкам развіцця любой навуковай дысцыпліны можа быць колькасць абароненых навуковых дысертацый. За гады незалежнасці (1991—2015) па яўрэйскай тэматыцы было абаронена 16 кандыдацкіх дысертацый. З іх 2 прысвечаны старажытнаму часу, 7 — перыяду Расійскай імперыі, адна — міжваеннаму перыяду, 4 — Другой сусветнай вайне, 2 — сучаснасці Ізраіля. Дысертантаў цікавілі такія тэмы, як жыццё беларускіх яўрэйскіх абшчын (5 дысертацый), Халакост у Беларусі (4), гісторыя яўрэяў на зямлі продкаў (4), рэвалюцыйны і нацыянальны рух пад уладай расійскіх імператараў (3).

Выявілася ўзаемная зацікаўленасць яўрэйскіх і беларускіх аўтараў гісторыяй сваіх суседскіх народаў. Іна Герасімава пачала даследаваць удзел яўрэяў у дзейнасці ўрада БНР. Кніга Леаніда Смілавіцкага мела назву «Евреи Беларуси: из нашей общей истории, 1905—1953 гг.», а значыць і адпаведны кірунак. Беларускае недзяржаўнае выдавецтва «Тэхналогія» выпусціла ў свет кнігу Гірша Смоляра пра Мінскае гета, якую аўтар напісаў ва ўмовах адсутнасці цэнзуры ў Ізраілі (2002). Першую спробу ацэнкі яўрэйскай культуры ў кантэксце беларускай гісторыі зрабіў у сваёй невялікай манаграфіі прафесар Леанід Лыч[20]. З 2011 года штогод выдаецца часопіс «Цайтшрыфт», які пераняў назву і тэматыку такога ж выдання даваенных гадоў (галоўны рэдактар Зміцер Шэвелёў). Трэці том штогодніка (2013) вылучаецца добрым навуковым узроўнем. Гэта дае падставу меркаваць, што ён можа заняць у беларускай юдаіцы важнае месца.

Пэўны ўклад у вывучэнне гісторыі яўрэяў Беларусі ўнosілі работнікі гісторыка-краязнаўчых музеяў краіны. Яўрэйская тэма, пераважна пра Халакост, прысутнічае ў музеях Чэрвеня, Дзятлава, Іўя, Смілавіч, Наваградка, Міра, Горак. Піянерам у гэтай справе выступіла дырэктар Наваградскага гісторыка-краязнаўчага музея Тамара Вяршыцкая. Уцягненню музеяў у мемарыялізацыю ахвяр Халакосту садзейнічае Яд ва-Шэм, Нацыянальны мемарыял Катастрофы і гераізму, які ў 2011 і 2014 гадах правёў у Іерусаліме для музейшчыкаў Беларусі адпаведныя семінары.

За гады суверэннай Беларусі найбольш вывучанай аказалася балючая для яўрэяў тэма Халакосту (Марат Батвіннік, Эмануіл Іофе, Яўген Розенблат, Раіса Чарнаглазава, Даніла Раманоўскі, Кузьма Козак і інш.). У неабходнасці яе даследавання быў дасягнуты, дарэчы, кансэнсус усіх гісторыкаў

унии, 1388—1569 гг. СПБ, 1883.

[13] Агурский, С. Еврейский рабочий класс в коммунистическом движении: 1917—1921гг. Минск: Госиздат БССР, 1926

[14] Релес Гирш. Еврейские советские писатели Беларуси. Воспоминания. Минск, 2006.

[15] Иоффе Э. Страницы истории евреев Белоруссии. Краткий научно-популярный очерк. Минск: АРТИ-ФЕКС, 1996.

[16] Скир А. Духовная культура евреев Беларуси: Историко-литературный очерк. Минск, 1995.

[17] Смиловицкий Л. Евреи Беларуси: из нашей общей истории, 1905—1953 гг. Минск, 1999; Басин Яков. Большевизм и евреи, 1920-е.: Исторические очерки. Минск, 2008; Соболевская О.А. Повседневная жизнь евреев Беларуси в конце XVIII — первой половине XIX века. Гродно: ГрГУ им. Я. Купалы, 2012.

Першая кніга пра яўрэяў Беларусі выйшла ў 1870 годзе. Яе аўтар, магілёўскі чыноўнік Мікалай Гаратынскі, даказваў існаванне небяспекі з боку яўрэяў для расійскай дзяржавы

Беларусі. Асабліва каштоўнымі з'яўляюцца публікацыі дакументаў і ўспамінаў пра Халакост[21]. Іх выяўленне і выхад у свет сталі магчымымі дзякуючы падтрымцы і непасрэднаму ўдзелу ў гэтай справе дырэктара Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь Вячаслава Селяменева. Вывучэнне Халакосту не прыпыняецца, знаходзяцца ўсё новыя і новыя факты, сведчанні відавочцаў[22].

На другім месцы — яўрэйскае жыццё і яўрэйскія мясціны ў гарадах і мястэчках Беларусі (Аркадзь Шульман, Уладзімір Ліўшыц, А. Я. Розенберг і інш.), што, хутчэй за ўсё, звязана з чаканымі турыстычнымі запатрабаваннямі. На трэцім — творчасць Марка Шагала і біяграфіі іншых знакамітых яўрэяў (Аркадзь Падліпскі, Людміла Хмельніцкая і інш.). Гісторыя беларускіх яўрэяў дасавецкага часу і міжваеннага перыяду 1921—1939 гадоў таксама прыцягвала многіх даследчыкаў (Яўген Анішчанка, Вольга Сабалеўская, Якаў Басін, Іна Герасімава, Зміцер Сляповіч, Леанід Зубараў і інш.).

Важна адзначыць, што многія гісторыкі неяўрэйскага паходжання плённа працавалі на ніве беларускай юдаікі па ўласнай ініцыятыве (Яўген Анішчанка, Андрэй Замойскі, Эдуард Савіцкі, Вольга Сабалеўская, Юля Функ, Людміла Хмельніцкая, Іна Соркіна, Аляксандр Лакотка, Леанід Лыч, Кузьма Козак, Андрэй Кіштымаў і інш.).

Развіццё юдаікі ў перыяд суверэннасці Рэспублікі Беларусь патрабуе больш паглыбленага вывучэння. Папярэдне ў ім можна выдзеліць чатыры этапы: 1) 1991—1996 гады, калі юдаіка адраджалася; 2) 1997—2003 гады, калі назіраўся ўсплёск публікацый пераважна навукова-папулярнага характару; 3) 2004—2010 гады, калі публікацыі пачалі адрозніваюцца навуковым падыходам; 4) 2011—2015 гады, калі беларуская юдаіка ўступіла ў паласу некаторага спаду (штогод у сярэднім з'яўлялася 9 кніжных публікацый, тады як на папярэднім этапе — 13). Хутчэй за ўсё, гэты нязначны спад звязаны з завяршэннем пэўнага этапу ў вывучэнні яўрэяў Беларусі, калі ўзнікла неабходнасць назапашвання новых фактаў і пераасэнсавання іх новым пакаленнем даследчыкаў.

У мэтах аб'яднання намаганняў працаўнікоў беларускай юдаікі, у тым ліку замежнай, аўтары гэтага артыкула выпрацавалі праект стварэння Інстытута гісторыі яўрэяў Беларусі ў рамках Цэнтра вывучэння дыяспары пры Тэль-Авіўскім універсітэце, дзе яны працуюць. Падрыхтаваны да друку яўрэйскі нумар «Belarusian Review», што стала вынікам супрацоўніцтва ініцыятыўнай групы з яго рэдактарам Кірылам Касцянам.

*Высновы.* Прыведзеныя матэрыялы даюць падставу сцвярджаць аб існаванні беларускай юдаікі як асобнага кірунку ў беларускай гістарыяграфіі, які сфарміраваўся ў пачатку XXI стагоддзя. Але, у параўнанні з суседнімі краінамі, даследчыкі гісторыі Беларусі пакуль недастаткова надаюць увагі яўрэям. Юдаіка яшчэ не стала ў Беларусі поўнавартаснай акадэмічнай тэмай. На тое ёсць прычыны.

1. Пасля распаду СССР у суверэннай Беларусі яшчэ не сцвердзілася традыцыя разглядаць гісторыю яўрэяў як частку беларускай гісторыі.
2. Беларуская юдаіка не падтрымліваецца ў акадэмічных структурах краіны.

---

[18] Шыбека Захар. Яўрэі і беларусы ў змаганні за свабоды ў царскай Расіі (1795—1904) // Бунт у імя свабоды: забыты беларускі ген? Рэдактары Пётр Рудкоўскі, Кацярына Колб. Варшава, 2013. С. 35—49. = Jews and Belarusians in the Fight for Freedom in Tsarist Russia (1795—1904) / Revolt in the Name of Freedom: Forgotten Belarusian Gene? Edited by Piotr Rudkouski, Kaciaryna Kolb. Warsaw, 2013. Pp. 36—50; Shybeka Zachar. Jews in Belarusian national projects from the beginning of the 19 th century till 1905 (problem setting) // Belarusian Political Science Review. Volume 2, 2012—2013. Pp. 102—115.

[19] Лиокумович Семен, Евреи Белоруссии в большом спорте. Минск, 2007.

[20] Лыч Л. Яўрэйская культура Беларусі — як агульны духоўны набытак. Мінск, 2012.

3. Яўрэйская нацыянальная праблематыка лічыцца далікатнай і навукоўцы-неяўрэі асцерагаюцца яе датыкацца.
4. Пастаяннае дыстанцыяванне ад Расіі і Польшчы да гэтага часу схіляе беларускіх гісторыкаў да этнацэнтрызму.
5. Стрымлівае няведанне моў ідыш і іўрыта.
6. Варта нагадаць і пра антысемітызм, недасведчанасць у рэальным жыцці яўрэяў Беларусі.

*Перспектывы*. Для далейшага развіцця беларускай юдаікі важна забяспечыць тры найважнейшыя ўмовы.

1. Юдаікай павінны займацца не толькі яўрэі, але і беларусы, якія мусяць папярэдне аб'яднацца, арганізавацца, намеціць новыя планы. Арыентавацца пры гэтым варта не столькі на яўрэйскага, колькі на беларускага чытача. Чаму так? Старэнне і памяншэнне ў Беларусі колькасці яўрэйскага насельніцтва ў выніку эміграцыі вядзе да таго, што пра гісторыю яўрэяў усё больш няма каму пісаць і чытаць, акрамя беларусаў.
2. Юдаіка павінна заняць належнае ёй месца ў беларускай гістарыяграфіі. Беларусы з'яўляюцца пераемнікамі гісторыка-культурнай спадчыны народа, які ў выніку Халакосту і вымушанай масавай эміграцыі выпаў з беларускага грамадства.
3. Для каардынацыі навуковай дзейнасці важна заснаваць па прыкладзе іншых краін адзіны цэнтр беларускай юдаікі. Створаны ў 2010 годзе пры Еўрапейскім гуманітарным універсітэце Цэнтр вывучэння гісторыі і культуры яўрэйства Беларусі ў арганізацыйным плане пакуль нічым сябе не выяўляе.

Перспектыўнымі кірункамі развіцця беларускай юдаікі, напрыклад, могуць стаць: вывучэнне адносін беларусаў да Халакосту, напісанне гісторыі лакальных яўрэйскіх абшчын, вывучэнне ўнёску ўраджэнцаў Беларусі ў яўрэйскую цывілізацыю, даследаванне яўрэйскага друку на ідыш (БССР была адзінай краінай свету, дзе ідыш з'яўляўся дзяржаўнай мовай), публікацыя крыніц і прац замежных аўтараў, больш грунтоўнае даследаванне нацыянальнага руху і нацыянальных адметнасцяў яўрэяў, навуковае і мастацкае асэнсаванне вопыту беларуска-яўрэйскага сужыцця ў мінулым і, нарэшце, напісанне гісторыі яўрэяў Беларусі.

> Антыяўрэйскія пагромы ў 1881—1882 гадах далі новы імпульс вывучэнню гісторыі яўрэяў, ужо пераважна самімі яўрэямі. У канцы XIX стагоддзя сфарміравалася яўрэйская навуковая гістарычная школа з цэнтрам ў Санкт-Пецярбургу на чале з Сямёнам Дубновым

Ператварэнне беларускай юдаікі ў асобны кірунак беларускай гістарыяграфіі дае падставу вылучаць у картатэках усіх бібліятэк Беларусі рубрыку беларускай юдаікі, а ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі варта было б, увогуле, стварыць асобны аддзел беларускай юдаікі і сабраць там усе выданні пра яўрэяў Беларусі, у тым ліку кнігі, часопісы, газеты на ідыш.

Не выключана, што яўрэйская тэма пачне распрацоўвацца ў мастацкай літаратуры. У беларуска-яўрэйскіх узаемаадносінах было нямала інтрыг, прыгод, драматычных момантаў. Беларускія пісьменнікі пакуль не скарысталіся такім багаццем сюжэтаў.

Яўрэі-літвакі рассыпаны па ўсім свеце. Яны займалі важнае месца ў гісторыі Беларусі, Еўропы, міжнароднага сіянізму. І гэта стварае для спецыялістаў у галіне беларускай юдаікі доўгатэрміновыя перспектывы для ажыццяўлення міжнароднага навуковага супрацоўніцтва.

[21] Judenfrei! Свободно от евреев. История Минского гетто в документах. Минск 1999; Холокост в Беларуси, 1941—1944 гг. Документы и материалы. Сост. А.Г. Иоффе, Г.Д. Кнатько, В.Д. Селеменев и др. Минск, 2002; Выжить — подвиг. Воспоминания и документы о Минском гетто. Сост. И. Герасимова, В. Селеменев. Минск: НАРБ, 2008; Свидетельствуют палачи. Уничтожение евреев на оккупированной территории Беларуси в 1941—1944 гг. Документы и материалы. Сост. В. Адамушко, И. Герасимова, В. Селеменев. Минск, 2009.

[22] Память и время. Альманах. Вып. 1. / Составители: В.Н. Акопян и др. / Предисловие и послесловие Леонида Смиловицкого. Минск: Медисонт, 2014; Рывкин Михаил и Шульман Аркадий. Хроника страшных дней. Трагедия Витебского гетто. 2-е изд. Витебск, 2014.

# У культуролагаў-гебраістаў — шмат магчымасцяў

*Размовы на факультэце сацыякультурных камунікацый*



**Кацярына Захарэвіч вырашыла даведацца, дзе ў Мінску можна вывучаць іўрыт. Аказалася, што ў БДУ нават вучаць спецыяльнасці культуролаг-гебраіст. Зрэшты, лепш пра гэта раскажа *Ліза Мендэлеўна Кобрына*, выкладчык іўрыта на гуманітарным факультэце, выкладчык на курсах у Ізраільскім культурным цэнтры пры пасольстве Дзяржавы Ізраіль, аўтар навуковых прац у галіне методыкі выкладання.**

— Выкладанне іўрыта на Беларусі пачыналася ў грамадскіх яўрэйскіх арганізацыях і на іх умовах, а ў дзяржаўных установах — у Міжнародным гуманітарным інстытуце (МГІ) на кафедры юдаікі, якой кіравала тады Галіна Веніямінаўна Сініла. Менавіта там назапашвалі першы вопыт выкладання іўрыта як замежнай мовы. МГІ пасля быў закрыты, а студэнтаў і выкладчыкаў перадалі факультэту міжнародных адносін БДУ. Да таго, як інстытут закрылі, іўрыт вывучалі студэнты спецыяльнасцяў «Культуралогія» і «Сучасныя замежныя мовы». Потым паведамілі, што недзе існуе канкрэтны пералік сучасных замежных моў, і іўрыт не ўваходзіць у гэты спіс. З таго часу яго сталі вывучаць толькі культуролагі. З кожным годам змяншалася колькасць гадзін на вывучэнне іўрыта і колькасць форм справаздач у вучэбным цыкле. Адпаведна, статус дысцыпліны зніжаўся. Пасля таго, як кафедру культуралогіі перадалі з ФМА на гуманітарны факультэт, мы выпускалі культуролагаў-германістаў, амерыканістаў і гебраістаў. На кожную з гэтых спецыяльнасцяў прымалі не штогод, а па чарзе. Да таго ж, мы перайшлі на 4-гадовы цыкл замест 5-гадовага. Германісты і амерыканісты вывучалі іўрыт факультатыўна, і толькі культуролагі-гебраісты — у больш-менш абавязковай форме. Апошні набор склаў 11 чалавек, вучыцца з іх 9. У перспектыве не будзе размежавання на германістаў, амерыканістаў і гебраістаў. Будуць спецыяльнасці «Культуралогія фундаментальная» і «Культуралогія прыкладная». І, наколькі я разумею, дысцыпліна іўрыт будзе вывучацца толькі факультатыўна. І ці спрацуе тут фактар «студэнцкай ляноты», не магу сказаць адназначна.

Такое становішча не адпавядае ні павелічэнню цікавасці да гебраістыкі, іўрыта, культуры Ізраіля, ні патрэбе ў гебраістах, ні ажыўленню адносін паміж краінамі, бо наладжваюцца і гандлёвыя зносіны, і турыстычныя. Да таго ж, варта памятаць гісторыю нашай краіны, вялікі ўклад яўрэяў у яе эканоміку і культуру, улічваць вялікую рускамоўную абшчыну, значная частка якой — выхадцы з Беларусі. Цікавасць у грамадстве да гэтага ёсць, і не толькі навуковая, але і практычная. Гэта бачна і па колькасці тых, хто хоча вывучаць іўрыт у Ізраільскім культурным цэнтры, і па колькасці замоў перакладаў як з іўрыта, так і на яго ў бюро перакладаў. Спецыялісты ў гебраістыцы патрабуюцца, але з добрым узроўнем ведання іўрыта. А

культуролаг-гебраіст, які не мае гэтага ўзроўню, неканкурэнтаздольны, не можа працаваць з першакрыніцамі і іншымі дакументамі, абменьвацца з калегамі інфармацыяй і досведам, павышаць кваліфікацыю. У нас жа за чатыры гады здаюць два залікі. Каб павысіць узровень ведаў, патрабуецца болей вучэбных гадзін і іншыя формы кантролю.

*Студэнтам, якія прыходзяць на спецыяльнасць «гебраістыка», амаль няма дзе ўзяць базу ведаў. У 132-й школе Мінска існуе яўрэйскае аддзяленне. Але Ліза Мендэлеўна кажа, што ведаў выпускнікоў гэтай школы хапала звычайна на адзін семестр, потым жа яны займаліся на тым узроўні, што і астатнія. Ёсць студэнты, якія сапраўды «гараць», бо выбралі прафесію свядома. Але ёсць, як заўсёды, прыклады адваротнага стаўлення — студэнтаў, якія вучацца пад прымусам. Ёсць і такія, хто проста «атрымлівае вышэйшую адукацыю».*

*Ліза Мендэлеўна пачала працаваць, калі іўрыта як аб'екта навуковых даследаванняў у Мінску не існавала:*

— Быў такі чалавек — Тэў'е Рувімавіч Ліўшыц. Я лічу яго заснавальнікам вывучэння іўрыта ў Мінску. Ён быў інжынерам і пачаў вывучаць мову, калі яму было 60 гадоў, на пенсіі. Тэў'е Рувімавіч займаўся гэтым 14 гадоў, і гэта быў геній, таму што акрамя слоўнікаў не было ў яго нічога: час савецкі, стаўленне да іўрыта адпаведнае — поўная ізаляцыя, адсутнасць літаратуры, спецыялістаў… І ён вывучыў мову, працуючы са слоўнікамі. Ён убачыў у іўрыце сістэму, «раскруціў на вінцікі» і паказаў аматарам, што там, унутры. Ён казаў, што іўрыт — мова для інжынераў, так яе і трэба выкладаць. Гаворка ішла пра аналітычны метад у выкладанні.

Мы з мужам, Самуілам Меeравічам Абрамавым, таксама старшым выкладчыкам нашай кафедры (на жаль, памёр), былі вучнямі Тэў'е Рувімавіча. Абодва мы перакваліфікаваліся з іншых спецыяльнасцяў. Я выкладала машынабудаўнічыя дысцыпліны ў структуры сярэдняй спецыяльнай адукацыі, была выкладчыкам вышэйшай катэгорыі з дваццацігадовым стажам. Самуіл Меeравіч загадваў аддзелам ў праектным будаўнічым інстытуце. Кожны з нас працаваў у цікавым для яго кірунку: спецыялізацыя мужа — граматыка, а мая — методыка выкладання.

**— А як вы супрацоўнічаеце з ізраільскім бокам?**

Ізраільскі культурны цэнтр — куратар і ініцыятар усяго, што звязана з выкладаннем іўрыта ў Мінску. Цяпер ёсць групы вывучэння мовы ў самім Ізраільскім культурным цэнтры і групы, якія ён курыруе, на факультэце міжнародных адносін БДУ, у педагагічным універсітэце імя М. Танка, у Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце. Любы чалавек у Мінску можа вучыць іўрыт у гэтых групах. Нашы культуролагі-гебраісты заўсёды мелі магчымасць наведваць Цэнтр, карыстацца яго бібліятэкай, дзе супрацоўнікі дапамагаюць падбіраць кнігі, напрыклад, для курсавой ці дыпломнай працы, варта толькі прыйсці ці нават патэлефанаваць бібліятэкару. Студэнты маглі і могуць удзельнічаць ва ўсіх культурных праграмах, наведваць канцэрты, лекцыі, фестывалі, выставы. Ізраільскія лектары па лініі пасольства Ізраіля і Ізраільскага культурнага цэнтра прыязджаюць сюды са сваімі выступленнямі, чытаюць лекцыі ў беларускіх універсітэтах.

Спецыяльнасць «культуролаг» — такая, што можа мець дачыненне да ўсяго і дазваляе працаваць амаль у любой сферы — у абшчыне, музеі, турыстычным бізнесе, выкладаць у школе — літаратуру, гісторыю, грамадазнаўства, сусветную мастацкую культуру, мовы, працаваць у рэдакцыі газеты, дзіцячым садку і г. д. Магчымасцяў — вялікая колькасць. Зразумела, не кожнаму хочацца ехаць з Мінска ў раёны, але няма такога, каб хтосьці пасля заканчэння ўніверсітэта застаўся зусім без працы. Культуролагі-гебраісты знаходзяць месца па спецыяльнасці, але толькі калі яны канкурэнтаздольныя ў сэнсе ведання мовы. Ёсць прыклады, калі нашы выпускнікі працуюць з насельніцтвам у яўрэйскіх абшчынах, у Міністэрстве замежных спраў, два нашы выпускнікі працуюць у беларускім пасольстве ў Ізраілі. Аднак гэта выпускнікі мінулага, калі статус іўрыта быў значна вышэйшы, а колькасць гадзін на яго вывучэнне нашмат большая.

**Гутарка працягваецца з аспірантам гуманітарнага факультэта БДУ Аляксеем Жабінскім.**

**— Раскажыце, калі і чаму вы вырашылі займацца гебраістыкай? Чым яна вас прываблівае?**

— Скажу шчыра, ніколі не думаў, што буду займацца гебраістыкай, але заўсёды дакладна ведаў, што абяру для сябе рэдкую і цікавую спецыяльнасць. Цвёрдае рашэнне паступіць на кафедру культуралогіі БДУ было прынята ў апошнім класе школы, калі мой рэпетытар па грамадазнаўстве параіў мне заняцца менавіта гебраістыкай. Жаданне гэта ўзмацняла магчымасць вывучыць рэдкую мову — іўрыт, якой, трэба прызнаць, у нашай краіне валодае вельмі вузкае кола людзей. І, вядома ж, паступіўшы і правучыўшыся некалькі месяцаў, я прыйшоў да высновы, што зрабіў правільны выбар, і нікольki аб ім не шкадую.

Найстарэйшая і найбагацейшая яўрэйская культура, гэты велізарны пласт, які ўзбагаціў усю сусветную гісторыю, які даў ёй Біблію, геніяльных пісьменнікаў, філосафаў і навукоўцаў, не можа пакінуць абыякавым ніводнага адукаванага чалавека. Цікава, што такую культуру стварыў народ, які шмат вякоў быў вымушаны жыць у выгнанні, які цярпеў бедствы і пакуты на працягу прыкладна дзвюх тысяч гадоў, нягледзячы на тое, што, дзе б ён ні знаходзіўся, заўсёды імкнуўся прыўнесці ў культуру тытульных нацый штонебудзь унікальнае, арыгінальнае, ні на што не падобнае, тым самым узбагачаючы яе, але не забываючы пра сваю, аўтэнтычную яўрэйскую. Гэта і ўнікальныя кантакты яўрэяў з мусульманскім светам у X—XII стагоддзях, якія пазней атрымала назву «залатога стагоддзя» яўрэйскай культуры, і яе росквіт у Іспаніі, і многае іншае. Акрамя таго, яўрэі стварылі найлепшыя таямнічыя тэксты — тэксты Танаха (Старога Запавету), Талмуд і іншыя. Усё гэта не можа не прывабліваць.

**— Наколькі складана вывучыць мову «з нуля»? З якімі праблемамі-складанасцямі вы сутыкнуліся?**

— Хацелася б адзначыць, што любую замежную мову мы заўсёды пачынаем вывучаць «з нуля». Іншая справа, што англійская або



нямецкая мовы пачынаюць пранікаць у наша жыццё з самага дзяцінства, а вось з іўрыта акрамя папулярнага ва ўсім свеце «шалом», як правіла, большасці нічога не вядома. Не магу сказаць, што вучыць іўрыт мне было вельмі ўжо складана. Вядома, калі першы раз убачыш тэкст, здаецца, што ён «неадольны». Аднак некалькі месяцаў заняткаў даюць зразумець, што няма нічога немагчымага.

Пачаткоўцу іўрыт здаецца экзатычным — і гэта, скажам так, падаграvae цікавасць да яго вывучэння. Як і ў любой замежнай мове, у іўрыце ёсць свае нюансы, правілы і выключэнні з іх, тое, што немагчыма растлумачыць, а трэба проста адчуць. Ну або вывучыць. Праблемы і складанасці, вядома ж, былі, чаго вартае адно толькі спражэнне дзеясловаў! *(Смяецца).* Але на дапамогу заўсёды прыходзілі прафесіяналы. Што датычыцца кафедры культуралогіі БДУ, то тут — прафесіяналы самага высокага класа. Да гэтага часу з цеплынёй успамінаем Лізавету Мендэлеўну Кобрыну, чалавека незвычайнай эрудыцыі і першакласнага выкладчыка.

**— Чаго вы чакалі, пачынаючы вывучаць іўрыт? Што ён даў вам на самай справе?**

— Чаго я чакаў ад іўрыта? Перш за ўсё — гэта замежная мова, якая ніколі не бывае лішняй. Магчымасць займацца перакладамі, прайсці

стажыроўку ў Ізраілі, глядзець навіны і чытаць газеты на іўрыце — усё гэта прыцягвала мяне (ды і не толькі мяне!) да вывучэння. Але ў выніку гэтым не абмежавалася. Зараз, калі ў аспірантуры я вывучаю феномен Халакосту, у мяне ёсць магчымасць выкарыстоўваць першакрыніцы, свабодна аперыраваць у сваім даследаванні яўрэйскай навуковай тэрміналогіяй. Можна сказаць, што з заканчэннем універсітэта вывучэнне іўрыта не спынілася. Наадварот, да гэтага часу даводзіцца нешта шукаць, перакладаць, некаторыя крыніцы даступныя толькі на іўрыце.

**— Ліза Мендэлеўна Кобрына сказала, што іўрыт — гэта «мова інжынераў». А што іўрыт для вас? З чым яго можна параўнаць, якія ён выклікае асацыяцыі?**

— О, гэта на самай справе так. Да гэтага часу перад вачыма стаяць формы для стварэння слоў, схемы, табліцы. Іўрыт — ідэальная мова для матэматыка. Тут усё дакладна, усё падпарадкоўваецца правілам (хоць і ёсць некаторыя выключэнні), у мовы адмысловая структура — лагічная і зразумелая, па меншай меры, тым, хто ведае рускую ці беларускую мовы. І гэта небеспадстаўнае меркаванне. Бо бацькам сучаснага іўрыта лічаць Эліэззэра Бэн-Егуду, нашага земляка, ураджэнца Лужкоў Дзісенскага павета Віленскай губерні (цяпер — Шаркаўшчынскі раён Віцебскай вобласці). Справай усяго свайго жыцця ён лічыў адраджэнне іўрыта ў якасці сучаснай гутарковай мовы, якая на працягу васямнаццаці стагоддзяў лічылася мовай выключна кніжнай.

Для мяне іўрыт — адмысловы арганізм, дзе адно не можа функцыянаваць без другога, і ўсе элементы залежаць адзін ад аднаго. Самае галоўнае ў вывучэнні іўрыта — нічога не ўпусціць, быць сканцэнтраваным і ўважлівым. Маючы прабел у асновах, ніколі не выйдзеш на новы ўзровень. Упэўнены, што добра можа ведаць іўрыт толькі чалавек мэтанакіраваны, дысцыплінаваны, працавіты.

**— Наколькі, на ваш погляд, мэтазгодна і лагічна займацца гебраістыкай менавіта на навуковым узроўні тут, на Беларусі?**

— На мой погляд, гэта надзвычай актуальна сёння. Яўрэйская культура пакінула прыкметныя сляды ў культуры беларускай, яе спадчына цэніцца ў нас і сёння, а Беларусь, у сваю чаргу, падаравала Ізраілю і свету выдатных палітыкаў, дзеячаў культуры і мастацтва. Гэта і першы прэзідэнт Ізраіля Хаім Вейцман, і геніяльныя мастакі Парыжскай школы Марк Шагал і Хаім Суцін, і нобелеўскі лаўрэат Жарэс Алфёраў, і многія іншыя. Да таго ж, шматлікія яўрэйскія тэмы, у тым ліку тыя, якія датычацца беларускай культуры, працягваюць заставацца недаследаванымі на навуковым узроўні. Пакуль не перакладзены на беларускую мову і шматлікія выдатныя яўрэйскія тэксты. Таму поле даследаванняў у беларускіх гебраістаў вельмі шырокае.

Пытанне аб факультатыўным характары вывучэння гебраістыкі ў будучыні, наколькі мне вядома, пакуль застаецца адкрытым. Аднак вельмі не хацелася б, каб гэтая галіна прыйшла ў заняпад. На Беларусі дастаткова моцная школа гебраістыкі, маецца шэраг высокакваліфікаваных спецыялістаў у гэтай галіне, сярод іх і мой навуковы кіраўнік Галіна Веніямінаўна Сініла — вядомы гебраіст, біблеіст, літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук, прафесар, аўтар шэрагу публікацый, навучальных дапаможнікаў і манаграфій, прысвечаных даследаванню старажытных яўрэйскіх тэкстаў. Думаю, што ў гебраістыкі ў Беларусі ўсё яшчэ наперадзе. Ёсць нямала прыкладаў, калі закрытыя спецыяльнасці або дысцыпліны ўводзіліся зноў, знаходзячы, калі можна так сказаць, новае жыццё.

**— Якія перспектывы мае выпускнік гуманітарнага факультэта з веданнем іўрыта ў плане працы?**

— Думаю, што ведаючы замежную мову, у нашым выпадку — іўрыт, перспектыву можна бачыць заўсёды. І яна на самай справе ёсць. Сярод маіх сяброў — выпускнікоў кафедры культуралогіі БДУ ёсць тыя, хто актыўна ўжывае свае веды іўрыта ў даследчай навуковай дзейнасці, ёсць таксама і тыя, хто займаецца прафесійным перакладам, сінхронным перакладам, часта бывае ў камандзіроўках у Ізраілі, ёсць нават і тыя, хто служыць у пасольстве Рэспублікі Беларусь у Дзяржаве Ізраіль. Усё залежыць ад жадання распарадзіцца набытымі ведамі.

Віктар Жыбуль

# Цфанія Кіпніс — чалавек беспамылковага густу

**Мастак Цфанія-Гедалія Кіпніс (1.12.1905—26.04.1982) нарадзіўся ва Украіне, а памёр у Ізраілі. Аднак шмат гадоў ён пражыў у Беларусі — з 1929 па 1971 год. Пры гэтым некаторыя перыяды яго творчага шляху былі звязаны і з Расіяй, дзе ён спачатку ваяваў на фронце, а потым непрацяглы час працаваў у Хабараўску і Бірабіджане. Атрымліваецца, што яго мастацкая чыннасць належыць некалькім краінам — амаль так, як і ў выпадку з яго больш знакамітым сучаснікам Маркам Шагалам. І гэтаксама, як і Шагал, Кіпніс, незалежна ад месца жыхарства, адчуваў сябе найперш сынам яўрэйскага народа.**



Цфанія-Гедалія Кіпніс

Яшчэ ў юнацкія гады ён, як перакананы аграрны сіяніст, выступаў за пераезд яўрэяў на гістарычную радзіму — у Ізраіль, браў актыўны ўдзел у падпольных яўрэйскіх арганізацыях «Гашомэр Гацаір» і «Гехалуц», за што ў 1923 годзе трапіў у жытомірскую турму [5, с. 2]. А роўна праз пяцьдзясят гадоў за нацыянальную актыўнасць яму зноў давялося адседзець у турме, толькі ўжо ў мінскай…

На Беларусі Цфанія Кіпніс, выпускнік Кіеўскай яўрэйскай мастацкай студыі і былы студэнт маскоўскага Вышэйшага мастацка-тэхнічнага інстытута, працаваў галоўным чынам як тэатральны мастак: афармляў дэкарацыі, распрацоўваў эскізы касцюмаў. Менавіта гэта вызначала яго прафесійную дзейнасць. Найбольш працяглай і плённай была яго праца ў Беларускім дзяржаўным яўрэйскім тэатры, галоўным мастаком якога Ц. Кіпніс быў з 1934 па 1941 год. Гэты тэатр пад кіраўніцтвам вядомых рэжысёраў Льва Літвінава і Віктара Галаўчынера ставіў п’есы драматургаў, сярод якіх былі прызнаныя класікі яўрэйскай літаратуры: Шолам-Алейхем, Аўром Гольдфадэн, Мэндэле Мойхер-Сфорым, Іцхак-Лейбуш Перэц, Майсей Кульбак [2, с. 365 — 366].

У розныя перыяды жыцця ён працаваў таксама ў Тэатры рабочай моладзі (яўрэйскі маладзёжны тэатр) у Мінску (1930), Тэатры юнага гледача БССР (1937), Украінскім дзяржаўным яўрэйскім тэатры (1946—1948), Бірабіджанскім дзяржаўным яўрэйскім тэатры (1948—1949), Беларускім дзяржаўным тэатры лялек (1952—1956), Бабруйскім беларускім вандроўным калгасна-саўгасным тэатры (1957), Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Янкі Купалы (1957). Цфанія Кіпніс аздобіў, напрыклад, п’есы «Як гартавалася сталь» рэжысёраў Е. Міровіча і Ю. Палічынецкага (паводле кнігі Мікалая Астроўскага), «Дзед і жораў» і «Цудоўная дудка» Віталя Вольскага, «Раскіданае гняздо» Янкі Купалы (разам з Б. Малкіным), «Дамы і гусары» Аляксандра Фрэдра [1, с. 71—72]. Усяго ж на яго творчым рахунку — афармленне каля сямідзесяці спектакляў яўрэйскіх, беларускіх, расійскіх, украінскіх рэжысёраў. Нават на мастацкіх выставах Ц. Кіпніс больш экспанаваў эскізы тэатральных дэкарацый, чым, напрыклад, жывапісныя пейзажы!

Яшчэ адна з найбольш цікавых галін яго творчасці — праца ў жанры сяброўскага шаржа. Аб’ектамі іроніі мастака найчасцей рабіліся яго сучаснікі — літаратары. Пагартаем, напрыклад, нумары часопіса «Заклік», які выходзіў у 1933 годзе. Вось намаляваны Кіпнісам знакаміты пісьменнік Змітрок Бядуля — аўтар аповесці «Салавей»: адна яго рука абседжаная маленькімі

птушачкамі (трэба думаць, таксама салаўямі), а другою ён круціць ручку катрынкі. Дапаўняе малюнак эпіграма Кандрата Крапівы:

*На варштаце твораў шмат —*
*І… стаіць сабе варштат.*
*Без варштату жыву я*
*Ды ўсё цісну «Салаўя».*
*Прыпеў*
*Салавей, салавей, пташачка,*
*Канарэечка жалабна пяець…*

Празаік Сымон Баранавых намаляваны з вялікай галавой і скурчаным целам, ніжняя частка якога вельмі нагадвае расліннае карэнне. Не пабаяўся Кіпніс зачапіць і ваяўнічага крытыка Лукаша Бэндэ. Увасоблены ў шаржы, той сядзіць задам наперад на кані, трымаючы ў руцэ доўгую лінейку — «аршын», з якім Бэндэ падыходзіў да разгляду твораў. А на хвасце каня сядзіць іншы крытык «бэндаўскай закалкі» — Алесь Кучар. Чаму? А таму што Бэндэ ў адной са сваіх прамоваў сказаў: «тав. Кучар вельмі цягнуўся ў хвасце літаратурнага руху».

Яшчэ некаторыя шаржы Ц. Кіпніса друкаваліся ў часопісе «Чырвоная Беларусь», газеце «Літаратура і мастацтва». А ў 1932 годзе яны выйшлі пад адной вокладкай з пародыямі Міколы Хведаровіча. Кніга мела лаканічную назву «Ха!», а яе аўтары схаваліся за псеўданімамі. Паэт-парадыст назваўся Сабасцянам Старобінскім, а мастак — Дэ Вэ Бэкам, бо, акрамя тэатра, працаваў у Беларускім дзяржаўным выдавецтве, якое скарачалася як ДВБ. Нават сённяшні чытач усміхнецца, пабачыўшы шаржы на А. Александровіча, З. Астапенку, П. Броўку, Ц. Гартнага, С. Дарожнага, А. Звонака, Т. Кляшторнага, С. Ліхадзіеўскага, М. Лужаніна,



Тодар Кляшторны.






Цішка Гартны.

В. Маракова, І. Плаўніка, Я. Пфляўмбаўм, С. Фаміна, У. Хадыку і… самога аўтара пародый — М. Хведаровіча (з пазнакай «Пародыя Кліма Качкіна», а гэта калектыўны псеўданім Змітра Астапенкі і Юлія Таўбіна). З дапамогаю, здавалася б, немудрагелістых штрыхоў мастак дасягаў незвычайнай гратэскавасці, гіпербалізаванасці, а часам і з'едлівай саркастычнасці ў іранічнай абмалёўцы сваіх сучаснікаў. Вось Цішка Гартны ў чорных акулярах, у якога з носа ідзе паравозны дым. Вось манументальны Максім Лужанін на пастаменце, складзеным з кніг іншых паэтаў. А вось Алесь Звонак сядзіць на дзіцячым драўляным коніку і размахвае шабляй, узятай не за той канец. Сцяпан Ліхадзіеўскі ўвогуле атрымаў і ад мастака, і ад парадыста немалую дозу чорнага гумару. Кіпніс намаляваў паэта з адарванымі рукамі і нагамі, на крывых пратэзах і са шлангам пад пахай, а Хведаровіч напісаў:

*Адрэзалі вушы,*
*І вынялі вочы,*
*А потым саджалі*
*Навостраны нож.*
*Здавілі за горла,*
*І горла ляскоча,*
*І нехта халодненькі*
*Бегаў сьпіной.*

*Скрывіўшы губы,*
*Пранізвалі цела,*
*А потым плявалі*
*На бараду мне.*
*Скакалі і грызьлі*
*Усмак, як хацелі,*
*Сьпявалі, ігралі*
*Ў мяне на сьпіне* [6, с. 34, 36].




Сымон Баранавых.




Змітрок Бядуля.



Змітрок Астапенка.




Вокладка кнігі «Ха». 1932 год.

У 1932 годзе Ц. Кіпніс працаваў і над серыяй шаржаў на яўрэйскіх пісьменнікаў, якія мусілі таксама выйсці асобнай кнігай [4, с. 24], але так і не выйшлі. Магчыма, нейкія з іх таксама адшукаюцца ў перыядычным друку.

Вядома ж, мастацкая дзейнасць Цфаніі Кіпніса не абмяжоўвалася толькі тэатральнымі дэкарацыямі і сяброўскімі шаржамі. Ён афармляў вокладкі кніг, ілюстраваў часопісы (напрыклад, «Іскры Ільіча» — будучую «Бярозку»), рабіў графічныя замалёўкі гарадоў і мястэчак — асабліва яго цікавілі будынкі, звязаныя з побытам яго роднага народа. Традыцыйнае яўрэйскае жытло пазнаецца ў шэрагу яго прац: «Украінскае мястэчка» (1920-я), «Дом у мястэчку Ракаў» (1936), «Дом у мястэчку Узда» (1950-я), «Домік у мястэчку Кабыльнікі» (1960-я) і проста «Домік у мястэчку» (1960-я). У часы Другой сусветнай прайшоўшы баявы шлях ад Мінска да Берліна, Кіпніс неаднойчы звяртаўся да тэмы вайны і яе трагічных наступстваў — згадаем такія яго працы, як «Майданак» (1944), «Хлопчык з канцлагера» (1945), «Палацавы ансамбль Цвінгер у Дрэздэне пасля бамбардзіроўкі» (1945), «Зняволены», «Бабруйск пасля вайны» (1950-я), «Вязні гета», «Таліт на ветры», «Вышка», «Згарэлае мястэчка» (1960-я). А супрацоўніцтва з армейскай газетай «Знамя Советов» не давала мастаку забыць пра свой сатырычны талент: ён маляваў карыкатуры на фашыстаў, а Аркадзь Куляшоў рабіў да іх вершаваныя подпісы («Из Брянска брякнулся он тоже — сие написано на роже» // Знамя Советов. 1943. 18 сент.).

Трэба думаць, што літаратары мелі добрае пачуццё гумару і асабліва не крыўдавалі. Толькі вось пародыя на Андрэя Александровіча ў кнігу чамусьці не ўвайшла, хоць там змешчаны непадпісаны шарж, у якім добра пазнаюцца і твар паэта, і мастацкія алюзіі на яго верш «Менскі рытм» [6, с. 5]. Што гэта: сапраўды крыўда Александровіча (на той час — члена ЦВК БССР) ці проста тэхнічны недагляд?

Познія жывапісныя працы Кіпніса — «Ружовы палац», «Букет», «Кветкі ў белай вазе», «Чырвоныя кветкі», «Вясна», «Перад дажджом», «Замак», «Сакавіцкі снег», «Стары», «Мястэчка», «Начны касцёр» — пазначаны ўплывам імпрэсіянізму і ўражваюць багаццем колераў і адценняў.

Якім жа быў Цфанія Кіпніс у жыцці? Як успамінаюць сучаснікі, гэта быў энергічны, маладжавы невысокі чалавек «з прыгожай сівізной, з юнацкімі парывістымі рухамі, з цудоўнымі яўрэйскімі вачыма на жывым, рухавым твары». «Ён належаў да рэдкай катэгорыі людзей, цалкам пазбаўленых фальшу, надзеленых натуральным, а не "прынцыповым" высакародствам, — піша сябар мастака, пісьменнік і журналіст Эрнст Левін. — Чалавек беспамылковага густу, улюбёны ў жыццё і прыгажосць: надзвычай абаяльны суразмоўца, нястомны пешаход-хадайнік па чужых справах, душа застолля і нават галантны кавалер!» [3, с. 52] А яшчэ — мужны чалавек, які ніколі не адступіцца ад сваіх перакананняў. Чаго варты, напрыклад, выпадак з помнікамі савецкім воінам, якія загінулі ў баях за Арнсвальд і Штаргард. Помнікі былі ўзведзеныя ў Нямеччыне ў 1945—1946 гадах па эскізах Ц. Кіпніса. Ваенны савет 1-га Беларускага фронту дамагаўся ад мастака, каб ён змясціў на пастаментах нейкія словы І. Сталіна. Аднак Кіпніс выдатна ведаў, што Сталін — не толькі вярхоўны галоўнакамандуючы, але і арганізатар шматлікіх крывавых рэпрэсій. І — адмовіўся ад непрыемнай прапановы, абышоўшыся старажытнагрэцкай фразай, прысвечанай воінам Спарты: «Прохожий, передай нашей Родине, что мы погибли, сражаясь за Нее» [5, с. 2; 3, с. 53]. Мастаку пашанцавала, што тады, у гады сталінскага кіравання, гэта не мела для яго ніякіх цяжкіх наступстваў. Наадварот, Кіпнісу абвясцілі падзяку і ўзнагародзілі фотаапаратам. А калі ў сакавіку 1953 года савецкі правадыр памёр, мастак з сябрамі адсвяткаваў гэтую падзею ў маскоўскім рэстаране.


Алесь Звонак.


Сяргей Дарожны.


Пятрусь Броўка.

Доўгі час імя мастака ў Беларусі замоўчвалася. І прычынай таму — ягоны ад'езд у Ізраіль у 1973 годзе, які да таго ж адбыўся не без скандалу. Перад тым, як мастака выпусцілі за мяжу, яму давялося паўгода адседзець у камеры-адзіночцы: арыштаванага 29 лістапада 1972 года Цфанію Кіпніса абвінавачвалі ў стварэнні падпольнай антысавецкай сіяністкай арганізацыі і кіраўніцтве ёю. Мастак і сапраўды на пачатку 1970-х выкладаў іўрыт, памнажаў і распаўсюджваў навучальныя дапаможнікі, змагаўся за нацыянальныя і культурныя правы яўрэяў, а гэта ўжо «цягнула» на артыкул савецкага крымінальнага кодэкса.

І толькі дзякуючы заступніцтву міжнароднай грамадскасці Цфанія Кіпніс быў выпушчаны: за яго вызваленне хадайнічаў сам дзяржсакратар ЗША Генры Кісінджэр [5, с. 2]. Падпісваючы ўказ аб вызваленні Кіпніса, Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узяў пад увагу яго ўдзел у вайне, заслугі ў працоўнай дзейнасці, узнагароджанне баявымі ордэнамі і медалямі СССР, а таксама пажылы ўзрост і слабы стан здароўя.




Лукаш Бэндэ.



Андрэй Александровіч.

Але нават калі б гэтай судовай справы не было, усё адно наўрад ці добрае імя мастака гучала б у СССР: у брэжнеўскія часы ўсе эмігранты прыраўноўваліся да здраднікаў Радзімы. Менавіта таму артыкулаў пра Цфанію Кіпніса пакуль што няма ні ў даведніках, ні ў энцыклапедыях.

Вядома ж, сябры і прыхільнікі пра яго не забываюць. Шэраг успамінаў пра яго змясціў у перыёдыцы і інтэрнэце Эрнст Левін [3]. А ў 2007 годзе ў Іерусаліме выйшаў альбом мастака, укладзены літаратарам Аляксандрам Фільцэрам [5]. Каларытныя шаржы на пісьменнікаў туды, аднак, не ўвайшлі — бо ўкладальнік пра іх тады проста не ведаў. І наадварот, мала каму з беларускіх аматараў і даследчыкаў мастацтва знаёмыя працы мастака, створаныя ў ізраільскі перыяд творчасці. Безумоўна, цікавая і разнастайная мастацкая спадчына Цфаніі-Гедаліі Кіпніса яшчэ чакае далейшага выяўлення і даследавання.

Літаратура

1. **Жыбуль, В.** Пуцявіны і палотны Цфаніі Кіпніса / В. Жыбуль // Роднае слова. — 2015. — № 12.

2. **Кузняцова, К. Б., Герштэйн, Г. Р.** Дзяржаўны яўрэйскі тэатр БССР / К. Б. Кузняцова, Г. Р. Герштэйн // Тэатральная Беларусь: Энцыклапедыя: У 2 т. Т. 1: «А досвіткі…» — Кучынская / Рэдкал.: Г. П. Пашкоў і інш. — Мінск: БелЭн, 2002.

3. **Левин, Э.** На десять минут впереди времени, на десять лет впереди жизни / Э. Левин // Мишпоха. — 2010. — № 27.

4. **Над чым працуюць мастакі:** падрыхтоўка да V Усебеларускай мастацкай выстаўкі // Мастацтва і рэвалюцыя. — 1932. — № 2.

5. **Фильцер, А.** Художник Цфания-Гедалия Кипнис / А. Фильцер. — Иерусалим, 2007.

6. **Ха** : Пародыі С. Старобінскага. Шаржы Дэ Вэ Бэкі. — [Гомель], [1932].

Віктар Жыбуль

# Невядомы верш Юлія Таўбіна

Паэт і перакладчык Юлі Таўбін [2(15).09.1911, г. Астрагожск Варонежскай губерні (цяпер Варонежская вобласць, Расія) — 30.11.1937, Мінск] пражыў кароткае, але поўнае няспынных творчых пошукаў жыццё. Нарадзіўся ён у сям'і яўрэя-аптэкара, у 1921 годзе пераехаў з бацькамі ў Мсціслаў, дзе закончыў педагагічны тэхнікум (1931). Пазней вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага педінстытута, але ўсім яго планам перашкодзілі сталінскія рэпрэсіі. Пасля першага арышту (25.02.1933) паэт быў сасланы ў Цюмень, а пасля другога (4.11.1936) расстраляны ў двары турмы НКУС у ліку 26 беларускіх літаратараў…



Паэтычны талент Юлія Таўбіна раскрыўся рана: у 14 гадоў ён ужо друкаваўся ў газетах і часопісах, у 19 выдаў першую кнігу «Агні» (1930), следам за якой выйшлі яшчэ чатыры: «Каб жыць, спяваць і не старэць…» (1931), «Тры паэмы» (1931), «Мая другая кніга» (1932), паэма «Таўрыда». Найбольш яскрава паэт выявіў сябе ва ўрбаністычнай лірыцы, ствараючы настраёвыя малюнкі тагачаснага гарадскога і мястэчковага жыцця. Яшчэ адна адметная рыса паэзіі Юлі Таўбіна — заглыбленасць у кніжную стыхію: многія яго вершы стракацяць разнастайнымі літаратурнымі і фальклорнымі алюзіямі дый проста згадкамі пра паэтаў розных эпох і народаў — ад Сірано дэ Бержэрака да Якуба Коласа. Нават вобразы, метафары і параўнанні маюць у яго «літаратурацэнтрычны» характар: *«Харэі і ямбы, і пругкія дактылі / Заўсёды на варце ў мяне», «Трамвай праляцеў, як двухстопны анапест».*

Рыхтаваў Юлі Таўбін да друку і кнігу сваіх выбраных твораў — «Лірыка. Эпас», а таксама зборнік перакладаў Гайнрыха Гайнэ, якія не ўбачылі свет з-за арышту беларускага паэта. На шчасце, іх рукапісы захаваліся ў архіве сумнавядомага крытыка-вульгарызатара Л. Бэндэ (Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1046, 1336, 1337). Калі ўважліва знаёмішся з рукапісам кнігі «Лірыка. Эпас», звяраючы яго змест з бібліяграфіяй твораў Юлія Таўбіна, заўважаеш, што амаль усе вершы, уключаныя ў кнігу, паэт здолеў надрукаваць раней у іншых выданнях — часопісах, газетах і сваіх папярэдніх зборніках. Усе, акрамя аднаго — «Дужы вецер і маладзік з Гётэвае аповесці». Напэўна, тагачасныя рэдактары палічылі верш занадта цяжкім для ўспрымання «фармалістычным выкрунтасам», а можа нават і праявай «шкодніцтва на літаратурным фронце». Насамрэч жа ён цікавы як прыклад смелага і натхнёнага эксперымента са словам, рыфмай, рытмікай. Дый нават з літаратурнымі адсылкамі, гэтак уласцівымі паэзіі Таўбіна. Напэўна, толькі па-сапраўднаму ўлюбёны ў літаратуру чалавек знайшоў бы асацыятыўнае падабенства паміж маладзіком у неспакойным небе і галоўным героем рамана «Пакуты юнага Вертэра» (1774) Ёгана Вольфганга Гётэ — вялікага нямецкага паэта, якога Юлі Таўбін шанаваў і перакладаў на беларускую мову. Маладзіку-Вертэру, які «не знаходзіць месца на свеце», супрацьпастаўляецца «дужы вецер» як стыхійная ўсеахопная ўсеабуджальная рэвалюцыйная сіла, гэткі «вецер перамен». Супрацьпастаўляюцца ў вершы і два светы: насельнікі аднаго з іх скачуць «дваранскія вальсы з жахліва смелымі па» і настальгуюць па мінулым,

а другога — занятыя стваральнай працай, уздымаючы «высокія сцены» і будуючы новую эпоху. Паэт нават спачатку пазначыў пад вершам: *«У ноч на трынаццатую гадавіну Кастрычніка. Менск»*, але потым закрэсліў гэта, мабыць, вырашыў ніяк не прывязваць верш да канкрэтнай гістарычнай падзеі і гэтым самым дадаць яму болей універсальнасці. Бо, відаць, сусветная гісторыя ў самыя розныя эпохі так і будзе трымацца на адвечным антаганізме…

У вершы «Дужы вецер і маладзік з Гётэвае аповесці» Юлі Таўбін, можна сказаць, сканцэнтраваў увесь арсенал сродкаў паэтычнай выразнасці. Тут і нечаканыя метафары і параўнанні, і шматлікія алітэрацыі, асанансы, паэтычныя этымалагізмы, і гульня з сінтаксісам, і эмацыянальныя перапады настрояў, рытму, інтанацый… Аўтар нязмушана і гарэзліва рыфмуе «вецер» з «Вэртэрам», «вальсы» з «валасамі», «сьмелыя па» — з «Рэйнам ці По», а «самавар» — з «папуасавым Самоа»! Як быццам Юлі Таўбін дэманструе выяўленчыя магчымасці беларускай паэзіі мяжы 1920—1930-х гадоў — паэзіі, у хуткім часе прыдушанай сталінскім рэжымам. Але — мастацтва застаецца вечным незалежна ад лёсу яго носьбітаў. Як напісаў паэт у згаданым вершы, «Песня перарастае складальнікаў, / Песня складаецца сама».

## Юлі Таўбін

# Дужы вецер і маладзік з Гётэвае аповесьці

…Пачынаецца дужы вецер
і гудзе тэлеграфны слуп…
Маладзік, як напудраны Вэртэр,
не знаходзіць месца на сьвеце
(набліжаецца дзень з далін),
але тут выступаюць вербы,
тут прыходзіць канец канцэрта,
яны робяць яму кавэрзы[1],
захапляючы ў цень галін…
Пачынаецца вецер сіберны[2],
і гудзе тэлеграфны слуп.
Тут канае сьлязьлівы Вэртэр,
заключыўшы законны шлюб.

А тымчасам —
дзікунскі вецер
з папуасавага Самоа[3]
дзьме ўва ўсе прасьветы на сьвеце,
і гудзіць на стале самавар…
…А тымчасам —
кіно адчынены
і афішы сьвішчуць — «анонс».
Вецер дзьме ў прасьветы і шчыліны,
вадзянымі сычыць рашчынамі,
ён гугнявіць —
восень прычынаю —
у яго «праванскі» прононс.
А тымчасам —
ў тэатрах душацца
і ўжо гнуцца крукі ад хутр…
Хоць маленькага-б даць ім душцу
з асеньніх салоных віхур!

Вецер лашчыць і вецер катуе,
вецер-вораг і вецер-сябр.
Ён заставай застаўся за статуем —
у яго там лятучы штаб.

А тымчасам —
аўто мільгалі,
пранасілі замежных гасьцей…
І хавалася ў сьценах сьцень…
Было неба чарней амальгамы,
шумы, шолахі, амаль гамы
поўнагучнымі галасамі
гаманілі часьцей, часьцей…[4]

---

[1] Інтрыгі.
[2] Вельмі моцны, рэзкі, люты.
[3] Астраўная дзяржава ў паўднёвай частцы Ціхага акіяна.
[4] Закрэслены радок: *«А вецер брахаў на сьцень»*.
[5] Дваццаць адно (ачко) — расійскі варыянт картачнай гульні блэкджэк.
[6] Валіс (Вале; фр. Valais, ням. Wallis) — кантон на паўднёвым захадзе Швейцарыі.
[7] Закрэсленыя радкі: *«узьнялі ў цокалі эру / жывога і ня жывога»*.
[8] Паэт мае на ўвазе адкрыццё Клуба чыгуначнікаў у будынку Свята-Казанскай царквы, закрытай у 1930 г. Цяпер на гэтым месцы — плошча Мяснікова.

А тымчасам —
кахалі,
раджалі,
дапівалі старое віно,
пamiралі;
з сусьветнага джалю
гулялі
ў дваццаць адно[5] ;
сьмяяліся,
песьні склада́лі,
стаялі ў чарзе перад скла́дамі
па цукар ці па сандалі
ці па гумавыя прылады;
скакалі дваранскія вальсы
з жахліва сьмелымі па,
адпушчалі даўгія валасы
і марылі пра Рэйн ці По,
ці пра рэвалюцыю ў Валісе[6] .
Ганьбавалі поэзіі спад,
сьпявалі на розныя галасы
адзін мотыў —
ці по-
мніце гэты час (ён нядаўні)?
…Вецер з баобабавага Самоа…

Песьня перарастае складальнікаў,
песьня складаецца сама.

А тымчасам —
крывёю і потам —
Муляры клалі цэглы,
цесьляры дошкі цягалі,
пячкуры бяз працы ня бегалі,
тынкары рабілі работу,
гарнякі падрывалі горы,
маракі ўзьляталі на мачты,
астраномы сачылі зоры,
інжынэры крэсьлілі хорды,
пякары пяклі хлеб нясмачны,
салдаты вартай пасталі,
маляры фарбавалі столі,
чыгуначнікі выпраўлялі саставы,
земляробы зямлю перапраўілі —

З мяса, жалеза, сталі,
з глебы, дошак, стомы,
вады, паветра, гравія,
цэглы, цяглiц, цела,
песень, прамоў, паперы —
з жывога і ня жывога —

узьнялі высокія сьцены,
узьнялі высокую веру,
узьнялі ў высокую эру —
высокую эпоху![7]
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пачынаецца
вецер
рэзкі,
аж гудзе тэлеграфны слуп.
Адчыняецца ў горадзе Менску
у царкве — чыгуначны клюб[8] .

Маладзік —
старадаўні Вэртэр,
маладзік —
цукраваны торт —
ён зьбялеў, ён баіцца памерці,
бо дужэюць хмары і ветры,
але мы не баімся сьмерці —

гэта ўсё для эпохі першай
песень, рук і рэторт[9] .

*1930*

*Друкуецца з захаваннем правапісу арыгінала паводле архіўнай крыніцы: БДАМЛМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1336, арк. 36а—41.*

*Публікацыя і заўвагі Віктара Жыбуля.*

---

[9] Рэторта — герметызаваны сасуд з вогнетрывалага матэрыялу для награвання прадуктаў і вырабаў у адмысловых печах.

**Эмануіл Іофе**

# Рыгор Рэлес
# Роздумы над творчасцю

Не так даўно аўтар гэтых радкоў перачытаў кнігу Рыгора Рэлеса «У краі светлых бяроз», выдадзеную ў Мінску амаль дваццаць гадоў таму — у 1997 годзе. Гэта выбраныя творы аўтара, частка якіх выходзіла ў перыёдыцы на ідыш. У кнігу ўвайшлі апавяданні, навелы, аповесць і п'еса. Прычым, пераклад быў выкананы самім аўтарам.

Аўтабіяграфічная аповесць «Над ракой Ульянкай» адлюстроўвае дзяцінства і юнацтва аўтара. Яна ахоплівае перыяд ад пачатку Грамадзянскай вайны да пачатку Вялікай Айчыннай вайны.

Дзеянне адбываецца ў мястэчку Чашнікі, дзе працякае рака Ульянка — прыток Улы, якая ўпадае ў Дзвіну.

Аповесць чытаецца з незгасальнай цікавасцю. Правобраз галоўнага героя, Генкі, ад імя якога вядзецца аповед, — сам аўтар. Перад чытачом праходзіць гісторыя Чашнікаў на працягу двух дзесяцігоддзяў. Жыццё і побыт жыхароў мястэчка паказаны на фоне некаторых падзей з жыцця бацькі Генкі — Лейбы і яго кампаньёна Томаша, дзеянняў банды Капусты і першых так званых сацыялістычных пераўтварэнняў. Рэлесу ўдалося стварыць тыповыя і запамінальныя вобразы Мендэля-мясніка, Моты-быка, гандляркі Сошы, рэлігійнага фанатыка — дзядзькі Генкі, самага разумнага чалавека ў гандлёвым радзе Гершана, касога Іосіфа, мачыхі Генкі — Наташы, яго сясцёр Соні, Сары і Мані, яго цётак Полі і Ноны, яго суседзяў Шайкі і Фімкі. Запамінальныя трагічныя вобразы Ханкі — жонкі бандыта Эфройкі Бранда, магільшчыка Цале-Бера.

Вялікай падзеяй для жыхароў мястэчка Чашнікі стаў прыезд тэатра Уладзіслава Галубка. Вось як апісвае гэтую падзею Рыгор Рэлес:

«В местечке — большая новость: приехал театр Голубка. Уже появились афиши на заборах и воротах, прибавилось работы портнихам. Дамы и девицы заказывали платья, чтобы не стыдно было показаться людям в Народном доме. Даже Соне отец купил ситцу на платье и брезентовые туфли.



Рыгор Львовіч Рэлес

...В лавках увеличился спрос на духи и пудру. Даже торговка семечками и бобами Соша и та запаслась товаром. Бобы зрители не ели в Народном доме. Это считалось неприличным, а семечки грызть — другое дело. Этим развлекались самые культурные люди местечка…

В эти дни суетились и родители взрослых незамужних дочерей. Для дочек покупались самые дорогие билеты. Их одевали в лучшие наряды. Быть может, кому приглянется там, и дело обойдется без свата Бейдика, который на этом много зарабатывал.

Зрители сидели в театре как очарованные. Если ставилась трагедия, то у всех были заплаканные глаза. А когда разыгрывалась комедия, то уже во время антракта повторяли друг другу услышанные шутки и хохотали до упаду. О, местечковые зрители очень бурно реагировали на

постановки! Это не могли не замечать и сами артисты».

На мой погляд, Рыгор Рэлес стварыў яркія вобразы партыйных работнікаў і чэкістаў — начальніка мясцовага ДПУ Дрындзіна і кіруючай тройкі: Бенцмана, Плюта і Сяржантава. Чытач робіцца сведкам самага сапраўднага рабунку, а дакладней аперацыі па рэквізіцыі золата і іншых каштоўнасцей у мясцовых гандляроў, да правядзення якой, акрамя міліцыянераў і камсамольцаў, былі прымусова прыцягнуты хлопчыкі-школьнікі.

З глыбокай павагай Рыгор Рэлес паказвае сваіх герояў — беларусаў, рускіх, палякаў, прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей. Прывядзём толькі адзін абзац.

«Преподаватель белорусского языка Феодосий Григорьевич Иванов привил ребятам любовь к литературе. За полгода, что Генка учился в школе, он прочел много книг на русском и белорусском языках. Многие стихи он перечитывал до тех пор, пока не запоминал наизусть».

Прататыпам Віці стаў будучы беларускі пісьменнік Вісарыён Гарбук.

Генка паехаў у Віцебск працягваць вучобу. Хутка ён стане паэтам. Яго вершы часам будуць перадавацца па радыё, і гэта будзе выклікаць гонар у яго бацькі Лейбы. Калі ў мястэчковую краму прыбудзе кніга вершаў Генкі, Лейба купіць усе экзэмпляры і раздасць прыяцелям. Ён падапранецца, зробіцца іншым чалавекам.

Пад імем школьніка Змітрака ў аповесці выведзены будучы літаратурны крытык Дзмітрый Палітыка. Праз шмат гадоў ён пісаў:

«...Я еще раз переживаю свое прошлое. Я возвращаюсь на десятки лет назад... Наверное, у каждого человека есть такие Чашники, тот кусочек земли, откуда мы делаем первые шаги, откуда начинаются стежки-дорожки в большой мир. Эти первые впечатления всегда с нами...

Припоминается мне поэт в те далекие годы детства, когда наше местечко, пробужденное революцией, жадно тянулось ко всему новому. Любознательный мальчик, Релес воспринимал все это возвышенно, торжественно, поэтично. Раньше упоминалось о нашем “многоязычном детстве”. Революция узаконила интернациональное братство нашего местечка. Свои первые стихи мы писали каждый на своем языке, но мы понимали язык один другого. Русские, белорусы, поляки и евреи — мы были детьми одного времени, в одной колыбели качала нас бедность, и каждый из нас понимал одинаково со своим языком язык своих товарищей...»

П’еса «За кулісамі» раскрывае складаны лёс актрысы Уланскай, выхаванкі дзіцячага дома, якая доўгія гады нічога не ведала пра сваіх бацькоў і лічыла сябе рускай па нацыянальнасці. З часам яна даведаецца пра сваё яўрэйскае паходжанне. Дзеянне адбываецца ў 1950—1960-я гады. У артысткі Уланскай адбываецца ўнутраны разлад. Пазней гераіня змірыцца са сваім становішчам і стане на шлях актыўнай барацьбы з антысемітызмам.

Большасць твораў Рыгора Рэлеса мае рэальны фундамент, яны, як кажуць, з жыцця. Возьмем першае апавяданне, якое называецца «Гіта Шыліма». Перад чытачом, як жывая, устае заўзятарка спектакляў яўрэйскага тэатра Гіта з Курасоўкі. Гэтая жанчына наведвае тэатр кожную суботу.

«Неважно, какая шла постановка. Она ни разу не пропускала. Из-за этого ей приходилось по несколько раз смотреть один и тот же спектакль. Постоянное ее место было третье в первом ряду. Кассирша уже знала, что на субботний спектакль третье место в первом ряду следует держать для Гиты. И за это кассиршу награждала куском сладкого пирога, что Гита пекла в честь субботы». Прычым, пісьменнік не хавае ад чытача, што хоць Гіта і ведае на памяць некалькі малітваў, увогуле яна непісьменная. Яна не ўмее ні чытаць, ні пісаць не толькі па-яўрэйску, але і па-руску, і па-беларуску. Яшчэ ў пачатку апавядання мы даведваемся, што ў летні час Гіту з Курасоўкі можна бачыць з самага ранку запрэжанай у нешта накшталт вазка, напоўненага гароднінай, садавінай і ягадамі, якія яна везла на Суражскі рынак.

Фабула апавядання ў тым, што гэтая заўзятарка спектакляў яўрэйскага тэатра становіцца своеасаблівым талісманам тэатра ў перадваенныя гады. Расповеды артыста Цыкава пра суседку Гіту выклікалі ў калектыву тэатра немалую да яе цікавасць. Гіта ім так запомнілася, што нават у гады Вялікай Айчыннай вайны, калі тэатр быў эвакуіраваны ў Новасібірск, час ад часу яе ўспаміналі. Непакоіліся, ці не загінула яна

ў Мінскім гета, не паспеўшы эвакуіравацца з-за таго, што не хацела расстацца з гаспадаркай.

Калі тэатр вярнуўся ў Мінск, пра Гіту нічога не было чуваць. Ішлі ўжо першыя спектаклі, але ніхто не бачыў гэтай жанчыны на яе любімым месцы. Прайшло два месяцы. Надышла зіма. Суботнім вечарам, як звычайна, ставіўся спектакль. Тут дамо хіба слова самому пісьменніку.

«Вдруг перед самым началом за кулисами поднялся шум.

— Гита явилась! Гита!

— Не может быть, — сомневались артисты.— Видно обознались.

— Да вон она сидит на своем месте!

— В чулках?

— Нет, в здоровенных солдатских ботинках.

Все бросились к занавесу и, отталкивая друг друга, потянулись к щелке. Каждому хотелось воочию убедиться, что это именно она.

Гита сидела в том же платье (чорнай аксамітавай сукенцы старамоднага фасону. — Э.І.). На груди медали. Лицо загоревшее…

...В этот вечер шла премьера “Тевье-молочник”. Артисты играли как никогда вдохновенно. Гита сидела взволнованная. Из глаз ее катились слезы».

Той, хто прачытае гэта апавяданне, даведаецца, што ў канцы пастаноўкі заслужаная артыстка Юдыф (размова ідзе пра заслужаную артыстку Беларусі Юдыф Саламонаўну Арончык. — Э.І.) сышла са сцэны, падышла да Гіты і падарыла ёй букет гваздзікоў, які атрымала ад гледачоў за цудоўнае выкананне ролі Бейлкі ў спектаклі.

Усё апавяданне «Гіта Шыліма» прасякнута пачуццямі гуманізму і аптымізму.

Перад намі адно з апавяданняў кнігі, якое мае назву «Стары знаёмы». Яго галоўны герой Захар Дубенцыер з вёскі Дараганава нагадвае нам Тэўемалочніка. Хоць дзеянне адбываецца ў іншы час, але сямейная сітуацыя падобная.

У Захара тры дачкі. Па-рознаму складваюцца іх лёсы, а бацька рэагуе на бедствы кожнай з іх вельмі суб’ектыўна.

Галоўным героем апавядання «Партрэт» з’яўляецца вядомы яўрэйскі мастак Лазар Саулавіч Ран. У Рэлеса яго прозвішча зменена. Прачытаўшы гэта апавяданне, можна даведацца пра гісторыю адной з карцін Рана.

У 1948 годзе пачынаюцца ганенні на яўрэйскую культуру і асабліва пісьменнікаў, што пішуць на ідыш. Рыгора Рэлеса звальняюць з рэдакцыі часопіса «Вожык» «па ўласным жаданні», а пасля выключаюць з Саюза пісьменнікаў з фармулёўкай «за пасіўнасць». Для пісьменніка надыходзяць цяжкія дні. Ён ператварыўся ў беспрацоўнага без сродкаў да існавання. Нават дворнікам у домакіраўніцтва яго ўзяць адмовіліся.

У гэты час на дапамогу Рэлесу прыйшоў Янка Брыль. Па яго просьбе рэдакцыя часопіса «Вожык» давала Рэлесу дадому апрацоўваць лісты чытачоў, і за гэта хоць трохі ды плацілі.

З вялікімі цяжкасцямі пры дапамозе знаёмства Рыгору Львовічу ўдалося ўладкавацца ў друкарню звершчыкам ў карэктарскай з акладам 60 рублёў у месяц. Прыбіральшчыца атрымлівала 70 рублёў.

Трагічныя для сябе дні 1948 года Рыгор Рэлес пераносіць у апавяданне «У новым асяроддзі». Правобраз галоўнага героя — карэктара Яфіма Сарокіна — сам аўтар. Пісьменнік расказвае пра невялікі калектыў карэктараў аднаго выдавецтва. Тут працуюць пераважна жанчыны, уважлівыя, строгія і адказныя. І вось у гэтакі жаночы асяродак трапляе карэктар Яфім, па натуры чалавек ціхі і ўдумлівы. З-за свайго спакойнага характару давялося яму шмат перажыць — іроніі, падколкі, службовыя непрыемнасці. Але варта было яму захварэць, як калектыў карэктараў адразу прадэманстраваў заклапочанасць, увагу і чуласць. На рабоце было ўсё: і непрыемнасці, і прыдзіркі. Але ў бядзе чалавека пакідаць нельга. Ён не павінен адчуваць горычы адзіноты. На гэтым простым жыццёвым факце пісьменнік паказвае перавагі калектывізму над індывідуалізмам. Гэты твор густа населены героямі. Чытач сустрэнецца і з уедлівай карэктаркай Ганнай Міронаўнай, і з былой актрысай Соф’яй Міхайлаўнай, і з Воляй, якая не паступіла ў медыцынскі інстытут, і з новенькай карэктаркай Тоняй, якая дзякуючы падтрымцы Яфіма Сарокіна працуе з большай энергіяй і ахвотай. Гэтае апавяданне больш нагадвае маленькую аповесць, дзе пісьменніка цікавяць не пейзаж і партрэт, а стасункі герояў.

Асаблівае месца ў кнізе Рыгора Рэлеса займае нарыс «Лёс кагорты», прысвечаны трагічнаму лёсу настаўнікаў і саратнікаў — яўрэйскіх пісьменнікаў Беларусі, рэпрэсіраваных у 1930—1940-я гады і загінулых на франтах Вялікай Айчыннай вайны ці ад рук катаў у гета.

Вялікая заслуга Рыгора Рэлеса перад яўрэйскай літаратурай Беларусі ў тым, што ён узнаўляў добрую памяць пра яўрэйскіх пісьменнікаў. Я бачу ў гэтым грамадзянскі подзвіг.

Ужо ў 1949 годзе ў зборніку «Мы іх не забудзем» з'яўляюцца артыкулы Рэлеса «Леў Талалай», «Рува Рэйзін», «Генадзь Шведзік», «Сямен Ляльчук». Не прайшоў толькі адзін артыкул — пра рэпрэсіраванага, а потым загінулага на фронце за вызваленне роднай яму Беларусі Элю Кагана. У 1960—1990-я гады ў часопісах і газетах рэспублікі, а таксама часопісе «Советиш Геймланд» былі надрукаваны артыкулы Рыгора Львовіча пра Элю Кагана, Цодзіка Даўгапольскага, Ізю Харыка, Маісея Кульбака, Зэліка Аксельрода, Рувіма Рэйзіна, Генрыха Шведзіка, Сямёна Ляльчука і іншых.

Рэквіемам рэпрэсіраваным і загінулым у вайне пісьменнікам стаў артыкул «Праз скрыжаваны агонь. Аб лёсе яўрэйскай літаратуры ў Беларусі», надрукаваны ў восьмым нумары часопіса «Полымя» за 1995 год. Прапанаваны ў рэцэнзуемай кнізе адзіны нарыс «Лёс кагорты» — гэта сплаў аналізу творчасці саратнікаў, якія сталі ахвярамі беззаконня і фашызму.

Апавяданні і навелы, уключаныя ў кнігу «У краі светлых бяроз», запамінаюцца не толькі таму, што напісаны яны на сапраўдным і цікавым жыццёвым матэрыяле, але і таму, што яны пранізаны мудрасцю, што яны павучальныя ў найлепшым разуменні гэтага слова.

На жаль, некаторым творам Рыгора Рэлеса ўласцівыя недасказанасць і расцягнутасць дзеяння. Асабліва гэта відаць у апавяданнях «Удовачка» і «У шторм». І яшчэ: на асобных старонках кнігі сустракаюцца прыкрыя абдрукоўкі. Але гэта прыватнасці.

Пісьменнік нарадзіўся на беларускай зямлі, якую любіў усё жыццё. І невыпадкова назваў кнігу «У краі светлых бяроз». Я добра ведаў Рыгора Львовіча, амаль пятнаццаць гадоў. Нягледзячы на выключную адданасць ідышу і яўрэйскай літаратуры ён быў інтэрнацыяналістам, схіляў галаву перад «Праведнікамі народаў свету» — жыхарамі Беларусі, якія, рызыкуючы сваім жыццём і жыццём сваіх родных, ратавалі беларускіх яўрэяў у гады Вялікай Айчыннай вайны.

Менавіта павагай да беларускага народа і беларускай культуры прасякнуты яго верш «Лявоніха», напісаны ў 1963 годзе:

Погляди-ка Нохим, погляди, папаша
Как Марина-Мера «Лявониху» пляшет!

Красные сапожки, юбка из холстинки.
Ленты так и вьются в косах у Маринки.

Рядом с ней Микола в шёлковой рубахе —
Из гнезда родного вылетели птахи.

На сердце отрадно у Агаты старой —
Ой, нашёл сыночек девушку под пару!

А кругом все гости хлопают в ладоши:
Хороша Маринка! И жених хороший!

Тут и я метнулся да сорвался с места:
Ой, хорош Микола! Хороша невеста!

Братья дорогие, я от вас не скрою —
Мне наш «Фрейлэхс»[1]
Снится по ночам порою.

Но, пожалуй, всё же больше мне по вкусу
Танец этот славный — танец белорусский.

*Пераклад з ідыш Н. Горскай*

Таленавітага паэта, празаіка і публіцыста не стала 18 верасня 2004 года — на 92-м годзе жыцця.

У красавіку 2016 года Рыгору Рэлесу споўнілася б 103 гады.

[1] Яўрэйскі вясельны танец. (Заўвага аўтара.)

**Паліна Лісоўская**

# Праводзіны «ДК Данса»

**У гэтым тэатральным сезоне пластычны тэатр «ІнЖэст» святкуе сваё трыццаціпяцігоддзе. Без выступу статуснага эксперыментатара беларускага тэатра, канечне, не прайшла і «ПлаSтформа-2016». На форуме тэатр развітаўся са сваім спектаклем-старажылам: перформансу «ДК Данс» споўнілася ажно пятнаццаць гадоў — чым не час, каб сысці на пенсію. А пішучай брацці, відаць, час занесці гэты спектакль у летапісы. Каб пылам не пакрыўся…**

Праводзіны свайму тварэнню тэатр зрабіў шыкоўныя. Як і заўсёды, «ІнЖэст» распачаў свой спектакль нечакана. Незвычайныя персанажы на вялікіх хадулях з'явіліся не на сцэне, а ў глядзельнай зале. Аднак яны не проста фанабэрліва прайшлі па праходах да сцэны — для сапраўднай неспадзяванкі гэтага было б недастаткова. Яны ўварваліся ў прастору гледачоў! А пагадзіцеся, сціплыя беларускія гледачы зусім не прызвычаіліся да таго, каб іх прастору хтосьці тармасіў, да таго ж — у тэатры. Каб на іх сыпалі цукеркамі ці — яшчэ горш — аблівалі вадой. Апошняе «злачынства» з гледачамі рабіў сам кіраўнік «ІнЖэста» Вячаслаў Іназемцаў, ён жа — Паўшы Блазан. Усялякія гульні з гледачамі і спробы адшукаць новыя спосабы камунікавання з імі «ІнЖэст» робіць заўсёды. Згадайма «Рамонт» — спектакль пачынаўся яшчэ ў калідоры Палаца культуры чыгуначнікаў, які нібыта рамантаваўся. Потым гледачы не сядалі на свае звычайныя месцы, а апыналіся на сцэне і адтуль глядзелі ўвесь спектакль, які, зразумела, праходзіў у глядзельнай зале. Такім чынам, тэатр мяняўся месцамі з гледачамі і прапаноўваў ім новую пазіцыю, у чымсьці і больш дыскамфортную, бо як жа гэта — сядзець на сцэне? Ці нядаўні «Доступ да цела», які «ІнЖэст» дэманстраваў падчас мінулага «ТЭАРТа». Спектакль задзейнічае не толькі сцэну, але і залу, куды сцэна працягваецца доўгім подыумам, што таксама скарачае дыстанцыю паміж гледачом і тэатрам.



Фота Марыны Сіманавай.

Вясёлы карнавал на хадулях у «ДК Дансе», дарэчы, кароткі. «ІнЖэст» вельмі хутка паварочвае да сваёй звыклай атмасферы нерэальнасці і медытацыі. Прычым, робіць гэта рэзка — бах, і ўсё разбураецца. Паўшы Блазан на хадулях нечакана валіцца на сцэну, птушка ператвараецца ў жука. Гэта падзенне і ёсць асноўны момант спектакля, які стварае яго і структурна, і ідэйна. У драматычным спектаклі такім сюжэтна і сэнсава ствaральным момантам была б нейкая знешняя або ўнутраная праблема, канфлікт персанажаў, або персанажа і акалічнасцей, або ўнутраны канфлікт. У аснову пластычнага «ДК Данса» пакладзена праблема цела. Як паводзіць сябе бездапаможнае цела, якое звалілася з хадуляў і з птушкі ператварылася ў жука? І яшчэ пытанне — як гэтаму няшчаснаму целу зноў знайсці гармонію? Спектакль прапануе некалькі варыянтаў вырашэння цялеснай праблемы, робіць яркія акцэнты, так, што мы добра разумеем, які варыянт абраў бы рэжысёр, але пры гэтым захоўвае для гледачоў прастору для ўласных роздумаў, не ператвараючыся, такім чынам, у дыдактычны тэкст.

Ёсць у спектаклі неадназначны вобраз — Проста Цясляр. Ён увесь час спрабуе адпілаваць надта доўгія хадулі Паўшага Блазна, у гэтым вырашэнні праблемы ён бачыць шлях да шчасця. Такія недахадулі зручныя, з імі падняцца з зямлі — справа найлягчэйшая. Але ж пры гэ-

тым яны яшчэ і здольныя рабіць чалавека вышэйшым за іншых. Варыянт, пагадзіцеся, натуральна палавінчаты, такая птушка-жук. Залатая сярэдзіна? Ці-і-і… ні тое ні сёе?! Кожны сам дае адказ.

Іншы варыянт вырашэння праблемы прапануе Вячаслаў Іназемцаў. Ён, шчыра кажучы, радыкальны, і многім гледачам (асабліва сталага ўзросту) не даспадобы. Пабыўшы зноў птушкай, зноў упаўшы на зямлю, Паўшы Блазан здымае з сябе ўсё адзенне, нават бялізну. І ў гэтай абсалютнай свабодзе бачыць шчасце і выйсце. «О, божанькі!» Жанчыны жахліва прыкрываюць ручкамі тварыкі, абураюцца. Але ж калі абстрагавацца ад нормаў грамадства, гэтае выйсце здаецца самым сумленным. А тым, чые целы адгукнуліся на яго негатыўна, трэба ісці на іншыя спектаклі «ІнЖэста» ды і ўвогуле на сучасныя пластычныя спектаклі, каб навучыцца пазнаваць мастацтва не толькі галавой, але і целам, каб выратаваць і цела, і душу ад мноства таго, што скоўвае сучаснага чалавека штодня.

Да вытокаў ідзе Вячаслаў Іназемцаў разам са сваім калектывам. Менавіта таму для яго так неабходна натуральнасць сюжэтаў. Сюжэт «ДК Данса» прыйшоў неспадзявана з жыцця. Сам Вячаслаў Іназемцаў адчуў стан Паўшага Блазна — і стварыў спектакль. Без неабходнасці, без прэсу.

Таму і ўся тканіна «ДК Данса» такая натуральная, нягледзячы на сінтэтычнасць. Пантаміма, буфанада, пластычная імправізацыя, акрабатыка, танец буто. Ды яшчэ музыка ў рэжыме live: музыкі граюць на сцэне. Часам ролю музыкі ў спектаклі выконваюць і будаўнічыя інструменты. Нервовы гук пілы дражніць слых і нагнятае атмасферу. Па спалучальнасці розных тэхнік «ДК Данс» не самы насычаны спектакль у рэпертуары тэатра, ёсць у «ІнЖэста» і больш шалёныя працы (чаго варты адзін толькі «Доступ да цела»). Але здаецца, гэта самы гарманічны і заўсёды актуальны іх спектакль.

Разыначка «ДК Данса» — безумоўна, зварот Вячаслава Іназемцава да тэхнікі японскага танца буто. Некаторыя нават не ўбачаць у гэтым танца. Не дзіва, бо буто і не нагадвае танец у звычайным разуменні. Няма ў ім імкнення да цялеснай прыгажосці, няма эфектных скачкоў дый кручэнняў. Часцяком танцор можа нават не рухаецца ці робіць амаль што незаўважныя рухі (асабліва ў вялікай зале Палаца чыгуначнікаў). Пры такой знявазе знешняга буто накіраваны на ўнутранае, на аналіз уласнага цела. Чаму цела рухаецца? Што накіроўвае яго? Здаецца, што ў «ДК Дансе», які ўвесь пабудаваны на цялеснай праблеме, іншай танцавальнай тэхнікі не магло і быць. Сёння буто на беларускай сцэне — рэдкасць. Падчас мінулай «ПлаStформы» ладзілі нават цэлы вечар танца буто. Уражанні гледачоў ад убачанага былі палярнымі. Хтосьці захапіўся, хтосьці — нічога не зразумеў. Але нешта падказвае, што сітуацыя была б іншай, калі б такі Вечар буто праходзіў не адзін раз на год. А тут яшчэ і «Хроніка паўшага карнавалу ў стылі буто» сыходзіць на пенсію. Дык усё ж такі чаму?

Прычына празаічная. Спектакль не збірае залы, таму пакідаць яго ў рэпертуары — затратна для калектыву. Колькі ж можна працаваць нават не ў нуль, а ў мінус?! Прычым, на адкрыцці «ПлаStформы», на праводзінах «ДК Данса», зала не была поўнай, свабодных месцаў хапала. І гэта пры тым, што форум быў нядрэнна прапіяраны. Афішы «ПлаStформы» красаваліся на тумбах Мінска, на інтэрнэт-сайтах. На прэс-канферэнцыі форуму Вячаслаў Іназемцаў акцэнтаваў увагу на тым, што гэта будзе апошняя магчымасць для гледачоў паглядзець спектакль. Вось толькі на самой прэс-канферэнцыі журналістаў чамусьці было на дзіва мала. А праблемы з продажам квіткоў узніклі не толькі на спектаклі беларускай праграмы форуму, але і на выступах замежных гасцей.

Няўжо пластычны тэатр увогуле сёння мала цікавіць беларусаў? У таго ж «ІнЖэста» ёсць адданыя паклоннікі, але гэта — вузкае кола. І здаецца, што з цягам часу яно не павялічваецца. Сам Вячаслаў Іназемцаў неаднаразова казаў, што ён — не піяршчык, прасоўваць свой прадукт не ўмее, ён робіць тое, што ў яго добра атрымліваецца, — спектаклі. Зараз калектыву проста неабходны чалавек, які будзе займацца яго піярам, адміністрацыйнымі пытаннямі. А мо і шукаць новыя месцы для выступаў. Не такія вялікія, як Палац чыгуначнікаў, бо спектаклі таму і не акупляюцца — паспрабуй столькі аматараў эксперыментальнага тэатра знайсці. Да таго ж, новыя тэатральныя формы ў старым савецкім будынку — ці не смешна? Вось толькі, дзе знайсці такога піяршчыка?

Напэўна, сучасны тэатр павінен быць не толькі наватарскім, але і бізнесовым. Іншага выйсця няма.

**Паліна Піткевіч**

# Нырэц па жэмчуг

*Рэцэнзія на зборнік прозы і паэзіі маладых «Мой дзень пачынаецца»*

Са старажытнасці вядомая прафесія — нырэц па жэмчуг. Для беларусаў, якія не маюць свайго мора, яна можа ўяўляцца дужа рамантычнай. Між іншым, патрабуе вялікай смеласці і немалых высілкаў. Калісьці «чалавек мора», як яго называлі, апускаўся на глыбіню да дваццаці метраў, часта не маючы на сабе нічога, акрамя насцёгнавай павязкі — талісмана ад акул — і надзеі гэтым разам знайсці жаданую ракавіну з жамчужынай унутры.

Чытач літаратурнага зборніка нечым падобны да нырца па жэмчуг, бо ён рашаецца затрымаць дыханне і з галавой акунуцца ў незнаёмы яму сусвет, поўны слоўных дзівосаў і багаццяў на любы густ. Мэта — знаёмства з новым і пошук. Таму і ўкладальнік зборніка, чалавек мора літаратурнага, які займаецца адборам аўтараў і тэкстаў, ператвараецца на час працы ў нырца па жэмчуг. Асабліва калі рыхтуе зборнік твораў маладых пісьменнікаў. Звычайна для творцы публікацыя ў ім — пробны каменьчык, што можа як знікнуць бясследна, абыякава заглынуты перанасычанай тэкстамі кніжнай прасторай, так і пусціць на ваду выратавальныя кругі і вынайсці невядомую дагэтуль літаратурную глыбіню. Тады з'яўленне зборніка дасць пачатак нечаму творчаму шляху, як усход сонца дае пачатак дню.

Зборнік «Мой дзень пачынаецца» выдавецтва «Мастацкая літаратура» (2015) склалі руска- і беларускамоўныя творы сарака пяці аўтараў ва ўзросце ад дзевятнаццаці да трыццаці трох гадоў. Кароткая прадмова памерам у два абзацы і яшчэ больш лаканічная анатацыя ў адзін сказ прапаноўваюць чытачу ўявіць аўтараў у ролі будучых класікаў, бо, падкрэсліваецца, ужо зараз у іх творчасці заўважны патэнцыял, каб «стаць дастойнай заменай лепшых прадстаўнікоў нашай літаратуры». А пакуль вучні класікаў і таленавітыя самародкі практыкуюцца ў прыгожым пісьменстве, вызначаюць для сябе функцыі сучаснага мастацтва і сваё месца ў ім. Зборнік іх творчасці — кластар для прамежкавых вынікаў гэтай нябачнай пошукавай ды шліфавальнай працы. Карысны ён і тым, што пісьменнікі-пачаткоўцы «жывуць» у зборніку разам, нібы у студэнцкім інтэрнаце, таму не толькі атрымліваюць магчымасць «сябе паказаць», але і «іншых паглядзець», ацаніць, параўнаць.

Мастацкае афармленне цалкам адпавядае зместу — асобнік выглядае «стыльна, модна, па-маладзёжнаму». Кнігу адрознівае сучасны мінімалісцкі дызайн. Напрыклад, у назве зборніка на вокладцы літара «о» ў слове «мой» становіцца цэнтрам большай акружнасці, якая можа абазначаць сонечны дыск або кола маладых літаратараў. Каб прачытаць іх імёны на адваротным баку кнігі, даводзіцца павярнуць яе на дзевяноста градусаў і трымаць карэньчыкам уніз. Па фармаце зборнік нагадвае альманах. Падобны да яго, па-першае, тыпам вёрсткі, калі тэкст друкуецца на старонцы ў дзве калонкі, па-другое, вялікай колькасцю аўтараў і разнастайнасцю тэкстаў. Да таго ж, адчуваюцца адсутнасць «кропкі», гіпатэтычны працяг, выхад «другога нумара».

Арыентавацца ў зборніку дапамагаюць некалькі падыходаў да яго аналізу. Можна аддзяліць прозу ад паэзіі і разглядаць іх паасобку. Ці «раскідаць» творы па пэўных тэмах і жанрах. Яшчэ варыянт — засяродзіцца на саміх аўтарах, іх прыналежнасці да таго ці іншага пакалення: «старэйшага» (народжаныя ў 1980-я), «малодшага» («дзеці» 1990-х) або «прамежкавага» (на мяжы адзначаных гадоў).

Дарэчы, заўважана неспецыфічная для зборніка творчасці маладых пісьменнікаў рыса: няма біяграфічных звестак пра іх. Толькі імя, прозвішча і год нараджэння. Тэксты — асноўная для чытача крыніца інфармацыі пра пісьменніка і адзіны крытэрый ацэнкі яго творчасці. Аўтары нібы зраўнаваныя ў правах. Сімвалічна, што іх імёны і прозвішчы (як і назвы твораў) надрука-

> Чытач не ведае, хто з аўтараў неафіт з першай публікацыяй у кнізе, а хто — пісьменнік з выдадзеным зборнікам паэзіі, прозы ці раманам (а можа, і не адным)

ваны без загалоўных літар. Чытач не ведае, хто з аўтараў неафіт з першай публікацыяй у кнізе, а хто — пісьменнік з выдадзеным зборнікам паэзіі, прозы ці раманам (а можа, і не адным). Ёсць твор/творы, і яго/іх мастацкая вартасць кіруе сімпатыямі чытача. Так, публікацыя ў дадзеным зборніку для большасці аўтараў не была запаветным «пробным каменьчыкам».

Канешне, у апісаную ідылію можа ўмяшацца эфект пазнавальнасці, асабліва, калі чытач знаёмы з літаратурнымі і калялітаратурнымі тусоўкамі. Хтосьці чытаў прозу Сяргея Календы, аўтара сямі кніг і стваральніка часопіса «Макулатура». Хтосьці бачыў выступленне паэта, музыкі і барда Міхала Бараноўскага. Аматар сучаснага тэатра хутчэй за ўсё пазнае тэатральнага крытыка Алену Мальчэўскую (яшчэ яна аўтар зборніка казак) і з асаблівай цікавасцю прачытае яе апавяданні. Гартаў у кнігарні яго/яе кнігу… сустрэў на імпрэзе… вучымся на адным курсе… ведаю як універсітэцкага выкладчыка… Заўсёды радасна пабачыць знаёмае імя. Не менш радасна адкрыць для сябе новае. Зборнік «Мой дзень пачынаецца» дае такую магчымасць.

Кожны «нырэц» мае шанц адшукаць сваю «жамчужыну» сярод той разнастайнасці — жанравай, тэматычнай, стылявой, — якую прапаноўвае яму зборнік. Звернемся да паэзіі і знойдзем вершы розных форм — ад традыцыйнай сілаба-тонікі да верлібра, таўтаграмы, хайку. Што да тэм, то ў лідарах, безумоўна, каханне (і расстанне), а таксама пейзажная лірыка. Разам з тым, у вершах выяўляюць сябе развагі над бытавымі і філасофскімі праблемамі, тэма вайны (вачыма пісьменніц-дзяўчат), малой і вялікай радзімы, зварот да біблейскіх сюжэтаў і сусветнай культуры ў асэнсаванні рэчаіснасці. Сустракаюцца прыклады ўрбаністычнай паэзіі: прысвячэнні

Пісьменнікі-пачаткоўцы «жывуць» у зборніку разам, нібы у студэнцкім інтэрнаце, таму не толькі атрымліваюць магчымасць «сябе паказаць», але і «іншых паглядзець», ацаніць, параўнаць

Кароткая прадмова памерам у два абзацы і яшчэ больш лаканічная анатацыя ў адзін сказ прапаноўваюць чытачу ўявіць аўтараў у ролі будучых класікаў

гарадскім мясцінам і грамадскаму транспарту (метро, трамваям, цягнікам). А вось няпоўны спіс прэзентаваных ў зборніку празаічных жанраў: навелы, калядныя апавяданні, падлеткавая проза, абразкі і зацемкі, казкі для дарослых, творы міфалагічныя з пераходам у навуковую фантастыку… І паэтычныя, і празаічныя тэксты выяўляюць не толькі самааналітычнае паглыбленне аўтара ўнутр свайго «я», тэрапеўтычнае адлюстраванне асабістых пачуццяў і перажыванняў, але і пільную ўвагу да праяў навакольнага свету, простых рэчаў, жыцця звычайных людзей.

Зборнік прозы і паэзіі маладых «Мой дзень пачынаецца» варты таго, каб затрымаць дыханне і здзейсніць сваё падарожжа ў пошуках «жамчужыны» — гэта можа быць арыгінальная метафара, каштоўная думка, цэлы твор ці творчасць аўтара. Хутчэй за ўсё, пашчасціць здабыць і не адну «жамчужыну». А пакуль вось вам адразу дзве.

Першая — фрагмент зацемкі «Страшэнная таямніца» Яўгена Мартыновіча пра пісьменніцкую «кухню»: «Пішаш паміж працай і сям'ёй, паміж абавязкам і вольным часам: у метро прозу, у трамваях паэзію… Пішаш саромеючыся свайго пісання (а што, калі гэта будзе надрукавана?). "А вось насамрэч. А калі гэта будзе надрукавана!"».

Другая — заключныя радкі верша «Prah» («парог» па-чэшску) Алеся Емяльянава, што могуць стацца добрым эпіграфам да зборніка і ўяўным калектыўным выказваннем яго маладых аўтараў:

і ўсім вядома,  
што чакае наперадзе,  
але мы яшчэ  
на парозе.

**Зміцер Давідоўскі**

# Міласцю божай гісторык

*Да 95-годдзя з дня нараджэння Міколы Іванавіча Ермаловіча*



Памятны медаль у гонар М.І. Ермаловіча. Аўтар А. Фінскі.

## 1

29 красавіка 2016 года споўнілася б 95 гадоў з дня нараджэння Міколы Іванавіча Ермаловіча, сапраўднага гісторыка і героя навукі. Яшчэ ў далёкія 1970-я гэты чалавек не баяўся гаварыць праўду пра нашу гісторыю, хоць яна пярэчыла і афіцыйнай акадэмічнай навуцы, і тагачаснай камуністычнай ідэалогіі. А героем навукі ён ёсць толькі таму, што, маючы амаль нулявы зрок (акуляры –12—16 + павелічальнае шкло), мог чытаць толькі адным вокам ва ўпор на адлегласці ад вока прыблізна 3—5 сантыметраў. І дзіву даешся, як ён з такім зрокам змог напісаць сапраўдную гісторыю Беларусі.

Нарадзіўся Мікола Іванавіч Ермаловіч 29 красавіка 1921 года ў вёсцы Малыя Навасёлкі Мінскага павета (цяпер Дзяржынскі раён Мінскай вобласці). З-за вельмі слабага зроку ў вайне не ўдзельнічаў, а працаваў настаўнікам у Мардоўскай АССР. У Мінску апынуўся ў канцы 1943 года. Паступіў у Мінскі педагагічны інстытут на факультэт беларускай мовы і літаратуры, пасля заканчэння якога ў 1947 годзе працаваў старшым настаўнікам у Маладзечанскім настаўніцкім інстытуце (1955—1957), быў загадчыкам метадычнага кабінета Маладзечанскага абласнога інстытута ўдасканалення настаўнікаў і выйшаў на пенсію са значнай стратай зроку. Першая кніга Міколы Іванавіча «Па слядах аднаго міфа» выйшла ў свет у выдавецтве «Навука і тэхніка» толькі ў 1989 годзе. Пазней яна перавыдавалася — у 1991, 2001 і 2002 гадах.

На помніку, які стаіць у Маладзечне, напісана: «Яго чакала Беларусь чатыры стагоддзі. Мікола Ермаловіч». Сапраўды, такія гісторыкі нараджаюцца раз на 4—5 стагоддзяў. Да апошніх сваіх дзён Мікола Іванавіч заставаўся ўдзячным часопісу «Маладосць» за грамадзянскі ўчынак рэдакцыі: з 7 па 12 нумар 1988 года ў часопісе друкавалася кніга гісторыка «Старажытная Беларусь. Полацкі перыяд». У 1990 годзе яна ўбачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура» пад назвай «Старажытная Беларусь. Полацкі і Новагародскі перыяды». Хоць часы пачалі мяняцца да лепшага, і людзей сапраўдная гісторыя стала вельмі цікавіць, усё ж афіцыйная гістарычная навука ставілася да творчасці Міколы Іванавіча баязліва, з прынцыпам кшталту: «Ах! Боже мой! Что станет говорить графиня Марья Алексевна». І тады рэдакцыя «Маладосці» дапамагла Ермаловічу — надрукавала яго працу. А ўжо калі твор убачыў свет на старонках вельмі паважанага часопіса, то было проста сорамна перад часопісам, — і «Мастацкая літаратура» выдала твор кніжкай. Я вельмі добра памятаю, з якой радасцю Мікола Іванавіч паведаміў мне пра тое, што часопіс «Маладосць» пачынае друкаваць яго «Старажытную Беларусь». Пры размове вочы яго свяціліся шчасцем і радасцю — ён не мог паверыць, што яго гістарычны твор, які ідзе ўразрэз з афіцыйным падыходам і поглядам на гісторыю, у рэшце рэшт убачыць свет і не дзе-небудзь, а ў «Маладосці». З лёгкай рукі часопіса пачалі выдавацца кнігі гісторыка. Пасля кнігі «Старажытная Беларусь. Полацкі і Новагародскі перыяды» (1990 і 2001) убачылі свет «Старажытная Беларусь. Віленскі перыяд» (1994) і «Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае» (2000, 2003, 2011). Апошняя кніга — пасмяротная лебядзіная песня гісторыка. Мікола Іванавіч Ермаловіч яшчэ паспеў здаць рукапіс кнігі ў выдавецтва «Беллітфонд», а выйшла кніга ўжо пасля яго заўчаснай гібелі ў ДТЗ. Шмат хадзіла плётак і небыліц пра гэты выпадак, але не будзем успамінаць дурное.





## 2

У гэтым раздзеле я павяду гаворку пра Міколу Іванавіча Ермаловіча не толькі як пра апантанага гісторыка, але раскажу і пра яго чалавечыя якасці. Карацей кажучы, гэта раздзел успамінаў і думак пра цудоўнага гісторыка і чалавека.

1980 год. Я па размеркаванні трапіў у Дзяржаўную бібліятэку БССР імя У.І. Леніна (цяпер Нацыянальная бібліятэка Беларусі). І так сталася, што адзіным месцам маёй працы стаў аддзел беларускай літаратуры і бібліяграфіі. Я трапіў у святая святых беларускага аддзела — кнігасховішча. Тут для мяне было раздолле. Але не пра гэта гаворка. З першых дзён маёй працы ў аддзеле беларускай літаратуры і да самага пераезду ў новы будынак я працаваў у «філіяле» АН БССР. Чаму так? Нашы пастаянныя чытачы: доктар гістарычных навук Анатоль Пятровіч Грыцкевіч, доктар гістарычных навук Уладзімір Мікалаевіч Міхнюк, некаранаваны акадэмік (як назваў Міколу Іванавіча А.П. Грыцкевіч. — З.Д.) Мікола Іванавіч Ермаловіч і іншыя.

Што сабой уяўляў аддзел беларускай літаратуры і бібліяграфіі. Чытач адразу трапляў у так званы аванзал. У якім былі кафедра выдачы літаратуры, алфавітны і сістэматычны каталог і дзверы ў вялікую залу. З правага боку былі дзверы ў кнігасховішча, а з левага чытач трапляў у даволі доўгі калідор, з якога быў уваход у «Ермаловічскую залу», насупраць яе — дзверы ў службовы пакой. Ермаловічскай залай мы называлі маленькі чытацкі пакой, у якім увесь час працаваў Мікола Іванавіч. У гэтай зале, акрамя Міколы Іванавіча, працавалі А.П. Грыцкевіч і В.П. Панюціч. У гэтым пакоі стаяла шафа з тэмамі пералічаных гісторыкаў. Яны проста прыходзілі, бралі свае кнігі і працавалі кожны за сваім «любімым» сталом. Што ж быў за чалавек Мікола Ермаловіч? Штодня Мікола Іванавіч прыязджаў з Маладзечна электрычкай і праводзіў у бібліятэцы цэлы дзень — з ранку да вечара. Выходзіў толькі паабедаць — ці ў наш бібліятэчны буфет, ці ў сталовую ЦК КПБ (дарэчы, і мы карысталіся гэтай даволі таннай сталоўкай). Гэта быў апантаны чалавек, які вельмі хацеў данесці да людзей свае веды і сапраўдную гісторыю нашай Бацькаўшчыны, каб нам, як сказаў Янка Купала, «людзьмі звацца». Ад нас жа ўвесь час хавалі нашу сапраўдную гісторыю, а з ёю культуру і літаратуру. А людзі павінны ведаць сваю гісторыю, якой бы жахлівай яна ні была. Ведаць яе без прыкрасаў. Менавіта такую гісторыю пісаў Мікола Ермаловіч. Пісаў, не звяртаючы ўвагі на стан свайго здароўя. Неяк падыходжу я да наша корпуса на Кірава, 49 (я ішоў на другую змену), а ад будынка з сірэнай ад'язджае «хуткая дапамога». Першая думка — пра Міхнюка (у яго было хворае сэрца). Падняўшыся на свой трэці паверх, убачыў Уладзіміра Мікалаевіча за «яго» сталом каля калоны. «Хуткая», як аказалася, забрала Міколу Іванавіча з прабадным апендыцытам. Колькі мы потым выслухалі ад слаўнага гісторыка слоў падзякі за выклік той «хуткай», бо праз 25—30 хвілін магла наступіць смерць. Вось які гэта быў чалавек. Аднойчы



Маючы амаль нулявы зрок (акуляры –12—16 + павелічальнае шкло), Мікола Ермаловіч мог чытаць толькі адным вокам ва ўпор на адлегласці прыблізна 3—5 сантыметраў.



Мікола Ермаловіч з жонкай і дзецьмі.

Мікола Іванавіч кудысьці прапаў прыкладна на тыдзень, і мы ўжо пачалі за яго хвалявацца, як раптам ён залятае — менавіта залятае — і ледзь не з парога кажа: «Мне Таццяна Бірыч зрабіла аперацыю на вачах і палепшыла зрок на 0,06%. Якое гэта шчасце!» Можаце сабе ўявіць, які наогул быў зрок у гэтага чалавека, калі паляпшэнне на 0,06% для яго было найвялікшым шчасцем.

З выхадам у свет кнігі «Па слядах аднаго міфа» для Міколы Іванавіча Ермаловіча пачаўся яго зорны час. У 1989 годзе гісторык быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў БССР, у 1992 годзе — Дзяржаўная прэмія Рэспублікі Беларусь за кнігу «Старажытная Беларусь. Полацкі і Новагародскі перыяды», прэмія імя У. Краткевіча і ў 1993 годзе — медаль Францыска Скарыны. З выхадам першай кнігі прыйшло прызнанне, а колькі нацярпеўся гэты чалавек ад гора-навукоўцаў і ўрадавых структур.

Мікола Іванавіч актыўна прымаў удзел у самвыдаце. У 1964 годзе ён выдаў чатыры нумары самвыдатаўскага часопіса «Подснежник», а ў 1974—1975 гадах працягнуў яго выданне пад іншай назвай — «Гутаркі». Рыхтаваўся гэты часопіс у нашай беларускай зале. Тагачасныя ўлады не маглі даравацъ такой непаслухмянасці і пачалі актыўнае цкаванне. У 1982 годзе гісторык З.Ю. Капыскі напісаў ліст у ЦК КПБ з прапановай забараніць друкаванне твораў М.І. Ермаловіча. Для ЦК гэты ліст быў бальзамам. Мікола Іванавіч пазбавіўся права на друкаванне, але не скарыўся — выступаў перад аматарамі беларускай гісторыі ў клубе «Спадчына». Акрамя гістарычных даследаў Мікола Ермаловіч пісаў вершы, якія былі надрукаваны ў 1991 годзе асобным выданнем пад назвай «Сшытак вершаў».

У адным са сваіх вершаў Мікола Ермаловіч пісаў:

*Незайздросную хоць долю маю,*
*Ды на лёс не наракаю я,*
*Бо найбольшую ў тым радасць маю,*
*Што жывеш ты, Беларусь мая.*
*Незайздросную хоць долю маю,*
*Ды на лёс не наракаю я,*
*Бо найбольшае ў тым шчасце маю,*
*Што жыць будзеш, Беларусь мая!*

Шчырыя радкі: праўдзівыя, рамантычныя, аптымістычныя... Ён і гісторык быў такі ж — рамантычны!

Неяк у размове са мной Мікола Іванавіч выказаў пажаданне хутчэйшага стварэння сучаснага будынка Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Бо вельмі было нязручна чакаць выканання заказаў па некалькі дзён. Вельмі хацелася слаўнаму гісторыку працаваць ва ўтульнай светлай зале з сучасным абсталяваннем. Але 4 сакавіка 2000 года гісторык загінуў пад коламі аўтамабіля. Пахаваны на «старых» маладзечанскіх могілках побач з жонкай. На яго магіле заўжды стаяць жывыя кветкі. Памятае Маладзечна свайго слаўнага жыхара.




Надмагільны помнік М.І. Ермаловіча. На адваротным баку напісана: «Ён любіў Беларусь».




Мікола Ермаловіч

## Беларусь! У наступленне!

***

Беларусь, ты доўга сніла
Сон цяжкі крывавы свой.
Час прыйшоў раскоўваць сілы
І за волю йсці на бой.
Годзе рабскага цярпення,
Годзе ўжо астрожных крат,
Беларусь! У наступленне!
І ні кроку больш назад!
Ты прыгнечана найболей,
І ўжо грозіць смерць табе.
Твой ратунак толькі ў волі
І твой шлях у барацьбе!
Годзе крыўд і прыніжэнняў,
Годзе кпінаў і пагард!
Беларусь! У наступленне!
І ні кроку больш назад!
Помніць больш за ўсё павінен
Беларускі край святы,
Што, калі сягоння згінеш, —
Не ўваскрэснеш болей ты!
Годзе нам чужацкі лад!
Годзе страху нам знікнення!
Беларусь! У наступленне!
І ні кроку больш назад!



На помніку, які стаіць у Маладзечне, напісана: «Яго чакала Беларусь чатыры стагоддзі. Мікола Ермаловіч»

## Гэта пры нас...

Гэта пры нас Беларусь забівалі,
Гэта пры нас ёй магілу капалі,
Ды аб ратунку яе мы не дбалі,
Мы яе ворагу самі аддалі.
Многія з нас нават катамі сталі,
Разам з прыблудамі білі, таптали,
Гналі яе, ёй у вочы плявалі.
Мы ж гэта шчасцем яе называлі,
Будучнасць слаўную ёй прадракалі
І пераможныя гімны складалі.
Гэта пры нас Беларусь забівалі.
Гэта пры нас ёй магілу капалі,
Толькі адны мы у гэтым віноўны,
Толькі адным нам і мераю поўнай
Вечнай агіды адмерана будзе,
Бо не падставілі мы свае грудзі,
Каб засланіць імі маці Радзіму.
Гэта бо толькі і ёсць тым адзіным,
Чым здабываюць жыццё і свабоду,
Гонар і славу Айчыне й народу.
Гэта пры нас Беларусь забівалі,
Гэта пры нас ёй магілу капалі.

*1976*

# Як гаварыў дзядуля Ёся

Колькі я яго памятаю, ён заўсёды быў адзін, але мяне ніколі не пакідала адчуванне, што недзе побач, у доме ці на агародзе, корпаецца яго жонка. Здавалася: вось-вось яго Сонечка аднекуль выйдзе. І гэта было цудоўна. Акалічнасць такая азначае даволі шмат. Людзі з жыцця сыходзяць, і мы пра іх успамінаем як? З сумам, з адценнем трагізму, з душэўным надрывам, аплакваючы. А ў яго ўспамінах пра жонку яна існуе як чалавек, які працягвае жыць побач з ім. Ён пра яе гаварыў больш з гумарам, чым са смуткам ці шкадаваннем. Ён мог яе, якая сышла з жыцця, падколваць, жартаваць з яе. Сонечка працягвала жыць у ім самім.

Бацькоўскае выхаванне дало мне разуменне важнасці догляду за старымі людзьмі. Памятаю, як насіў сваім бабулі і дзядулі малако праз вялікае поле. Гэта тады яно было для мяне вялікае, а потым я зразумеў, што яго шырыня метраў дзвесце. Я насіў бабулі і дзядулю праз поле малако — і адчуваў сябе героем, важным, вартым павагі чалавекам. Тыя ж пачуцці прысутнічалі і ў стасунках з дзядулем Ёсем. Дзядулі Рыгора і бабулі Ганны пазней не стала, і ён, сусед, быў быццам наш дзядуля. Да яго маглі ісці пазычыць грошай, з ім маглі праз плот размаўляць. Наш дом стаяў выхадам не на вуліцу, а да гаспадаркі — у сад, да хлявоў, агародаў, калодзежа, склепа. Гэтаксама стаяла і хата дзядулі Ёсі. І калі мы выходзілі з хат, толькі плот нас размяжоўваў. Мы яго бачылі, — і ён нас бачыў. Ён быццам увесь час прысутнічаў у нашым двары. Мама неяк прапанавала зрабіць брамку з яго двара ў наш, але ён адмовіўся. Хадзіў да нас праз вуліцу і казаў: «Праз брамку прайду — і ўбачу толькі цябе, дык я цябе і без таго бачу. А калі прайдуся вуліцай, убачу па дарозе людзей».

Вельмі ён быў строгім, як мне здавалася. Але ў памяці застаецца ўсё самае добрае. Жыццё сапраўды нагадвае бібліятэку: з часам разумееш, што толькі харошыя сачыненні застаюцца. Дзядуля Ёся так хапаў мяне за вуха, так яго накручваў, але пры гэтым абавязкова клаў у маю кішэню тры або нават чатыры яблыкі. Была ў яго такая лаянка: «Каб вашы маці больш страцілі на вашых падраных штанах, чым я на скрадзеных вамі яблыках». Гэта мудра. Падраныя штаны ў той час — сур'ёзная страта. Я разумею, што іх можна было залатаць, але гэта былі б ужо латаныя штаны, а купіць новыя — вельмі дорага.

У вёсцы заўсёды шмат працы, вялікай і маленькай — яе проста завал. Тым больш раней, калі былі сапраўдныя вялікія гаспадаркі. Сена, торф, агарод, догляд жывёлы… Але калі прыходзіў дзядуля Ёся, мама кідала любую працу і сядала з ім размаўляць. Мне здавалася, што ён з матулі пакеплівае, жартуе з яе. Але яны разам смяяліся. Потым я зразумеў, што жарты дзядулі Ёсі, якія да мяне не даходзілі, маці былі зразумелыя, і яна магла адказаць яму гэтаксама, падкалоць яго. Такі вось быў цікавы і вясёлы чалавек дзядуля Ёся.

Я бачыў, як ён мяняўся, калі да мамы і таты заходзіў, напрыклад, брыгадзір. Тады дзядуля Ёся рабіўся пахмурным, гаварыў мала. Напэўна, нешта было ў яго жыцці, звязанае з уладамі.

Да вайны ён у нашай вёсцы не жыў. Гаварылі, што ён уцёк з гета і доўга недзе хаваўся. Пасля вайны ў нашай мясцовасці пад Мірам было дастаткова яўрэяў. Там ён і пазнаёміўся са сваёй Сонечкай. Працаваў на млыне…

*Уладзімір Цвірка*

Расказваў дзядуля Ёся, што аднойчы ён сваёй Сонечцы падарыў процьму падарункаў адразу. І меў неасцярожнасць дадаць, што ён яе вельмі кахае. На што тая абурылася:

— Што?! І ты можаш гаварыць, што ты мяне кахаеш, купіўшы ўсё, пра што я марыла?

Пра кнігі дзядуля Ёся гаварыў так: «Я люблю завітваць у кнігарні, там я адчуваю сябе частачкай сапраўднага вялізнага чалавечага грамадства». Яшчэ пра кнігі: «Жыццё — гэта вялікая бібліятэка. З часам разумееш, што ў ёй сабраны толькі добрыя творы».

Пра натоўп: «У натоўпе людзі рэдка задумваюцца. Магчымасць разважаць дае толькі адзінота. Вось чаму натоўпам так лёгка кіраваць».

Пра кубінскі цукар. Дзядуля Ёся бачыць яго ўпершыню, яго пачаставала ім мая мама. Ён дакранаецца да цукру кончыкам пальца і кажа: «Гэтыя кубінцы напэўна вельмі шмат цукру кладуць у сваю каву і пры гэтым яго не размешваюць». Мама глядзіць вялікімі запытальнымі вачыма. «Так, так, Верачка! Магчыма, кубінцы такія ж эканомныя людзі, як і мы, яўрэі», — тлумачыць дзядуля Ёся.



Графіка Алесі Галоты.

У сталоўцы агульнага харчавання. Я выпіваю ў канцы абеда кампот і, перакуліўшы стакан, пастукваю па донцы — хачу, каб рэшткі сухафруктаў трапілі мне ў рот. «Што ты робіш?! — гучна крычыць дзядуля Ёся, які сядзіць насупраць. І потым, нахіліўшыся да мяне, шэптам дадае: — З чаго ж яны заўтра будуць варыць новы кампот?»

Парада дзядулі Ёсі: «Калі вас распірае радасць і вы вось-вось лопнеце ад шчасця, капніце ў сябе кропельку зайздрасці».

Мама, былая настаўніца, гартаючы мае падручнікі, часам уздыхала: «Чаму вучыць школа дзяцей?», на што дзядуля Ёся ў дачыненні да мяне гаварыў: «Калі ў ім сядзяць гены яго продкаў і жывая памяць пра іх, школа яго не сапсуе».

Пра старшыню калгаса: «Праўду я заўсёды гаварыў яму шэптам, і гэта яго раз’юшвала, ён пераходзіў на крык і абразы. А гэта лішні раз пацвярджае, што я гаварыў яму праўду».

Пра каханне да жанчыны. Мама непакоіцца за мяне: «Чаму ён не есць? Нават, здаецца, схуднеў. Не ведаю, што рабіць». На гэта дзядуля Ёся адказваў: «У яго няма апетыту, але ён добра выглядае. Я ведаю, чым ён харчуецца: гэта каханне».

«Верачка, пра свой узрост ты можаш гаварыць у гадоў 95, а пакуль ты гавары пра юнацтва сваіх дзяцей, гэта так упрыгожвае жанчыну».

Мама мяне абняла, а дзядуля Ёся, заўважыўшы гэта, сказаў: «Абдымаючы дзіця, мы не задумваемся над тым, што абдымаем цэлы свет».

Пра багацце: «Быць багатым сярод іншых, якія бедныя, — гэта яшчэ так сабе. Але быць адзіным багачом у сваёй сям’і — гэта нешта накшталт праклёну».

«Уяўляеце: ёй заўсёды хацелася вельмі салодка есці, але пры гэтым не адрываць сваёй худой з… ад засаленага тапчана».

Пра сяброў: «Ненавіджу я быццам бы сяброў, якія нашэптваюць мне розныя брыдоты, што прамаўляюцца ў мой адрас маімі ворагамі. Ганіце такіх сяброў мяцёлкай, выпацканай у г…».

Пра глупства: «Мудрасць аднаго чалавека можна ўскласці на адну павозку, а для глупства другога не хопіць цэлага абозу». Яшчэ: «Дайце мне вялікі клубок вяроўкі, я буду вымяраць яго глупства». І асабліва мне падабаецца наступнае: «Калі ты разумны чалавек, не паказвай, што ты дурань».

Пра суседку: «У гэтай жанчыны тры языкі і ніводнага вока». Яшчэ пра назойлівую суседку: «Што-што, а пазногцямі абіраць бульбу яна ўмее». На прычытанні суседкі, якія заўсёды канчаліся адной фразай: «Гэта канец свету» дзядуля Ёся адказваў так: «Ой, кожны дзень у цябе канец свету, а табе ўсё мала».

Збіраючы грыбы, пераступаючы праз паваленае дрэва, кожны раз дзядуля Ёся гаварыў: «Хто б мог падумаць, што паваленае дрэва так упрыгожыць лясны пейзаж! Вось так і ў людзей — заўважаем толькі тых, што ўпалі, хвалімся, што жылі побач з імі, дыхалі адным паветрам». І яшчэ: «Толькі прырода ніколі не пазіруе ў камеру — яна заўсёды перад табою такая, якая ёсць».

Просьба да жонкі: «Сонечка, не чапай мае нервовыя клеткі, я так не люблю, калі яны мне маршчыняць твар».

З дыялогаў з маёй мамай. «Я не настолькі дрэнны твой сусед, каб дзяліцца з табой толькі сваімі бедамі»; «Я, магчыма-такі, жыву ўжо занадта доўга, але мне вельмі хочацца паглядзець, што будзе далей»; «Мае хваробы, якія непакоілі мяне ўсё жыццё, нешта прыціхлі. Здаецца мне, што я іх хутка пакіну». Цікава, што дзядуля Ёся памёр недзе праз паўгода пасля таго, як сказаў гэта.

Пра эканомію. Мама жаліцца, што зарабляюць яны з бацькам удваіх, а яна ўсё роўна пазычае ў суседа. Дзядуля Ёся: «Вы зарабляеце ўдваіх, а я эканомлю адзін. Гэта, Верачка, адно і тое самае».

Расказаны дзядулем Ёсем дыялог маладых закаханых яўрэяў. Ён ёй: «Хочаш, я захварэю табой?» Яна: «Гэта будзе лёгкі насмарк ці хвароба з ускладненнем?»

Пра непатрэбнае. Перабіраючы рэчы, дзядуля Ёся бурчыць сабе пад нос: «Калі нечага вельмі шмат, гэта так нязручна. Але калі ты нешта выкідаеш, адразу адчуваеш сябе чалавекам, у якога нечага няма».

Часам у гарачай размове ці спрэчцы дзядуля Ёся любіў выкарыстаць такую фразу: «Дазвольце мне з вамі груба не пагадзіцца».

Пра зацікаўленасць. Дзядуля Ёся, разглядаючы нейкі прадмет, прамаўляе ўголас: «Вось гляджу на гэтую рэч — і адназначна разумею, што я ў ёй не зацікаўлены. Але, магчыма, пройдзе час — і яна зацікавіцца мною».

Пра суседа-камуніста: «Ён глыбока няшчасны чалавек — ён верыць, што партыя яго рулявы і што бацька яго быў ворагам народа».

Адказ на зварот па дапамогу: «Чым можа дапамагчы вам стары хворы яўрэй — сваёй мудрасцю ці сваім кашальком, у якім столькі чалавечых заган?»

Сёння і заўтра. Дзядуля Ёся дрэмле на лаўцы і дзяўбе носам. Мама яго будзіць і кажа: «Ідзіце, дзядуля, ляжце, вам будзе зручней». Дзядуля Ёся абураецца: «Спаць у ложку — гэта было ў маіх планах на заўтра, а сёння я марыў дзяўбці носам, седзячы на лаўцы».

Пра жанчын: «У жанчын ёсць усё, нават мы, мужчыны». Мама абураецца: «Дык у вас таксама ёсць жанчыны». Дзядуля Ёся парыруе: «Як можна валодаць тым, хто валодае табой?»

У нядзелю дзядуля Ёся са сваёй жонкай Сонечкай выехалі на кірмаш. «Давай зойдзем у гэтую краму», — прапануе яму Сонечка. «А што ты хочаш там купіць?» — цікавіцца дзядуля Ёся. Тая: «А на што вочы ўпадуць». І ўжо пасля, праз нейкі час дзядуля Ёся абураецца: «Я не мог сабе нават уявіць, што ў маёй Сонечкі такія вялікія вочы».

Пра мае хітрыкі. Пакідаючы мяне дома, мама некуды выпраўляецца і кажа: «Дзядуля Ёся, прыглядзіце за гэтым гарэзам, каб ён чаго не ўтварыў». Дзядуля Ёся пазней — мне: «Калі за табою не назірае твая найкаштоўная матуля, дык тое, што ты тут робіш, бачыць дзядуля Ёся. Але калі дзядуля Ёся ідзе ўдзень спаць, за табой прыглядае Бог з неба».

Пра працу Бога: «Самая вялікая, непамерная праца Бога — гэта дараваць нам, грэшнікам. І дзень, і ноч Ён, бедны, працуе. І дзень, і ноч».

Раніца. Снедаем усёй сям’ёй у кухні. Раптам рэзка расчыняюцца дзверы, — і ўваходзіць дзядуля Ёся. Заміраем ад нечаканасці: мо што здарылася? Ён: «От удала я да вас зайшоў. Я бачу, што вы дакладна ведаеце, што са мной рабіць».

Мне — пра маіх бацькоў: «Мілы мой хлопчык, ты не ўяўляеш, якое шчасце мець бацькоў. Гэта адзіныя людзі ў свеце, для якіх ты заўсёды будзеш хлопчыкам».

«Падаваць міласціну трэба заўсёды ўсім акрамя цыганоў. Цыганы анёламі не бываюць».

Пра салодкае (дзядуля Ёся хварэў на цукровы дыябет): «Я ж ведаю, што мне нельга есці цукеркі, па крайняй меры, так гавораць мне мае ўрачы. Але сёння зранку гэтае “нельга” некуды падзелася».

*Запісаў Уладзімір Цвірка*

*Пераклад з рускай Святланы Дзянісавай*

**Кірыл Мяцеліца**

# Жыццё яўрэйскага мястэчка

Для многіх сёння штэтл («гарадок» на ідыш) з'яўляецца сімвалам даўно мінулай эпохі, апошнія акорды якой усё яшчэ можна пачуць на старонках кніг Шолам Алейхема, Мендэле Мойхер Сфорыма і Ісаака Башэвіса Зінгера. У агульнапрынятым сэнсе штэтл — гэта невялікі населены пункт, большасць жыхароў якога з'яўляліся яўрэямі і які мы традыцыйна называем мястэчкам. Стагоддзямі беларусы і яўрэі жылі побач адзін з адным, але многія з нас нават не ўяўляюць той дзіўны свет яўрэйскага мястэчка, які назаўжды быў знішчаны ў агні Другой сусветнай вайны.

Вядома, што яўрэі сталі актыўна сяліцца на тэрыторыі ВКЛ яшчэ ў часы Ягайлы, аднак згадкі пра першыя яўрэйскія мястэчкі на беларускіх землях адносяцца да XV—XVI стагоддзяў. Мясцовыя арыстакраты, зацікаўленыя ў ажыўленні гандлю і развіцці рамяства ў сваіх уладаннях, сталі запрашаць яўрэяў у падуладныя гарады і вёскі. Мігрантам гарантавалася бяспека і свабода веравызнання.

Першапачаткова гэты «зыход» з Еўропы не насіў масавага характару, аднак усё змянілася ў другой палове XVII стагоддзя. Сумна вядомы Крывавы патоп, падчас якога большая частка насельніцтва беларускіх гарадоў была альбо знішчана, альбо вывезена ў Маскоўскую дзяржаву, паставіў беларускія землі на мяжу дэмаграфічнай і эканамічнай катастрофы. Гэты вакуум сталі запаўняць менавіта яўрэі. Ужо ў наступным стагоддзі прадстаўнікі Богам выбранага народа складалі значную частку жыхароў правінцыі. Калі ж пасля падзелаў Рэчы Паспалітай царскі ўрад увёў мяжу аселасці і пачаў праводзіць палітыку высялення яўрэяў з сельскай мясцовасці ў гарады і мястэчкі, наш край ператварыўся ў самую сапраўдную краіну штэтлаў. Ужо да канца XIX стагоддзя каля 65% ад усяго местачковага насельніцтва беларускіх губерняў былі яўрэямі.

Перасяленцы вялікімі групамі прыбывалі ў ВКЛ з буйных еўрапейскіх гандлёвых і эканамічных цэнтраў і прыносілі ў глухую правінцыю традыцыі самакіравання, якое ажыццяўлялася асаблівым органам — кагалам. У яго ўваходзілі найбольш аўтарытэтныя члены абшчыны. Менавіта кагал займаўся зборам падаткаў, аказваў дапамогу хворым, беднякам, сіротам і строга сачыў за арганізацыяй рэлігійнага жыцця штэтла. Нават пасля таго, як у 1844 годзе па ўказе Мікалая I кагальная сістэма была скасаваная, розныя формы самаарганізацыі ў штэтлах захаваліся аж да рэвалюцыі.

Яўрэйскія абшчыны жылі сваім ізаляваным жыццём, старанна ахоўваючы абрады і традыцыі. З часам у местачковых яўрэяў нават сфарміравалася ўяўленне, згодна з якім штэтлы з'яўляліся своеасаблівым «Ізраілем у выгнанні». Тут, у межах гэтай маленькай радзімы, жыццё яўрэяў праходзіла па вуглах няхітрага трохвугольніка: дом — сінагога — рынак. Вядучую ролю адыгрывала, вядома ж, менавіта сям'я. Тут выконваліся рэлігійныя абрады, шанаваліся старажытныя традыцыі, а дзецям прышчапляліся галахічныя нормы. Наўрад ці будзе вялікім перабольшаннем сказаць, што за некалькі стагоддзяў «местачковага» жыцця інстытут яўрэйскай сям'і практычна не зведаў змен, застаўшыся ў пачатку XX стагоддзя такім жа кансерватыўным, як і сотні гадоў таму. Дастаткова прыгадаць апавяданне Міхася Лынькова «Гой», дзе расказваецца пра тыя цяжкасці, з якімі сутыкнуўся чырвонаармеец, закаханы ў дзяўчыну з патрыярхальнай яўрэйскай сям'і.

Шмат у чым падобнай сацыяльнай коснасці спрыяў той факт, што ў штэтле (у адрозненне ад вялікага горада, які ў большай ступені гарантуе ананімнасць) усе былі навідавоку. Любая важная падзея ў жыцці кожнай асобнай сям'і (нараджэнне дзіцяці, вяселле, смерць і г. д.) імгненна станавіліся здабыткам галоснасці. Калі яўрэй жыў па нормах грамадскай маралі, то ён заўсёды мог разлічваць на дапамогу і падтрымку іншых членаў абшчыны, але калі ў яго

За некалькі стагоддзяў «местачковага» жыцця інстытут яўрэйскай сям'і практычна не зведаў змен, застаўшыся ў пачатку XX стагоддзя такім жа кансерватыўным, як і сотні гадоў таму

паводзінах заўважалі якое-небудзь адхіленне (напрыклад «парушэнне суботы», дашлюбную сувязь дзяўчыны або пераход у іншую веру), то гэтага чалавека чакала ўсеагульнае ганьбаванне. З аднаго боку, такі татальны кантроль забяспечваў адносны парадак у штэтле, але з другога — падштурхоўваў многіх членаў абшчыны да радыкальных крокаў, такіх як «сыход у рэвалюцыю». Вынік гэтага грамадскага дыктату аказаўся сумным — па даных праведзенага ў 1937 годзе перапісу насельніцтва менавіта яўрэі аказаліся самай нерэлігійнай этнічнай групай у СССР.

Асаблівае месца ў жыцці мястэчка займала сінагога, якая з'яўлялася не толькі месцам засяроджвання духоўнага жыцця, дзе яўрэі маліліся і вывучалі Талмуд і Тору, але і своеасаблівым сацыяльным цэнтрам штэтла. Падчас рэвалюцыі 1905—1907 гадоў многія сінагогі ўвогуле ператварыліся ў месцы сходаў членаў розных палітычных партый ад сіяністаў да бундаўцаў. Па тым, як размяркоўваліся месцы ў сінагозе, можна было вызначыць сацыяльны статус таго ці іншага члена абшчыны. Так, лаўкі каля ўсходняй сцяны (арыентаванай на Іерусалім) займалі, як правіла, самыя багатыя і шаноўныя члены абшчыны, у той час як каля заходняй сцяны сядзелі беднякі. Бывалі выпадкі, калі багатыя рамеснікі куплялі сабе ганаровае месца каля ўсходняй сцяны, але гэта часта выклікала ўсеагульнае абурэнне. Выскачак тут не любілі.

Нягледзячы на такую наглядную іерархію, заможныя яўрэі нярэдка займаліся дабрачыннасцю і часцяком шчыра імкнуліся палепшыць жыццё сваіх менш забяспечаных супляменнікаў. Нічога дзіўнага ў гэтым няма, калі ўлічыць, што дабрачыннасць з'яўляецца адной з запаведзяў іўдаізму. Практычна пры кожнай мястэчковай сінагозе мелася свая дабрачынная арганізацыя, якая займалася дапамогай бедным, зборам пасагу для сірот, раздачай жабракам мацы на Песах і г. д.

> Жыхары мястэчка Мір апісвалі яўрэяў як ветлівых і прыязных людзей, звяртаючыся са слова «пан» нават да самага апошняга басяка

> Гарматныя стрэлы ў жніўні 1914 года адзначылі сабой пачатак канца мястэчка. Першая сусветная вайна, рэвалюцыі, савецка-польская вайна і звязаныя з імі рабаванні, рэквізіцыі і пагромы абяскровілі штэтлы

Варта згадаць і наступнае: многія мемуарысты адзначалі, што адной з асноўных рыс штэтла была беднасць. Праўда, у адрозненне ад збяднелых хрысціян, якія жабравалі на вуліцах, бедныя яўрэі свабодна ўваходзілі ў дамы сваіх пабрацімаў і прасілі міласціну. Адмовіць бедняку было нельга. Зразумела, што не ва ўсіх была магчымасць даць няшчаснаму нават паўкапейкі, але мястэчковыя яўрэі знайшлі выйсце з гэтай сітуацыі. Яны раздавалі беднякам адмысловую, выразаную з кардону «жабрацкую» манету, якую тыя потым маглі абмяняць на сапраўдныя грошы. «Яўрэй ад голаду памерці не можа — суседзі не дадуць, а калі ўсё ж памрэ, то не ад голаду, а ад ганарыстасці», — адзначаў у сваёй кнізе «Божыя ваданосы» Манэс Шпербер.

Што да стасункаў жыхароў штэтлаў з карэнным насельніцтвам, то беларусы практычна не канфліктавалі з яўрэямі. Нашы продкі ўспрымалі іх не столькі як чужынцаў, колькі як братоў па няшчасці. Таксама як і беларусам, яўрэям давялося да дна выпіць чашу нацыянальнага і сацыяльнага прыгнёту. Вось што пісаў у сваіх успамінах Абрам Паперна, дзяцінства якога прайшло ў мястэчку Капыль: «У апісаны час (сярэдзіна XIX стагоддзя. — *К. М.)* Капыль мог мець каля 3000 душ насельніцтва, якое складалі тры розныя па народнасці і веравызнанні групы: яўрэі, беларусы, татары. Гэтыя тры групы, аб'яднаныя адной тэрыторыяй і апекай аднаго начальства, былі абсалютна чужыя адна адной па мове, звычаях, вераваннях і гістарычных паданнях, былі як знешне, так і па духу прадстаўнікамі трох розных светаў і тым не менш жылі паміж сабой мірна. Збліжалі іх непазбежныя суседскія і эканамічныя інтарэсы. Не было паміж імі зайздрасці, таму што не было чаму ім адно аднаму зайздросціць:

«Яўрэй ад голаду памерці не можа — суседзі не дадуць, а калі ўсё ж памрэ, то не ад голаду, а ад ганарыстасці», — адзначаў у сваёй кнізе «Божыя ваданосы» Манэс Шпербер

усе з вялікімі цяжкасцямі здабывалі сабе бедны пражытак, а галоўнае — не было між імі канкурэнцыі, бо кожная з гэтых груп, як па дамове, адмежавала сабе адметнае ад іншых поле дзейнасці. Такім чынам, яны хутчэй дапаўнялі адзін аднаго, чым спаборнічалі паміж сабой».

Вядома, невялікія непаразуменні паміж беларусамі і яўрэямі перыядычна ўзнікалі, але ўсе яны былі лакальнымі і насілі эканамічны характар. Так, у сярэдзіне 20-х гадоў XIX стагоддзя ў мястэчку Мір разгарэўся канфлікт паміж яўрэйскімі і «хрысціянскімі» ткачамі. Спрэчку спынілі князі Радзівілы, забараніўшы мясцовым яўрэям займацца ткацтвам. Наогул жа падобныя выпадкі былі адзінкавымі. Часта дзелавыя і асабістыя якасці яўрэяў наадварот рабілі іх важным звяном у функцыянаванні эканомікі беларускіх земель. Пра гэта пісаў і Змітрок Бядуля: «Месты і мястэчкі, у якіх салідную перавагу мела жыдоўскае насяленне, давалі беларускім сялянам мажлівасць нармальнага тавараабмену. Гандляры і рамеснікі таксама былі неабходныя ў гэтым глухім (у бытнасці пад Расеяй) краю, дзе не было ніякай эканамічнай культуры». У адрозненне ад іншых рэгіёнаў былой Расійскай імперыі, беларуская зямля не ведала тых страшных пагромаў, якія скаланалі дзяржаву Раманавых у канцы XIX — пачатку XX стагоддзя. За сваю талерантнасць беларусы былі ўдастоены асаблівай падзякі з боку прадстаўнікоў яўрэйскіх арганізацый, якія прысутнічалі ў 1917 годзе на Першым Усебеларускім з’ездзе.

Галоўным месцам сустрэчы яўрэя і беларуса быў, вядома ж, рынак, без якога цяжка ўявіць сабе штэтл. Аўстрыйскі пісьменнік Ёзэф Рот пісаў: «Як рака, запавольваючы бег, утварае возера сярод пагоркаў, так і вуліца ўліваецца ў базарную плошчу. Тут можна прасачыць зараджэнне мястэчка. Мястэчка — дзіця дарогі. Базар стварыў базарную плошчу, а яна — мястэчка». Менавіта наяўнасць рынку была адной з асноўных вызначальных рыс мястэчка. У базарны дзень сяляне з навакольных вёсак прыбывалі ў штэтл на сваіх павозках і, прадаўшы свой тавар яўрэям, накіроўваліся з заробленымі грашыма ў яўрэйскія ж крамы. Цікава, што арганізаваныя ў мястэчках кірмашы сталі пляцоўкай для выступу многіх беларускіх тэатральных калектываў. Так, летам 1847 года ў турнэ па Магілёўскай губерні адправілася трупа Хмеляко ўскага, а ў 1854 годзе ў мястэчку Асвея выступіў калектыў пад кіраўніцтвам віцебскага рэжысёра Чаховіча. Да канца першага дзесяцігоддзя XX стагоддзя выступленні беларускіх артыстаў на рынкавых плошчах мястэчак сталі звычайнай з’явай. Пры гэтым у саміх яўрэяў такія прадстаўленні заўсёды карысталіся вялікім поспехам.

Гарматныя стрэлы ў жніўні 1914 года адзначылі сабой пачатак канца мястэчка. Першая сусветная вайна, рэвалюцыі, савецка-польская вайна і звязаныя з імі рабаванні, рэквізіцыі і пагромы абяскровілі штэтлы. Калі ў СССР мястэчкі вялі даволі сціплае жыццё і павольна рухаліся да свайго знікнення, то ў міжваеннай Польшчы і Літве ў штэтлах усё яшчэ цеплілася жыццё. Па звестках статыстыкі ў 1931 годзе каля 11% насельніцтва Заходняй Беларусі складалі яўрэі. Штэтлаў жа налічвалася каля двухсот. У адрозненне ад іншых частак Польскай дзяржавы, Заходняя Беларусь традыцыйна не ведала антысемітызму. Напрыклад, жыхары мястэчка Мір апісвалі яўрэяў як ветлівых і прыязных людзей, звяртаючыся са слова «пан» нават да самага апошняга басяка. Жыццё ішло сваім ходам, і хто ведае, што стала б з мястэчкамі, каб не пачалася Другая сусветная вайна. На жаль, гісторыя не ведае ўмоўнага ладу.

Свет мястэчка склаўся ў выніку шматвяковай адчужанасці ад жыцця «гояў», сфарміраванага эканамічнага ўкладу з абмежаванымі магчымасцямі для рамяства і гандлю, даўняй і ўстойлівай прыхільнасці да традыцый і мясцовых супольных аўтарытэтаў. Такі «закансерваваны» лад жыцця праіснаваў некалькі стагоддзяў і змог перажыць шматлікія сацыяльныя катаклізмы. У некаторай ступені штэтлы адыгралі для яўрэяў такую ж ролю ў захаванні традыцыйнай культуры, як вёска для беларусаў. Відаць, і сапраўды ёсць паміж намі нешта агульнае.

**Леанід Лаўрэш**

# Яўрэі Ліды

Яўрэі пасяліліся ў Лідзе ў XVI стагоддзі.

Кароль Стафан Баторый у 1579 годзе выдаў лідскім яўрэям прывілей на права пабудовы новай сінагогі і рамонт старой, аднак з умовай, каб новая сінагога не была вышэйшай за касцёл і цэрквы.

Упершыню лідскі кагал згадваецца ў 1623 годзе, у гэты год ён быў падпарадкаваны гродзенскаму. Да таго ж часу належыць і перапіска паміж лідскім кагалам і суседнімі яўрэйскімі супольнасцямі.

З дазволу караля Уладзіслава IV у 1630 годзе лідская сінагога была зноў перабудавана і павялічана ў памерах.

Мясцовая яўрэйская абшчына першапачаткова была малалікая, у часы караля Яна-Казіміра яна налічвала толькі каля 160 чалавек. Гэта абшчына, так званы кагал, адрозніваласяя крайняй беднатой, што бачна з дакументаў пра яе абавязкі. Так напрыклад, сярод фундушаў Жырмунскага касцёла меўся відэркаф (форма пазыкі пад заклад маёмасці) лідскага харунжага і чашніка Канстанціна-Казіміра Кунцэвіча ад 7 ліпеня 1692 года на 4350 злотых, забяспечаных лідскім кагалам. Па іншым відэркафе ад 11 лістапада 1688 года прадстаўнікі мясцовага кагалу занялі ў лідскага дэкана Відзіноўскага 500 злотых і да 1707 года не маглі выплаціць нават 6% ад гэтай сумы.

У пачатку XVIII стагоддзя большасць лідскіх яўрэяў займаліся дробным гандлем ці сельскай гаспадаркай. У 1766 годзе плацілі падаткі 1167 яўрэяў, у 1897 годзе ў Лідзе жылі ўжо 5166 яўрэяў (68% насельніцтва горада), а ў павеце — 24 813 (12%).

У 1867 годзе ў Лідзе дзейнічала 4 сінагогі, з 1881 года — аднакласнае пачатковае яўрэйскае вучылішча з падрыхтоўчым класам.

У 1879 годзе ў горадзе зарэгістравана 189 майстроў-рамеснікаў, большасць з якіх — яўрэі. На пачатку 1885 года сярод лідскіх яўрэяў былі сабраны грошы, якія пайшлі на заснаванне паселішча Мазкарэт Бація (Mazkeret Batiya) у Палесціне. З канца XIX стагоддзя значнай з’явай становіцца эміграцыя ў ЗША.

Новая мураваная лідская сінагога была пабудавана ў 1896 годзе, у 1941 годзе яна згарэла, у 1942 годзе ўзарвана і разабрана на цэглу. Як толькі ў горадзе з’явілася яўрэйскае насельніцтва, акрамя сінагогі з’явіліся і яўрэйскія могілкі. Да 1960-х гадоў яны месціліся каля сучаснай вуліцы Фрунзэ. На плане горада 1842 года гэтыя могілкі займаюць каля двух гектараў і відаць, што плануецца іх пашырэнне. На яўрэйскіх могілках меліся надмагільныя помнікі рознай вышыні, сустракаліся там таксама і наземныя вялікія цагляныя пахавальні, з трохвугольным дахам і плітамі з эпітафіяй, якія прымацоўваліся да сцяны. Зараз на тэрыторыі гэтых могілак пабудаваны жылыя дамы, могілкі сталі часткай вадасховішча. І сёння па вуліцы Свярдлова, тратуар якой выбрукаваны, можна ўбачыць сколкі надмагілляў з надпісамі на іўрыце.

## XX стагоддзе, да 1939 года

У пачатку XX стагоддзя ў Лідзе было 20 малельных дамоў (у т. л. хасідскія), яўрэйскія могілкі, дзейнічалі талмуд-тора, пачатковае казённае яўрэйскае мужчынскае вучылішча, два прыватныя жаночыя вучылішчы і ешыбот, створаны ў 1905 рабінам Рэйнесам.

Змяніліся ўмовы жыцця — і яўрэйскія супольнасці пачалі імкнуцца да таго, каб адукацыя прыносіла сродкі. Таму рабінам Рэйнесам у Лідзе быў адкрыты ешыбот новага тыпу. Праграма новага ешыбота стала шасцігадовай і апрача Талмуда і яўрэйскай граматыкі складалася з ўсіх прадметаў па курсе павятовага вучылішча. Але традыцыі былі захаваны: вывучэнне Торы засталося галоўнай мэтай навучання. Рэйнес упершыню ўвёў у ешыбоце вызначаную праграму заняткаў, падзяліў яе на класы, наладзіў перыядычныя іспыты вучням. Першыя чатыры гады прысвячаліся вывучэнню Талмуда і яго каментатараў, апошнія два — выключна азнаямленню з дзейснымі рэлігійнымі кодэксамі. Лідскі ешыбот неўзабаве стаў вельмі папулярным. У 1908 годзе ён атрымаў зацверджаны статут. Грашовыя ўнёскі дасягнулі 20 000 руб., а колькасць вучняў перавысіла 300. Лідскі ешыбот павінен быў выпускаць не толькі рабінаў і настаўнікаў, але і «купцоў, дасведчаных у яўрэйскіх навуках», таму з 1909 года ў апошнім

падрыхтоўчым класе сталі выкладаць вучням некаторыя камерцыйныя навукі. Адным з галоўных фундатараў лідскага ешыбота быў барон Д. Г. Гінцбург. Ешыбот Рэйнеса ў пачатку Першай сусветнай вайны быў зачынены. Навучанне адноўлена ў 1923 годзе з удзелам камітэта дапамогі ешыботам у Вільні.

Прыкладна з 1902 года ў горадзе з'яўляюцца арганізацыі Бунд, Паалей Цыён і Сацыялісты-сіяністы. Партыйцы праводзілі таемныя сходкі ў лясах вакол горада, агітавалі ў сінагозе і сярод яўрэйскіх працоўных. Так, напрыклад, прэса пісала, што ў канцы снежня 1906 года яўрэйская арганізацыя Бунд распаўсюдзіла ў Лідзе і Ашмянах пракламацыі, якія заклікалі не ўдзельнічаць у выбарах, бо *«паліцыя без тлумачэння прычын выкінула з спісаў вялікую колькасць выбаршчыкаў. Напрыклад у Лідзе з 400 чалавек, якія маюць права голасу, выкінутыя 150...»*[1]

Ішла рэвалюцыя 1905—1907 гадоў. У студзені 1906 года «Кур'ер літэўскі» паведаміў: *«У мясцовай бальніцы здзейснена страшнае забойства. А 3-й гадзіне ночы забіты нямы шляхціц Кулеша, які знаходзіўся там на лячэнні. Абставіны забойства наступныя. З канца лістапада па горадзе пачала хадзіць невядома кім пушчаная гаворка пра тое, што нейкі пан Боландзь збіраецца арганізаваць яўрэйскі пагром. Гаворка гэтая не мела ніякіх падстаў, але моцна закранула яўрэйскае насельніцтва горада. Панічны страх дайшоў ды вышэйшага напружання 5 снежня. Падаваліся сігналы трывогі, былі зачынены ўсе яўрэйскія крамы».* Увечары таго ж дня 20 яўрэяў напала на Боландзя і збілі яго сталёвымі прутамі, потым паранілі стрэламі з рэвальвера (у нагу, руку і бок). Боландзь страціў прытомнасць, а нападаючыя, вырашыўшы, што ён забіты, паклалі яго ў дрожкі і загадалі фурману завесці дадому. Аднак ён выжыў, і яго адвезлі ў гарадскую бальніцу, дзе пацярпелы стаў хутка папраўляцца. Наведвальнікі паведамілі Боландзю, што сябры «Бунда» пастанавілі яго забіць. *«Боландзь насцярожыўся… У сярэдзіне снежня ў бальніцу з маёнтка Мікянцы прывезлі нямога шляхціца Л. Кулешу, ён ляжаў ў той жа палаце… Увечары 19 снежня, з дазволу адміністрацыі, Боландзь памяняў ложак, але застаўся ў той жа палаце. Каля 3-х гадзін ночы ён пачуў крокі трох мужчын. Незнаёмцы падышлі да ложка, на якім ён раней ляжаў, і, убачыўшы, што ложак пусты, падышлі да ложка на якім, накрыўшыся з галавой, спаў Кулеша. Нападаючыя нанеслі Кулешу 9 ран стылетам, Боландзь ўсё бачыў і ляжаў ні жывы не мёртвы. Здзейсніўшы забойства, мужчыны хутка пакінулі шпіталь… пачаўся перапалох. Праз гадзіну ў бальніцы з'явілася паліцыя. Вядзецца следства»* [2].

Першае лідскае перыядычнае выданне з'явілася на свет 17 лістапада 1912 года. Памочнік прысяжнага паверанага І.Д. Камёнскі (И.Д. Камионский) разам з С.А. Капланам пачаў выдаваць на рускай мове штотыднёвую грамадска-палітычную газету памяркоўна-ліберальнага кірунку «Лидское слово». З №19 газеты Каплан перастаў падтрымліваць газету, і Камёнскі выдаваў яе аднаасобна. У першым нумары рэдактар пісаў: «Аб'яўляючы сваю газету незалежнай і беспартыйнай, мы перакананы ў тым, што ў сусветным сужыцці ўсіх без выключэння нацый і гарманічным злучэнні культурных каштоўнасцяў асобных нацыянальнасцяў ляжыць залог развіцця кожнага горада». Газета выдавалася на 4 старонках, у 1912 годзе выйшла 7 нумароў [№ 1 (17-XI) — № 7 (28-XII)], у 1913 годзе яшчэ 20 [№ 8 (4-I) — № 28 (31-V)]. У газеце публікаваліся справаздачы аб пасяджэннях Дзяржаўнай Думы, асвятлялася дзейнасць гарадскога самакіравання, культурныя падзеі ў горадзе (адкрыццё гімназіі, канцэрты, лекцыі, аматарскія спектаклі). Выдавалася газета да 31 траўня 1913 года[3].

Каля 1912 года ў Лідзе пачало працаваць яўрэйскае пазыкова-ашчаднае таварыства.

Перад Першай сусветнай вайной у Лідзе жыло каля 16 000 чалавек. У горадзе працавалі аддзяленні Бунда і Паалей Цыёна, існаваў яўрэйскі шпіталь. У 1914 годзе яўрэям належалі аптэка, 6 аптэчных складоў, 10 гасцініц і рэстаранаў, 2 хлебныя крамы, 3 кнігарні, цырульня, пральня, гадзіннікавая майстэрня, 3 ювелірныя крамы і 136 розных крам (у тым ліку 20 бакалейных і 13 мануфактурных). Горад меў два бровары — Папірмайстра і Пупко, спіртзавод

[1] Kuryer Litewski. № 291. 23 grudnia (5 stycznia 1907) 1906.
[2] Kuryer Litewski. № 3. 4(17) stycznia 1906.
[3] Конан У. «Лидское слово» // ЭГБ. Т. 4. Мінск, 1997. С. 367.

І сёння па вуліцы Свярдлова, тратуар якой выбрукаваны, можна ўбачыць сколькі надмагілляў з надпісамі на іўрыце

Стругача, тартак Палячака, ліцейны завод братоў Шапіраў, тытунёвую фабрыку Віленчыка, фабрыку па вырабе мыла Ківаловіча, фабрыку разліву манапольнага алкаголю, шмат крам і аптовых складаў. З фінансавых устаноў у горадзе меліся: Таварыства ўзаемнага крэдыту, Яўрэйскі супольны банк, Банкаўская кантора Янушкевіча і інш. Большасць уладальнікаў — яўрэі.

## Першая сусветная вайна

Немцы ўвайшлі ў Ліду 22 верасня 1915 года.

Падчас нямецкай акупацыі у горадзе час ад часу *адбываліся «... яўрэйскія спектаклі, канцэрты і іншыя забавы»*[4]. Дзейнічаў прафсаюз яўрэйскіх працоўных «Арбейтэр Гейм», які ў канцы 1918 года налічваў каля 300 чалавек. Дарэчы, за гады акупацыі фактычна не спынялася дзейнасць мясцовых аддзяленняў яўрэйскіх палітычных партый і арганізацый[5].

Восенню 1916 года яўрэйская грамада горада арганізавала сталовую для сваёй беднаты, так званую Народную кухню: *«Ліда. Тут з дапамогай нямецкай улады яўрэйская грамада адкрыла страўню, каторая выдае 700 абедаў у дзень. Палову абедаў выдаюць дарма, за другую бяруць па 10 пфенігаў»*[6]. «Народная кухня» знаходзілася на рынкавай плошчы горада, захавалася некалькі паштовак з яе выявамі.

Да моманту адыходу немцаў з акупаваных тэрыторый яўрэйскае насельніцтва горада знаходзілася пад уплывам левых арганізацый, у справаздачы для ЦК КП(б)Б загадчык інфармацыйнага аддзела ЦК Вінаградаў пісаў: *«Падчас знаходжання ў краі немцаў, у канцы 1918 г., стварылася падпольная арганізацыя. Яўрэйскія працоўныя г. Ліды ў той час знаходзіліся пад уплывам меншавіцкіх дзеячаў з П[аалей]-Ц[ыёна] і Бунда, мелі сваю працоўную арганізацыю — клуб»*[7].

17 красавіка 1919 года польскае войска ўзяло Ліду[8]. Пры канцы траўня «Тыгоднік ілюстраваны» надрукаваў артыкул з фотаздымкамі і тэкстам пра ўзяцце Ліды. «Тыгоднік…» паведамляў, што бой за горад ішоў два дні, *«...а 6-й раніцы прыходзіць навіна, што Ліда ўзята. ... Абмінаем бальшавіцкія акопы і ўязджаем у горад. Не сціхаюць стрэлы: гэта расстрэльваюць тых, якія віталі нашых жаўнераў агнём з карабінаў і ручнымі гранатамі. Дзе-нідзе ляжаць трупы нашых ці бальшавікоў з яўрэямі»*[9]. Як і паведамляў рэпарцёр «Тыгодніка ілюстраванага», пасля ўзяцця горада дайшло да пагрому яўрэйскага насельніцтва часткай польскіх жаўнераў. Польскія гісторыкі вывучылі гэты эпізод, напрыклад, Лех Вышчэльскі лічыў што самасуд адбыўся над яўрэямі, якія падчас баёў за Ліду ваявалі на баку бальшавікоў. Згодна з афіцыйнымі дакументамі расследавання гэтай справы, было забіта 39 яўрэяў (34 былі апазнаныя, 5 — не, верагодна яны былі не з Ліды)[10]. Пра гэты і іншыя пагромы шмат пісала міжнародная прэса (напрыклад «New York Times» 01.06.1919). Польскі сейм разам з брытанска-амерыканскай следчай камісіяй, якую ўзначальваў Генры Маргентаў, праводзіў расследаванне справы. Некалькі гадоў высоўваліся розныя версіі і шырыліся дыскусіі, у выніку вінаватыя былі аддадзены пад трыбунал[11].

17 ліпеня чырвоныя прарвалі польскую абарону на рацэ Гаўя. Горад Ліда польскія часткі ўтрымлівалі да таго часу, пакуль не былі вывезены ўсе армейскія запасы. Пасля гэтага, у ноч з 17 на 18 ліпеня палякі пакінулі Ліду[12]. Лідскі ксёндз-дэкан Гіпаліт Баярунец потым успамінаў: *«Апошні аддзел Войска Польскага адышоў з Ліды ўглыб Польшчы 17 ліпеня 1920 г. а 16 гадзіне, а бальшавікі ўступілі ў Ліду а 17 гадзіне, радасна су-*

[4] Гоман. № 68. 24 жніўня 1917.
[5] Федоров И.О. Город Лида в годы установления советской власти (1919—1920) // Ліда і Лідчына: да 685-годдзя з дня заснавання горада : матэрыялы рэспуб. навук.-практ. канф., (Ліда, 3 кастр. 2008 г.). Ліда, 2008. С. 129.
[6] Гоман. № 61. 11 верасня 1916.
[7] Борьба за Советскую власть в Белоруссии 1918 — 1920 гг. Т. 2. Минск, 1971. С. 529.
[8] Там жа. С. 73.
[9] Tygodnik Illustrowany. № 22. 31 maja 1919. S. 340—341.
[10] Wyszczelski Lech. Wojna polsko-rosyjska 1919—1920. T. 1. Warszawa, 2010. S. 89—90.
[11] Kapiszewski Andrzej. Controversial Reports on the Situation of the Jews in Poland in the Aftermath of World War Studia Judaica 7. 2004 №2(14). S. 257—304.
[12] Там жа. С. 248.

*стрэтыя лідскімі яўрэямі. “Какая радость. Какое счастье. Наши пришли!” — крычалі яўрэйкі на вуліцах Ліды і, схапіўшы бальшавіцкага салдата, шпацыравалі па вуліцы Сувальскай (*тады яшчэ Віленскай. *— Л.Л.), я сам гэта чуў і бачыў. ... Пасля выхаду нашай улады з Ліды лідскія мяшчане, якія засталіся, сабралі гарадскую раду (савет) і ў тую раду ўключылі і мяне, большасць радцаў была яўрэйская. Калі бальшавікі набліжаліся да Ліды, рада сабралася ў магістраце і вырашыла ісці з хлебам-соллю на спатканне бальшавікоў. На той нарадзе я не быў асабіста, але да мяне прыслалі дэлегацыю, ці я згаджаюся з такой ухвалай. Я ўхвалу адхіліў, зазначыўшы, што рада сустракаць бальшавікоў не можа, а размаўляць з бальшавікамі можа толькі ў зале магістрата»*[13].

У кастрычніку 1920 года абодва бакі польска-расійскага канфлікту, знясіленыя цяжкімі баямі, падпісалі дамову аб перамір’і.

## Міжваенны перыяд

З 1921 года на Лідчыне пачалося аднаўленне мірнага жыцця.

Па Рыжскай дамове паміж Польшчай і Савецкай Расіяй Ліда стала часткай адроджанай польскай дзяржавы. Лідчына ўвайшла ў склад зноў створанага Навагрудскага ваяводства. Навагрудчына пасля 120 гадоў знаходжання ў Расійскай імперыі і пасля Першай сусветнай вайны была ў стане небывалага гаспадарчага заняпаду.

16 верасня 1933 года а 7-15 ад запалення лёгкіх ва ўзросце 95 гадоў у Радуні памёр знаны рабін, цадзік Ізраіль Каган (Хафец-Хаім). У пахаванні прыняло ўдзел 5 000 асоб з Польшчы і замежжа. На пахаванне радунскага цадзіка на самалёце прыбыў галоўны лонданскі рабін Васерман, вучань Хафец-Хаіма

У 1927—1929 гадах у Лідзе пачалі работу новыя прадпрыемствы: млыны, тартакі, кафлярні, хімічная фабрыка «Карона» і фабрыка гумавых ботаў «Ардаль»

Гэта быў адзін з найбольш занядбаных рэгіёнаў адноўленай Польшчы. На Наваградчыне не было вялікіх гарадоў і значных прамысловых устаноў, а малыя гарады мелі ў асноўным гістарычную каштоўнасць. Да 1927 года найбольш развітым горадам Наваградскага ваяводства быў Слонім. Ліда стаяла на 3-м месцы пасля Баранавіч, і ў тыя часы на Лідчыне ў прамысловасці працавала ўсяго 338 чалавек. З другой паловы 1927 года пачалося ажыўленне гаспадарчага жыцця, якое працягвалася да канца 1929 года. У гэтыя часы ў Лідзе знайшліся ініцыятыўныя людзі, здольныя прыцягнуць неабходны капітал. Гэта былі пераважна прамыслоўцы і гандляры-яўрэі, прыватныя капіталы якіх дазвалялі пашыраць справу. Вырашальную ролю адыгрывалі прыватная ініцыятыва і прыватны капітал. У 1927—1929 гадах у Лідзе пачалі работу новыя прадпрыемствы: млыны, тартакі, кафлярні, хімічная фабрыка «Карона» і фабрыка гумавых ботаў «Ардаль». Таннай, некваліфікаванай працоўнай сілы было дастаткова. Дзякуючы свайму становішчу на шляху чыгуначных камунікацый, Ліда ў адрозненне ад большасці гарадоў Наваградскага ваяводства, мела больш спрыяльныя ўмовы для развіцця. У гэтыя гады па прамысловасці Ліда выйшла на першае месца ў Наваградскім ваяводстве[14]. Яўрэі займалі вельмі важнае месца ў эканамічным жыцці горада. У 1921 годзе палова з 302 яўрэйскіх крам былі сямейнымі прадпрыемствамі, У 1920—1930-я вялікая частка яўрэяў з’яўляліся камерсантамі, рамеснікамі ці былі заняты ў прамысловасці, але 37 яўрэяў займаліся землявробствам. 18 з 23 гарадскіх банкаў і фінансавых устаноў былі яўрэйскімі.

[13] Баярунец Гіпаліт. Ліда ва ўспамінах ксяндза Гіпаліта Баярунца // Лідскі Летапісец. № 2(54) — 2011. С. 31.2

[14] Lech Ciehanowicz. Przemysł lidzki w dwudziestoleciu międzywojennym // Zemia Lidzka. № 41. 2000.

[15] Наша Праўда. №34. 30 ліпеня 1927 г.

[16] Słowo. №173(2383). 31 lipca 1930.; Życie Nowogródzkie. №179(863). 5 sierpnia 1930.

[17] Słowo. №17(1628). 21 stycznia 1928.

Немагчыма не сказаць некалькі слоў пра найвялікшае прамысловае прадпрыемства ў Лідзе таго часу — Акцыянернае таварыства гумавай вытворчасці «Ардаль» па вуліцы Фабрычнай, 8. Слова «Ардаль» на яўрэйскай мове азначае «бот, галёш». «Ардаль» вырабляў галёшы, снягоўцы (зімовы абутак), абутак гумавы летні. Вытворчасць была распачата ў 1929 годзе. Акцыянерны капітал у гэтым годзе складаў 750 000 злотых, да 1939 года павялічыўся да 1 830 000 злотых. Вясной 1938 года на фабрыцы «Ардаль» працавала 800 чалавек. Старшынёй акцыянернага таварыства ад пачатку працы фабрыкі заставаўся Саламон Мелуп.

## Грамадска-палітычнае жыццё

У 1920—1930-я гады на Лідчыне актыўна працавалі беларускія, польскія і яўрэйскія грамадска-палітычныя арганізацыі.

Адну з самых шматлікіх этнічных груп на Лідчыне складала яўрэйскае насельніцтва. Прытрымліваючыся шматвяковай традыцыі, яўрэі жылі адасоблена ад хрысціян па сваіх законах, размаўлялі на сваёй мове, берaглі і захоўвалі сваю духоўную культуру. Меліся розныя яўрэйскія палітычныя партыі, але найвялікшым аўтарытэтам і падтрымкай яўрэйскай грамадскасці карысталіся сіяністы, якія імкнуліся да стварэння ў Палесціне яўрэйскай дзяржавы, і таму знаходжанне яўрэяў у Заходняй Беларусі разглядалася імі як часовае.

На выбарах радных лідскага магістрата яўрэйская супольнасць заўжды займала каля паловы месцаў, і такім чынам ёй была гарантавана пасада намесніка бургамістра горада. Напрыклад, на выбарах у гарадскую раду 1928 года з 24 мандатаў розныя яўрэйскія групоўкі атрымалі 11[15]. 12 мандатаў узяў народны яўрэйскі блок на выбарах 1930 года (Чарток, Канопка, Карчмар, Вісманцкі, Грышпан, Шмуйловіч, Гершон, Ілютовіч, Стукатар, Сакалоўскі, Дагуцкі, Пупко)[16].

Падчас выбараў у Сейм Польшчы 1928 года частка беларускіх груповак аб'ядналася з яўрэямі ў Блок нацыянальных меншасцяў. Гэты блок у Лідзе стварыў Акруговы выбарчы камітэт, які пачаў інтэнсіўную агітацыю на вёсцы[17]. На пачатку лютага 1928 года стала вядома, што ад Блока нацыянальных меншасцяў (спіс № 18) па Лідскай акрузе будуць удзельнічаць у выбарах А. Більдзюкевіч, Я. Пазняк, Чэрніхаў, Я. Яковіч[18]. Аднак пры канцы лютага Акруговая выбарная камісія ў Лідзе прызнала несапраўдным выбарчы спіс № 18. Беларускі аб'яднаны выбарчы камітэт падаў скаргу ў Найвышэйшы суд у Варшаве, але нічога не дабіўся[19].

Ліда не мела агульнай яўрэйскай рады. Першая такая рада была створаны ў пачатку 1920-х пры дапамозе Амерыканскага яўрэйскага камітэта. Польскі ўрад лічыў гэту раду (яўрэйскую гміну) законным прадстаўніцтвам яўрэйскай супольнасці. На пачатку ліпеня 1932 года ў Лідзе адбыліся першыя выбары ў яўрэйскую гміну (самакіраванне). Удзел прынялі 100 працэнтаў выбаршчыкаў. Найвялікшую колькасць галасоў і тым самым мандатаў атрымаў спіс № 2 (Рамеснікі) на чале з Шыманам Гуталеўскім, Якавам Пупко і Гдалія Файнштэйнам. Другое месца было ў спіса № 1 (Дробныя купцы), на трэцім месцы спіс № 8 (Сіяністы). Падчас перадвыбарных мітынгаў адбываліся крывавыя бойкі і «*найбольш агрэсіўнымі былі сіяністы*»[20]. Другія выбары ў яўрэйскае гарадское самакіраванне прайшлі 6 верасня 1936 года. Яўрэйская гміна мела рэальны ўплыў у горадзе, напрыклад у 1937 годзе па вуліцы Школьнай гарадскія ўлады арганізавалі работы па мантажы каналізацыі для новага будынка пошты. Быў выкапаны роў даўжынёй у 25 метраў на тэрыторыі, якая належала яўрэйскай гміне, прытым ніхто не прасіў дазволу ў яўрэйскага самакіравання. Таму з-за пратэсту яўрэйскай грамады работы на нейкі час былі прыпынены[21].

Актыўным быў сіяніцкі рух у горадзе. Яго рэпрэзентавалі арганізацыі «Hechalutz» (заснавана ў 1923 годзе з мэтай дапамогі ў пераездзе ў Палесціну) і «Ha-Shomer ha-Za'ir». Колькасць чальцоў гэтых арганізацый дасягала 500 чалавек. Актыўна працавала ліга яўрэйскіх працоўных. У 1933 годзе была заснавана федэрацыя маладых рамеснікаў «Histadrut ha-Oved», якая рыхтавала сваіх сяброў для перасялення ў Палесціну. Такія вядомыя дзеячы і тэарэтыкі сіянізму як Зееў Жабацінскі, Натан Быстрыцкі, Ісак Цукерман у той час неаднаразова наведвалі Ліду.

[18] Сялянская Ніва. № 14(161). 8 лютага 1928.
[19] Сялянская Ніва. № 19(166). 25 лютага 1928.
[20] Kurier Nowogródzki. № 157(242). 5 lipca 1932.
[21] Kurjer Wilenski. № 144(4106). 28 maja 1937.
[22] Kurjer Wilenski. № 233(4196). 25 sierpnia 1937.
[23] Kurjer Wilenski. № 11(4687). 11 stycznia 1939.
[24] Słowo. № 161(1171). 14 lipca 1926.
[25] Дварэцкі Мойша нарадзіўся ў Лідзе 1 снежня 1891 г. Закончыў гімназію і два семестры педагагічнага інстытута і тры семестры медыцынскага факультэта. Выкладаў лацінскую мову.

## Культура, адукацыя, ахова здароўя

У 1930-я ў Лідзе былі 4 розныя яўрэйскія школы, 3 яўрэйскія бібліятэкі, 5 драматычных груп, вячэрняя школа для дарослых, 3 яўрэйскія спартыўныя арганізацыі, сінагога і 12 малельных дамоў, шпіталь на 18 ложкаў. У ешыбоце вучылася каля 80 вучняў.

Таварыства ўзаемнай дапамогі арганізоўвала дзённыя лагеры для дзяцей з бедных сем'яў, цэнтр лекавання немаўлятаў і малочную кухню, праводзіла медагляды дзяцей.

У 1937 годзе было вырашана на яшчэ спраўных старых падмурках яўрэйскага шпіталя дабудаваць другі паверх і такім чынам значна павялічыць колькасць шпітальных ложкаў[22]. Пасля дабудовы, на пачатку 1939 года ў Лідскім яўрэйскім шпіталі пачаў працаваць аддзел гінекалогіі на 20 ложкаў[23].

У 1926 годзе прэса пісала пра ліквідацыю прыватнай яўрэйскай гімназіі Дварэцкага і адкрыццё Гарадской гімназіі, ці гімназіі магістрата[24]. Але гімназія Дварэцкага працавала яшчэ да 1929 года. Гэта яўрэйская каадукацыйная навучальная ўстанова паўстала ў Лідзе пры канцы 1921 года. Гімназія арандавала памяшканне па адрасу Крывая, 16. У гэтым памяшканні былі толькі 4 пакоі пад класы, і таму навучанне ішло ў дзве змены. Але ніякага лепшага памяшкання ў горадзе знайсці было немагчыма. Уладальнік гімназіі — Мойша Дварэцкі[25], першы дырэктар — Эдвард Вахмут, у 1923 годзе дырэктарам стаў інжынер Фронкель, у 1925 годзе — Максыміліян Грынберг. Пры гімназіі дзейнічалі вучнёўскія аб'яднанні — «Братняя дапамога» (дапамагала бедным вучням), літаратурны гурток, школьная гміна (самакіраванне) існавала ў кожным класе. У розныя часы гімназію наведвала ад 300 да 350 вучняў[26].

Па вуліцы Садовай знаходзілася адкрытая Тарбутам[27] школа другой ступені, так званая «Тарбут-школа». Ад гэтай школы да нашага часу захавалася бакавая сцяна, да якой пасля вайны была зроблена дабудова (гэтая велічная фасадная сцяна знаходзіцца зараз за гарадской бібліятэкай[28] , сцяна — адзінае, што засталося ад пабудоў старога цэнтра горада). Гэтую Тарбут-школу, дырэктарам якой быў Ханан Ілютовіч, наведвала 500 вучняў, у канцы 1930-х стары будынак стаў замалы і яўрэйская грамада пачала будаваць трохпавярховую новую Тарбут-школу[29].

У канцы мая 1933 года была ўхвалена пастанова аб выдзяленні яўрэйскаму культурна-асветнаму таварыству «Тарбут» пляца для будаўніцтва 7-гадовай яўрэйскай агульнаадукацыйнай школы і «Звязу настаўнікаў» для будаўніцтва свайго дома. *«Як стала вядома ,"Тарбут" набудзе пляц пры вуліцы Касцюшкі па ільготным кошце ў 50 гр.».*

Але будоўля гэтай школы пачнецца толькі ў 1939 годзе[30]. Прэса паведаміла: *«Новая школа ў Лідзе. Па вуліцы Касцюшкі адбылася ўрачыстая закладка каменя пад гмах яўрэйскай школы, якую будуе Аб'яданне яўрэйскіх школ у Лідзе»*[31].

Былы жыхар Ліды Якаў Ілютовіч пісаў: *«Будаўнічы камітэт быў абраны, з прадстаўнікоў «Тарбуту» і бацькоў. ... Будаўнічая пляцоўка набыта бясплатна ў магістрата недалёка ад дзяржаўнай польскай школы. Яўрэйскае насельніцтва Ліды давала грошай, колькі магло. Сегал даваў цэглу з сваёй фабрыкі, тартакі давалі дрэва, а жалеза дала фабрыка Чартка-Штэйнберга. Мецэнаты-купцы Шыман Пупко і Пінхас Рабіновіч далі цэмент. ... З вялікім напружаннем была пабудавана трохпавярховая школа з залай для гімнастыкі і цёплым туалетам. Адбылося вялікае наваселле, на якое было запрошаны шмат гасцей, асобна для бацькоў зрабілі пасядзелкі з «тортам і каньяком». ... Гэта было вялікае свята. ... Школа перажыла вайну … і адразу пасля вайны тут была нейкая савецкая ўстанова. Гэта разбіла мне сэрца»*[32]. Верагодна, гэта школа была дабудавана яшчэ да Другой сусветнай вайны, магчыма, нават за Саветамі. Цяпер тут знаходзіцца Дзіцячая школа мастацтваў.

---

[26] Dowlaszewicz Irena. Gimnazjum żydowskie // Ziemia Lidzka. № 2(49) — 2002.

[27] Тарбут (яўр. — культура) — яўрэйская свецкая асветніцкая-культурная арганізацыя, пад эгідай якой у перыяд паміж дзвюма сусветнымі войнамі была створана сетка свецкіх адукацыйных устаноў на іўрыце.

[28] Я больш за 10 гадоў не мог даведацца, якому будынку належала гэтая сцяна. Пад час аналізу пабудоў старога цэнтра горада пры стварэнні 3D мадэлі, гэтую загадку праясніў мой добры знаёмы Віталь Бурак, за што аўтар выказвае яму шчырую падзяку.

[29] http://www.jewishgen.org/yizkor/lida/lid137.html

[30] Słowo. №139(3277). 23 maja 1933.

[31] Kurjer Wilenski. № 176(4852). 28 czerwca 1939.

[32] http://www.jewishgen.org/yizkor/lida/lid137.html

[33] Kurier Nowogródzki. № 30. 22 października 1931.

[34] Kurier Nowogródzki. № 35. 28 października 1931.

[35] Kurier Nowogródzki. № 79. 19 grudnia 1931.

[36] Słowo. № 181(2988). 29 lipca 1932.

[37] Ciechanowicz Lech. Czasopiśmiennictwo w województwie Nowogródzkim w latach Drugiej Rzeczypospolitej // Ziemia Lidzka. №4(47). 2001.

[38] Kurier Nowogródzki. №146(232). 24 czerwca 1932.

Інфармацыі пра яўрэйскае культурнае жыццё ў польскай прэсе таго часу няшмат.

Яўрэйская свецкая Тарбут-школа ў горадзе стала выконвала ролю культурнага цэнтра. У канцы кастрычніка 1931 года ў *«яўрэйскай школе "Тарбут" па вуліцы Садовай лектарам з Вільні быў зачытаны рэферат на тэму гісторыі сіянізму за апошнія 50 гадоў. Падчас дыскусіі абмяркоўваліся яўрэйска-арабскія стасункі ў Палесціне і справы каланізацыі. Прысутнічалі 60 чалавек — у большасці яўрэйская моладзь з сіяніcцкіх арганізацый»*[33].

Праз некалькі дзён, *«25 кастрычніка адбыўся першы выступ яўрэйскага драматычнага гуртка ў кінатэатры «Нірвана», рэжысёр тэатра Бузган»*[34]. У канцы 1931 года *«інжынер Любес з Палесціны ў кінатэатры "Нірвана" распавёў яўрэям Ліды пра жыццё ў Палесціне. Сабралася каля 200 чалавек»*[35].

26 ліпеня 1932 года ў зале Тарбут-школы (вуліца Садовая, 11) адбыўся сход навуковага яўрэйскага таварыства горада Ліда. Была абрана новая ўправа таварыства ў складзе: Гірша Палячака, Абрама Гурвіча, Адольфа Левінсона, Гірша Альперовіча і Ілы Зайгера і рэвізійнай камісія[36]. У 1933 годзе заснаваны гістарычны камітэт, які збіраў матэрыялы па гісторыі лідскіх яўрэяў для выдання манаграфіі, аднак гэта праца не была выканана да канца.

У Лідзе друкаваліся некалькі яўрэйскіх газет. У 1929 годзе Якуб Пупко засноўвае газету «Lider Wokenhlat» на яўрэйскай мове[37], у 1932 годзе «Lider Woch», у 1936 годзе «Lider Leben». Газета «Unser Ruf» выйшла толькі адным нумарам ад 13.04.1937 года.

24 чэрвеня 1932 года памёр чалавек, які пакінуў след у гісторыі нашага горада: *«Сёння а 13-й гадзіне ўласнік адной з друкарань Ліды Зяльдовіч пасля таго як выйшаў з свайго дама, памёр ад сардэчнага прыступу. Нябожчык карыстаўся вялікай павагай грамадства»*[38]. У прэсе тых часоў неаднаразова з'яўлялася рэклама друкарні Зяльдовіча (Сувальская, 70). Шыман Зяльдовіч меў друкарню, майстэрню штэмпеляў і пераплётаў. Тут друкаваліся газеты «Лідскія ведамасці», «Лідская зямля», кнігі «Вясковы лірнік», «Кароткі турыстычны праваднік па Лідскім і Шчучынскім паветах» А. Гржымалы-Прыбыткі, «Прыпавесці» лідскага паэта І. Альбірта, а таксама выданні на мове ідыш[39].

У 1937 годзе знаны лідскі паэт Іосіф Альбірт[40], *«аўтар трох томікаў паэзіі, падрыхтаваў да друку новую кнігу сваёй паэзіі "Звычайныя людзі". У кнізе сабраны навелы, якія часткова ўжо друкаваліся ў віленскіх часопісах»*[41]. Лістападаўскі нумар «Лідскай зямлі» ў бібліяграфічным раздзеле змяшчае водгук на *«старанна выдадзеную брашуру знанага лідскага паэта і пісьменніка Юзафа Альбірта (Józef Albitr. Ludzie hory i pracy. Lida, 1937)»*[42]. У канцы гэтага ж года Альбірт пачаў выдаваць ў Лідзе яўрэйскую штотыднёвую газету «Lider Folksfrajnd» (Лідскі сябар народа)[43].

16 верасня 1933 года а 7-15 ад запалення лёгкіх ва ўзросце 95 гадоў у Радуні памёр знаны рабін, цадзік Ізраіль Каган (Хафец-Хаім)[44]. У пахаванні прыняло ўдзел 5 000 асоб з Польшчы і замежжа. На пахаванне радунскага цадзіка на самалёце прыбыў галоўны лонданскі рабін Васерман, вучань Хафец-Хаіма. Таксама ў Радунь прыехаў галоўны рабін Берліна Мідлсчэрнер. У Радунь прыехаў лідскі староста з аддзелам паліцыі для падтрымання парадку. *«Шаша на Радунь перапоўнена аўтобусамі і легкавікамі. З Вільні акрамя рабіната, выехала дэлегацыя яўрэйскага самакіравання на чале з старшынёй Крукам. Учора адбылося ўрачыстае пахаванне памерлага. У пахаванні прынялі ўдзел шматтысячныя тлумы яўрэйскага насельніцтва. ... Перад трунай цадзіка неслі каля 30 ягоных кніг. Над магілай сказана 15 прамоў. Малітвы над трунай нябожчыка чытаў ягоны 70-гадовы сын. Цадзіка Кагана пахавалі разам з лавачкай, перад якой ён усё жыццё маліўся»*[45].

У канцы 1937 года «Кур'ер Віленьскі» паведаміў пра смерць доктара медыцыны Саламона Ка-

[39] Цехановіч Лех. Незабыўная вуліца Сувальская 30-х гадоў XX стагоддзя // Лідскі Летапісец № 4(32). 2005. С. 33.
[40] Альбірт Іосіф Мацвеевіч (нарадзіўся ў 1907 г. у Лідзе) — паэт, пісьменнік, пасля 1950-х гг. быў членам Саюза пісьменнікаў, жыў у Маскве. Аўтар кніг «Зорка майго пакалення», «Іскры», «Сэрца маёй зямлі». З 1970 г. жыў у Ізраілі. Больш падрабязнай інфармацыі пра гэтага цікавага чалавека ў мяне, на жаль, няма.
[41] Ziemia Lidzka. № 6—7. 1937.
[42] Ziemia Lidzka. № 11. 1937.
[43] Ziemia Lidzka. № 12. 1937.
[44] Kurjer Wilenski. № 248(2789). 16 września 1933.
[45] Słowo. № 255(3393). 18 września 1933.
[46] Słowo. № 317(4277). 18 listopada 1937.
[47] Słowo. № 266(2774). 18 listopada 1931.

плана, які быў *«шматгадовым старшынёй Аб'яднання яўрэйскіх школ, лідскім радным і знаным грамадскім дзеячам. Перад вайной (Першай сусветнай. — Л.Л.) др. Каплан рэдагаваў і выдаваў першую ў Лідзе штотыднёвую газету "Лідскае слова". Нябожчык карыстаўся ў Лідзе вялікай павагай»*[46].

## Міжнацыянальныя адносіны

У сярэдзіне лістапада 1931 года газета «Слова» пісала: *«Антысеміцкія эксцэсы, якія мелі месца ва ўніверсітэцкіх гарадах, прыйшлі і ў правінцыю. Пра гэта кажа ўчарашні дзень у Лідзе, дзе былі выбіты дзве шыбы ў яўрэйскіх крамах: на складзе тавараў для пісьма па вуліцы 3-га Мая, Дварэцкага і ў самай вялікай і якаснай краме спажывецкіх тавараў Вінаградава, па вуліцы Сувальскай. Гэта адбылося а 18-45, за некалькі хвілін да закрыцця, калі на вуліцах панаваў моцны рух людзей і транспарту. Як і ў першым так і другім выпадку шыбы былі выбіты каменем, кінутым з вялікай адлегласці. Пасля гэта ў горадзе пануе напружаная атмасфера, зачынена шмат крам. Усю ноч па горадзе хадзілі ўзмоцненыя патрулі паліцыі. Як падазроны, быў затрыманы 18-гадовы вучань 5-га класа гарадской гімназіі Усевалад Малеўскі. На наступны дзень яго адлічылі з гімназіі. Ягоным паплечнікам у гэтай справе быў 15-гадовы Ежы Ромер. Зараз у горадзе спакойна. Горад патрулюе паліцыя разам з грамадзянамі — сябрамі Звязу Стральцоў»*[47].

Неспакойна стала і ў мястэчках Лідчыны. «Кур'ер Навагрудскі» паведамляў, што *«ў гуце Нёман не было ніводнага яўрэя, покуль яўрэй Астроўскі не адчыніў тут краму. У ноч з 26 на 27 лістапада па пасёлку былі расклеены ўлёткі з патрабаваннямі, каб Астроўскі з'ехаў адсюль да 1 снежня. Паліцыя пачала следства»*[48].

Каб спыніць хвалю антысемітызму, якая імкліва ўздымалася, «Кола студэнтаў-лідзян» (куды ўваходзілі студэнты, які вучыліся не толькі ў Польшчы, але і за мяжой) правяло канферэнцыю з вучнямі лідскіх школ і гімназій, на якой тлумачыла вучням неабходнасць устрымлівацца ад удзелу ў такіх акцыях як вулічныя пагромы, біццё шыбаў *«і іншых антысеміцкіх выбрыкаў»*[49].

Прычым колькасць яўрэйскага насельніцтва была настолькі высокай, што падчас яўрэйскіх свят жыццё ў горадзе спынялася[50]. Цяжка выбудоўваліся адносіны яўрэйскага насельніцтва Польшчы з уладамі краіны, тым не менш на яўрэйскіх могілках у Лідзе ў 1936 годзе быў устаноўлены помнік невядомаму жаўнеру-яўрэю, загінуламу ў баях з бальшавікамі пад Лідай у 1920-м. Потым, да 1939 года кожны год у лістападзе «Камітэт камбатантаў-яўрэяў» збіраў каля помніка жалобныя мітынгі[51].

Але ў канцы 1930-х гадоў пачаў узмацняцца дзяржаўны антысемітызм. Пасля смерці Пілсудскага прыхільнікі ўлады «моцнай рукі» ў кіраўнічым лагеры згуртаваліся вакол Рыдз-Сміглага і ў 1937 годзе стварылі новую палітычную групоўку — «Лагер нацыянальнага аб'яднання» (Obóz Zjednoczenia Narodowego, у прастамоўі — OZN ці OZON). Гэтая арганізацыя ў 1937—1939 гадах дзейнічала і на тэрыторыі Заходняй Беларусі. На пачатку 1938 года ў Лідзе прайшоў з'езд гмінных аддзелаў гэтай арганізацыі[52]. Прынятая з'ездам ухвала настолькі характэрная для разумення гэтай арганізацыі, што мае сэнс прывесці яе фрагмент:

*«Жадаем:*

*1) Адзяржаўлення ўсіх фабрык і заводаў, звязаных з ваеннай прамысловасцю, у гаспадарчай праграме галоўным павінна стаць узмацненне абараназдольнасці*

*2) Пераходу ў польскія рукі (unarodowienie) гандлю, прамысловасці, рамёстваў, а перад усім жадаем, каб як найхутчэй быў выдадзены закон, які забараняе яўрэям гандаль сельскагаспадарчымі таварамі, а менавіта: збожжам, буйной рага-*

[48] Kurier Nowogródzki. № 56. 21 listopada 1931.
[49] Kurier Nowogródzki. № 56. 21 listopada 1931.
[50] Kurjer Wilenski. № 248(4211). 9 września 1937.
[51] Kurjer Wilenski. № 325(4285). 26 listopada 1937.
[52] Kurjer Wilenski. № 34(4352). 4 lutego 1938.
[53] Kurjer Wilenski. № 35(4350). 5 lutego 1938.
[54] Kurjer Wilenski. № 32(4350). 2 lutego 1938.
[55] Kurjer Wilenski. № 35(4350). 5 lutego 1938.
[56] Kurjer Wilenski. № 306(4623). 7 listopada 1938.
[57] Kurjer Wilenski. № 329(4647). 30 listopada 1938.
[58] Kurjer Wilenski. № 349(4667). 20 grudnia 1938.
[59] Słowo. № 212(5136). 4 sierpnia 1938.
[60] Kurjer Wilenski. № 201(4519). 24 lipca 1938.
[61] Kurjer Wilenski. № 314(4632). 15 listopada 1938.
[62] Słowo. № 245(5169). 6 września 1938.
[63] Kurjer Wilenski. № 246(4564). 8 września 1938.

*тай жывёлай і свіннямі, сельскагаспадарчымі машынамі і абсталяваннем, лесам, цэментам, вапнай, а таксама манапольнымі таварамі, такімі як соль, алкаголь, тытунь, запалкі і г. д.*

*3) Жадаем рэвізіі грамадзянства яўрэяў, якія жывуць у Польшчы...»*[53]

У лютым 1938 года «Кур'ер Віленьскі» піша: *«Заўсёды спакойную Ліду наведала дастаткова вялікая група пікетоўцаў з Вільні. Група падлеткаў, стаўшы на вуліцах горада, старалася перашкаджаць гараджанам рабіць пакупкі ў яўрэйскіх крамах. Улёткі, якія яны раздавалі, былі канфіскаваныя паліцыяй. Праз парушэнне грамадскага спакою паліцыя склала на пікетоўцаў некалькі пратаколаў»*[54]. Праз некалькі нумароў тая ж газета пісала, што лідскі стараста вырашыў спыніць пікетаванне крамаў, якое пачалося 31 студзеня, *«некалькі пікетоўцаў арыштавана паліцыяй, сярод арыштаваных пікетоўцаў былі злодзеі-рэцыдывісты»*[55].

У вышэй прыведзенай ухвале, прынятай у Лідзе на пачатку лютага 1938 года на з'ездзе гмінных арганізацый «Лагера нацыянальнага аб'яднання» (OZN), пералічаны накіраваныя супраць яўрэяў пункты. У лістападзе таго ж года прэса паведамляе, што Гарадская ўправа дзеля адсоткавага павелічэння неяўрэйскага гандлю (unarodowienia) вырашыла перарабіць існы на рынку мясны павільён у крамы: *«З боку галоўнай вуліцы горада паўстануць тры новыя крамы, якія Таварыства сяброў горада Ліды плануе перадаць купцам з заходніх ваяводстваў Польшчы. Зараз у горадзе ўжо існуюць 4 вялікія крамы, адчыненыя купцамі з Познанскага ваяводства»*[56]. Ужо праз некалькі тыдняў замест мяснога павільёна адчыняцца новыя крамы па вуліцы Сувальскай, тут жа, месца, дзе стаялі дрожкі перароблена ў скверык, і так *«вырашана найвялікшая праблема цэнтра горада, бо тут раней было галоўнае месца сцёку нечыстотаў. Новыя крамы будуць прыносіць гораду прыбытак, хрысціянскі гандаль у цэнтры горада хутка павялічваецца»*[57]. Хутка Народны кааператыўны банк у Лідзе выдзеліў 6 000 злотых у якасці льготных крэдытаў для *«хрысціянскага рамесніцтва і гандлю»*[58].

На пачатку жніўня 1938 года віленская газета «Слова» паведаміла пра змяншэнне адсоткавай колькасці яўрэяў у лідскіх мястэчках і ў самой Лідзе: *«У Лідзе ў 1921 года было 48% яўрэяў ад агульнай колькасці гараджан, а цяпер толькі 33%»*[59].

Нягледзячы ні на што, летам 1938 года лідскія яўрэі-рамеснікі пачынаюць збіраць грошы, каб купіць для войска санітарны аўтамабіль[60]. Тады ж уладальнік «Ардаля» Саламон Мелуп вырашае купіць для гарнізона горада Грудзенж (у якім, як і ў Лідзе, «Ардаль» меў фабрыку) цяжкі кулямёт[61].

6 верасня 1938 года віленская газета «Слова» праінфармавала, што ў нядзелю, 4 верасня, у Лідзе дайшло да антыяўрэйскіх хваляванняў. Прычынай эксцэсаў было збіццё каля 8 гадзін вечара некалькіх жаўнераў. *«Пасля гэтага ў некаторых яўрэйскіх дамах па вуліцах 3-га Мая, Сувальскай і суседніх з імі вуліцах былі выбіты шыбы. Таксама выбіты шыбы ў рэстаране яўрэя Савіцкага, у цукерні "Амерыканка" і ў кватэры адваката Кернера. У часе хваляванняў некалькі яўрэяў былі збітыя. Паліцыя, каб не дапусціць паўтору канфлікту, стаіць на вуліцах горада. Шэраг асоб, якія прымалі ўдзел у хваляваннях, затрыманы»*[62].

На пачатку верасня 1938 года адбыліся чарговыя хваляванні. З гэтай нагоды 8 верасня 1938 года «Кур'ер Віленьскі» абвяргае інфармацыю пра збіццё жаўнераў лідскімі яўрэямі[63], а газета «Слова» паведамляе, што непасрэднай прычынай нядзельных антыяўрэйскіх хваляванняў у Лідзе былі *«няправільныя паводзіны ўладальніка крамы гародніны па вуліцы Сувальскай Хаіма Цвайфуса. Гандляр аблаяў жаўнера, а аднаго з хрысціян, які ўмяшаўся, — ледзь не выцяў. Калі падышоўшы*

[64] Słowo. № 246(5170). 8 września 1938.
[65] Słowo. № 247(5171). 8 września 1938.
[66] Słowo. № 248(5172). 9 września 1938.
[67] Słowo. № 333(5257). 3 grudnia 1938.
[68] Kurjer Wilenski. № 321(4639). 22 listopada 1938.
[69] Kurjer Wilenski. № 13(4689). 13 stycznia 1939.
[70] Яўрэйскія кучкі — у Беларусі і Украіне так называюць перыяд, які пачынаецца за 2—3 дні да наступу Жарснага тыдня і супадае з яўрэйскім Вялікаднем, які пачынаецца на 15-ы дзень месяца нісана. Гэты дзень заўсёды выпадае на першую поўню пасля вясновага раўнадзенства, бо яўрэйскі каляндар вядзецца па месяцавых цыклах.
[71] JurekoTeofani. Stosunki narodowościowe i wyznaniowe w Lidzie w latach 1925—1939 // Ziemia Lidzka. №12. 1993.

*паліцыянт хацеў затрымаць жаўнера, натоўп, які сабраўся на вуліцы, адбіў арыштаванага і з крыкамі рушыў наперад, выбіваючы па дарозе шыбы ў яўрэйскіх дамах і крамах. Яўрэяў, якія патрапілі ў натоўп, — збівалі. Толькі вялікі аддзел паліцыі разагнаў натоўп»*[64]. Акрамя таго ў гэтым нумары газета «Слова» піша пра бойку паміж жыхарамі вёскі Сялец і яўрэямі з-за таго, што адзін з вяскоўцаў наехаў на яўрэя роварам.

Далей «Слова» інфармавала, што *«стан узрушэння, які на працягу апошніх трох дзён віраваў у Лідзе, павольна ападае. Усе яўрэйскія крамы адчынены, толькі яшчэ дзе-нідзе бачны выбітыя шыбы. ... паліцыя праводзіць расследаванне, шукае тых, хто браў удзел у хваляваннях. Тым не менш сітуацыя ў горадзе застаецца напружанай. Раз-пораз узнікаюць бойкі і інцыдэнты. Некалькі дзён таму група яўрэяў атакавала некалькі хрысціян, якія праводзілі ў горадзе акцыю «ўсведамлення». У часе нядзельных хваляванняў быў пабіты паліцыянт і паранены яўрэй. У сувязі з хваляваннямі дэлегацыя яўрэяў пайшла да ўладаў горада, каб даказаць, што не яўрэі справакавалі хваляванні»*[65].

Гэтыя падзеі ў Лідзе патрапілі на першыя старонкі польскіх газет, а нумар газеты «Варшаўскі вечар» быў нават канфіскаваны *«за інфармацыю з Ліды»*[66].

У канцы 1938 года «Слова» падрахоўвала вынікі: *«У апошні час заўважаны значны зыход яўрэйскага насельніцтва з Ліды. Сталая акцыя байкоту прывяла да таго, што шэраг яўрэйскіх прадпрыемстваў ліквідаваны, а іх уладальнікі ці пайшлі працаваць у іншыя фірмы, ці выехалі з горада. Адначасова шмат яўрэяў — уладальнікаў дамоў пазбаўляюцца нерухомасці, прычым пакупнікі гэтых дамоў — хрысціяне. Цэны на нерухомасць панізіліся. У цэнтры горада паўстаюць новыя хрысціянскія прадпрыемствы. На працягу аднаго толькі лістапада ў цэнтры горада адчыніліся 5 хрысціянскіх крамаў, і ў бліжэйшыя дні яшчэ адчыняцца некалькі вялікіх крамаў»*[67].

Лідскія яўрэі ў той час выдатна ведалі пра цяжкі лёс яўрэяў Германіі, і восенню 1938 года пад кіраўніцтвам лідскага рабіна А. Рабіновіча ў горадзе паўстаў камітэт дапамогі яўрэям, выгнаным з Германіі[68]. Менш чым за паўгода было сабрана 11 315 злотых[69].

Былая лідзянка Тэафанія Юрэка пісала пра тыя часы: *«Яўрэі ў горадзе пераважна жылі ў цэнтры, гэта вынікала з таго, што яны ўтрымлівалі крамы і рамесныя майстэрні. ... Яны ўтваралі групу, сцісла звязаную паміж сабой традыцыяй, рэлігіяй, а таксама гандлёвымі і прамысловымі інтарэсамі. Гараджане-хрысціяне трактавалі іх як народ, які адвеку жыў у горадзе. Часамі мясцовыя хуліганы, часцей падчас свята Кучак*[70] *рабілі ім усялякія псоты, аднак гэта былі спарадычныя выпадкі. Лідскія яўрэі апраналіся па-еўрапейску, не насілі пейсаў — за выняткам рабінаў. Гараджане прывыклі да таго, што ў суботу ўсе яўрэйскія крамы зачынены, а яўрэйскае насельніцтва не выконвае ніякай працы. ... Яўрэйскае насельніцтва з іншымі гараджанамі ўжывала розныя мовы — усё залежала ад таго, на якой мове размаўляе кліент ... гандаль быў цалкам у іх руках. Была група заможных яўрэяў, але хапала сярод іх і сапраўдных беднякоў, частка якіх падтрымлівала камуністычныя ідэі. Яўрэйскія купцы дыктавалі цэны, завышаючы ці заніжаючы іх у залежнасці ад кан'юнктуры. Найчасцей праз нізкія цэны закупаў падманваліся вясковыя людзі, што ўзбуджала іх супраць яўрэяў. Выбухнула гэта ў 1938—39 гг. Тады ж з'явіліся лозунгі: "Не купляў у яўрэя, ён цябе падмане", "Ідзі па тавар да сваіх". Пачалі з'яўляцца крамы, якія адкрылі хрысціяне. Адначасова з'явілася ўзаемная падазронасць паміж яўрэямі і хрысціянамі, якая дрэнна адбілася падчас вайны. Не датычылася гэта ўсіх — было шмат прыкладаў узаемнай дапамогі, але гэта іншая тэма»*[71].

Пра тое ж пісала і Яўгенія Ярмант: *«Пра яўрэяў мая мама выказвалася з павагай. Казала, што ў іх дружныя клапатлівыя сем'і. П'яны яўрэй на вуліцы — немагчымая з'ява. Мы ніколі не чулі, каб яўрэй кінуў сваю сям'ю і дзяцей. ... Яўрэі заўсёды вельмі рэлігійныя і пабожныя. Перад вайной шматлікія лозунгі заклікалі байкатаваць яўрэяў і рабіць пакупкі толькі ў польскіх крамах і кааператывах. Натхнёныя патрыятызмам, мы вырашылі байкатаваць нашых суседзяў. Некалькі разоў я нават хадзіла ў кааператыўную краму ў канцы вуліцы Лётнай. Але з часам усё вярнулася на свае месцы. Яхка* (суседка-гаспадыня крамы. — Л.Л.) *была пад бокам. Яна адпускала тавары ў крэдыт. Мы ліквідавалі запазычанасць адзін раз у месяц. Яўрэі не баяліся гандлёвай рызыкі. Калі грошы сво-*

*ечасова не паступалі, то сур'ёзных канфліктаў не ўзнікала. Яўрэй тады сам наведваў кватэру даўжніка і паважліва прасіў разлічыцца»*[72].

1939 год пачаўся з суда над камуністамі: *«Прыгавор камуністам. Тры дні ў Акруговым судзе ў Лідзе слухалася справа камуністаў. 17 снежня вынесены прыгавор: Перэс Левін і Лейба Кашчанскі атрымалі па 6 гадоў турмы, Даніэль Карасін — 4 гады, Шыман Ілютовіч і Генах Баран — па 3 гады турмы, акрамя турэмных тэрмінаў усе былі пазбаўлены грамадзянскіх правоў на 10 гадоў»*[73]. У сувязі з гэтым працэсам лідскі стараста забараніў павятовыя аддзелы трох яўрэйскіх таварыстваў: «Frejchejt», «Haszemer Hacair», «Hehaluc pienier» *«за тое, што ў гэтых арганізацыях працавалі элементы шкодныя для польскай дзяржаўнасці, і яны пагражалі грамадскай бяспецы»*[74]. Праз тыдзень нават забараняецца дзейнасць знакамітага лідскага яўрэйскага спартыўнага клуба «Макабі», не даецца дазволу на рэгістрацыю моладзевага яўрэйскага таварыства «Histadrut Academenoim Zionim»[75].

А ў лютым на пасяджэнні Гарадской рады Ліды, на якім разглядаліся фінансавыя выдаткі на 1939 год, была выкраслена фінансавая субсідыя, якая да гэтага заўжды выдзялялася з бюджэту для дзейнасці яўрэйскіх грамадскіх арганізацый[76].

18 сакавіка 1939 года а 1-30 у Лідзе невядомыя выбілі вокны ў сінагозе па вуліцы Школьнай[77].

Хутка пачалася Другая сусветная вайна.

Лідскія яўрэі добра ведалі пра становішча яўрэяў у Германіі і чакалі ад Гітлера самага дрэннага. Не мелі яны вялікіх сантыментаў і да Польскай дзяржавы. Таму, калі замест фашыстаў у горад ўвайшла Чырвоная Армія, лідскія яўрэі сустракалі яе кветкамі — для іх гэта было сапраўднае вызваленне ад фашысцкага лагера. Ярмант пісала: *«Аднойчы раніцай горад абляцела вестка, што ў Ліду ўступілі рускія войскі, і на ўскраіне горада яўрэі сустрэлі іх хлебам-соллю. Мама сцісла пракаментавала: "Яўрэі гатовыя хоць чорта вітаць, абы не прыйшлі немцы"»*[78].

19 верасня 1939 года ў Ліду ўвайшла Чырвоная Армія. Недалёка ад Ліды прайшла новая мяжа з Літвой, і наш горад стаў месцам збору польскіх яўрэяў, якія планавалі бегчы праз Вільню ў Еўропу і ЗША. Таму яўрэйскае насельніцтва Ліды значна вырасла і дасягнула 15 000 чалавек. У горадзе падпольна працавала яўрэйская сіяністская арганізацыя. Пасля серыі арыштаў у снежні 1939 года сіяністскія арганізацыі былі ліквідаваны. Савецкая ўлада зачыніла ўсе яўрэйскія арганізацыі. Улетку 1940 года яўрэяў — уцекачоў з заходняй Польшчы пачалі высяляць у глыб Расіі, галоўным чынам у раён Рыбінска.

Па падліках, летам 1941 года колькасць яўрэйскага насельніцтва ў Лідзе дасягала 8500 чалавек. Пасля бамбёжак 22—23 чэрвеня даваенная Ліда знікла назаўжды. Цалкам згарэў яўрэйскі раён, згарэла сінагога.

Халакост перажылі каля 300 лідскіх яўрэяў.

## Помнікі яўрэйскай гісторыі

Помнікаў яўрэйскай гісторыі да 1939 года ў Лідзе, акрамя сцяны былой Тарбут-школы, не засталося. Ніжэй пералічу помнікі ахвярам халакосту.

**Мемарыяльны комплекс** на брацкай магіле 6 700 яўрэяў, расстраляных 8 мая 1942 года. Помнік уяўляе сабой бетонную пліту на брацкай магіле. Знаходзіцца ў лесе, на захад ад акруговай дарогі. Агароджаны металічным ланцугом. Надпіс на пліце: «Вечная памяць жыхарам г. Ліды закатаваным нямецкімі катамі 8 траўня 1942 г.».

Яшчэ адзін Мемарыяльны комплекс на брацкай магіле 6 700 яўрэяў, у лесе, на захад ад акруговай дарогі. Мемарыяльны комплекс на брацкай магіле расстраляных 8 мая 1942 года. Пабудаваны ў 1992 годзе па праекце скульптара Аляксандра Тухто на сродкі Б.М. Галубовіча. Скульптурная кампазіцыя з металу, дзве пліты і два блока, прыступкі з мармуровых плітак, металічная агароджа. На блоках надпісы на рускай мове і іўрыце: «1942—1992. У гэтай брацкай магіле пахаваны закатаваныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі 6 700 жыхароў г. Ліды».

**Гранітная стэла** на брацкай магіле яўрэяў, расстраляных у сакавіку 1943 года. Знаходзіцца на вул. Чырвонаармейскай. Помнік адкрыты 13 жніўня 2003 года. Выкананы па праекце лідскага

[72] Ярмонт Е. В тени замка Гедемина. Лида. 1995. С. 50.
[73] Kurjer Wilenski. № 19(4695). 19 stycznia 1939.
[74] Kurjer Wilenski. № 20(4696). 20 stycznia 1939.
[75] Kurjer Wilenski. № 28(4704). 28 stycznia 1939.
[76] Kurjer Wilenski. № 42(4718). 11 lutego 1939.
[77] Kurjer Wilenski. № 80(4756). 21 marca 1939.
[78] Ярмонт Е. В тени замка Гедемина.

скульптара Рычарда Грушы. Стэла з чырвонага граніту, падстаўка бетонная. На паліраванай грані стэлы на іўрыце і рускай мове выгравіраваны тэкст: «Вечная памяць яўрэям Ліды і Вільнюса, па-зверску знішчаным нямецкімі нацыстамі і іх памагатымі за прыналежнасць да яўрэйскага народа». У цэнтры Зорка Давыда і даты 1942—1943 (5702—5703).

## Лідскія рабіны

Давід Бэн Арье Лейб (1650—1696, David ben Aryeh Leib). Равін Давыд Бэн Арье Лейб з Ліды напісаў шмат рэлігійных прац, у тым ліку «Сефер Шомер Шабат» (Sefer Shomer Shabbat), кнігу пра 613 запаведзяў (613 Mitzvot), кнігу пра «брыс міла» (абрадзе абразання), кнігу пра Шулхан Арух, пра Кнігу Руф і кнігу пра яўрэйскую этыку (Divrei David, 1671).

Ён быў абвінавачаны ў «Сабатэізме» (прыхільнасці да месіянскага руху ў юдаізме XVII стагоддзя, створаным — Сабатаем Цві ў 1664 годзе, калі ён абвясціў сябе Месіяй) і плагіяце, але падобна, абвінавачванні з яго былі зняты. Памёр у Львове.

Яго дзядзька (брат маці) — Мошэ Рыўкес (Moses Rivkes), аўтар кнігі «Беэр-ха-Гала» (Be'er ha-Golah). Акрамя Ліды служыў рабінам у Зволіне (Zwolin) і Майнцы (Mainz). У 1682 г. ён быў прызначаны рабінам у Амстэрдаме

З сярэдзіны XIX стагоддзя лідскім рабінам быў Эліях Шык (1809—1876). Ён атрымаў шырокую вядомасць як выдатны прапаведнік. Расказвалі нават, што ён мог рабіць цуды на вачах людзей. Кніга рабіна Эліяха Шыка «Эйн Эліахі» каментавала збор талмудысцкіх легенд (вядомых як «Эйн Якаў») і была выдадзена ў Вільні. Пасля яго лідскім рабінам стаў цадзік Беньямін Ліда.

З 1882 па 1899 год лідскім рабінам быў Маісей Крамнік.

Кельмскі Магід (Мошэ Іцхак Даршан). Нарадзіўся ў 1828 годзе каля Слоніма, памёр у Лідзе ў 1899 годзе, «Магід» у перакладзе з іўрыта — апавядальнік, «Даршан» — прапаведнік. Ён быў лідарам і галоўным прапаведнікам рэлігійнай плыні «Мусар».

Першую пропаведзь Кельмскі Магід прамовіў у Слоніме ва ўзросце 15 гадоў. Не жадаючы ператвараць рэлігійную дзейнасць у крыніцу прыбытку, Кельмскі Магід адмовіўся ад мноства прапаноў заняць пост прапаведніка ў буйных абшчынах, аднак урэшце пагадзіўся стаць прапаведнікам у слонімскай сінагозе. Ва ўзросце 21 года ён пакінуў пасаду і адправіўся ў Коўна, каб вучыцца ў знакамітага рабіна Ізраэля Ліпкіна Саланцера, заснавальніка руху Мусар («Мусар» на іўрыце — «мараль», рух у юдаізме «літоўскага» паходжання, паўстаў у XIX стагоддзі, супрацьстаяў хасідызму). Ацаніўшы талент юнака і яго прапаведніцкія здольнасці, Саланцер усклаў на Кельмскага Магіда місію прапаганды сваіх ідэй, гэтаму той прысвяціў больш за паўвека. Кельмскі Магід займаў пасаду прапаведніка ў Кельмі Ковенскай губерні (адгэтуль Кельмскі Магід), у Жагары, Ашмяне і Мінску, але галоўным чынам ён заставаўся вандроўным прапаведнікам і падарожнічаў ад кагалу да кагалу, прапаведуючы строгія маральныя нормы ў паўсядзённым жыцці.

Каб узняць маральны ўзровень яўрэйскіх абшчын, Кельмскі Магід, прыбываючы на новае месца, наведваў рабіна і высвятляў заганы, на якія пакутуе абшчына, а затым казаў пра іх у сваіх публічных выступах. Асабліва рэзка Кельмскі Магід асуджаў жульніцтва ў гандлі, эксплуатацыю беднякоў і няўартыя паводзіны ў адносінах да неяўрэяў. Пропаведзі Кельмскага Магіда былі прасякнуты эмацыянальным пафасам і часам пераходзілі ў спеў. Нягледзячы на насмешкі, асабліва з боку «маскілім» (яўрэйскі асветны рух), ідэі якіх Кельмскі Магід крытыкаваў, яго пропаведзі аказвалі на слухачоў моцнае ўздзеянне. Газеты пісалі, што пры наведванні Кельмскага Магіда, пасля яго пропаведзі, гандляры мясцовага рынка знішчалі фальшывыя гіры і меры.

Кельмскі Магід не раз станавіўся ахвярай паклёпу і даносаў з боку зачэпленых яго крытыкай і нават бываў за турэмнымі кратамі. У 1884 годзе Кельмскі Магід пабываў у Лондане, дзе зрабіў глыбокае ўражанне на вярхоўнага рабіна Англіі Натана Адлера і Самуэля Мантэгю (лорд Свэйслінг).

У Лідзе Кельмскі Магід пасяліўся ў 1898 годзе разам з сынам Бэн Зіён Даршаном і праз год памёр.

Рабін, заснавальнік руху Мізрахі Іцхак Якаў Рэйнес (1839—1915) нарадзіўся недалёка ад Пінска. Бацька Рэйнеса, рабін Шлом Нафталі, у

1830-х жыў у Палесціне, валодаў друкарняй у Цфаце і пакінуў гэты горад, страціўшы падчас землятрусу 1837 года сям'ю і маёмасць.

Адукацыю Рэйнес атрымаў у ешыботах мястэчка Эйшышкі, якое знаходзілася ў Лідскім павеце, і ў Валожыне. У 1867 годзе Рэйнес заняў пасаду рабіна ў мястэчку Шаўкяны Ковенскай губерні, у 1869 годзе быў абраны рабінам у Свянцянах, а ў 1885—1915 гадах узначальваў яўрэйскую абшчыну горада Ліда.

У 1882 годзе Рэйнес прыняў удзел у з'ездзе прадстаўнікоў яўрэйскіх абшчын у Пецярбургу, на якім прадставіў выпрацаваны ім план рэарганізацыі сістэмы выкладання ў ешыботах, які аднак не сустрэў падтрымкі з боку большасці дэлегатаў. Свае погляды на рэформу традыцыйнай яўрэйскай адукацыі, мэтай якой было ўтрымаць яўрэйскую моладзь у рамках артадоксіі, а таксама прапанаваную ім новую метадалогію вывучэння Талмуда, якую ён супрацьпастаўляў старой сістэме выкладання, Рэйнес выказаў у працах «Хотэм тохніт» («Завяршальны план», тт. 1—2, 1880—81), «Урым гдолім» («Вялікія агні», 1887) і іншых кнігах. Метадалогія Рэйнеса пабудавана на лагічна-аналітычным падыходзе да крыніц, яна была створана пад уплывам працы Маймоніда «Міллот ха-хіггайон» («Тэрміны логікі»). Нягледзячы на тое, што Пецярбургскі з'езд не прыняў яго план, Рэйнес адкрыў у Свянцянах узорны ешыбот, разлічаны на дзесяцігадовы курс навучання, які нароўні з традыцыйнымі ўключаў і агульнаадукацыйныя дысцыпліны. Аднак з-за процідзеянні вельмі артадаксальных кругоў ешыбот праз чатыры гады быў зачынены. Неўзабаве Рэйнесу было прапанавана месца рабіна ў Манчэстары, але пасля трохмесячнага знаходжання ў Англіі ён вярнуўся на радзіму.

У сваёй грамадскай дзейнасці Рэйнес спрабаваў спалучаць сучасныя павевы з яўрэйскай традыцыяй. Рэйнес далучыўся да Ховевей Цыён (літаральна — «любячыя Сіён», сіяніскі рух) з моманту ўзнікнення руху. Разам з рабінам Ш. Магілеверам Рэйнес высунуў праграму засялення Палесціны, якая прадугледжвала спалучэнне сельскагаспадарчай працы пасяленцаў з вывучэннем Торы. Рэйнес быў у ліку нешматлікіх рабінаў, якія адразу адгукнуліся на заклік Тэадора Герцля і якія падтрымалі сіяніскі рух, удзельнічаў у першых Сіяніскіх кангрэсах. У 1898 годзе Рэйнес выпусціў кнігу «Ора ве-сімха» («Святло і радасць») пра значэнне свята Пурым з прадмовай «пра сіянізм з артадаксальнага пункту гледжання», а ў 1902 годзе апублікаваў апалогію сіянізму «Ор хадаш ал Цыён» («Новае святло над Сіёнам»), у якой аспрэчваў антысіяніскія сцвярджэнні некаторых прадстаўнікоў рабінскіх кругоў. У сваіх працах Рэйнес заклікаў рэлігійных і нерэлігійных сіяністаў да сумеснай працы. У сакавіку 1902 года ў Вільні па яго ініцыятыве была склікана канферэнцыя рабінаў і іншых прадстаўнікоў артадаксальных кругоў, якая абвясціла пра стварэнне рэлігійнай фракцыі (Мізрахі) у сусветнай Сіяніскай арганізацыі. На Мінскай канферэнцыі (верасень 1902 года) падчас дыскусіі «па культурнай працы» Рэйнес ад імя фракцыі пярэчыў супраць дзейнасці сіяніскай арганізацыі ў вобласці культуры і патрабаваў перайсці да практычнай працы ў Палесціне, бо лічыў, што яўрэйская культура можа быць толькі рэлігійнай. У жніўні 1904 года ў Браціславе на 1-м Сусветным з'ездзе Мізрахі Рэйнес быў аднадушна прызнаны лідарам руху.

У 1905 годзе пры садзейнічанні буйных дзеячаў Мізрахі і фінансавай дапамозе барона Д. Гінцбурга Рэйнес адкрыў у Лідзе ўмерана рэфармаваны ешыбот, разлічаны на шэсць гадоў навучання. Нароўні з Талмудам у праграму былі ўключаны Біблія, іўрыт з граматыкай, а таксама агульныя прадметы ў аб'ёме павятовага вучылішча, да якіх пазней дадалі асновы камерцыі. Педагагічныя прынцыпы, закладзеныя ў сістэму выкладання Лідскага ешыбота, Рэйнес выказаў у працах «Кол Я'аков» («Голас Якава», 1908) і «Мішкенот Я'аков» («Мясціна Якава», 1910). Рабін надрукаваў яшчэ шмат кніг, але каля 100 вялікіх тэкстаў засталося ў рукапісах.

Рэйнес паклаў пачатак адной з дзвюх асноўных плыняў рэлігійнага сіянізму. У адрозненне ад А.І. Кука [Аўраам Іцхак Кук (1865—1935), рабін, кабаліст і грамадскі дзеяч пачатку XX стагоддзя, стваральнік філасофскай канцэпцыі рэлігійнага сіянізму, паводле якой, стварэнне дзяржавы Ізраіль з'яўляецца пачаткам месіянскага збавення] месіянізм Рэйнеса быў хутчэй палітычным — неадкладнае выратаванне яўрэйскага народа з галута (галут — выгнанне), а не эсхаталагічным.

Першую пропаведзь Кельмскі Магід прамовіў у Слоніме ва ўзросце 15 гадоў. Не жадаючы ператвараць рэлігійную дзейнасць у крыніцу прыбытку, Кельмскі Магід адмовіўся ад мноства прапаноў заняць пост прапаведніка ў буйных абшчынах, аднак урэшце пагадзіўся стаць прапаведнікам у слонімскай сінагозе

У гонар Рэйнеса ў 1924 годзе былі названы заснаваныя селішча Няве-Я'аков (праіснавала да 1948 года, на яго месцы з 1972 года — аднайменны раён Іерусаліма) і ў 1927 годзе Сдэ-Я'аков у Палесціне.

Ісраэль Меір Коэн (Акоэн) (Хафец-Хаім; сапраўднае прозвішча Пупко; 1839—1933) — рабін, галахіст і мараліст.

Нарадзіўся ў Дзятлаве ў 1839 годзе. Пачынаючы з 10 гадоў вучыўся ў віленскай Бейт мідрашэ Хаіма Нахмана Парнаса, а потым заняўся самаадукацыяй. У 11 гадоў страціў бацьку. Маці яшчэ раз выйшла замуж. Ужо ў маладосці праславіўся шырокай эрудыцыяй і богабаязнасцю. Згодна са звычаем ажаніўся ў 16 гадоў і ў 1855 годзе асеў у Радуні, дзе жонка мела гандаль. Жыў на сродкі небагатага цесця і працягваў вывучаць Талмуд і рабіністычную літаратуру. У 1868 годзе ўзначальваў ешыбот у Васілішках, але ў 1869 годзе вярнуўся ў Радунь, куды да яго пачалі сцякацца шматлікія вучні, і дзе ў тым жа годзе адчыніўся ешыбот, які вырас у адзін з найбуйнейшых у акрузе і стаў вядомы пад назвай Радунскі, ці ешыбот «Хафец-Хаім». Праз некалькі гадоў пасля жаніцьбы пачаў пісаць свае кнігі, першапачаткова ананімна, і выдаваць навуковыя працы, якія і прынеслі яму славу сярод яўрэйскіх вернікаў. Стаў вядомы ў свеце па назве сваёй самай папулярнай кнігі, прысвечанай законам пра забарону зласлоўя — «Хафец Хаім» (Які прагне жыцця).

Кіраваў ешыботам у Радуні каля 70 гадоў, прычым да Першай сусветнай вайны ўтрымліваў яго з даходаў ад продажу сваіх кніг. Падчас гэтай вайны разам з вучнямі ратаваўся ў Расіі і, з цяжкасцю перажыўшы рэвалюцыю, вярнуўся у Радунь у 1921 годзе.

Большасць кніг Хафец-Хаіма (а іх каля 30) разглядалі пытанні галахі і датычыліся штодзённага жыцця яўрэя-верніка, краналі пытанні адносін чалавека да чалавека, вызначалі нормы паводзін згодна з рэлігійнымі догматамі. Усе кнігі Хафец-Хаіма атрымалі шырокі распаўсюджанне ва ўсіх яўрэйскіх абшчынах. Яны сотні разоў перавыдаваліся ў розным фармаце, былі падзелены на гадавыя цыклы вывучэння па днях тыдня, да іх напісаны новыя каментарыі.

Усё жыццё быў надзвычай сціплым чалавекам, жыў ва ўбогай хатцы, хаваўся ад публічнасці. Праз яго рукі праходзілі дзясяткі тысяч долараў ахвяраванняў на ўтрыманне ешыбота і філантрапічныя мэты, — сам ён ніколі не узяў сабе ні цэнта з тых ахвяраванняў, з-за чаго меў найвялікшую павагу не толькі ў сваіх адзінаверцаў, але нават і ў яўрэйскіх радыкалаў, якія бачылі ў радунскім рабіне апору рэакцыі і клерыкалізму.

Найлепш пра яго могуць расказаць кароткія павучальныя гісторыі з жыцця радунскага рабіна. Радунскі войт расказваў такую гісторыю. Войт ішоў разам з радунскі рабінам адной дарогай. У адным месцы над ровам была пакладзена новая кладка. Войт перайшоў кладкай, а рабін Хафец-Хаім збочыў з дарогі і перайшоў цераз роў. На пытанне войта, адказаў: *«Я не упэўнены ў тым, што дошкі гэтай кладкі не крадзеныя»*.

Радунскі рабін быў найвялікшым аўтарытэтам яўрэяў усяго свету. Дом Хафец-Хаіма ў Радуні ў 2001—2002 гадах быў разабраны і як святыня вывезены ў ЗША.

У 1930-я пасаду рабіна займаў Арон Рабіновіч (?—1942) — апошні лідскі рабін. Ён загінуў падчас халакосту, знаходзячыся сярод тысяч лідскіх яўрэяў, дзе да апошняй хвіліны маліўся і супакойваў людзей.

# «Кожнае слова Пісання для хрысціяніна не філалагічны тэрмін, а частка жыцця»

**Больш за пятнаццаць гадоў у Свята-Петра-Паўлаўскім саборы Мінска адбываюцца рэгулярныя беларускамоўныя богаслужэнні. Пераклады біблейскіх і богаслужэбных тэкстаў, іх выданне і распаўсюджванне, падрыхтоўка і правядзенне богаслужэнняў — усё гэта ажыццяўляецца сіламі некалькіх арганізацый, дзейнасць якіх адбываецца ў сценах храма. Сакратар-каардынатар Біблейскай камісіі Беларускай Праваслаўнай Царквы Тацяна Матрунчык і супрацоўнік выдавецкага аддзела Брацтва ў гонар Віленскіх мучанікаў Кастусь Антановіч паразмаўлялі з Юляй Ваўчок пра…**

## …гісторыю

Т.М.: — У 1989 годзе па ініцыятыве Мітрапаліта Філарэта была створана Біблейская камісія Беларускай Праваслаўнай Царквы па перакладзе Свяшчэннага Пісання на беларускую мову. Была яна вельмі шырокага складу — каля 30 чалавек. Акрамя святароў і багасловаў у яе ўваходзілі навукоўцы, перакладчыкі, філолагі, літаратары. У такім складзе камісіяй было перакладзена Евангелле паводле Матфея, пасля чаго выдадзена ў 1991 годзе ў выглядзе тэтраглоты — г. зн. з паралельнымі тэкстамі на чатырох мовах: грэчаскай, царкоўнаславянскай, рускай і беларускай. Потым у працы камісіі адбыўся перапынак, а з 1995 года яна аднавіла сваю дзейнасць у значна скарочаным і змененым складзе, у якім працуе і дагэтуль, збіраючыся штотыдзень у прыходскім доме Петра-Паўлаўскага сабора. Цяпер перакладзены амаль усе кнігі Новага Запавету і завяршаецца пераклад апошняй — Апакаліпсіса. Трэба адзначыць, што за гэтыя гады ўзрос цэлы шэраг адукаванага маладога духавенства — знаўцаў старажытных моў, грэчаскай і яўрэйскай, і, што асабліва важна, яны — актыўныя носьбіты беларускай мовы. Паступова яны далучаюцца да працы камісіі, паколькі сёлета камісія павінна прыступіць да перакладу кніг Старога Запавету. Пачаць плануецца з Псалтыра як адной з самых шырока ўжывальных кніг.

Тады ж, у пачатку 1990-х, а дакладней у 1992 годзе, утварылася брацтва ў гонар Віленскіх мучанікаў. У толькі што вернутым Царкве Петра-Паўлаўскім саборы пачала збірацца беларускамоўная праваслаўная інтэлігенцыя, якой вельмі хацелася, каб у храме гучала малітва на роднай мове. І яна загучала. Спачатку у спевах «Магутны Божа», духоўных кантах, велікодных і калядных песнях. У 1993 годзе пачалі штотыдзень служыць малебен за Беларускі народ з акафістам Віленскім мучанікам, з 1996 года гэты малебен загучаў па-беларуску. Служым яго і дагэтуль кожную сераду. Думаецца, што якраз малітва і ўмацавала ўсю нашу брацкую дзейнасць, якая ў тыя гады запачаткоўвалася. Брацтва актыўна занялося падрыхтоўкай і выданнем беларускамоўнай рэлігійнай літаратуры, ініцыявала і падтрымлівала пераклад богаслужэбных тэкстаў, уладкоўвала брацкі дом «Кінанія», развівала сацыяльную царкоўную дзейнасць.

## …богаслужэнні на беларускай мове

**Т.М.:** — Літургія — гэта асноўнае богаслужэнне ў царкве. Для таго, каб і яно загучала па-беларуску, спатрэбілася, ні многа ні мала, сем гадоў. Разумееце, беларускамоўная літургія, можна сказаць, выспявала паступова. Перакладалася Свяшчэннае Пісанне, выдавалася рэлігійная літаратура па-беларуску, распрацоўвалася беларуская рэлігійная тэрміналогія, уцаркаўлялася беларуская інтэлігенцыя, усё часцей чулася пропаведзь па-беларуску, удасканальваўся брацкі хор, айцец Сергій Гардун рабіў пераклад тэксту літургіі. І вось нарэшце, у самым пачатку 1999 года яна загучала ў Петра-Паўлаўскім саборы. Спачатку служылі па-беларуску ў першую суботу кожнага месяца. А з 2002 года пачалі служыць кожную суботу. Паступова ў некаторых храмах Гродзенскай і Мінскай епархій уводзяцца богаслужэнні на беларускай мове. І ў гэтым Гродна нават апярэджвае Мінск. Бо ў Гродне ў нядзелю абавязкова ў адным з храмаў горада адбываецца літургія на беларускай мове. У Мінску пакуль што такога няма: у Петра-Паўлаўскім саборы беларуская літургія толькі па суботах, у Свята-Міхайлаўскім храме — у трэцюю нядзелю кожнага месяца, у Мінскай духоўнай акадэміі — па аўторках некалькі разоў на месяц. Што да іншых богаслужэнняў, так званых трэбных, то яшчэ ў сярэдзіне 1990-х гадоў Мітрапаліт Філарэт даў



блаславенне задавальняць жаданне вернікаў, калі яны просяць адслужыць вянчанне, хрышчэнне, малебен ці паніхіду на беларускай мове.

**К.А.:** — Шмат залежыць ад прыхаджан. Вось у Вільні ў канцы 1990-х гадоў таксама з'ядналася беларуская інтэлігенцыя, і па іх просьбе кожны тыдзень у Мікалаеўскім храме адбывалася літургія на беларускай мове. На першай такой службе прысутнічаў нават Мітрапаліт Віленскі і Літоўскі Хрызастом. Але, на жаль, праз некалькі гадоў той актыў, які спачатку гэта ініцыяваў, усё радзей і радзей стаў удзельнічаць у службах. Урэшце ініцыятыва згасла зусім, і святар быў вымушаны вярнуцца да царкоўнаславянскай літургіі. Калі ж разважаць пра становішча ў Беларускай Праваслаўнай Царкве, то, як вядома, Мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі Павел неаднаразова выказваўся, што ў тых храмах, дзе і свяшчэннік мае жаданне і здольнасці служыць па-беларуску, і прыхаджане прыхільна ставяцца да гэтага, дазваляецца здзяйсняць беларускамоўную літургію.

**Т.М.:** — Богаслужэбныя пераклады на беларускую мову накіраваны не на тое, каб нейкім чынам выцесніць царкоўнаславянскае богаслужэнне, а, наадварот, каб глыбей яго зразумець, каб спасцігнуць тую вобразнасць багаслоўя, якая раскрываецца праз богаслужэнне. Наша царкоўнаславянскае богаслужэнне надзвычай багатае і вобразнае, і для нас вельмі важна навучыцца ўспрымаць гэтую вобразнасць. А з-за таго, што мы не да канца разумеем царкоўнаславянскую мову, мы не можам у паўнаце ўспрыняць і тое, што закладзена ў богаслужэбных тэкстах. І вось таму сучасныя пераклады павінны дапамагчы нам паглыбіць наша разуменне царкоўнаславянскага богаслужэння.

## …кірункі дзейнасці

К.А.: — З 1993 года дзейнічае выдавецкі аддзел Брацтва ў гонар Віленскіх мучанікаў, ён паступова перарос у Выдавецтва Свята-Петра-Паўлаўскага сабора і займаецца выданнем рэлігійнай літаратуры на беларускай мове.

Асноўныя штогадовыя нашы выданні — гэта «Беларускі праваслаўны каляндар» і альманах «Праваслаўе ў Беларусі і ў свеце» (з 1996 года яго назва «Праваслаўе»). Па меры таго, як Біблейская камісія перакладае Свяшчэннае Пісанне, мы імкнёмся выдаваць гэтыя пераклады. Ужо выдадзены паасобнымі кнігамі чатыры Евангеллі і Дзеянні Апосталаў з паралельнымі тэкстамі на грэчаскай, царкоўнаславянскай, рускай і беларускай мовах. Рыхтуюцца да выдання, таксама ў выглядзе тэтраглот, Саборныя пасланні, Пасланні апостала Паўла і Апакаліпсіс.

Акрамя гэтага, займаемся выданнем разнастайнай асветніцкай літаратуры. Дастаткова шырокім попытам карыстаюцца жыццеапісанні святых зямлі Беларускай, даследаванні па царкоўнай гісторыі, кнігі, прысвечаныя беларускім праваслаўным дзеячам, даведачныя выданні. Напрыклад, цяпер займаемся падрыхтоўкай тэрміналагічнага і тлумачальнага рэлігійных слоўнікаў, шляхаводніка па святынях Беларусі.

**Т.М.:** — Мы ўжо казалі, што наш брацкі хор з самага пачатку сваёй дзейнасці мае ў рэпертуары народныя духоўныя спевы: канты, калядкі, велікодныя песні. Раней традыцыя гэтых спеваў была вельмі пашырана ў Беларусі: іх спявалі пасля богаслужэння ў храме, дома ў святочныя дні, з нагоды розных сямейных ці прыходскіх падзей, у час паломніцтва. У XVIII і XIX стагоддзях выдаваліся «Багагласнікі» — зборнічкі духоўных народных спеваў. На жаль, цяпер традыцыя гэтых спеваў захавалася толькі ў некаторых вясковых храмах Беларусі, але яна няўмольна знікае з адыходам старых прыхаджан. Калі маладыя пеўчыя не падхопяць цяпер гэтай традыцыі, то страта будзе непрабачальнай. Таму гэтыя спевы разам з нотамі мы друкуем у дадатковым раздзеле «Беларускага праваслаўнага календара». Спадзяёмся, што ў будучым атрымаецца выдаць «Беларускі багагласнік».

**К.А.:** — Стараемся падтрымліваць літаратараў, якія пішуць на духоўную тэматыку. Мы вельмі зацікаўлены і адкрыты да дыялогу з імі. З нагоды набліжэння юбілею 500-годдзя першага Скарынаўскага выдання друкуем прадмовы Скарыны ў перакладзе на сучасную беларускую мову. Маем задуму, пасля таго, як усё будзе перакладзена, выдаць творчую спадчыну беларускага асветніка асобнай кнігай.

## …пераклады

**Т.М.:** — Не многія народы могуць пахваліцца такой колькасцю перакладаў Свяшчэннага Пісання, як у беларусаў. Толькі на працягу XX стагоддзя было зроблена каля 15 перакладаў на сучасную беларускую мову. У працы Біблейскай камісіі мы ўлічваем усе гэтыя пераклады і абавязкова сочым, якія варыянты перакладу ў тым ці іншым месцы Пісання ўжывалі іншыя перакладчыкі. А вось богаслужэбная, літургічная беларуская тэрміналогія ў XX стагоддзі так і не сфарміравалася. Таму цяпер пры перакладзе богаслужэбных тэкстаў гэтая тэрміналогія выпрацоўваецца, а ў час царкоўнай службы апрабоўваецца.

**К.А.:** — Існуе і такая праблема, што ў каталіцкай традыцыі свая тэрміналогія, а ў праваслаўнай — свая. Часам журналісты, пішучы па-беларуску пра падзеі рэлігійнага жыцця, неадпаведна ўжываюць назвы свят (напрыклад, у праваслаўных — Узнясенне Гасподняе, у католікаў — Унебаўшэсце Пана), назвы кніг (у праваслаўных — Свяшчэннае Пісанне, у католікаў — Святое Пісьмо), імёны (у праваслаўных — Іосіф, у католікаў — Юзаф). Таму якраз цяпер пад рэдакцыяй протаіерэя Сергія Гардуна рыхтуецца да выдання перакладны слоўнік рэлігійнай тэрміналогіі, а ў дадатковых раздзелах будуць размешчаны назвы кніг Свяшчэннага Пісання, назвы праваслаўных свят, царкоўная форма імён на беларускай мове.

**Т.М.:** — Пры перакладзе богаслужэбных тэкстаў вельмі важна, каб людзі, для якіх звыклай з'яўляецца царкоўнаславянская служба, адпаведна ўспрынялі беларускамоўную службу. Каб апошняя была для іх пазнавальнай і ўспрымальнай, каб яна адпавядала царкоўнай традыцыі. Таму нейкіх непазнавальных змен, наватвораў пры перакладзе камісія стараецца пазбягаць. Кожнае слова Свяшчэннага Пісання і богаслужэння для хрысціяніна не філалагічны тэрмін, а частка жыцця. І калі, напрыклад, чалавек у сваіх малітвах заўсёды прасіў Божай благадаці, то наўрад ці ён пагодзіцца з тым, што звяртаючыся да Бога з той самай малітвай па-беларуску, ён павінен прасіць толькі Божай «ласкі».

**Ала Майсяёнак**

# Чужы сабака

Вялікі сабака ляжаў, скруціўшыся, на абочыне гуллівай аўтастрады недалёка ад аўтобуснага прыпынку. Брудна-белая поўсць яго з чорнымі плямінамі скалмацілася. Галава нерухома ляжала на пярэдніх лапах. Вочы былі заплюшчаны. Яны не адкрываліся нават тады, калі па дарозе праносілася чарговая машына. Гэта быў стары сабака пароды кокер спаніэль. Сабака паміраў.

Напэўна, чулыя гаспадары-гараджане не маглі бачыць, як на іх вачах памірае колішні любімец, ды і дзяцей хацелася адгарадзіць ад непрыемнага відовішча. Вось і прывезлі сабаку сюды, паклалі на траву, цяжка паўздыхалі ды паехалі назад у свой горад.

Сабачае цела калі-нікалі пачынала буйна калаціцца, памалу заміраючы зноў. Ніводнага чалавека ці звера не было вакол. Толькі некалькі здзіўленых пар вачэй праплылі міма, утаропіўшыся ў нерухомую постаць з бліскучых акон сваіх аўто.

Андрэйка вяртаўся з цялятніка. Ён ужо мінуў самае гразкае бездарожжа. Месцамі ўдавалася абысці дарожную слоту па полі, але ўсё роўна, як ні стараўся, набраў у дзіравыя гумавыя боты вады, ступіўшы недзе ў непрыкметную сярод травы лужыну. Нарэшце хлопчык выбраўся на бальшак і пайшоў па амаль што сухой і чыстай абочыне. Да вёскі ісці было яшчэ з паўкіламетра. Усё б нічога, але з шэрага неба пачынаў пырскаць дожджык, дробны ды марудны, калючы. Старэнькая пацёртая куртачка не вельмі грэла. Ссутуленыя плечы хлопчыка падрыгвалі. Ён уцягнуў галаву ў плечы, прыбавіў хады. Вельмі хацелася хутчэй аказацца дома.

А мамка зноў захварэла. Таму і папрасіла яго сёння пайсці замест яе ў цялятнік дапамагчы цётцы Марылі. Цётка Марыля, убачыўшы раніцой Андрэйку, толькі цяжка ўздыхнула, строга пакачаўшы галавой, і ні аб чым не спыталася. Усё зразумела. Не першы ўжо раз. Учора субота была, не іначай з Нюркай удваіх пасля лазні справілі чарговую гулянку.

Андрэйка прыбраў у стойлах, згроб гной, падаслаў цялятам саломы, затрымаўся ў катушку цялушачкі з белай плямкай-зорачкай на ўвесь лоб. Менавіта ён, Андрэйка, назваў цяля Белазорачкай, калі толькі яно нарадзілася. З таго часу ўсё цешыўся — не мог нацешыцца хлопчык са сваёй Белазорачкі.

Усяму тут, у калгасным цялятніку, быў ён навучаны, ды навука не патрабавала вялікага розуму, толькі жаданне прыкласці намаганне. Дзед Мікола тут таксама завіхаўся. Калі што якое, дык і падкажа, як зручней зрабіць. І заўсёды да Андрэйкі ён з ласкай: то па галоўцы пагладзіць, шкадуючы, а то іншы раз цукерку ці яблык смачны ў кішэню суне: «Вось табе, хлапчанё, гасцінчык!»

І мамку Андрэйкіну дзед Мікола таксама шкадаваў, называў гаротніцай. «Бач ты, якая доля! Любі, шкадуй, сынок, сваю мамку. Яна ў цябе добрая, — з ласкавай тугой гаварыў стары і ўжо з другімі словамі звяртаўся да хлопчыка, стараючыся падбадзёрыць: — Ды і сам трымайся. Ты ж мужык! Жыццё — яно, брат, штука такая: якім бокам ты да яго павернешся, такім і яно да цябе. Станеш кіснуць ды енчыць, так і складзецца ў жыцці — кісла і нікчэмна. А калі ж і сябе паважаць, і людзей цаніць, і жыццё любіць — дык усё, глядзіш, і наладзіцца. Не здавайся ніколі. Жыццё ўпартых любіць!»

Андрэйка ў сваім не надта яшчэ доўгім жыцці не вельмі і раскісаў. І крыўды не насіў ніколі — ні на суседскую дзяўчынку Лізку, што любіла дражніцца, абзываючы яго недарэкай, ні на здзекі хлопцаў-аднакласнікаў, якія падаліся раптам у круцякі — ім паесці не дай, дай з каго пакпіць, з каго паздзекавацца, вось яны і выбралі яго, Андрэйку. То да курткі яго прычэпяцца, маўляў, старая ды латаная, то да рабога носа. Усміхнецца Андрэйка ды прамаўчыць: на праўду чаго крыўдаваць?

А мамка ў Андрэйкі была сапраўды добрая, сардэчная. Толькі нешта адбылося з ёй пасля таго, як кінуў іх бацька — падаўся некуды ў горад, завёў там другую сям'ю. Ні адной слязіны не бачыў на яе шчацэ хлопчык, ні воднага стогну не чуў. Толькі апошнім часам зачасціла з наведваннем у іх дом вясёлая цётка Нюрка, пасля прыходу якой мамка назаўтра станавілася хворай. Як хацелася Андрэйку, каб мамка яго была здаровая і па-ранейшаму радасная! Як толькі мог, наколькі хапала яго дзіцячай фантазіі, імкнуўся ён парадаваць мамку, дагадзіць ёй.

Па шашы ззаду неслася машына, кола папала ў выбоіну на асфальце, у бок хлопчыка паляцелі пырскі бруднай вады, Андрэйка ледзь паспеў адскочыць. Аўто прамчала далей, але каля павароту на вёску прыпынілася, засігналіла жоўтым вокам. «Дык гэта ж сусед!» — здагадаўся Андрэйка. Нічога ён не ведаў пра гэтага свайго суседа-навасёла. З'явіўся той год таму, купіўшы хату бабкі Насты, якую прадаў бабчын сын, забраўшы старую ў горад без асаблівай на тое яе згоды. А новы жылец неўзабаве знёс хату і ўзяўся будаваць харомы ў два паверхі ды з вежаю, абнёсшы будову высачэнным плотам. За тым шчыльным плотам не было відаць, што робіцца на двары, чуўся толькі жорсткі брэх аўчаркі, якая лётала па ўсёй тэрыторыі, вартуючы гаспадарскія ўладанні і адганяючы на другі бок вуліцы нават тых, хто праходзіў міма.

Андрэйка раптам спыніўся, умомант забыўшыся і пра няветлівага суседа, і пра яго ваўкадава. Дзіцячыя вочы наткнуліся на калматую горку поўсці, якая нерухома ляжала каля дарогі, і аж расшырыліся ад нечаканасці.

— Гэта хто тут? — услых запытаўся хлопчык.

— Дык гэта ж… сабака, — наблізіўшыся да жывёлы, сам сабе адказаў Андрэйка.

Ён прысеў на кукішкі каля самай морды. Сабака цяжка дыхаў.

— Цюцік, цюцька! — ласкава паклікаў Андрэйка псіну.

Той крыху зварухнуўся, ледзь-ледзь прыадкрыў вочы, але яны адразу ж заплюшчыліся зноў.

— Падымайся, ну, што ж ты тут ляжыш? — гаварыў хлопчык.

Ён паспрабаваў расштурхаць сабаку. Падышоў ззаду, абхапіў, спрабуючы паставіць. Сабака ледзь змог абаперціся на пярэднія лапы і адразу ж паваліўся на бок. Андрэйка паспрабаваў яшчэ раз, і зноў безвынікова. Ён выпрастаўся, паглядзеў па баках. Нікога не было побач. Бязлітасны дождж быццам рашыў паздзекавацца з абодвух — абступіў туманнай, халоднай сцяной, забарабаніў па плячах, засцілаючы вочы. Андрэйка зноў глянуў на сабаку, разважаючы, мабыць, пра яго і сваё становішча. Раптам ён падхапіў псіну пад грудзі, натужыўся, адарваў ад зямлі і прытуліў да сябе. Так і пайшоў па дарозе са сваёй ношай, мокрай, бруднай, але яшчэ з трапечучым сэрцам, яшчэ жывой. Ці была цяпер магчымасць звяртаць увагу на цяжкасць і слоту?

Калі-нікалі хлопчык крыху затрымліваў хаду, каб падгрэбці сабаку на грудзях сваіх вышэй, каб больш зручна было несці. Так і ішоў тыя свае трыста метраў, якія заставалася прайсці да веснічак дома. Сабака быццам разумеў сітуацыю, ён даверліва і нават моцна туліў, выгінаючыся, галаву да хлапечага пляча. І ў гэты іх сумесны шлях яны абодва сталі, як адно. Між імі не было аніякай прасторы, і не было пустэчы, якая ўзнікае часта там, дзе няма сардэчнага імкнення.

У свеце, дзе перш за ўсё клапоцяцца аб уласным дабрабыце і агароджваюць сябе ад болю, яны стваралі зараз сваю асабістую рэальнасць. Там, у гэтай рэальнасці два маленькія сэрцы, нягледзячы на невыгоды і асабістую муку, падносілі адзін аднаму свае вялікія дары.



Графіка Анастасіі Хадакоўскай.

Часопіс «МАЛАДОСЦЬ»
лепш за ўсё набываць
праз падпіску —
гэта не толькі беражэ час,
але і эканоміць грошы.
Пасрэдніцтвам «Белпошты»
або пры дапамозе паслугі
«да запатрабавання»
ў крамах «Белсаюздрук»
можна падпісацца
нават на адзін нумар часопіса,
прычым, у якой заўгодна колькасці
экзэмпляраў

*Яшчэ сустрэнемся?!*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ**
Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а. info@zvyazda.minsk.by

**Паштовы адрас:** 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэл.: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72. maladost@zviazda.by

*ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:*

*00592 — індывідуальны льготны для настаўнікаў*

*74957 — індывідуальны*

*749572 — ведамасны*

*00731 — ведамасны льготны
для ўстаноў Міністэрства культуры
і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 16 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: *Н.І. САВЕЛЬЕВА*
Дызайн вокладкі: *А.У. ГАЛОТА*
Стыльрэдактар: *А.І. САЛАМЕВІЧ*

Падпісана да друку 20.04.2016. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера лёгкамелаваная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк. 15,82. Тыраж 1478 экз. Заказ
Кошт нумара ў розніцу 22 100 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП №02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск